8-9

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

**У НУМАРЫ:** Перадавая. Барацьба на два франты ў нацыянальным пытаньні—барацьба за дыктатуру пралетарыяту. **Н. Красіна.** Аб вялікадзяржаўным шавінізьме. **А. Сянкевіч.** Клясавая барацьба ў беларускай літаратуры. **О. Конакоцін.** Абвастрэньне клясавай барацьбы ў беларускай літаратуры ў пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі. **Шчарбакоў.** Пытаньні культуры і асьветы на XIII зьездзе КП(б)Б. **Г. Бондар.** Аграрная палітыка беларускай кандрацьцеўшчыны. **Поташ.** Аб вывучэньні гісторыі КП(б)Б і падрыхтоўцы кадраў у гэтым абсягу. **П. Корчык.** V зьезд комуністычнай партыі Польшчы аб нацыянальна-вызваленчым руху.

**Матар'ялы і дакуманты.**

**Крытыка і бібліографія.**

МЕНСК
1930

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПОЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б

№ 8—9

ВЕРАСЕНЬ—КАСТРЫЧНІК




МЕНСК—1930

# ЗЬМЕСТ

*Стар*



## Матар'ялы і дакуманты



## Крытыка і бібліографія

# Барацьба на два франты ў нацыянальным пытаньні—барацьба за дыктатуру пралетарыяту

Ажыцьцяўляючы задачу далейшага разгортваньня сацыялістычнага наступу на грунце рашэньняў XVI зьезду ЎсеКП(б), КП(б)Б дасягнула вялізарных посьпехаў, вядучы рашучую барацьбу з усімі ўхіламі і адхіленьнямі ад генэральнай лініі і, у першую чаргу, з правым ухілам, які прадстаўляе галоўную небясьпеку. КП(б)Б разам з усёй УсеКП(б) дала рашучы адпор права-„лявацкаму“ блёку. У гэтым блёку аб'ядналіся для сумеснай барацьбы супроць партыі і яе ЦК правыя апартуністыя, „левакі“ і рэшткі трацкістаў, узяўшы за грунт, на якім магчыма было аб'яднацца, лёзунгі і пляцформу правай апазыцыі.

Гэты беспрынцыповы блёк, адбіваючы аб'ектыўныя суадносіны ў клясавай барацьбе, сьведчыць аб кансалідацыі перад тварам пасьпяховага сацыялістычнага наступу усіх клясава-варожых сіл. У якасьці агентаў гэтых ворагаў сацыялізму і выступае блёк правых капітулянтаў і „левых“ рэнэгатаў і двурушнікаў. Абвайстрэньне атак на партыю суадпавядае абвайстрэньню клясавае барацьбы ў СССР. Гэтае абвайстрэньне ў сваю чаргу сьведчыць аб посьпехах сацыялістычнага будаўніцтва і праяўляецца на ўсіх яго вучастках, у тым ліку і на фронце нацыянальна-культурнага будаўніцтва. На гэтым апошнім фронце клясавая барацьба праяўляецца ў выглядзе вялікадзяржаўнага расійскага шавінізму, беларускага нацыянал-дэмакратызму, яўрэйскага, польскага ды іншых шавінізмаў.

Было-б вялічэзнай палітычнай памылкай намагацца пасьпяховага вырашэньня пытаньняў будаўніцтва сацыялізму, ігнаруючы правільнае разьвязваньне нацыянальнага пытаньня. Такая пастаноўка пытаньня азначала-б здачу пазыцый клясаваму ворагу, агаленьне фронту клясавае барацьбы менавіта на гэтым вучастку. Марксызм-ленінізм вучыць разьвязваць пытаньні з улікам усіх даных канкрэтнае абстаноўкі. Таму „нігілізм“ у нацыянальным пытаньні, яго занядбаньне і ігнараваньне служыць на руку клясаваму ворагу. Наадварот, пасьпяховае сацыялістычнае будаўніцтва абумоўлена, разам з барацьбой супроць правых, „левакоў“, супроць іх блёку, супроць прымірэнцтва да іх, таксама і бальшавіцкай барацьбой на два франты ў галіне нацыянальнага пытаньня, барацьбой як з вялікадзяржаўным расійскім шавінізмам, так і з нацыянальнымі шавінізмамі іншых нацыянальнасьцяй.

„Галоўную небясьпеку на даным этапе,—гаворыцца ў пастановах Кастрычнікавага пленуму ЦК КП(б)Б па нацыянальным пытаньні,—прадстаўляе вялікадзяржаўны ўхіл, які спрабуе рэвізаваць асновы ленінскай нацыянальнай палітыкі і які пад сьцягам інтэрнацыяналізму прыкрывае імкненьне аджываючых клясаў панаваўшай раней вялікарасейскай нацыі зьвярнуць сабе страчаныя прывілеі“.

Гэтым палажэньнем вызначаецца значэньне барацьбы супроць вялікадзяржаўнага шавінізму і ступень яго небясьпекі.

Вялікадзяржаўны шавінізм зьяўляецца галоўнай небясьпекай таму, што ўсе яго імкненьні накіраваны на ліквідацыю дыктатуры пралетарыяту, на аднаўленьне панаваньня вялікарасійскае буржуазіі, на аднаўленьне—„турмы народаў"—былой Расійскай імпэрыі. Пад выглядам інтарэсаў „агульнанацыянальных", „агульнаславянскіх" вялікадзяржаўныя шавіністы захоўваюць прагненьне аднавіць царскую палітыку прыдушэньня інтарэсаў прыгнечаных нацый, аднавіць прывілеі буржуазіі і дваранства вялікарасійскай нацыі, якія (у выглядзе Расійскай імпэрыі) спакон веку імкнуліся „лічыць Эўропу айчынай славянскае расы, і, у асаблівасьці, адзінае моцнае складанае часткі гэтай расы—расійцаў"[1]), імкнуліся да захвату і калёнізацыі тых краін, на якія вастрыў зубы расійскі капітал.

Рэакцыйная сутнасьць гэтага шавінізму стане яснай, калі прыпомніць нацыянальную палітыку царскага ўраду, Мілюковых-дарданэльскіх і эсэраўска-меншавіцкіх міністраў.

> „Эс эры і меншавікі цярпелі тое, што часовы ўрад кадэтаў, г. ё. контррэвалюцыйных буржуа, *ня* выканаў свайго элемэнтарнага дэмакратычнага абавязку, *не* абвясьціў, што ён за аўтаномію і за поўную свабоду аддзяляньня Украіны...
>
> Адмаўленьне ў гэтых вагромністых і законьнейшых патрабаваньнях з боку часовага ўраду было нячуванай бессаромнасьцю, дзікім нахабствам контррэвалюцыянэраў, сапраўднай праявай палітыкі вялікадзяржаўнага „дзяржымորды", і эс-эры з меншавікамі... цярпелі гэта ва ўрадзе і абараняюць гэта зараз у сваіх газэтах"[2]).

Вялікадзяржаўны шавінізм—гэта ёсьць прагненьне зьвярнуць страчаныя прывілеі з боку тых, хто разам з контррэвалюцыйнымі, белагвардзейскімі арміямі пісаў на сваіх сьцягах „За адзіную, непадзельную Расію", прадаючы адначасова кавалкі гэтай Расіі французам і ангельцам.

Працэс „прампартыі" паказаў, што галоўная небясьпека інтэрвэнцыі супроць СССР пагражае з боку ідэёвых натхніцеляў—дзянікіншчыны, Рабушынскіх, Нобэляў, Дзянісавых— і іх гаспадароў - Францыі, Ангельшчыны з васаламі—Польшчай, Румыніяй і г. д. Вялікадзяржаўны шавінізм—ідэалёгія гэтых былых магнатаў расійскага капіталізму, які прагне зьвярнуць свае фабрыкі, заводы, зямлю, і іх прыхільнікаў, паплечнікаў і лёкаяў. Таму ён, вялікадзяржаўны шавінізм, зьяўляецца галоўнай небясьпекай. Таму, мацуючы падрыхтоўку да аховы СССР ад інтэрвэнцыі, ліквідуючы змовы ворагаў, пралетарыят павінен бязьлітасна ўдарыць па ідэалёгічнай „таргпромаўшчыне"— вялікадзяржаўным расійскім шавінізьме.

> „Сьцьвярджэньне, што вялікадзяржаўны шавінізм зьяўляецца галоўнай небясьпекай на даным этапе, не азначае паслабленьня барацьбы супроць беларускага, а таксама польскага, яўрэйскага ды іншых шавінізмаў"[3]).

Гэтыя шавінізмы зьяўляюцца выразам прагненьня буржуазіі прыгнечаных раней нацый вылучыцца—ад дыктатуры пралетарыяту— у рамках сваёй нацыі з тым, каб у гэтых рамках устанавіць сваю

[1]) К. Маркс. „Рэвалюцыя і контррэвалюцыя ў Нямеччыне".
[2]) Ленин. XIX, 205. Падкрэсьлена ў арыгінале. Рэд.
[3]) Рэз. Кастр. пленуму ЦК КП(б)Б. 1930 г.

дыктатуру. Для гэтага буржуазія прыгнечаных раней нацый імкнецца супроцьставіць клясавай барацьбе ў агульным маштабе адзіны нацыянальны фронт, затушоўваючы клясавыя супярэчнасьці, адмаўляючы клясавую барацьбу ўнутры нацый. Яскравым прыкладам нацыянальнага шавінізму гэтага тыпу зьяўляецца беларускі нацыянал-дэмакратызм.

Нацыянал-дэмакратызм контррэвалюцыйная ідэалёгія беларускае буржуазіі і кулацтва, якія прагнуць адлучыць Беларусь ад СССР і наладзіцьсваё клясавае панаваньне. З гэтай мэтай нацыянал-дэмакраты высоўваюць ідэю адзінства беларускай нацыі і яе „самабытнасьці", супроцьстаўляючы яе фронту клясавай барацьбы пралетарыяту ўсіх нацыянальнасьцяй СССР супроць буржуазіі ўсіх нацыянальнасьцяй. Гэтым нацыянал-дэмакраты хочуць аслабіць гэты фронт, каб наладзіць у БССР замест дыктатуры пралетарыяту дыктатуру беларускае буржуазіі.

Агульнасьць антысавецкіх намераў вялікарускае, беларускае, яўрэйскае ды інш. буржуазіі, намераў нізрынуцьця дыктатуры пралетарыяту ставрае адзіны контррэвалюцыйны фронт шавінізмаў усіх колераў. Таму мы бачым пад сеньню адных лозунгаў і вяліка дзяржаўнага „дзяржымордў", і беларускіх нацыянал-дэмакратаў, і яўрэйскага шавініста. Як папы ўсіх рэлігій забываюць аб узаемнай варожасьці, калі справа ідзе пра аб'яднаньне для барацьбы супроць бальшівікоў, гэтак і шавіністы ўсіх колераў знаходзяць агульную мову у барацьбе супроць дыктатуры пралетарыяту.

„Вельмі часта — бадай нават у большасьці выпадкаў — буржуазія прыгнечаных краін хоць яна і падтрымлівае нацыянальныя рухі, у той-жа час у згодзе з імпэрыялістычнай буржуазіяй, г. ё. разам з ёю, змагаецца супроць усіх рэвалюцыйных рухаў і рэвалюцыйных клясаў"[1]) —

казаў У. І. Ленін, паказваючы на варожасьць нацыянальнай буржуазіі да ўсякага рэвалюцыйнага руху. Яскрава аб гэтым піша і Маркс, аналізуючы гістарычную варожасьць польскай арыстакратыі да Расіі:

„Калі-ж некаторыя польскія арыстакраты і былі палкімі панславістамі, дык яны ведалі, што пад расійскім ярмом яны згубяць менш, чым ад паўстаньня сваіх уласных прыгонных сялян[2])".

Агульнасьць клясавых інтарэсаў сусьветнае буржуазіі і ў іх варожасьці да пралетарыяту, да СССР—бацькаўшчыны пралетарыяту— дапамагае знайсьці агульную мову, калі справа ідзе аб нападзе на Савецкі Саюз „Нацыяналізм" і „патрыятызм" вялікадзяржаўных шавіністаў, прагненьне да „адзінай, непадзельнай" дыктатуры буржуазіі не перашкаджае яе эпігонам прадаваць Украіну і Беларусь, Грузію і Азэрбайджан, далёкаўсходнія акраіны і поўнач СССР Францыі, Англіі, Польшчы, Японіі ды інш., абы забясьпечыць сабе панаваньне над рэшткай усёроўна, якой цаной.

„Нацыяналізм" і „патрыятызм" беларускай буржуазіі, прагненьне да „незалежнае"— ад бальшавікоў—Беларусі, не перашкаджае нацыянал-дэмакратам запрадаваць Беларусь Польшчы, усёроўна, абы атрымаць магчымасьць эксплёатаваць беларускага рабочага, батрака, бедняка, серадняка.

Так, пад „нацыяналізмам" захоўваюцца зубы і капцюры эксплёататараў, пад словамі аб „незалежнасьці" ад СССР—жаданьне запрыгоніць, прадаць рабочых і працоўнае сялянства БССР у рабства капіталістым Францыі і Польшчы. Так, замест пабornікаў адзінства нацыі, мы бачым гандляроў крывёю працоўных Беларусі.

---

[1]) Ленін, XIX, 224.

[2]) К. Маркс. „Рэвал. і контррэвалюцыя ў Нямеччыне".

Сапраўдную незалежнасьць, сапраўднае нацыянальнае вызваленьне пралетарыят і працоўнае сялянства прыгнечаных раней нацыянальнасьцяй дамагліся толькі ў сьцiслым яднаньні ў братэрскім Саюзе Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Гэтае яднаньне дало магчымасьць працоўным Беларусі дамагчыся вялічэзных посьпехаў у справе разьвіцьця беларускае пралетарскае культуры і пралетарскае культуры іншых нацыянальнасьцяй (яўрэйскае, польскае ды інш.). Разьвіцьцё культуры сацыялістычнай па зьместу і нацыянальнай па форме, арганізацыя працы дзяржаўнага апарату на мове, зразумелай масам, забесьпячэньне інтарэсаў нацменшасьцяй забясьпечваюць сапраўды актыўны ўдзел працоўных усіх нацыянальнасьцяй у сацыялістычным будаўніцтве. Гэтыя посьпехі сталі магчымы толькі пры правільным ленінскім вырашэньні нацпытаньня УсеКП(б) і яе атраду—КП(б)Б. Пралетарыят БССР, пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі, пры гэтых умовах захоўвае поўную і самую шырокую магчымасьць кіраваць масамі працоўнага сялянства БССР. Таму ўсякая спроба парушыць ленінскую нацпалітыку спаткае жорсткі ўдар пралетарскае дыктатуры.

„Для таго, каб забясьпечыць наша існаваньне да наступнае вайсковае сутычкі паміж контррэвалюцыйным імпэрыялістычным Захадам і рэвалюцыйным нацыялістычным Усходам, паміж цывілізаванейшымі дзяржавамі сьвету і дзяржавамі, па ўсходняму адсталымі, якія, аднак, складаюць больш,—гэтай большасьці трэба пасьпець цывілізавацца. Нам таксама не хапае цывілізацыі для таго, каб перайсьці непасрэдна да сацыялізму, хоць мы і маем для гэтага палітычныя прадпасылкі“[1])—

так у свой час ставіў пытаньне т. Ленін.

Мы зараз ужо ўступілі ў пэрыод сацыялізму. Аднак, задача „пасьпець цывілізавацца“ ў прадбачаньні неабходнасьці абараняць дыктатуру пралетарыяту ўзброенай рукой ад інтэрвэнтаў выклікае неабходнасьць разьвіцьця сацыялістычнае культуры нацыянальнай па форме.

Гэта задача нагадвае неабходнасьць бязьлітаснай барацьбы з буржуазным нацыяналізмам усіх колераў і, у першую чаргу, з галоўнай небясьпекай—вялікадзяржаўным расійскім шавінізмам. Гэта задача патрабуе бязьлітаснай барацьбы з нацыянал-апартуністамі,—агентамі клясавага ворага, „нацыянал-дэмакратамі з партбілетамі ў кішэні“, разаблачэньньня сутнасьці нацыянал-апартунізму.

Партыя выкрыла контррэвалюцыйную сутнасьць нацдэмакратызму і моцна ўдарыла па нацапартунізму—ідэалёгіі нікчэмнай групы інтэлігентаў, у вялізнай большасьці—выходцаў з іншых партый, на справе адвяргаючых прынцыпы ленінскае нацпалітыкі, прынцыпова прапаведаючых уступкі буржуазнаму нацыянал-дэмакратызму, прымаючых шмат у чым погляды нацдэмакратаў. Практычна—нацыянал-апартуністы дапамагалі нацдэмам у правядзеньні іх антысавецкай работы, забясьпечваючы нацыянал-дэмакратам магчымасьць праз іх уплываць на асобныя зьвеньні савецкага апарату. Нацыянал-апартуністы зьяўляліся простымі агентамі контррэвалюцыйных нацыянал-дэмакратаў ў справе скарыстаньня ў нацдэмаўскіх мэтах НКА, НКЗ, БАН, БДВ.

Барацьба з нацапартунізмам зьяўляецца працягам барацьбы на два франты за чыстату ленінскіх радоў, за генэральную лінію партыі, барацьбы за сацыялізм.

[1]) Ленін, XVIII, г. 2, стр. 128.

**Н. Красіна**

# Аб вялікадзяржаўным шовінізьме

Яшчэ на першым сваім зьезьдзе (1898 г.) партыя формулявала сваю позыцыю ў нацыянальным пытаньні наступным чынам: „Партыя прызнае за кожнай нацыянальнасьцю права самавызначэньньня". Гэта палажэньне ўвайшло потым у першую програму партыі, прынятую ў 1902 г; гэта-ж палажэньне зьмяшчаецца і ў другой програме партыі, зацьверджанай VIII зьездам у 1919 г. Права нацый на самавызначэньне, г. зн. права нацый на самастойнае дзяржаўнае ўстройства, прызнаньне поўнага роўнапраўя ўсіх нацый, адмаўленьне якіх-бы то ні было форм прымусу ў адносінах нацыянальнасьцяй, неаднакроць пацьвярджалася шматлікімі рашэньнямі партыі і да і пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі.

У пэрыод да Кастрычнікавай рэволюцыі прызнаньне права кожнай нацыі на самавызначэньне зьяўлялася ў руках партыі бальшавікоў моцнай зброяй змаганьня супроць політыкі царскага ўраду—політыкі нацыянальнага ўціску і нястрыманага разгулу нацыяналізму панаваўшай рускай нацыянальнасьці.

Іменна на аснове прызнаньня права нацый на самавызначэньне склалася політыка нашай партыі, якая падтрымлівала рэволюцыйна-вызвалены рух у Польшчы і на Каўказе, рашуча выступала супроць яўрэйскіх пагромаў, армяна-татарскай разаніны і ўсіх іншых спроб нацкоўваньня аднае нацыянальнасьці на другую. „Толькі змаганьне ў поўнай згодзе пролетараў усіх нацыянальнасьцяй пад адзіным сьцягам соцыял-дэмократыі зможа даць належны адпор нацыянальнай політыцы царызму",—гаворыць рэзолюцыя конфэрэнцыі соц.-дэмократычных організацый у верасьні 1905 г.

Лёзунг права нацый на самавызначэньне азначаў рашучае і бязьлітаснае змаганьне супроць вялікадзяржаўнага шовінізму, супроць нацыяналізму панаваўшай нацыі. Што справа была іменна так, даводзіць, напрыклад, рашэньне так званай жнівеньскай нарады ЦК РСДРП з партыйнымі работнікамі ў верасьні 1913 г., што адбывалася пад непасрэдным кіраўніцтвам Леніна: „Што датычыцца права прыгнечаных царскай монархіяй нацый на самавызначэньне, г. зн. на аддзяленьне і ўтварэньне самастойнай дзяржавы, дык с.-д. партыя бязумоўна павінна адстойваць гэтае права. Гэтага патрабуюць... нячуваны ўціск большасьці насяленьня Расіі царскай монархіяй... Гэтага патрабуе нават справа свабоды самога вялікарускага насяленьня, якое няздольна стварыць дэмократычную дзяржаву, калі ня будзе вытручаны чорнасоценны вялікарускі нацыяналізм, што падтрымліваецца традыцыяй раду крывавых распраў з нацыянальнымі рухамі і выхоўваецца сыстэматычна ня толькі царскай монархіяй ды ўсімі рэакцыйнымі партыямі, але і халопствуючым перад монархіяй вялікарускім буржуазным лібэралізмам, асабліва ў эпоху контррэволюцыі".

З асаблівай вострасьцю наша партыя вяла змаганьне супроць шовіністычнага чаду ў часе імпэрыялістычнай бойні. Гэтая бойня была вайною за новы перадзел сьвету паміж буйнымі дзяржавамі. Царская Расія ў гэтай вайне мела задачу аслабіць і разьбіць моцнага і блізкага конкурэнта—Нямеччыну—і захапіць Константынопаль з пратокамі, Галіцыю, частку аўстрыйскай і нямецкай Польшчы, а заадно пашырыць свае ўладаньні ў Малой Азіі. Гэта азначала падняволеньне новых мільёнаў розных народнасьцяй пад ярмо рускага царызму і рускай буржуазіі. Шовіністычны чад, імённа вялікадзяржаўны расійскі шовіністычны чад, упарта насаджваўся рускай буржуазіяй. Рускія дробнабуржуазныя партыі (эсэры, меншавікі) разам з усім II Інтэрнацыяналам адкрыта перайшлі ў лягер староньнікаў „вайны да пераможнага канца". У гэты час зьявіўся тэрмін „соцыял-шовіністы", і разгарнулася лютае змаганьне партыі бальшавікоў супроць імпэрыялістычнай бойні і імпэрыялістычнага грабяжу.

У 1915 г. Ленін пісаў: „Таму ў програме с.-д. цэнтральным месцам павінен быць імённа той падзел нацый на прыгнятаючыя і прыгнечаныя, які становіць істасьць імпэрыялізму і які ілжыва абыходзяць соцыял-шовіністы і Каўцкі. Гэты падзел ня істотны з пункту гледжаньня буржуазнага пацыфізму або мяшчанскай утопіі мірнай конкурэнцыі незалежных нацый пры капіталізьме, але ён якраз істотны з пункту гледжаньня рэволюцыйнага змаганьня супроць імпэрыялізму. А з гэтага падзелу павінна выплываць наша пасьлядоўна-дэмократычнае, рэволюцыйнае і адпавядаючае агульнай задачы безадкладнага змаганьня за соцыялізм, акрэсьленьне „права нацый на самавызначэньне". У імя гэтага права, адстойваючы яго нефальшывае прызнаньне, с.-д. прыгнятаючых нацый павінна патрабаваць свабоды аддзяленьня нацый прыгнечаных, бо ў адваротным выпадку прызнаньне роўнапраўя нацый і інтэрнацыянальнай згоднасьці рабочых было-б на справе толькі пустым словам, толькі крывадушнасьцю. А с.-д. прыгнечаных нацый у вяршыню кута павінны ставіць адзінства і зьліцьцё рабочых прыгнечаных нацый з рабочымі прыгнятаючых нацый, бо ў адваротным выпадку гэтыя с.-д. стануць мімаволі саюзьнікамі тае або іншай нацыянальнай буржуазіі, якая заўсёды здраджвае інтарэсам народу і дэмократыі, заўсёды гатова, у сваю чаргу, да анэксіі і да ўціску іншых нацый" (т. XVIII, стар. 324—325). І далей (стар. 326): „Імпэрыялізм нашых дзён прывёў да таго, што ўціск нацый вялікімі дзяржавамі стаў агульнай зьявай. Імённа пункт гледжаньня змаганьня з соцыял-шовінізмам вялікадзяржаўных нацый, якія вядуць цяпер імпэрыялісцкую вайну дзеля ўзмацненьня ўціску над нацыямі і якія ўціскаюць большасьць нацый сьвету і большасьць насяленьня зямлі, імённа гэты пункт гледжаньня павінен быць вырашальным, галоўным, асноўным у нацыянальнай програме с.-д.".

Неабходнасьць змаганьня ў першую чаргу з шовінізмам і соцыял-шовінізмам вялікадзяржаўных нацый, прызнаньне гэтага змаганьня рашаючым, галоўным, асноўным у нацыянальнай програме партыі найшчыльнейшым чынам увязана з усёй бальшавіцкай пастаноўкай пытаньня аб вайне, з прызнаньнем неабходнасьці змагацца ў сябе ў краіне супроць сваёй буржуазіі, з прызнаньнем неабходнасьці змагацца за паражэньне царскага ўраду ў імпэрыялістычнай бойні. Імённа ў эпоху імпэрыялістычнай вайны Ленін асабліва падкрэсьліваў неабходнасьць адрозьніваць нацыі прыгнятаючыя і прыгнечаныя. У полеміцы за Розай Люксэмбург па нацыянальным пытаньні, што разгарнулася ў гады вайны, Ленін рашуча змагаўся супроць недаацэнкі рэволюцыйнага значэньня вызваленчага руху „малых" прыгнечаных

нацый. Пярэчачы супроць высунутага Розай Люксэмбург палажэньня—„больш ня можа быць нацыянальных войн“, Ул. І. пісаў: „Гэта памылка вельмі шкодная: з яе выводзяць недарэчную пропаганду „разбраеньня“, бо як быццам-бы ніякіх войн, апрача рэакцыйных, быць ня можа; з яе выводзяць яшчэ больш недарэчную і проста рэакцыйную абыякасьць да нацыянальных рухаў. Такая абыякасьць становіцца шовінізмам, калі члены эўропейскіх „вялікіх“ нацый, г. зн. нацый, якія ўціскаюць масу дробных і колёніяльных народаў, заяўляюць з нібыта вучоным выглядам: „нацыянальных войн больш быць ня можа!“ Нацыянальныя войны супроць імпэрыялістычных дзяржаў ня толькі магчымы і імаверны, яны няўхільны і прогрэсыўны, рэволюцыйны...“ і г. д. (т. XIX, стар. 184).

Пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі лёзунг права нацый на самавызначэньне набыў практычны зьмест. Партыя засталася, вядома, на тых-жа прынцыповых позыцыях у нац. пытаньні, г. зн. асноўная ўстаноўка партыі—роўнапраўе і сувэрэннасьць нацый, прызнаньне права на аддзяленьне, адмаўленьне гвалту ў адносінах якіх-бы там ні было нацыянальнасьцяй—засталася ранейшая. Але конкрэтны зьмест зьмяніўся—гутарка ішла ўжо не аб змаганьні супроць нацыянальнай політыкі царызму. На чаргу дня стала пытаньне аб практычнай організацыі супрацоўніцтва розных нацый пры дыктатуры пролетарыяту. Вырашэньне гэтай задачы партыя цесна ўвязала са змаганьнем супроць перажыткаў мінуўшчыны, супроць спадчыны, пакінутай царскай політыкай нацыянальнага ўціску.

„Гэта спадчына,--акрэсьлівае XII зьезд РКП(б),—„заключаецца, па-першае, у перажытках вялікадзяржаўнага шовінізму, які зьяўляецца адлюстраваньнем былога прывілеяванага становішча вялікарусаў. Гэтыя перажыткі жывуць яшчэ ў галовах нашых савецкіх работнікаў, цэнтральных і мясцовых, яны гнязьдзяцца ў нашых дзяржаўных установах, цэнтральных і мясцовых; яны атрымліваюць падмацаваньне ў выглядзе „новых“, зьменавехаўскіх вялікарускіх шовіністычных веяньняў, якія ўсё больш узмацняюцца ў сувязі з нэпам. Практычна яны выяўляюцца ў пышліва - пагардлівых і бяздушна - бюрократычных адносінах рускіх савецкіх чыноўнікаў да нястач і патрэб нацыянальных рэспублік. Шматнацыянальная савецкая дзяржава можа зрабіцца сапраўды моцнай, а супрацоўніцтва народаў у ёй—сапраўды братэрскім толькі ў тым выпадку, калі гэтыя перажыткі будуць вытручаны ў практыцы нашых дзяржаўных установ рашуча і неўзваротна. Становішча ў некаторых нацыянальных рэспубліках (Украіна, Беларусь, Азэрбайджан, Туркестан) ускладняецца тым, што значная частка рабочае клясы, якая зьяўляецца асноўнай апорай савецкай улады, належыць да вялікарускай нацыянальнасьці. У гэтых рэспубліках сувязь паміж горадам і вёскай, рабочай клясай і сялянствам, сустракае вельмі моцную перашкоду ў перажытках вялікарускага шовінізму як у партыйных, так і савецкіх органах. У гэтых умовах гутаркі аб перавагах рускай культуры над культурамі больш адсталых народаў (украінскай, азэрбайджанскай, узбэкскай, кіргіскай ды інш.) ёсьць ня што іншае, як спроба замацаваць панаваньне вялікарускай нацыянальнасьці. Таму рашучае змаганьне з перажыткамі вялікарускага шовінізму ёсьць першая чарговая задача нашай партыі“ (падкрэсьлена намі.—Н. К).

Такім чынам, асноўны лёзунг партыі ў няцыянальным пытаньні—права нацый на самавызначеньне—і да і пасьля Кастрычніка зьмяшчаў у сабе прызнаньне неабходнасьці змаганьня супроць вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму. Ёсьць яшчэ і другі бок у гэтым

пытаньні. Гэта—змаганьне супроць нацыяналізму і шовінізму раней прыгнечаных царызмам нацыянальнасьцяй, якое вынікае з прызнаньня права нацый на самавызначэньне. Адсюль—змаганьне бальшавікоў супроць культурна-нацыянальнай аўтономіі Бунду, супроць раду іншых нацыяналістычных дробнабуржуазных партый. Мы ня спыняемся на гэтым моманце, каб не расшыраць рамак гэтага артыкулу.

Кожны раз, калі партыі трэба было ўлічыць зьмяніўшыяся суадносіны клясавых сіл, вырашаць новыя проблемы, зьвязаныя з разьвіцьцём і ростам рэволюцыйнага руху, з заваяваньнем улады і яе ўтрыманьнем, і ўдалейшым—задачу пабудовы соцыялізму пры дыктатуры пролетарыяту, іншымі словамі, на кожным павароце ад аднаго этапу да другога,—перад партыяй паўставала нацыянальнае пытаньне. Гэта натуральна і няўхільна. „Нацыянальнае пытаньне ёсьць частка агульнага пытаньня пролетарскай рэволюцыі, частка пытаньня аб дыктатуры пролетарыяту“ (Сталін). „Нацыянальнае пытаньне ёсьць у істоце справы пытаньне сялянскае“ (Сталін). Аснову нацыянальнага пытаньня становіць пытаньне аб узаемаадносінах пролетарыяту пануючай нацыі да сялянства прыгнятаемай або раней прыгнечанай нацыянальнасьці.

Вядома, кастрычнікавая перамога рабочае клясы, стварэньне рэспублікі саветаў далі ўсе неабходныя прадпасылкі для вырашэньня нацыянальнага пытаньня, Пролетарыят, узяўшы ў свае рукі ўладу, зьнішчыў усякі нацыянальны ўціск, увёў поўную роўнасьць нацыянальнасьцяй, адкрыў дарогу для экономічнага і культурнага разьвіцьця раней прыгнечаных нацый. Але дыктатура пролетарыяту ня можа адным ударам зьнішчыць матэрыяльную і культурную адсталасьць раней прыгнечаных нацый, што склалася ў выніку шматгадовай політыкі кіруючых кляс б. Расійскай імпэрыі. Патрэбна шмат год сур'ёзнай работы па падняцьцю экономічнага і культурнага ўзроўню нацыянальных рэспублік і вобласьцяй. Партыя праводзіць гэту работу пасьлядоўна і няўхільна. Савецкі Саюз мае вялізарныя дасягненьні ў гэтай справе.

Аднак, паколькі пры дыктатуры пролетарыяту яшчэ існуюць розныя клясы,—працягваецца клясавае змаганьне і за канчатковае вырашэньне нацыянальнага пытаньня. Гэтае змаганьне, натуральна, абвастраецца ў момант агульнага абвастрэньня клясавага змаганьня. Іменна таму, у сувязі з пераходам партыі да політыкі ліквідацыі кулацтва як клясы, з посьпехамі індустрыялізацыі і соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, якія выклікаюць абвастрэньне клясавага змаганьня,—у цяперашні час робіцца больш актыўным і ўзьнімае галаву вялікадзяржаўны шовінізм і шовінізм мясцовы, які на Беларусі прадстаўлены, галоўным чынам, нацыянал-дэмократызмам. Настроі і актывізацыя вялікадзяржаўнага шовінізму, так сама як і мясцовых шовінізмаў, пранікаюць у рады партыі і ствараюць унутры яе ўхіл у бок вялікадзяржаўнага шовінізму або шовінізму іншых колераў. „Сутнасьць ухілу да вялікадзяржаўнага шовінізму“,—гаварыў т. Сталін на XVI зьезьдзе партыі,—„заключаецца ў імкненьні абыйсьці нацыянальныя адрозьненьні мовы, культуры, быту, у імкненьні падрыхтаваць ліквідацыю нацыянальных рэспублік і вобласьцяй, у імкненьні падарваць прынцып нацыянальнага роўнапраўя і разьвянчаць політыку партыі ў галіне нацыяналізацыі апарату, нацыяналізацыі прэсы, школы ды іншых дзяржаўных і грамадзкіх організацый“.

У гэтай характарыстыцы вялікарускага шовінізму яскрава акрэсьлен твар аджываючых кляс раней панаваўшай вялікарускай нацыі—рускай буржуазіі, рускага кулацтва. Вялікадзяржаўныя шовіністы

імкнуцца ўваскрасіць старую царскую палітыку нацыянальнага ўціску, пагарды, зьдзеку і зьневажаньняў у адносінах да так званых малых нацый. Ухіл у бок вялікарускага шовінізму „адлюстроўвае імкненьне аджываючых кляс панаваўшай раней вялікарускай нацыі вярнуць сабе страчаныя прывілеі“ (Сталін). Што справа стаіць іменна так, што вуснамі члена партыі, які кпіць з поваду беларускае мовы, зрывае і ігнорує беларусізацыю, гаворыць ня хто іншы, як добра нам вядомы рускі буржуа і нацыяналіст, можна бачыць на прыкладзе... Паўла Мікалаевіча Мілюкова. Адзін з найбольш разумных правадыроў рускай буржуазіі, лідэр кадэцкай партыі і б. міністар замежных спраў буржуазнага часовага ўраду ў вольны час у эміграцыі займаецца гісторыяй і публіцыстыкай, калі ня лічыць некаторых клопатаў па арганізацыі інтэрвэнцыі супроць Савецкага Саюзу і па кіраваньню справамі шкоднікаў з рамзінскай шайкі. У Парыжы ў 1927 г. гэты паважны старык выдаў кніжку „Россия на переломе“, у якой ён старанна даводзіць агульнасьць і адзінства былой расійскай імпэрыі, агульнасьць, якую ён разумее як адсутнасьць украінскай і беларускай нацыянальнасьцяй. У гэтай кніжцы чорным па белым напісана:

„Як бачым, у Расіі ранейшага часу рускія ўсіх трох адгаліненьняў рускага племені складалі 65 проц. насяленьня (вялікаросы—43,3 проц., маларосы—17,4 проц. і беларусы—4,5 проц.)... Вядома, само рускае насяленьне не становіць адзінага цэлага: антагонізм украінцаў і беларусаў з вялікаросамі надзвычайна ўзмацніўся іменна ў апошні час. Староньнікі ўкраінскага і беларускага сэпаратызму заклікаюць на дапамогу гісторыю і з большым ці меншым посьпехам (ня будзем тут разглядаць грунтоўнасьці іхных аргумэнтаў) стараюцца давесьці, што іх мовы і нацыянальнасьці зьяўляюцца не адгаліненьнямі ўсходня-славянскае групы, а ў поўнай меры незалежнымі членамі агульнай славянскай сям'і... Як бы там ні было, ці зьяўляюцца ўкраінская (маларуская) і беларуская мовы сапраўды мовамі ці толькі гаворкамі аднае мовы, іх прыметнае зьяўленьне ў гісторыі належыць да досыць позьняга часу (XII—XIV век), і да цяперашняга часу абедзьве апошнія мовы, як літаратурныя мовы, яшчэ не пасьпелі ў поўнай меры скласьціся, а як звычайная мова не адыйшлі ад рускай настолькі далёка, каб страціць магчымасьць узаемнага разуменьня. Натуральна, што руская культурная і гістарычная традыцыя, іменна як руская, а не як вялікаруская, да гэтага часу жыве, ня гледзячы на ўсе намаганьні зацерці яе, а „вялікаруская“ нацыянальная сьвядомасьць, іменна як вялікаруская, да гэтага часу зусім адсутнічае, зьліваючыся з „агульнарускай“ нацыянальнай сьвядомасьцю наогул“ (стар. 206—207).

Як бачым, позыцыя Мілюкова заключаецца ў наступным: 1) ня існуе ні ўкраінскай, ні беларускай нацыянальнасьцяй; 2) ня існуе адпаведна ні ўкраінскай, ні беларускай мовы; 3) ня існуе і не існавала ні вялікарускага шовінізму, ні вялікадзяржаўнай палітыкі ўціску і прыдушэньня ўкраінскай і беларускай нацый; 4) існуюць „адгаліненьні ўсходня-славянскай групы“, якія ня могуць прэтэндаваць на сваю нацыянальную сьвядомасьць, маларасійская і беларуская гаворка „аднае мовы“ (вядома, рускай) і „агульнаруская“ нацыянальная сьвядомасьць наогул (пад сьцягам якой дзесяткі гадоў тварыў рускі царызм сваю зьвярыную расправу з „чужакамі“).

Комуністычная партыя бальшавікоў Беларусі неаднокраць устанаўляла агульнасьць ідэолёгіі мацерых буржуазных і дробнабуржуазных беларускіх шовіністаў і тых элемэнтаў у радох партыі, якія вядомы як нацыянал-опортуністы. Іменна з гэтай прычыны важна падкрэсьліць,

што той з членаў партыі, які думае і сьцьвярджае, што ніякай беларускай мовы няма, што беларуская мова—толькі „сапсаваная руская мова“, такі член партыі паўтарае зады рускага чорнасоценства і „халопствуючага перад монархіяй вялікарускага буржуазнага лібэралізму“.

Не заўсёды, аднак, вялікадзяржаўны шовінізм у радох партыі праяўляецца ў такіх простых і прымітыўных формах, як кпіны, супраціўленьне беларусізацыі і г. д. Ён вельмі часта апранаецца ў нібы рэволюцыйныя і нібы інтэрнацыяналістычныя адзежы. Да такіх замаскаваных праяўленьняў вялікадзяржаўнага шовінізму належыць, напрыклад, вядомая тэорыя барацьбы дзьвёх культур. Гэта тэорыя адмаўляе магчымасьць братэрскага супрацоўніцтва культур розных нацыянальнасьцяй Савецкага саюзу ў справе стварэньня адзінай інтэрнацыянальнай соцыялістычнай культуры Адгэтуль тэорыя барацьбы дзьвёх культур робіць вывад аб няўхільнасьці змаганьня рускай і ўкраінскай культуры на Украіне, рускай і беларускай на Беларусі і г. д. Больш моцная руская культура павінна перамагчы, выцісунуць больш слабыя ўкраінскую, беларускую ды інш. культуры. Перад наяўнасьцю такой пэрспэктывы падтрымліваць і разьвіваць культуру ўкраінскую, беларускую і г. д.—значыць тармазіць ход гістарычнага процэсу, значыць займаць рэакцыйную позыцыю. Вось першы і асноўны вывад „тэорэтыкаў“ барацьбы дзьвёх культур. Іх вывады на гэтым ня спыняюцца. Другі вывад—адмаўленьне магчымасьці стварыць культуру нацыянальную па форме і пролетарскую, соцыялістычную па зьместу. Дзеля таго што, гавораць яны, у нацыянальных рэспубліках і вобласьцях рабочая кляса пераважна руская, сялянства - украінскае, беларускае, узбекскае, армянскае і г. д., дык, значыцца, іменна руская культура зьяўляецца носьбітам пролетарскага пачатку ў культурным будаўніцтве. Паводле гэтых поглядаў разьвіваць культуру нацыянальную па форме азначае тармазіць і адціскаць культуру пролетарскую па свайму зьместу. Лёгка бачыць, што ўсе намаганьні гора-„тэорэтыкаў“ накіраваны на тое, каб абараняць русіфікатарскую політыку, увесь сэнс іх размоў зводзіцца да нястрымнага вялікарускага шовінізму. Калі-б партыя пайшла па шляху, які ўказваюць прыхільнікі тэорыі барацьбы дзьвёх культур,—ёй не заставалася-б нічога іншага, як паўтараць і пераймаць нацыянальную політыку рускай буржуазіі. Няма чаго і казаць, што пры такой політыцы было-б згублена тое давер‘е, якое партыя і пролетарыят заваявалі з боку сялянства раней прыгнечаных нацый, зьнішчыўшы нацыянальны ўціск. Ажыцьцяўленьне сувязі пролетарыяту і сялянства стала-б немагчымым.

Другая адмена вялікадзяржаўнага шовінізму фарсіць ультра-„інтэрнацыяналістычнымі“, ультра-„рэволюцыйнымі“ фразамі. Марксызм—ленінізм устанаўляе ня толькі зьніштажэньне кляс, але і зьніштажэньне нацый пры перамозе соцыялізму. Вялікадзяржаўныя ўхілісты, робячы свае вывады, з няпрымушанай лёгкасьцю пераскокваюць праз усе этапы, прапаведуюць неабходнасьць ліквідацыі нацыянальных рэспублік. Яны „забываюць“ пры гэтым, што зьніштажэньне нацый нельга ажыцьцявіць у межах адной дзяржавы, пакуль соцыялізм не пераможа ў сусьветным маштабе. „Нацыянальныя і дзяржаўныя адрозьненьні паміж народамі і краінамі... будуць трымацца яшчэ вельмі і вельмі доўга, нават пасьля ажыцьцяўленьня дыктатуры пролетарыяту ў сусьветным маштабе“,—пісаў Ленін [1]).

[1]) Цытуецца паводле дакладу т. Сталіна на XVI партзьезьдзе.

„Можа здацца дзіўным“,—гаварыў тав. Сталін на XVI зьезьдзе, „што мы, староньнікі зьліцьця ў будучым нацыянальных культур у адну агульную (і па форме і па зьместу) культуру, з аднэй агульнай мовай, зьяўляемся разам з тым староньнікамі росквіту нацыянальных культур у даны момант, у пэрыод дыктатуры пролетарыяту. Але ў гэтым няма нічога дзіўнага. Трэба даць нацыянальным культурам разьвіцца і разгарнуцца, выявіўшы ўсе свае потэнцыі, каб стварыць умовы для зьліцьця іх у адну агульную культуру з аднэй агульнай мовай. Росквіт нацыянальных па форме і соцыялістычных па зьместу культур ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту ў аднэй краіне для зьліцьця іх у адну агульную соцыялістычную (і па форме і па зьместу) культуру, з аднэй агульнай мовай, калі пролетарыят пераможа ва ўсім сьвеце і соцыялізм увойдзе ў побыт,—у гэтым іменна і заключаецца дыялектычнасьць ленінскай пастаноўкі пытаньня аб нацыянальнай культуры“.

Найбольш небясьпечным і ўтончаным відам вялікадзяржаўнага шовінізму зьяўляецца іменна той, які прыкрываецца сьцягам „інтэрнацыяналізму“ і спэкулюе на дасягнутых ужо посьпехах соцыялістычнага будаўніцтва.

XVI зьезд партыі, прадаўжаючы ленінскую лінію ў нацыянальным пытаньні, прызнаў, што „галоўнай небясьпекай на даным этапе зьяўляецца вялікадзяржаўны ўхіл, які спрабуе рэвізаваць асновы ленінскай нацыянальнай політыкі і пад сьцягам інтэрнацыяналізму прыкрывае імкненьні аджываючых кляс панаваўшай раней вялікарускай нацыі вярнуць сабе страчаныя прывілеі“.

Глеба для існаваньня вялікадзяржаўнага шовінізму ў БССР абумоўліваецца тым фактам, што беларускія гарады, як гэта мае месца і ў некаторых іншых нац. рэспубліках, моцна русіфікаваны. Нацыянальны склад гарадзкога насяленьня ў Беларусі выражаецца ў наступных лічбах: беларусаў—40 проц., яўрэяў—40 проц., рускіх—15 проц. і інш.—5 проц. Аднак, значная частка гарадзкога насяленьня, беларускага па нацыянальнасьці, фактычна карыстаецца рускаю мовай. Русіфікатарская політыка царскага ўраду, які забараняў беларускую мову і друкаваньне літаратуры на беларускай мове, прывяла да таго, што к моманту Кастрычнікавай рэволюцыі, пры агульным нізкім узроўні граматнасьці ў межах БССР (каля 30 проц. граматных), людзі, якія ведалі беларускую мову, чыталі і пісалі па-беларуску, налічваліся нямногімі дзесяткамі і сотнямі.

У цяперашні час нацыянальны склад рабочае клясы разьмяркоўваецца наступным чынам: беларусаў—47 проц., яўрэяў—38 проц., рускіх—8 проц., іншых—7 проц. Такі склад, аднак, утварыўся ў выніку політыкі, якую партыя сьвядома праводзіць у справе інтэрнацыяналізацыі рабочых прадпрыемстваў, уцягненьня рабочых-беларусаў у прамысловасьць. Да рэволюцыі колькасьць рабочых-беларусаў была значна меншая. Пры гэтым частка беларусаў-рабочых, папрацаваўшы некалькі год на фабрыках і заводах, усвойвала рускую мову і часамі запазычыла тое-сёе з пагардлівых адносін да „вясковай, мужыцкай“ беларускай мовы, што насаджваліся русіфікатарскай політыкай. Ня дзіва, што настроі вялікадзяржаўнага шовінізму пранікаюць і ў рады КП(б)Б.

Паступовае ўзбуйненьне Беларусі, далучэньне ў 1924 г. Віцебскай губ. і ў 1927 г. Гомельскай, улівала ў рады КП(б)Б і асоб, настроеных варожа да нацыянальнай політыкі партыі, у часнасьці да беларусізацыі. Компартыі Беларусі прыходзілася адольваць гэтыя настроі, пашыраючы ўжываньне беларускай мовы і паступова пераво-

дзячы на беларускую мову партыйную, савецкую і профэсіянальную работу. У гэтай справе на працягу раду гадоў зроблены вялікія дасягненьні.

Аднак, настроі вялікадзяржаўнага шовінізму прадаўжаюць жыць і ў сувязі з абвастрэньнем клясавай барацьбы актывізавацца ў партыйнай організацыі, сярод моладзі, сярод жыхароў гораду наогул, маючы свае карэньні ў рускім чыноўніцтве, у рускім і зруселым дробнабуржуазным насяленьні гарадоў. Праведзеная ў 1928 г. анонімная анкета сярод вучняў вышэйшых навучальных установ паказала наяўнасьць цэлага раду вельмі рэзкіх настрояў, накіраваных супроць беларусізацыі. Аркушы гэтай анкеты стрыкацяць адказамі ў такім духу: „беларуская мова—мова гісторычная, лепш ведаць рускую, а замест беларускай вывучаць нямецкую“, „беларусізацыя дарэмна адбірае шмат часу, энэргіі і сродкаў“, „да беларусізацыі прымушаны...“ і г. д. і да т. п.

Жывучасьцю вялікадзяржаўных настрояў тлумачацца і тыя прарывы ў беларусізацыі, якія мелі месца ў апошні час. Абсьледваньне работы партыйнай організацыі ў двух гарадзкіх раёнах г. Віцебску (пачатак 30 г.) дае такі малюнак: „беларусізацыя ў раёнах не праведзена, гутарка вядзецца пераважна на рускай мове, усе партыйныя пасяджэньні і сходы вядуцца на рускай мове... Беларускую мову ведае невялікая колькасьць партыйнага актыву, а партыйная маса толькі ў паасобных выпадках. Бываюць выпадкі супраціўленьня беларусізацыі, „разговорчики“ сярод партыйцаў аб „кітайскай мове“, мове „адсталай“ і г. д. і да т. п.

Падобныя-ж прарывы былі ня толькі ў партыйнай, але і ў комсамольскай організацыі. Абсьледваньнем ЦК ЛКСМБ, праведзеным у канцы 1929 г., выяўлены факты супраціўленьня ўвядзеньню беларускай мовы ў комсамольскай рабоце. Фактычна ў некаторых організацыях КСМ к моманту абсьледваньня беларуская мова аказалася поўнасьцю выціснутай рускай. Абсьледваньні больш позьняга пэрыоду (Кастрычніцкі, Фрунзаўскі раёны Менску) паказалі, што да цяперашняга часу беларусізацыя ў некаторых організацыях праводзіцца слаба.

КП(б)Б вяла і вядзе сыстэматычнае змаганьне супроць вялікадзяржаўнага шовінізму. Вялікадзяржаўны шовінізм на Беларусі выяўляецца, галоўным чынам, у выглядзе пасыўнага і актыўнага супраціўленьня беларусізацыі, заўсёды даючы сябе адчуваць на практыцы, але не падымаючыся да тэорытычнага абагуленьня і прынцыповага абгрунтаваньня сваіх позыцый. Гэта перашкаджала, вядома, у некаторай ступені мобілізацыі партыйнай організацыі для змаганьня з праявамі вялікадзяржаўнага шовінізму. Мясцовыя партыйныя організацыі вельмі часта праходзяць міма, не заўважаючы і не рэагуючы на нярэдкія выпадкі выяўленьня вялікадзяржаўнага шовінізму.

У апошні час компартыя Беларусі на аснове рашэньняў XVI партзьезду праводзіць змаганьне з вялікадзяржаўным шовінізмам, як з галоўнай небясьпекай на даным этапе. Кастрычнікавы пленум ЦК КП(б)Б абавязаў партыйную організацыю мобілізаваць усіх членаў партыі на змаганьне з усімі праявамі вялікадзяржаўнага шовінізму і ўзмацніць работу па беларусізацыі партыйных, савецкіх, профсаюзных і коопэрацыйных органаў.

---

А. Сянкевіч

# Клясавая барацьба ў беларускай літаратуры

(*Апрацаваная стэнограма дакладу, які прачытаны да беларускага тыдню ў Комакадэміі*)

IX і XII зьезды РКП(б), гаворачы пра гаспадарчую і культурную адсталасьць ускраін былой царскай Расіі, паказалі, што перамагчы гэтую адсталасьць магчыма толькі шляхам сапраўднай і працяжнай дапамогі расійскага пролетарыяту адсталым народам Саюзу ў справе іх гаспадарчага і культурнага росту.

XV зьезд УсеКП(б) у дырэктыве пра „пяцігодку“ пастанавіў: „Пяцігадовы плян павінен удзяліць асаблівую ўвагу пытаньням уздыму экономікі і культуры адсталых нацыянальных ускраін і астатніх раёнаў, выходзячы з неабходнасьці больш хуткай ліквідацыіі іх культурнай і экономічнай адсталасьці“.

Як-жа выконваюцца пастановы зьездаў нашай партыі ў адносінах да БССР? Дзяуючы дапамозе ўсяго Саюзу, на аснове правільнай ленінскай палітыкі нашай партыі, БССР, у адносінах росту экономікі і культуры, зьяўляецца лепшым паказам і адначасна яркім довадам правільнасьці нацыянальнай палітыкі комуністычнай партыі.

З краіны экономічна і культурна адсталай, зруйнаванай капіталістычнай вайной і окупацыямі, з ускраіны, якая зьяўлялася „чертой оседлости“ і самага грубога нацыянальнага прыгнёту, Беларусь за параўнаўча кароткі пэрыод існаваньня савецкай улады хутка ператвараецца ў краіну соцыялістычнай індустрыі і земляробства.

На месца паўсаматужнай прамысловасьці, з нязначнымі кадрамі індустрыяльнага пролетарыяту, БССР тэмпамі, якія перавышаюць тэмпы другіх частак Саюзу, разьвівае прамысловасьць, будуе новыя фабрыкі і заводы, пашырае пролетарскую базу, адначасна ствараючы ўмовы для росквіту беларускай пралетарскай культуры і пралетарскай культуры нацыянальных меншасьцяй.

Пра гэта гавораць наступныя факты: прырост продукцыі цэнзавай прамысловасьці па ўсяму Саюзу за пэрыод 1924-25—1928-29 г.г. складае 26 проц.; у БССР за гэты-ж пэрыод часу гэты прырост складае 34 проц. Удзельная вага прамысловасьці БССР у саюзным маштабе адпаведна павялічваецца: у 1925-26 г.—0,99 проц.. у 1926-27 г.—1,11 проц. 1928-29 г.—1,43 проц., пры ўдзельнай вазе насельніцтва ў 3,79 проц. Гэтыя лічбы гавораць пра тое, што ў тэмпах мы ідзем вышэй другіх частак Саюзу, але што ўзровень нашай экономікі яшчэ значна адстае.

У БССР скончана будаўніцтва шэрагу буйных фабрык і заводаў: Гомсельмашу, дзьвюх запалкавых фабрык, фабрыкі штучнага шоўку ў Магілеве, шэрагу швейных і другіх фабрык і заводаў. У 1929-30 г. распачата будаўніцтва 30 новых прадпрыемстваў.

У XIII гадавіну Кастрычніка пушчана першая раённая станцыя, Асінгрэс імя Сталіна, якая дала ток віцебскім, магілеўскім, аршанскім фабрыкам і заводам; закладаецца другая раённая станцыя недалёка ад Гомеля, і проектуецца трэцяя моцная раённая станцыя на Магілеўшчыне.

БССР мае значныя дасягненьні і ў галіне соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі. Калі ў 1924 г. тэрыторыя соцыялістычнага сэктару складала каля 20 проц. усяе с.-г. плошчы, то ўжо на 1-Х 1930 г. плошча пад колгасамі перавышае 14 проц. усяе сельскагаспадарчай тэрыторыі БССР. Удвое павялічана за апошнія два гады плошча пад саўгасамі, якая складае звыш 4,5 проц. усяе с.-г. плошчы СССР.

Найвялізарныя дасягненьні мае Савецкая Беларусь у галіне разьвіцьця беларускай нацыянальнай культуры і культуры нацыянальных меншасьцяй. У спадчыну ад царызму Беларусь атрымала вялікі процант няпісьменных: на 1000 душ сельскага насельніцтва, згодна перапісу 1897 г., прыходзілася 142 пісьменныя (у межах сёньняшняй РСФСР—191 чалавек); сярод жанчын на 1000 чал. прыходзілася толькі 70 пісьменных жанчын. На Беларусі ня было ніводнай вышэйшай школы, выкладаньне на роднай мове забаранялася. Да рэволюцыі 1905 г. не друкавалася ніводная газэта ці брошура на беларускай мове.

На сёньняшні дзень мы маем амаль удвое павялічаны лік вучняў у школах у параўнаньні з 1914 г. (518.000 замест 273.000); па колькаснаму росту пачатковай школы БССР займае першае месца ў Саюзе. Згодна перапісу 1927 г., лік вучняў на 100 душ насельніцтва складае ў БССР—8,5 проц., у РСФСР—6,7 проц., у УССР—7,2 проц.

Па пляну Наркомасьветы БССР да канца 1932 году павінна быць ліквідавана няпісьменнасьць сярод насельніцтва ва ўзросьце ад 8 да 45 гадоў.

Сёньня ў БССР працуюць 12 вышэйшых навучальных установаў, сотні профшкол і тэхнікумаў. Беларусь, якая была цёмнай плямай на фоне царскай Расіі ў галіне навукова-дасьледчай работы, сёньня пакрыта шырокай сеткай навукова-дасьледчых установаў: І-т соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, прамыслова-экономічны інстытут, Беларуская акадэмія навук і інш.

Аднача сна з гэтым ідзе хуткі рост тыражу беларускай кнігі і газэты. Тыраж газэт цэнтральных і раённых разам з шматтыражкамі складае 550 тыс. экзэмпляраў. Дзесяткі часопісяй, з іх 3 літаратурныя—„Полымя“, „Маладняк“, „Узвышша“, выдаюцца ў БССР.

Мы маем у БССР бурны рост літаратуры і мастацтва. Два беларускія стацыянарныя тэатры, рабочы тэатр, перасовачная організацыя беларускай опэры, значныя дасягненьні ў продукцыі белдзяржкіно—усё гэта гаворыць пра рост культурнага абслугоўваньня працоўных мас.

Ня меншыя дасягненьні ёсьць па лініі ўзьняцьця матэрыяльнага і культурнага ўзроўню нацыянальных меншасьцяй БССР. Праводзіцца вялікая работа па экономічнаму ўпарадкаваньню яўрэйскага мястэчка, значная маса местачковага яўрэйскага насельніцтва, галоўным чынам яўрэйскай беднаты, пераводзіцца на вытворчую працу. На першае мая 1930 г. 4.812 яўрэйскіх сем‘яў організавана ў арцелі і колгасы; тысячы яўрэйскай моладзі ўцягваюцца ў фабрычна-заводзкую вытворчасьць.

Па лініі культурнага абслугоўваньня мы маем вялікі рост яўрэйскіх, польскіх і другіх школ нацыянальных меншасьцяй, што забясьпечвае выкладаньне ў школах на роднай мове. У Беларускім дзяр-

жаўным унівэрсытэце ёсьць яўрэйскае і польскае аддзяленьні пэдфаку. Яўрэйскае і польскае аддзяленьні ёсьць таксама і ў Беларускай акадэміі навук. Выдаецца шэраг газэт і часопісяй на яўрэйскай, польскай і літоўскай мовах: штодзённая яўрэйская газэта „Акцябр“, комсамольскія і піонэрскія газэты, літаратурная часопісь „Штэрн“, польская газэта „Орка“, літоўская газэта „Чырвоны араты“.

Шэраг нацыянальных сельсаветаў: яўрэйскіх, польскіх, латыскіх і іншых, нацыяльныя судовыя камэры—усё гэта дае магчымасьць абслугоўваць нацыянальныя меншасьці на іх роднай мове.

## Барацьба з ухіламі ад ленінскай лініі ў нацполітыцы

Разгорнуты соцыялістычны наступ, рашучае выкарчоўваньне капіталістычных элемэнтаў выклікалі шалёнае супраціўленьне нашых клясавых ворагаў—нэпманаў у горадзе, кулака на вёсцы. Адначасна з гэтым наглядаецца актывізацыя варожых нам элемэнтаў і на фронце ідэолёгічным, на фронце нацыянальна-культурным.

У БССР, як і ў другіх частках Саюзу, мае месца актывізацыя шовіністычных элемэнтаў: вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму, шовінізму беларускага, яўрэйскага і іншых.

Вялікадзяржаўны шовінізм, які ставіць пад пытаньне самое існаваньне нацыянальных рэспублік і вобласьцяй, які бярэ курс на ліквідацыю нацыянальнай політыкі партыі, які актыўна і пасыўна супраціўляецца політыцы партыі ў галіне беларусізацыі, зьяўляецца найбольш небясьпечным ухілам і для БССР.

Беларускі нацыянал-дэмократызм выявіў свой контррэволюцыйны інтэрвэнцкі твар, што пацьвердзілася выкрыцьцём органамі ДПУ контррэволюцыйнай групы з былых міністраў Беларускай рады і беларускай інтэлігенцыі. Беларускі нацыянал-дэмократызм правёў значную шкодніцкую работу як у галіне экономічнага будаўніцтва (хутарская політыка былога кіраўніцтва НКЗ БССР), так і ў галіне нацыянальна-культурнага будаўніцтва. Акапаўшыся ў Беларускай акадэміі навук, контррэволюцыйная група нацыянал-дэмократаў працягнула свае шчупальцы на шэраг вучасткаў культурнага фронту: Наркомасьветы, Белдзяржвыдавецтва і інш.

Беларускі нацыянал-дэмократызм на этапе аднаўленьня народнай гаспадаркі БССР жыў надзеяй на капіталістычнае перараджэньне, на рэстаўрацыю. Пераход да соцыялістычнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі, шырокі наступ на капіталістычныя элемэнты прымусіў іх узяць стаўку на інтэрвэнцыю. У саюзе з нацыянал-фашыстымі заходняй Беларусі яны падрыхтоўвалі глебу для гэтай інтэрвэнцыі сіламі, у першую чаргу, польскага фашызму.

Асноўнай ў ідэолёгіі нацыянал-дэмократызму зьяўляецца тэорыя адзінай, бясклясавай беларускай нацыі, адмаўленьня клясавай барацьбы, тэорыя беларускай самабытнасьці, ідэалізацыя мінулага Беларусі.

Ідэолёгія буржуазнага нацыянал-дэмократызму характарызуецца тым, што для таго, каб беларусы маглі конструявацца як нацыя, неабходна перш за ўсё давесьці гісторычнасьць беларускага народу, адшукаць якія-небудзь адзнакі нацыянальнага „залатога“ веку ў мінулым, давесьці гісторычнасьць нацыянальнай літаратуры, адшукаць гісторычных нацыянальных гэрояў і ўваскрасіць іх для таго, каб стварыць легенду пра нацыянальнае мінулае, якое будзе падтрымліваць нацыяналізм сёньня.

Ідэямі нацыянал-дэмократызму былі заражаны і паасобныя няустойлівыя зьвеньні комуністычнай партыі Беларусі. Нацыянал-опорту-

ністыя БССР у асноўным падзялялі ідэолёгію нацыянал-дэмократызму. Яны зьяўляліся рупарам нацыянал-дэмократызму, што выявілася і ў час дыскусіі пра Беларускі тэатр і кіно, дыскусіі пра шляхі беларускай літаратурнай мовы і ў другіх выступленьнях. У гэтых дыскусіях асабліва ярка выявілася і тэорыя беларускай самабытнасьці, і арыентацыя на „культурны“ Захад, у процівагу Чырвонай Маскве, і супроцьстаўленьне дзьвюх культур—расійскай і беларускай. Беларускія нацыянал-опортуністыя ідэалізавалі дробнабуржуазныя партыі, як Беларускую соцыялістычную грамаду, давалі няправільную ацэнку Кастрычнікавае рэволюцыі, выпуклялі роль інтэлігенцыі, як дзейнай сілы рэволюцыі. Зрастаючыся ідэолёгічна з беларускім нацыянал-дэмократызмам, беларускія нацыянал-опортуністыя зьяўляліся ня толькі рупарам, але об'ектыўна зьяўляліся шчытом, які прыкрывае шкодніцкую дзейнасьць нацыянал-дэмократаў ва ўсіх галінах нашага будаўніцтва.

У мастацкай літаратуры асабліва рэльефна выявіліся нацыянал-дэмократычныя тэндэнцыі і ўстаноўкі ў такіх творах, як „Вецер з Усходу“ Дубоўкі, і ў яго контррэволюцыйным вершы „Пасеклі наш край“, а таксама ў такіх творах, як „Падарожжа на новую зямлю“ і „Крывічы“ М. Зарэцкага, „Лісты да сабакі“ Пушчы, „І пурпуровых ветразей узьвівы“ Дубоўкі і інш.

Увесь пэрыод росту беларуска-мастацкай літаратуры з дня устанаўленьня савецкай улады на тэрыторыі Беларусі характарызуецца барацьбой, з аднаго боку, за пролетарскую літаратуру, за будаўніцтва нац. культуры з соцыялістычным зьместам, з другога—за літаратуру, нацыяналістычную, за нацыянальную буржуазную па зьместу культуру; характарызуецца аднача сна барацьбой за літаратурныя кадры. Компартыя Беларусі правяла рашучую барацьбу з вялікадзяржаўным шовінізмам, шовінізмамі другіх колераў і беларускім нацыянал-дэмократызмам, выкрыўшы контррэволюцыйны інтэрвэнцкі твар апошняга.

Сёньняшняя барацьба на літаратурным фронце, як і барацьба на фронце ідэолёгічным наогул, ня будзе зразумелай бяз экскурсу ў дакастрычнікавую літарарурy.

## Літаратура нашаніўскага пэрыоду

Пачаткам зараджэньня мастацка-беларускай літаратуры, як літаратуры сапраўды народнай, а не літаратуры для беларусаў, трэба лічыць пэрыод рэволюцыі 1905 г. У гісторыі беларускай літаратуры гэты пэрыод вядомы пад назвай „нашаніўскага“ пэрыоду. Гэтая назва ўзята ад газэты „Наша Ніва“, наваколь якое групаваліся беларускія пісьменьнікі таго часу. Гэты пэрыод, з другога боку, характарызуецца як пэрыод „адраджанізму“ (адраджэньне Беларусі). Такія пісьменьнікі, як Купала, Колас, Бядуля, Гартны і інш., ішлі і тварылі ў той час пад лёзунгамі дробнабуржуазнай організацыі Беларускай соцыялістычнай грамады. Б. С. Г. на этапе ўздыму рэволюцыі 1905 г. т. Ленін характарызаваў, побач з партыямі эсэраў, ППС і інш., як дробнабуржуазную рэволюцыйную організацыю, якая ў значнай ступені адлюстроўвала імкненьні сялянства, таго сялянства, інтарэсы якога ў той час у аснове супадалі з інтарэсамі пролетарыяту па лініі барацьбы супроць фэўдалізму, супроць памешчыкаў.

Рэакцыя 1907 г. зьмяніла твар Б. С. Г. Яна ператвараецца ў лібэральную організацыю кадэцкага тыпу і пачынае выдаваць, замест рэволюцыйнай газэты „Наша Доля“, лібэральную газэту „Наша Ніва“. Характэрнымі для ідэолёгіі „нашаніўства“ зьяўляюцца ідэалізацыя мінулага Беларусі, адмаўленьне клясавай барацьбы, пропаганда адзінай, бясклясавай беларускай нацыі.

Літаратурная творчасьць пэрыоду да рэакцыі 1907 году ў асобе такіх прадстаўнікоў, як Купала, Колас, Бядуля і Гартны, выяўляла сабою народнае, дэмократычнае слова беларускіх сялянскіх мас, якія вышлі ў рэволюцыю 1905 г. на чале з пролетарыятам на барацьбу з фэўдалізмам, на барацьбу з царызмам, на барацьбу супроць соцыяльнага і нацыянальнага прыгнечаньня.

Характэрным для літаратурнай творчасьці да рэакцыі 1907 г. і зьяўляецца тое, што гэтая творчасьць у асноўным была прасякнута нянавісьцю да нацыянальнага гнёту, папоўнена заклікам да нацыянальнага вызваленьня. Паколькі мастацкая літаратура ў асобе Купалы, Коласа, Гартнага і інш. заклікала на гэтую барацьбу, паколькі ў мастацкім слове выяўляўся протэст супроць нацыянальнага прыгнёту, пастолькі гэтая літаратура, бясспрэчна, адыгрывала прогрэсыўна-рэволюцыйную ролю.

Але беларускія поэты „адраджэнцкага“ пэрыоду ў сваіх соцыяльных мэтаімкненьнях ня ідуць далей ідэолёгаў „нашаніўства“,—гэта даць магчымасьць беларускаму селяніну набыць уласны кавалачак зямлі і ня мець над сабою апекі пана і чыноўніка.

Трэба адзначыць, што і другія характэрныя рысы ідэолёгіі нашаніўства—ідэалізацыя мінулага Беларусі, ідэя адзінай, бясклясавай беларускай нацыі—складаюць непадзельную частку і мастацкай літаратуры, у асаблівасьці літаратуры пазьнейшага пэрыоду.

Беларускія тэорэтыкі нацыянал-дэмократызму імкнуцца сёньня барацьбу працоўных мас за сваё соцыяльна-нацыянальнае вызваленьне за той пэрыод зрабіць асноўнай часткай таго, што вядома пад назвай „адраджанізму“, з мэтай паказаць апошні, як прогрэсыўную і нават рэволюцыйную зьяву. На самай-жа справе адраджанізм пэрыоду „Нашай Нівы“ зьяўляўся рэакцыйнай ідэяй, паколькі ён бачыў (і бачыць сёньня) адраджэньне беларускай культуры не ў рэволюцыйным уздыме і барацьбе пролетарскіх і працоўных мас, а ў далёкім фэўдальным мінулым.

Калі ў першы пэрыод рэволюцыі 1905 г. мы маем толькі тэндэнцыю гэтага „чыстага“ адраджанізму ў мастацкай творчасьці такіх поэтаў, як Купала, то ў пэрыод рэакцыі гэтая ідэолёгія пануе ўжо ў творчасьці гэтых поэтаў.

У творах Янкі Купалы, напісаных у гэты пэрыод, „Сон на кургане“, „Раскіданае гняздо“, ужо яўна гучаць адраджэнцкія мотывы. Усё гэта не магло не адбіцца і на форме творчасьці Купалы; поэта, сыходзячы з позыцыі рэалізму, на якой ён цьвёрда стаяў раней, аддае ў гэтых творах даніну і романтызму і сымболізму.

Вось з гэтай ідэолёгіяй адраджанізму, з ідэяй адзінай, бясклясавай беларускай нацыі і падышлі старыя беларускія пісьменьнікі да Кастрычніка Беларусі. Кастрычнік прынёс поўнае разьняволеньне працоўным Беларусі ад памешчыцкага, капіталістычнага і нацыянальнага прыгнёту. Здавалася-б, беларускія пісьменьнікі, якія аплаквалі долю беларускага селяніна, якія заклікалі яго на барацьбу за нацыянальнае вызваленьне, павінны былі радасна спаткаць вялікі Кастрычнік і на тэрыторыі Беларусі, але, знаходзячыся ў палоне буржуазна-нацыяналістычнай ідэолёгіі, яны спаткалі Кастрычнікавую рэволюцыю паіншаму. Яны спаткалі Кастрычнік, б'ючы трывогу ў нацыянал-дэмократычны „звон“. Мастацкае беларускае слова ў асноўным было накіравана супроць працоўных, супроць дыктатуры пролетарыяту; яно было аддадзена на службу эксплёататарам і окупантам.

І зусім меў рацыю Дзям'ян Бедны, калі з прычыны вершу Янкі Купалы, прысьвячанага прыходу на тэрыторыю Беларусі Пілсудзкага, ён прысьвяціў Купалу наступныя радкі:

Изменил поэт народу,
Заплясал панам в угоду,
Янки посвист соловьиный
Обратился в шип змеиный.
Да змеиный, да в змеиный.

У нацыянал-дэмократычных газэтах, што выдаваліся ў пэрыод нямецкай і польскай окупацый („Вольная Беларусь", „Беларускі звон" і інш.), мы маем шэраг вершаў Купалы, Бядулі, Гаруна, Коласа і інш., прасякнутых атрутай нянавісьці да саветаў, да пролетарскай дыктатуры.

Вось некаторыя выняткі з вершу Купалы, прысьвячанага прыезду ў Менск Пілсудзкага (з газэты „Звон"):

Паўстань з народу нашага прарок,
Праяваў буралломных варажбіт,
І мудрым словам скінь з народу ўрок,
Якім быў век праз ворагаў спавіт.

Зьбяры ў адну ўсю Беларусь сям'ю,
Вазьмі з яе прысягу і зарок,
Што не прадасьць сябе, сваю зямлю.
Зьняць путы бацькаўшчыны устань, прарок!

У нацыянал-дэмократычнай газэце „Вольная Беларусь" у фэльетоне „Народ і інтэлігенцыя" за подпісам З. Бядуля чытаем наступнае:

„Гэта ўзбудзіла падазронасьць народу да інтэлігенцыі, гэта скарысталі хітрыя людзі, нявольнікі натоўпу, сучасныя Пугачовы, каторыя ўзялі народ пад сваю апеку. Яны завабілі прыгожымі падатлівымі да яго словамі, карыстаючыся яго цёмнымі інстынктамі, і народ за ім пайшоў... Пад выкрыкамі і гіканьнем сучасных Пугачовых народ ахмялеў, і брат на брата пайшоў, і сын на сына.. Дзікім віхарам пусьціліся на нашай зямельцы азьвярэлыя людзі, яны гарцуюць цэлымі бандамі і нішчаць, і грабяць, і забіваюць... Чорныя рыцары ў соцыялістычных забралах дзеля блізеру ўскалыхнулі ў народзе зьвярыную помсту за мінулае... Гэтыя вучыцелі разьдзялілі яго на дзьве часткі: на „таварышоў" і „буржуяў".

Бядуля канчае гэты поўны нянавісьці да бальшавікоў фэльетон наступнымі словамі:

„Інтэлігенцыя і народ зразумеюць адзін аднаго і сальлюцца ў адно сэрца, у адну душу, і ніякага разьдзелу паміж імі ня будзе".

З гэтым фэльетонам гармонуе і наступны верш З. Бядулі („Ясакар"):

Усе вочы маланкай палаюць, гараць.
Ня можна чапаць гэтых мас,
Бо „вока за вока" мінулы закон
Зноў зробіцца панам у нас.

Усё гэта гаворыць пра тое, што беларускае мастацкае слова ў самы цяжкі пэрыод існаваньня Беларусі, пэрыод окупацый, у асноўным выконвала заказ не пролетарыяту, а яго ных клясавых ворагаў— буржуазіі і памешчыкаў.

## 1920/23—гады

Пасьля гадоў вайны і окупацыі, якія ўнесьлі вялікае руйнаваньне ў народную гаспадарку Беларусі, пачынаецца вялікая будоўля, спачатку па аднаўленьню, а далей па соцыялістычнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі БССР. Частка беларускіх пісьменьнікаў, і між

імі. А. Гарун. застаецца ў белай эміграцыі. Купала, Бядуля, а раней Гартны працуюць у Савецкай Беларусі. У 1921 годзе вяртаецца з РСФСР Я. Колас.

Як-жа адгукаецца старое пакаленьне на тое бурнае будаўніцтва, якое праводзіцца працоўнымі БССР? З. Бядуля мяняе вехі і дае некалькі вершаў, прысьвячаных нашаму будаўніцтву, але сваё ідэолёгічнае мінулае ён выжывае з цяжкасьцямі і па сёньняшні дзень. Колас за гэты час канчае тры свае монумэнтальныя творы: поэмы „Новая зямля“, „Сымон музыка“ і аповесьць „У Палескай глушы“. Аднача́сна Колас дае некалькі твораў, прысьвячаных савецкай рачаіснасьці. У сваіх першых трох творах Якуб Колас увесь у мінулым; ён у іх звонка дайграває наймацнейшыя акорды тае літаратурнай сымфоніі, якая пачала складацца за шмат гадоў да Кастрычніка. Гэтыя тры рэчы, як і шэраг дробных твораў, напісаных Коласам за гэтыя гады, гавораць нам пра тое, што Колас яшчэ ня зусім вышаў з кола нацыянал-дэмократычных ідэй, што ён яшчэ далёкі ад савецкай рачаіснасьці. Пра гэта красамоўна гаворыць наступнае лірычнае адступленьне ў поэме „Новая зямля“, якая закончана аўтарам у 1923 г.:

Праcторны шлях! Калі-ж, калі
Ты закрасуеш на зямлі
І злучыш нашы ўсе дарогі.

У зборніку вершаў Коласа „Водгульле“ за 1919—21 г.г. мы чытаем:

Кавалі другія,
А ланцуг той самы,
Песьні ўсе старыя
Не аджытай гамы.

У вершы „Беларускаму народу“, напісаным з прычыны Рыскага міру, Колас піша:

Нас падзялілі,
Хто—чужаніцы,
Цёмных дарог махляры.

Усё гэта гаворыць пра тое, што творчасьць Коласа далёка не гарманавала з савецкай рачаіснасьцю, што ён знаходзіўся ў палоне адраджанізму. Толькі ў шэрагу дробных твораў, а таксама ў аповесьці „На прасторах жыцьця“, дзе Колас малюе вёску, якая колектыўна асушвае балота, творчасьць гэтага пісьменьніка некалькі набліжаецца да савецкай літаратуры.

Я. Купала яшчэ ў большай меры, чым Колас, застаецца ў коле ідэі адраджанізму. Я. Купала ў працягу двух гадоў не адгукаецца на савецкае сёньня—яго ліра маўчыць. Адзінае, што было надрукована з твораў Купалы за 1920—22 гады - гэта яго пераклад „Песьні пра паход Ігара“. Дзе-ж крыецца прычына маўчаньня Купалы? Адказ ясны і яго маўчаньне, і ягоны адыход у далёкую старыну зьяўляюцца сваясаблівым протэстам супроць сучаснасьці, паказваюць на няпрыняцьце ім гэтай сучаснасьці. Калі Купала пачаў пісаць, то з-пад яго пяра мы маем ці шэраг варожых нам рэчаў, з нацыянал-дэмократычным зьместам, ці творы з уласьцівасьцю, якую трэба браць пад сумненьне. У 1925 г. выдадзен зборнік твораў Купалы пад назвай „Безназоўнае“. Возьмем хоць-бы першы верш, якім пачынаецца гэты зборнік:

О так, я пролетар!
Яшчэ ўчора раб пакутны—
Сягоньня я зямлі ўладар
І над царамі цар магутны.

Мне бацькаўшчынай цэлы сьвет.
Ад родных ніў я адвярнуўся.
Адно... ня збыў яшчэ ўсіх бед:
Мне сьняцца сны аб Беларусі.

А. Бабарэкам у той час, калі ён стаяў яшчэ на позыцыях „Маладняка", зусім правільна заўважана, што ў гэтым вершы гучыць тайная ўсьмешка. Тайная ўсьмешка адчуваецца і ў вершы Купалы, напісаным з прычыны запрашэньня тав. Леніна на Генуэскую конфэрэнцыю ў 1921 г.:

Пазвалі вас на пір піроў,
Пазвалі вас за волю стаць
І далі ўладу путы рваць
І далі ўладу біць цароў,—
Зрабілі з вас гаспадароў...
І ўсё вы ўзялі, усё як ёсьць:
Фабрычны дым, сяўбы загон,
І панскі двор, і царскі трон.

Такім чынам, мы бачым, што дасталося пролетарыяту пасьля Кастрычніка—па Купалу яму дастаўся фабрычны дым, а селяніну— „сяўбы загон".

Сама назва „Безназоўнае" ўжо характэрна тым, што яна зьяўляецца чымсьці неакрэсьленым. З гэтай неакрэсьленасьці і пачынаецца гэты твор:

З пачатку яно шалясьцела
Вельмі нясьмела,
А потым лізнула ваконца
Ціха, як сонца.

І чамусьці яно далей называецца ліха:

Бо як пачалося ў нас ціха
Тое ўсё ліха,
Што на беларускія межы
Усталі з залежы.

Ці далей:

Сяляне і сялянкі,
Цацанкі-абяцанкі
Збываюцца для вас.

Або:

Спраўляюцца заручыны
Вясельніцы засмучанай
З вясёлым жаніхом.

Навошта гэты эпітэт „засмучаны", і хто гэты вясёлы жаніх?— запытаем мы. Купала даў пару твораў такіх, якія сапраўды адказваюць савецкаму сёньня—„На сьмерць Булата" і „Арлянятам".

Падводзячы высновы літаратурнай творчасьці Купалы і Коласа за савецкі пэрыод, можна сказаць, што ў асноўным у сваёй творчасьці яны заставаліся ў коле нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіі і толькі часамі, у залежнасьці ад палітычнай абстаноўкі, падыходзілі да позыцый савецкай літаратуры.

## Першыя парасткі пролетарскай літаратуры

„Босыя на вогнішчы" М. Чарота ставяць рэзкую дэмаркацыйную рысу між адраджэнцкай літаратурай і рэволюцыйнай савецкай літаратурай. Поэма М. Чарота, якая сваімі надворнымі формальнымі настроямі нагадвае „Двенадцать" Блока, выводзіць на сцэну босых— пролетарыят і паўпролетарскія масы Беларусі. „Босыя на вогнішчы" выклікалі ажыўленую дыскусію на тэму: ці зьяўляецца гэта поэма

пролетарскім творам, ці не? Характэрна, што ў гэтай дыскусіі таварышы Ігнатоўскі і Жылуновіч адмаўлялі пролетарскі характар гэтай поэмы. У артыкуле „Мертвый тянет живого“ т. Кнорын паказвае, што мёртвы эсэр Ігнатоўскі цягне жывога поэта Чарота, які першы ў Беларусі даў узор пролетарскай поэзіі.

Хто-ж гэтыя „Босыя на вогнішчы“? Пра гэта гаворыць наступнае поэмы:

На вогнішчы басанож,
У руках вінтоўка, нож...
Здабываюць галодным славу:
„Даёш Варшаву“.
Нам ня трэба гарады:
Волі сьцяг нясем туды,
Іскры гонім мы пажару,
Сьмялей ударым.
Нам дарогу — уцякай.
Чуваць крыкі: а-я-яй...
Бач, улан астатні едзе:
„Ах цо то бэндзе...“
А чырвоныя ідуць,
Песьні волі зноў пяюць,
Адусюль бягуць к ім людзі:
— Нам цёпла будзе!

Даючы характарыстыку „босых“, Чарот адначасна ірве з традыцыямі адраджанізму і з адраджэнцамі — здраднікамі працоўных:

Мы — дзеці краіны,
Дзе бура бушуе,
Мы на прадвечных руінах
Працы палац пабудуем.
Ня любяць нас, босых,
Хто век быў абуты;
На нас узіраецца скоса,
Хто, як і мы, быў закуты..
І вы, хто гімны пеў гаротным,
Хто ў цемру слаў жыцьця праменьні,—
У руках трымаеце каменьні
І нас пабілі-бы ахвотна.
А можа чырвань Сонца Волі
Вам асьляпіла раптам вочы...
А помніце, як вы кляліся
Братом, сялянам і рабочым,
Што вы ня здрадзіце ніколі?
Пявун не прапяяў тры краты,—
Вы адракліся...

Супастаты...

Бяз вас раць наша ўзрастае,
Рады шчыльнеюць, крэпне дух.

Вы чуйце. Песьня ня сьціхае:
Паўстань, хто з голаду век пух...

Хутка растучая выдавецкая дзейнасьць БССР, рост беларускай прэсы, школ, тэатру, на аснове аднаўленчых процэсаў народнай гаспадаркі,—усё гэта падымае з нізоў рабочых і сялянскіх мас новыя кадры літаратурнага маладняка. За Чаротам на літаратурную сцэну выступаюць Зарэцкі, Пушча, Дудар, Дубоўка, Кузьма Чорны, Крапіва, Александровіч, П. Трус і інш.

У лістападзе 1923 г. маладыя літаратурныя сілы аб'ядналіся ў літаратурную організацыю „Маладняк“. У выдадзеным організацыяй

„Замест дэклярацыі“ гаворыцца, што „Маладняк“ зьяўляецца ўсебеларускім аб‘яднаньнем поэтаў і пісьменьнікаў, якое арганізавалася для таго, каб ідэі матэрыялізму, марксызму і ленінізму ажыцьцяўляць у беларускай мастацкай творчасьці.

Больш выразна задачы „Маладняка“ формуляваны ў рэзолюцыі пленуму „Маладняка“ (21-23 жніўня 1926 г.) па дакладу пра месца „Маладняка“ у беларускай мастацкай літаратуры. Пункт першы гэтай рэзолюцыі гаворыць: „Мастацкая літаратура ў руках рабочых і сялян зьяўляецца прыладай клясавай барацьбы і соцыялістычнага будаўніцтва“. І далей: „Кастрычнікавая рэволюцыя высоўвае новыя задачы перад літаратурай... Вырастаюць новыя мастацкія сілы з гушчы працоўных мас, якія і ствараюць літаратуру Кастрычніка. Гэтыя новыя маладыясілы паднімаюць сьцяг станаўленьня новага жыцьця, у аснову літаратурнай работы кладуць колектывізм, жыцьцятворчасьць і жыцьцярадаснасьць... Гэты новы літаратурна-грамадзкі кірунак характарызуецца ўбіраньнем у сябе ўсяго каштоўнага іпрогрэсыўнага з папярэдняй літаратуры, як пераапрацоўкай і творчасьцю новай, маладой формы мастацкай літаратуры, якая адказвае соцыяльным умовам жыцьця. Новы літаратурна-грамадзкі кірунак „Маладняк“—гэта форма, у якой матэрыялізуецца, а праз яе і об‘ектывізуецца клясавая сьвядомасьць пролетарска-сялянскай клясы (Падкрэсьлена мною.—А. С.) у эпоху Кастрычніка на Беларусі“.

У адносінах прадстаўнікоў другіх літаратурных плыняй „Маладняк“ ставіць задачай барацьбу з адраджанізмам, барацьбу з носьбітамі буржуазнай і мяшчанскай ідэолёгіі і адначасна супрацоўніцтва з тымі, у каго прыкмячаецца імкненьне перамагчы гэтую ідэолёгію і ўспрыняць ідэолёгію пролетарскую.

Рэзолюцыя гэта сьведчыць аб неаднароднасьці аб‘яднаньня, аб недастатковай палітычнай сьпеласьці (чаго варт „пролетарска-сялянская кляса!“), аднак, яна зьявілася, бясспрэчна, шагам наперад у дзейнасьці маладнякоўцаў, у вершах, поэмах, апавяданьнях якіх даюцца малюнкі грамадзянскай вайны, гэроічнай барацьбы за Кастрычнік на Беларусі, у творчасьці якіх пяецца пра бурнае будаўніцтва экономікі і культуры БССР. Трэба адзначыць, што творчасьць „Маладняка“ за гэты пэрыод абвеяна дымкай рэволюцыйнай романтыкі.

„Маладняк“ даў шмат і ў галіне тэматыкі і ў галіне сапраўды мастацкіх твораў.

Вялікія дасягненьні меліся ў „Маладняку“ і ў адносінах мастацкага аформленьня сваіх твораў. „Маладняк“ прарабіў вялікую работу па лініі крышталізацыі літаратурнай мовы, па лініі пашырэньня і стварэньня новых поэтычных вобразаў, па лініі ўнясеньня новай рытмікі і рыфмы. Адным словам, „Маладняк“ шмат зрабіў па ўзьняцьцю беларускай мастацкай літаратуры да ўзроўню мастацкай літаратуры іншых народаў.

Організацыя „Маладняка“ даволі хутка расла і колькасна. З сямі членаў пры яго заснаваньні (1923 г.) „Маладняк“ вырас да 507 членаў за 2 з лішкам гады (на 28/IX-25 г.). Організуецца цэлы шэраг філій „Маладняка“ у Віцебску, Полацку, Магілеве, Клімавічах, Воршы, Слуцку, Гомелі, Бабруйску, Барысаве, Мазыры і інш. „Маладняк“ праводзіць шырокую грамадзкую работу шляхам набліжэньня і прасоўваньня мастацкага слова ў шырокія пролетарскія і сялянскія масы. Гэта дасягалася наладжваньнем літаратурных вечароў у клюбах, на заводах, у вёсках і г. д.

Соцыяльны склад „Маладняка“ быў даволі рознастайным. Пролетарскі і комуністычны касьцяк быў параўнаўча невялікі, большасьць-жа яго членаў зьяўляліся дзяцьмі сялян і інтэлігенцыі, галоўным чынам, выхаванцамі сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў. Гэты рознастайны склад уплываў у значнай ступені на далейшую творчасьць і дыфэрэнцыяцыю ў шэрагах „Маладняка“. Ужо ў першыя гады нэпу ў творчасьці больш няўстойлівых элемэнтаў „Маладняка“ прыкмячаюцца элемэнты ўпадніцтва, некаторая частка трапляе пад уплыў „богэмы“ у яе горшым разуменьні. Ясеніншчына, як мы бачым, мела сваіх наступнікаў і на Беларусі.

На маладнякоўскія кадры пісьменьнікаў узьдзейнічалі адначасова дзьве сілы: з аднаго боку, партыйнае ўзьдзеяньне, а роўна і ўзьдзеяньне пролетарскай грамадзкасьці, з другога боку, узьдзеяньне нацыянал-дэмократычных элемэнтаў. Над некаторымі пісьменьнікамі, якія ўвайшлі ў „Маладняк“ (Пушча), панавала ідэолёгія адраджанізму. Пад уплывам гэтых фактараў у „Маладняку“ ужо з самага пачатку яго існаваньня акрэсьліваюцца дзьве тэндэнцыі. Адна частка літаратараў цьвёрда становіцца на позыцыі Кастрычніка і разам з пролетарыятам змагаецца за далейшае соцыялістычнае разьвіцьцё гаспадаркі і культуры БССР, другая частка ўспрымае Кастрычнікавую рэволюцыю ў тэй яе частцы, у якой яна вырашыла нацыянальнае пытаньне, і ў тэй меры, у якой яна садзейнічала адраджэньню сялянскай гаспадаркі.

За пэрыод нэпу, калі ішоў аднаўленчы процэс у нашай гаспадарцы, гэтыя нацыяналістычныя тэндэнцыі былі няпрыкметны. Яны пачынаюць выяўляцца і аформляцца ў момант пераходу ад аднаўленьня да соцыялістычнай рэконструкцыі нашай гаспадаркі. Калі, у сувязі з разгорнутым соцыялістычным наступам, абвастраецца клясавая барацьба, тады гэтая барацьба ўзмацняецца і на ідэолёгічным фронце.

Хронолёгічна пачатак гэтага аформленьня можна аднесьці да зьяўленьня зборніка вершаў Дубоўкі „Трысьцё“ і комэнтарыю да гэтага зборніку А. Бабарэкі ў крытычным артыкуле „З далін на ўзвышшы“. У гэтым артыкуле А. Бабарэка ірве з асновамі марксысцкай крытыкі, на позыцыі якое ён пачаў быў станавіцца, і ў імкненьні стварыць сваю самабытную беларускую крытыку кідаецца ў абдымкі псыхолёгізму і формалізму. Адыход ад дыялектычнага мэтоду прыводзіць Бабарэку да прымірэньня з корыфэямі адраджанізму—Купалай, Коласам і Багдановічам, а ў далейшым—да поўнага пераходу яго на позыцыі нацыянал-дэмократызму.

У канцы 1926 году група пісьменьнікаў, даволі таленавітых, як Дубоўка, Пушча, Кузьма Чорны, Крапіва, выходзіць з „Маладняка“ і стварае літаратурнае аб'яднаньне „Узвышша“. У выпушчаных тэзісах „Узвышша“ лічаць „факт самагоннай бурапеннай творчасьці навучальнай і протокольнай творчасьці службовай, казённай радасьці, адмоўным фактам у літаратуры“. Прыведзены тэзіс ясна гаворыць аб адыходзе „Узвышша“ ад позыцый пролетарскай літаратуры, ад яго накіраванасьці ў бок „чыстага мастацтва“, аб адыходзе ад кіраўніцтва комуністычнай партыі. Гэты адыход „Узвышша“ прывёў большасьць яго членаў у балота нацыянал-дэмократызму, а яго кіраўнікоў—у стан контррэволюцыі.

Нацыянал-дэмократычная ідэолёгія знайшла найлепшае сваё мастацкае аформленьне ў творчасьці некаторых „узвышанцаў“. Пушча, з яго поэмамі, дзе ён аплаквае „расьпятую на крыжы“ Беларусь, з ягонымі „Лістамі да сабакі“, Дубоўка з ягонымі поэмамі

„І пурпуровых ветразей узьвівы“, „Комбайн“ і інш. Характэрна, што адыход Дубоўкі на нацыянал-дэмократычныя пазыцыі адбіўся на формальных дасягненьнях гэтага таленавітага поэты. Яго апошнія поэмы пазбаўлены ўжо тае сакавітасьці мовы, якая ўласьціва творам рэволюцыйнага пэрыоду ягонай творчасьці. Яны стаяць значна ніжэй па рытму і рыфмоўцы і хутчэй паходзяць на соцыолёгічны трактат, чым на поэму.

Адколам „Узвышша“ не абмежавалася дыфэрэнцыяцыя „Маладняку“, і ў далейшым мы маем адпачкаваньні, якія прывялі да стварэньня літаратурных організацый „Праблеск“, а пазьней „Літаратурна-мастацкай комуны“. Гэтыя організацыі, праіснаваўшы нядоўга, распаліся, і большасьць членаў гэтых організацый вярнулася зноў у „Маладняк“. Трэба адзначыць, што гэтыя адколы і расколы ў „Маладняку“, зьяўляючыся ў асноўным вынікам процэсаў, меўшых месца ў краіне, адбываліся і не бяз узьдзеяньня і азначанай работы з боку нацыянал-дэмократычных элемэнтаў. Наступным сур'ёзным адколам „Маладняка“ быў выхад у 1927 г. кіруючай групы гэтай організацыяй Чарота М., Зарэцкага Т., Глыбоцкага (Дудара), Александровіча. Хоць у рэзолюцыі нанова высунутага кіраўніцтва „Маладняка“ і адзначаюцца формальныя прычыны адыходу вышэйпамянёных таварышоў, але трэба сказаць, што гэтыя прычыны былі больш глыбокай уласьцівасьці. Яны заключаліся ў тым, што мікроб нацыянал-дэмократычнай хваробы апанаваў і частку літаратараў з былога кіраўніцтва (Зарэцкі, Глыбоцкі, часткова Александровіч). Гэта не выяўлялася ў іхнай творчасьці за той адцінак часу, але нацыяналістычныя тэндэнцыі ў гэтай групе таварышоў, пачуцьцё нацыянальнай абмежаванасьці рэзка выявіліся, калі было пастаўлена пытаньне пра ўваход „Маладняка“ у аб'яднаньне пролетарскіх пісьменьнікаў саюзу (ВОАПП). Гэтаму ўваходу і аб'яднаньню беларускіх пролетарскіх і сялянскіх пісьменьнікаў з пролетарскімі пісьменьнікамі другіх рэспублік былое кіраўніцтва „Маладняка“ аказвала пасыўнае супраціўленьне. Яны аказ:алі актыўнае супраціўленьне гэтаму аб'яднаньню, вышаўшы з „Маладняка“, у асаблівасьці на першай конфэрэнцыі БелАПП. М. Зарэцкі ў сваім выступленьні на гэтай конфэрэнцыі заяўляе: „Некаторыя таварышы могуць убачыць супярэчнасьці ў тым, што я, стоячы за зблiжэньне з расійскай літаратурай, усё-ж недаверліва адношуся да ўваходу „Маладняка“ у ВОАПП, быццам-бы я настроен супроць ВОАПП. Паўтараю, я гляджу на гэтую справу вельмі асьцярожна, я ня выказваюся ні за, ні супроць і вось чаму: ВОАПП не паказаў сябе да апошняга часу, як галоўны правадыр нацыянальнай сувязі між нацыямі Савецкага Саюзу, і ніякай ролі не адыграў яшчэ ў гэтай справе, а ВОАПП існуе ўжо доўгі час, вось чаму ў мяне зьяўляюцца сумненьні. Мы маем сувязь між Украінай і Грузіяй і між другімі рэспублікамі, я і азначаю, што ня ведаю ніводнага выпадку, калі-б гэта сувязь ішла па лініі ВОАПП. У нас, напрыклад, ёсьць вельмі добрыя адносіны з Украінай, перапіска, узаемныя паездкі і г. д., але якую ролю тут адыграў ВОАПП у справе зблiжэньня Украіны і Беларусі? Ніякай. Чым гэта тлумачыцца? Можа быць, гэта зьяўляецца прычынай таго, што большасьць нацыянальных сэкцый зьяўляецца падгалоскам часткі расійскай пролетарскай літаратуры. Справа ня ў тым, што вас пусьцяць у Маскву на зьезд, што вы там прабудзеце некаторы час. А справа ў тым, каб быў другі погляд на беларускую літаратуру, каб беларускую літаратуру лічылі роўнай з другімі літаратурамі. Справа ня ў тым, каб быў падыход у сэнсе большай самастойнасьці, каб больш выяўлялася гэта „злачынная самабытнасьць“. Вось чаму я ня

ўпэўнен у тым, што ВОАПП праўдзе сваю місію збліжэньня народаў СССР, вось чаму я прытрымліваюся погляду „пажывем—пабачым“.

Група пісьменьнікаў, якая адкалолася ад „Маладняка“ (Чарот, Зарэцкі, Глыбоцкі, Александровіч), аб'яднаўшыся з пісьменьнікамі старога пакаленьня (Купала, Колас і інш.), стварыла новае літаратурнае аб'яднаньне „Полымя“[1].

Ужо вышэй было адзначана супраціўленьне былых кіраўнікоў „Маладняка“ ўваходу апошняга ў ВАПП. Гэтым і тлумачыцца, чаму аб'яднаньне з пролетарскімі організацыямі Саюзу адбылося з некаторым спазненьнем. Гэтая-ж затрымка фактычна прывяла „Маладняк“ у тупік. Клясавая барацьба на ідэолёгічным фронце і на фронце літаратуры, якая разгортавалася, патрабавала ад „Маладняка“ вядучай ролі ў гэтай барацьбе. патрабавала актыўнага наступу на варожыя элемэнты з яго боку, але, застаючыся ізоляваным, ня зьвязаны з пролетарскімі організацыямі нацыянальных меншасьцяй самое Беларусі, не апіраючыся на пролетарскія організацыі ўсяго Саюзу,—Маладняк свае ролі барацьбіта за пролетарскую гэгемонію ў літаратуры ня мог выканаць. Вось чаму стала задача безадкладнага аб'яднаньня пролетарскіх сіл на літаратурным фронце як на Беларусі, так і з пролетарскімі сіламі ўсяго Саюзу. У выніку—організацыя БелАПП з нацыянальнымі сэкцыямі (яўрэйскай, польскай, літоўскай і інш.) і ягоны ўваход у ВОАПП. БелАПП уносіць новую старонку ў гісторыю беларускай літаратуры. З кожным днём ён заваёўвае ўсё новыя позыцыі на літаратурным фронце, заваёўвае ролю гэгемона ў галіне літаратуры.

Літаратурнае жыцьцё Беларусі ня ішло ізолявана ад жыцьця і барацьбы, якая адбываецца на літаратурным фронце Саюзу паасобных нацыянальных рэспублік. Вышэй я ўжо адзначыў уплыў ясеніншчыны ў беларускай літаратуры. Вялізарным уплывам карысталася і карыстаецца пролетарская плынь у расійскай літаратуры, на чале якой стаіць РАПП і „напостаўцы“. Прынцыпы грамадзкай работы „Маладняка“ сярод рабочых і сялянскіх мас Беларусі, творчыя мэтады РАПП усё гэта ня толькі дыскусавалася, але і launched ператваралася ў жыцьцё ва ўсёй рабоце асноўных пролетарскіх кадраў „Маладняка“, пазьней БелАПП. Уплыў расійскай літаратуры характарызуецца яшчэ і такімі момантамі, як організацыя літаратурнага аб'яднаньня „Літаратурна-мастацкая комуна“, дзе на Беларусі была аддадзена даніна неолефаўству і Маякоўскаму.

Калі гаварыць пра асобныя нацыянальныя рэспублікі Саюзу, то Украіна зьяўляецца лепшым прыкладам, даводзячым, што адны і тыя-ж экономічныя і палітычныя фактары выклікаюць паралельныя працэсы ў літаратурным жыцьці гэтых дзьвюх сумежных рэспублік. Нацыянал-дэмократызм і яго агентура ў партыі—нацыянал-опортунізм маюць адпаведнае праламленьне і ў мастацкай літаратуры УССР і БССР.

Калі мы возьмем літаратурнае жыцьцё і Украіны і Беларусі, то мы знойдзем яскравыя прыклады паралелізму ў адносінах цэлага шэрагу працэсаў і зьяў у літаратурным жыцьці абедзьвюх рэспублік. Хвільлёвізм, які высунуў лёзунг орыентацыі на „культурны Захад“, мае ў Беларусі сваіх Хвільлёвых у асобе Зарэцкага, Глыбоцкага і інш., праўда, некалькі пазьней выступіўшых з лёзунгамі нацыянальнай самабытнасьці Беларусі і тае-ж орыентацыі на Захад у процівагу Чырвонай Маскве. Тэорыя барацьбы дзьвюх культур: расейскай, з аднаго боку, украінскай і беларускай, з другой,—праходзіць чырвонай ніткай цераз увесь пэрыяд барацьбы на культурным фронце, у прыватнасьці, на фронце

[1]) Характарыстыку творчасьці літаб'яднаньня „Полымя“ гл. ніжэй у арт. т. Конакоціна.

літаратурным. На Ўкраіне нацыянал-опортуністы Хвільлёвы скочваецца да позыцыі фашызму ў яго романе „Вальдшнэпы“, а на Беларусі па тым-жа шляху ідзе М. Зарэцкі, які ад самабытнасьці і орыентацыі на Захад скочваецца да напісаньня фашысцкага роману „Крывічы“.

Падводзячы падрахункі літаратурнага жыцьця Беларусі за асьветлены мною пэрыод, мы можам констатаваць, што толькі дзякуючы Кастрычнікавай рэволюцыі, дзякуючы правільнаму кіраўніцтву комуністычнай партыі, Савецкая Беларусь стала ў першыя шэрагі народаў СССР па сваіх дасягненьнях у галіне мастацкай літаратуры і мастацтва. Мы на сёньняшні дзень ужо маем лепшыя ўзоры ўсіх форм літаратурнай творчасьці, пачынаючы ад романаў, драм і канчаючы поэмамі і другімі формамі мастацтва. Тыя скажэньні і адхіленьні ў бок варожых нам плыняй перамагаюцца і будуць пераможаны ў той меры, як мы перамагаем скаженьні, ухілы, шкодніцтвы і інш. на другіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва. БССР ідзе цьвёрдымі крокамі наперад па шляху будаўніцтва культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зьмесьце, каб у далейшым разам з усімі працоўнымі сьвету ісьці да адзінай інтэрнацыянальнай культуры.

## Пытаньні крытыкі і літаратуразнаўства

Марксысцкая крытыка зьяўляецца вельмі добрай зброяй у барацьбе з варожымі нам плынямі ў мастацкай літаратуры, а роўна і сродкам у справе выхаваньня маладых літаратурных кадраў і перавыхаваньня папутнікаў. Трэба констатаваць, што марксысцкай крытыкі ў БССР амаль ня маем, калі ня лічыць выпадковых экскурсаў у галіну літаратуры паасобных таварышоў комуністых па тым ці іншым пытаньні, якое набыло асаблівую актуальнасьць. Гісторыя літаратуры, пытаньні літаратуразнаўства знаходзіліся ў асноўным да апошняга часу у руках махровых беларускіх нацыянал-дэмократаў і ў руках ідэалістых, формалістых і эклектыкаў расійскай школы. І да гэтага часу адыгрываюць ролю навучальных дапаможнікаў да вышэйшай і сярэдняй школы такія рэчы, як „Гісторыя беларускай літаратуры“ М. Гарэцкага; такая-ж „Гісторыя беларускай літаратуры“ проф. Піотуховіча, выпіскі з беларускай літаратуры В. Чаржынскага і інш. Для таго, каб мець уяўленьне, чым зьяўляюцца гэтыя „навучальныя“ дапаможнікі, дастаткова сказаць, што палова месца ў іх адведзена так званай старажытнай беларускай літаратуры—Скарыне, К. Смаляцічу і іншым духоўным „отцам“ і сярэднявечным „монахам“. Добрая трэць адведзена так званым хлопаманам (Рыпінскі, Дунін-Марцінкевіч і інш.) літаратуры, да слова кажучы, напісанай для беларусаў прыгоньнікамі і прыхільнікамі прыгоннага права, якія імкнуліся знайсьці выхад у зьмягчэньні прыгону перад сялянскай рэволюцыяй, што насоўвалася. І вось гэтых паноў з прыгоннага лягеру ўсе тры вышэйназваныя аўтары залічваюць у разрад народнікаў. Ідэалізуючы мінулае ў галіне беларускай літаратуры, шукаючы карэньняў сучаснай беларускай літаратуры ў працах сярэднявечных монахаў і хлопаманаў канца XVIII стагодзьдзя, беларускія крытыкі ў асобе М. Гарэцкага, Чаржынскага і Піотуховіча імкнуцца гэтым давесьці гісторычнасьць беларускай літаратуры, садзейнічаючы, такім чынам, замацаваньню і распаўсюджваньню беларускага нацыяналізму сёньня.

У гэтых дапаможніках астатняя трэць аддаецца нашаніўскаму пэрыоду і амаль нічога, калі ня лічыць пару-другую старонак, савецкай мастацкай літаратуры. Пра тое, як крытыкі з лягеру нацыянал-дэмакратаў імкнуцца выкарыстаць прыладу літаратурнай крытыкі

ў сваіх нацыянал-дэмократычных мэтах, лепшым прыкладам зьяўляецца літаратурнае практыкаваньне крытыка Чаржынскага. Вышэй я адзначаў, што і Купала і Колас у сваёй творчасьці ня выходзілі з кола нацыянал-дэмократычнай ідэалёгіі. Чаржынскі імкнецца давесьці якраз адваротнае, і вось якімі мэтодамі. Ён сьцьвярджае, што поэма Коласа „Новая зямля“ зьяўляецца творам, сугучным савецкай эпосе.

Прыкрываючыся марксысцкай фразэолёгіяй, Чаржынскі дае наступны аналіз соцыяльнай значнасьці поэмы „Новая зямля“. „Якуб Колас у „Новай зямлі“, піша Чаржныскі „ва ўсёй мастацкай шырыні паказаў нам, што пад грубой сярмягай б'ецца магутнае сэрца, б'ецца нястрымны пульс імкненьняў, што пад гэтай грубой сярмягай—нявычэрпная крыніца моцы і энэргіі, упартасьці і настойлівасьці, але разам з гэтым ён нам паказаў трагедыю згубы клясавай сьвядомасьці, паказаў нам процэс дэклясаваньня азначанай часткі сялянства напярэдадні соцыяльнай рэволюцыі“.

Тое, што Якуб Колас паказаў процэс дэклясаваньня азначанай часткі сялянства, правільна, але крытыку тут-жа трэба было паказаць, якавы адносіны аўтара „Новай зямлі“ да гэтага процэсу дэклясаваньня, а роўна паказаць і тое, дзе аўтар бачыць выхад для свайго гэроя, які стаў ахвярай дэклясаваньня. „Уся бяда і ўвесь трагізм у тым (па Чаржынскаму), што селянін згубіў свой клясавы інстынкт, што ён спадзяецца палепшыць сваё становішча тым-жа шляхам, якім ідуць яго клясавыя ворагі. Клясавы інстынкт селяніна,—сьцьвярджае Чаржынскі—гэта інстынкт колектывістага, і трагізм коласаўскага гэроя заключаецца ў тым, што ён, згубіўшы гэты інстынкт, узышоў на шлях індывідуальнай барацьбы за ўласны кавалак зямлі“. Адкуль гэта Чаржынскі ўзяў, што селянін зьяўляецца колектывістам нават па клясаваму інстынкту? Мы-ж думалі, і заўсёды сьцьвярджалі і сьцьвярджаем, што носьбітам колектывізму і колектыўнасьці зьяўляецца пролетарыят, узьдзейнічаючы на бяднейшыя і серадняцкія пласты сялянства; пролетарыят паказвае гэтаму сялянству адзіны выхад—гэта шлях колектыўнай барацьбы супроць капіталізму, гэта шлях колектыўнага будаўніцтва пасьля перамогі пролетарскай рэволюцыі. Колас сапраўды паказаў з усёй глыбінёй гэты ўласьніцкі інстынкт селяніна, з яго імкненьнем да ўласнага кавалачку зямлі, але тут-жа крыецца ключ да таго, ці зьяўляецца Коласава „Новая зямля“ сугучнай савецкай эпосе. Яна была-б такой, калі-б Я. Колас паказаў выхад з таго трагічнага становішча, у якім апынiўся яго гэрой і ў якім знаходзяцца мільёны сялян у капіталістычных краінах. Колас ня толькі не паказаў гэтага выхаду, але больш таго—кожны радок яго лірычных адступленьняў гаворыць нам пра тое, што імкненьні аўтара, яго ідэалы—тыя-ж, што і ідэалы ягонага гэроя, што выхад ён бачыць у набыцьці дэклясаваным селянінам уласнага кавалчаку зямлі.

У другім месцы У. Чаржынскі, гаворачы пра „Новую зямлю“, ужо адкрыта пропагандуе нацыянал-дэмократычную ідэалёгію: „Барацьба Міхала за ўласную зямлю сымболізуе беларускі працоўны народ, той народ, які на працягу стагодзьдзьяў ня меў свае бацькаўшчыны, які быў чужым у гэтай бацькаўшчыне, той народ, каторы, як і Міхал, толькі і лятуцеў, толькі і імкнуўся да гэтай бацькаўшчыны, да ўласнае зямлі, як сымболічна паказвае поэт у сваёй поэме“.

Яшчэ з большай стараннасьцю той-жа Чаржынскі імкнецца прыцягнуць творчасьць Купалы да савецкай рачаісьнасьці. Падрахоўваючы паасобныя моманты творчасьці Янкі Купалы ў пасьлякастрычнікаўскі пэрыод, Чаржынскі піша: „Ліра поэты не маўчыць, але адклікаецца на важнейшыя падзеі гэтай сучасьнасьці, і калі яна

адклікаецца ня так часта, як таго-б нам хацелася, то ў гэтым пункце мы павінны памятаць, што маем справа з мастацтвам, гэта ёсьць з такой катэгорыяй, якая не падапарадкавана матэматычным вымерам і якая пакуль што ня жыве па календару, хоць-бы нават і савецкаму". Зьвярнеце ўвагу на гіронічнае падкрэсьліваньне наконт „савецкага календара".

Якімі-ж зьяўляюцца літаратурныя выступленьні Янкі Купалы за апошні пэрыод? Чаржынскі адказвае, што літаратурныя выступленьні поэты не зьяўляліся дысонансам эпосе, а, наадварот, як нельга лепей гармэнавалі з эпохай. Найбольш характэрным паказальнікам таго, як нацыянал-дэмократычны крытык імкнецца прыкрыць і завуаляваць нацыянал-дэмократычную сутнасьць таго ці іншага твору, зьяўляецца ацэнка, дадзеная Чаржынскім драме „Тутэйшыя", напісанай Купалай у 1923 г., драме, да слова сказаць, яўна шовіністычнай. У сваёй ацэнцы гэтай драмы Чаржынскі лоўка абыходзіць социяльную сутнасьць і накіраванасьць драмы і гаворыць выключна пра яе формальны бок. Бо бачыце, гэты твор, па словах Чаржынскага, ня гледзячы на сваю схэматычнасьць, падобен да мольераўскіх рэчаў. Бо Мольер у сваіх комэдыях так блізка падыходзіў да рэалізму, даючы шэраг жывых фігур; гэты самы Мольер там, дзе хацеў сьмехам бічаваць сваю сучаснасьць, дзе ён хацеў выклікаць сьмех,—карыстаўся схэмамі. Загэтым п'еса „Тутэйшыя" ва ўсёй сваёй драматычнай пабудове зьяўляецца веяньнем мольераўскага генія на глебе беларускай літаратуры.

Паглядзім, якую сучаснасьць бічуе сваім сьмехам Я. Купала ў „Тутэйшых". „Тутэйшыя" даюць малюнак окупацыі Беларусі, пры чым Купала падводзіць і час побыту бальшавікоў на Беларусі пад паняцьце окупацыі. Значыць, у драме „Тутэйшыя" ён бічуе нашу савецкую рачаіснасьць, ён паднімае на шчыт свайго сьмеху бальшавікоў, якіх ён у гэтым творы ставіць на адну дошку з польскімі окупантамі.

Прыведзеныя прыклады як нельга лепей характарызуюць становішча літаратуразнаўства на Беларусі на сёньняшні дзень. Ня лепш абстаіць пытаньне і з катэдрамі літаратуразнаўства ў Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце і Беларускай акадэміі навук. У апошняй катэдру ўзглаўляе профэсар б. Варшаўскага унівэсытэту пры царызьме, які прымаў актыўны ўдзел у грамадзянскай вайне на баку Дзянікіна,—проф. Замоцін. Літаратуразнаўства ва унівэрсытэце вядзе проф. Вазьнясенскі—супрацоўнік белэміграндкай часопісі „Slavonic Rewiwe", якая выдаецца на ангельскай мове ў Лёндоне, які прызнаў у пададзенай заяве ў праўленьне БДУ, што ён увесь час у сваіх лекцыях і працах праводзіў ідэалістычную і формалісцкую тэорыю. Гісторыю беларускай літаратуры вядзе проф. Піотуховіч. У мінулым годзе, наездамі з Масквы, марочыў галовы студэнтам псэўдомарксызмам яры пераверзевец Фохт.

Сёньня мы маем невялікую групу таварышоў марксыстых, якія ўзяліся за работу і ў галіне літаратурнай крытыкі і ў галіне гісторыі беларускай літаратуры, за выяўленьне тае нацыянал-дэмократычнай спадчыны, якую мы атрымалі. Задачай сёньняшняга дня зьяўляецца стварэньне марксысцкай крытыкі на Беларусі, неадкладнай задачай зьяўляецца стварэньне марксысцкай гісторыі беларускай літаратуры і выхаваньня новых навуковых сіл для работы ў гэтай галіне.

О. Конакоцін

# Абвастрэньне клясавай барацьбы ў беларускай літаратуры ў пэрыод социялістычнай рэконструкцыі

Класавая барацьба ў беларускай мастацкай літаратуры і публіцыстыцы складае непадзельную частку тых процэсаў абвастрэньня клясавай барацьбы, якія мы наглядаем на Беларусі і ва ўсім Савецкім саюзе ў выніку нашага рашучага наступу па ўсяму фронту социялістычнага будаўніцтва і па ўсяму фронту барацьбы за стварэньне культуры социялістычнай па зьместу і нацыянальнай па форме.

Мы маем факты, калі клясавы вораг займаўся шкодніцтвам на чыгунцы, падпальваў саўгасы і колгасы, прасякаў у культурныя органы і там праводзіў шкодніцкую работу; клясавы вораг выступаў у выглядзе антысэмітызму, зьдзекваючыся над работніцай Баршай на гуце „Кастрычнік“ у Бабруйскай акрузе або выпальваючы вочы вапнаю аднаму з прыкладных рабочых будаўнікоў Бабруйскага дрэваапрацоўчага комбінату тав. Нэйману. Ён (клясавы вораг) зьбіваў беларускую жанчыну, якая пажанілася з яўрэем, выступаючы у даным выпадку ў выглядзе клясава-варожага яўрэйскага шовінізму. На пасобных вучастках социялістычнага будаўніцтва ён шкодзіў нам у выглядзе вялікадзяржаўнага шовінізму, выступаючы супроць беларусізацыі, узводзячы паклёп на партыю абвінавачваньнямі ў прымусовым правядзеньні беларусізацыі і імкнуючыся давесьці, што няма беларускай мовы, а ёсьць „наречие“ ў расійскай мове. Клясавы вораг у выглядзе беларускага нацыянал-дэмократызму, зьвязанага цеснымі сувязямі з нацыянал-фашызмам Заходняй Беларусі, пралез у такія ўстановы, як Наркомасьветы, Наркомзем, БАН, якая ў большай частцы сваіх катэдр знаходзілася ў палоне ў контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, які карыстаўся інстытутамі і ўстановамі, аб'яднанымі Беларускай акадэміяй навук, для популярызацыі шкодных нацыяналістычных тэорый, карыстаўся Акадэміяй, як месцам для сваіх контррэволюцыйных вылазак. Клясавы вораг пралез і ў Дасьледчы інстытут сельскай і лясной гаспадаркі. Ён распрасьцёр свае шчупальцы і на мастацкую літаратуру, дзе процэсы клясавай барацьбы, процэсы абвастрэньня гэтай барацьбы, былі даволі ярка выражаны.

Беларускі нацыянал-дэмократызм, апіраючыся на кулацтва і дробную буржуазію, праявіў вялікую актыўнасьць у сваёй шкодніцкай рабоце і на фронце культурнага будаўніцтва і, у прыватнасьці, літаратуры.

Партыя мобілізавала ўвагу на барацьбу з нацыянал-дэмократызмам, пролетарская грамадзкасьць пад кіраўніцтвам партыі пашла ў штыхі на контррэволюцыйны нацыянал-дэмократызм, у выніку чаго

органы пролетарскай дыктатуры ДПУ ўскрылі і організацыйную структуру беларускага контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму.

Апошні пленум ЦК КП(б)Б, які адбываўся ў кастрычніку месяцы, даў наступную характарыстыку беларускаму нацыянал-дэмократызму:

„Беларускі нацыянал-дэмократызм, гаворыцца ў рэзолюцыі па нацыянальнаму пытаньню, характарызуецца барацьбою за капіталістычную рэстаўрацыю і орыентоўкай на Захад, у прыватнасьці на фашысцкую Польшчу у процілегласьць пролетарскай Маскве. Нацыянал-дэмократызм прапаведуе тэорыю самабытнасьці, тэорыю, якая ўзводзіць у догму вузкую провінцыяльную абмежаванасьць.

Тэорыя самабытнасьці вяла да ідэалізацыі фэўдальнага і буржуазнага мінулага і знайшла сваё адлюстраваньне, у прыватнасьці, у шуканьнях росквіту беларускай культуры ў эпоху сярэднявякоўя, у ідэалізацыі шляхецкіх революцыянэраў накшталт Кастуся Каліноўскага і г. д.

Нацыянал-дэмократызм напружвае ўсе свае сілы да таго, каб накіраваць культурнае будаўніцтва БССР па шляху стварэньня культуры буржуазнай па сваім зьмесьце і нацыянальнай па сваёй форме.

Падобна вялікадзяржаўнаму шовінізму беларускі нацыянал-дэмократызм стаіць на глебе прызнаньня няўхільнасьці барацьбы дзьвюх культур: расійскай і беларускай. Выходзячы з гэтай тэорыі, беларускі нацыянал-дэмократызм стварае агульны фронт з беларускім нацыянал-фашызмам па той бок мяжы (Луцкевіч, Астроўскі, Станкевіч і інш.). Ён зьяўляецца, такім чынам, агентурай беларускага нацыянал-фашызму—сустаўной часткай польскага фашызму“.

Усе гэтыя характэрныя рысы беларускага нацыянал-дэмократызму знайшлі сваё адлюстраваньне і ў беларускай мастацкай літаратуры. На літаратурным фронце контррэволюцыйны нацыянал-дэмократызм выступаў праз сваіх агентаў, якіх ён завербаваў з меней устойлівых у клясавых адносінах прадстаўнікоў беларускай культуры, ці проста пасылаў сваіх агентаў у шэрагі беларускіх літаратурных аб‘яднаньняў. Нам ужо вядомы такія факты, калі „свае людзі“ пасылаліся беларускімі нацыянал-дэмократамі ў шэраг установ, у шэраг галін нашага культурнага і гаспадарчага будаўніцтва з мэтай там шкодзіць, з мэтай быць сапраўднымі агентамі гэтай контррэволюцыйнай групы. Беларускі нацыянал-дэмократызм і на літаратурным фронце пасьпеў за гэтыя гады ня мала прынесьці нам шкоды. Ад скрытых, замаскаваных вылазак ён пераходзіць у адкрыты наступ, у адкрытыя контррэволюцыйныя вылазкі супроць пролетарскай дыктатуры.

Трэба сказаць, што мы мелі ня толькі паасобныя выступленьні паасобных прадстаўнікоў, якія ўваходзілі ў тое ці іншае аб‘яднаньне беларускіх літаратараў, але ў нас былі і такія зьявы, калі пэўныя організацыі, у пэўныя моманты абвастрэньня клясавай барацьбы, выступалі з ідэямі нацыянал-дэмократызму, выступалі супроць нас. Праўда, выступалі не з дэкларацыямі ўсяго аб‘яднаньня, а адзін за другім з вызначанай лініяй супроць нас.

Абвастрэньне клясавай барацьбы на літаратурным фронце выклікае тую клясавую дыфэрэнцыяцыю, якая адбываецца спачатку ў выглядзе адыходу ад „Маладняка“ дзьвюх груп пісьменьнікаў, а потым і ў выглядзе організацыйнага афармленьня клясава-дыфэрэнцыяваных груп пісьменьнікаў.

## Організацыйнае афармленьне клясавай дыфэрэнцыяцыі ў беларускай літаратуры

Класавая дыфэрэнцыяцыя 26-27 г., якая адбывалася ў беларускай літаратуры, вядома нам ня толькі адыходам дзьвюх груп ад „Маладняка“, якія потым увашлі ў нанова організаваныя літаратурныя аб'яднаньні—„Полымя“ і „Узвышша“, але і тым, што да гэтых новых аб'яднаньняў прыходзяць людзі, якія стаяць у баку ад будаўніцтва, людзі з яўна зьменавехаўскімі ўстановкамі, прымушаныя пасьля доўгага маўчаньня прызнаць, што савецкая ўлада цьвёрдая. Гэтыя маўчальнікі з двух- і трохгадовым стажам літаратурнага маўчаньня ўваходзяць далёка не з пролетарскімі ідэямі ў беларускую літаратуру.

Мы маем, апрача спамянёных трох аб'яднаньняў, яшчэ два: „Пробліск“ і „Літаратурна-мастацкую комуну“, якія ўзьніклі таксама ў выніку клясавай дыфэрэнцыяцыі. Бо і тыя офіцыяльныя заявы гэтых груп аб разыходжаньні ў творчых мэтодах мелі, бяз сумненьня, сваю клясавую сутнасьць. „Пробліск“, не пасьпеўшы замацавацца, распаўся і пашоў зноў за „Маладняком“; „Літаратурна-мастацкая комуна“, праіснаваўшы некалькі месяцаў, распадаецца.

Такія-ж процэсы клясавай дыфэрэнцыяцыі адбываліся і сярод літаратурных груп нацыянальных меншасьцяй. Група яўрэйскіх пісьменьнікаў „Юнгер Арбэйтар“ мела адыход людзей з упадніцкімі настроямі і людзей, якія ўпалі ў містыцызм. У расійскай групе „Звеньня“ дыфэренцыяцыя ішла па шляху організацыйнага адхону новай групы „Перавал“.

Некаторыя публіцыстыя таго часу імкнуліся змазаць клясавую сутнасьць дыфэрэнцыяцыі, якая адбывалася ў беларускай літаратуры, прыцягваючы за валасы такія довады, што адколы груп адбываюцца „па прынцыпу літаратурнага стажу“, па формальных прыёмах творчасьці; на жаль, гэтыя тлумачэньні тагды ня былі разьбіты да канца і гулялі дзе-ні-дзе да 28-29 г. І калі прыхільнікам змазваньня клясавай сутнасьці меўшай месца дыфэрэнцыяцыі не ўдавалася выступіць у друку БССР, тагды яны ўводзілі блытаніну праз расейскія часопісі, прыклад—артыкул Ф. Купцэвіча ў № 11 за 1929 г. часопісі „Печать и революция“.

Перш чым гаварыць пра афармленьне і характарыстыку паасобных організацый, мы лічым неабходным зрабіць такую заўвагу, што організацыйнае замацаваньне клясавай дыфэрэнцыяцыі ішло, галоўным чынам, па дзьвюх лініях: па лініі набліжэньня да пролетарскай літаратуры, потым барацьбы за стварэньне беларускай пролетарскай літататуры—„Маладняк“ (які пасьля ўвайшоў у ВОАПП і рэорганізаваўся ў БелАПП) і па лініі самабытніцтва і „бясклясавага ўзвышэнства“ беларускай літаратуры—„Полымя“ і „Узвышша“.

Літаратурнае аб'яднаньне „Полымя“, ня гледзячы на вялікую розьніцу ў творчасьці ўвайшоўшых у гэта аб'яднаньне асоб, знайшло адзіную ідэю, якая зьвязвае ўсіх членаў. „Полымя“ склалася з часткі старых пісьменьнікаў пэрыоду „Нашай нівы“ і з тае групы пісьменьнікаў, якая пасьля адколу ад „Маладняка“, у выніку клясавай дыфэрэнцыяцыі, прымыкае да гэтай групы.

Такім чынам, мы бачым як-бы два ярка выражаныя крыльлі „Полымя“. Тут нявольна ўзьнікае пытаньне: што-ж аб'яднала гэтых розных людзей: з аднаго боку, групу, выхаваную ў пэрыод „Маладняка“, у пэрыод разьвіцьця рэволюцыйнай беларускай літаратуры, а з другога боку, групу, праслаўленую ў пэрыод, калі „Наша Ніва“

была амаль не на службе кадэтаў, праслаўленую ў дні польска-нямецкай окупацыі служэньнем кайзэру, а пасьля Пілсудзкаму? Што-ж аб'яднала гэтыя дзьве групы ў адну організацыю „Полымя“? Гэтыя дзьве групы аб'яднала ідэя так званай самабытнасьці беларускай літаратуры. Тыя таварышы, якія вышлі з „Маладняка“, падмянілі моманты клясавыя момантамі нацыянальнымі. Нацыянальныя моманты трымалі іх моцна ў сваіх руках. Група „Полымя“ зьяўлялася ня чым іншым, як папутніцкай групай, і да гэтай групы павінны былі быць вядомыя адносіны, як да групы папутніцтва. Калі партыя ў сваіх дакумантах, у сваіх пастановах такім чынам гэтую групу і расцэньвала, то паасобныя прадстаўнікі нават з кіраўнічых таварышоў, як мы ўбачым (ніжэй мы пра гэта будзем гаварыць), адносіліся да „Полымя“ далёка ня так, як да папутніцкай групы. І сёньня можна яшчэ чуць развагу, што „Полымя“ склалася не пад уплывам адзінай ідэі самабытнасьці, якая яднае гэтыя дзьве групы, не пад уплывам ідэі нацыяналістычнай, а што яно склалася па другіх адзнаках. Вось адно з такіх найбольш небясьпечных, азначэньняў, падкрэсьліваю, маючых месца на сёньняшні дзень: „Полымя“ па ягонаму складу можна назваць конглёмэратам розных плыняй. Нельга яму даць якую-небудзь аднаабразную політычную характарыстыку, бо гэта організацыя організавалася па адзнацы „старых“, а не па адзнацы політычнай і нават мастацкай. Як бачыце, у гэтым азначэньні на першым месцы стаіць „конглёмэрат“ ідэй, а на другім месцы „адзнака“ „старых“. І на тэй і на другой адзнацы наўрад ці можна аб'яднаць організацыю, якая далёка не па-старыкоўску дзейнічала на вядомых этапах клясавай барацьбы ў літаратуры. Мы сьцьвярджаем, што менавіта ідэі нацыяналістычнай самабытнасьці былі зьвяном, якое зьвязвала і аб'яднала „Полымя“, а ніяк ня прынцып старыкоўства.

І толькі пасьля таго, як гэтая ідэя нацыяналістычнасьці самабытнасьці прывяла частку „Полымя“ да адкрытых вылазак нацыянал-дэмократызму, другая частка пачынае перацэньваць шляхі, па якіх ідзе аб'яднаньне.

Другая літаратурная організацыя, „Узвышша“, якая таксама стварылася ў выніку клясавай дыфэрэнцыяцыі беларускай літаратуры, аб'ядналася па прынцыпу ўзвышэньня над рачаіснасьцю, па прынцыпу стварэньня беларускага „залатога веку будучыны“, а на самай справе карэньні гэтых прынцыпаў жывіліся сокамі кулацкай зямлі, карэньні гэтых высокіх прынцыпаў—залатога веку будучыны Беларусі—заходзілі ў „залаты век мінулага“ Беларусі.

Гэтая позыцыя прывяла „Узвышша“, асабліва правую яго частку, да адкрытых вылазак нацыянал-дэмократызму. Праўда, мы ў сучасны момант ужо маем дакладныя дадзеныя, што ня толькі ідэя нацыяналізму штурхала „Узвышша“ да гэтых антыпролетарскіх, антысавецкіх выступленьняў: „Узвышша“, да нацыянал-дэмократычных выступленьняў, штурхала і контррэволюцыйная організацыя былых міністраў беларускай народнай рады, так як частка членаў „Узвышша“ знаходзілася ў цеснай організацыйнай сувязі з контррэволюцыйным нацыянал-дэмократычным цэнтрам.

У процівагу гэтым дзьвюм організацыям па іншых шляхох ідзе „Маладняк“ па шляхох набліжэньня да пролетарскай літаратуры, з цягам часу па шляху барацьбы за пролетарскую літаратуру. Гэты шлях прыводзіць „Маладняк“ да ўваходу ў ВОАПП.

Праўда, шлях ад стварэньня першай організацыі пісьменьнікаў, якой зьяўляўся „Маладняк“, да БелАПП быў ня лёгкі, але быў правільным, як шлях барацьбы за пролетарскую беларускую літаратуру.

## Неаднароднасьць социяльна-клясавага складу літаратурных аб'яднаньняў

Літаратурныя аб'яднаньні, якія організацыйна аформіліся, усё-ж ня былі аднароднымі па свайму соцыяльна клясаваму складу. Было-б памылковым сьцьвярджаць, што ўсе групы ў іх складзе можна падстрыгчы пад адзін грэбень: БелАПП—пад пролетарскі, а „Узвышша" і „Полымя" пад нацыянал-дэмократычны. Неаднароднасьцю соцыяльна-клясавага складу і тлумачыцца тое, што ў момант абвастрэньня клясавай барацьбы мы наглядаем азначаныя процэсы далейшай дыфэрэнцыяцыі сярод усіх аб'яднаньняў і нават паасобныя выхады з аб'яднаньняў. З аднаго боку, выхадцы з рабочых і бядняцкіх сялянскіх мас, якія ўваходзяць ў літаратурныя аб'яднаньні, пачынаюць пераацэньваць свае няправільныя нацыяналістычныя ўстаноўкі, па якіх яны пашлі ў гэтых аб'яднаньнях, групах, якія організацыйна аформіліся: „Полымя" і „Узвышша"; з другога боку, правая група, нацыяналістычная група, група буржуазных пісьменьнікаў, пачынае больш актывізавацца, пачынае адкрыта выступаць, вядучы абстрэл пролетарскай літаратуры з сваіх нацыянал-дэмократычных позыцый.

Процэсы дыфэрэнцыяцыі ідуць ня толькі ў „Полымі" і „Узвышшы", але і ў БелАПП'. Праўда, большасьць яе членаў складаецца з выхадцаў з бядняцкіх пластоў вёскі і з рабочых гораду; але, аднак, і ў БелАПП мелася частка, праўда нязначная, соцыяльна чужая нам, якая ўлілася сюды з агульным струменем рэволюцыйнага ўздыму, уздыму, які быў і на літаратурным фронце.

У „Полымі", як мы ўжо гаварылі, побач з былымі маладнякоўцамі, былі такія людзі, як Купала, Грамыка, Ляжневіч, Дыла, Гурло і ня ў меншай меры меўшы значэньне па свайму мінуламу Колас. Гэтыя людзі прышлі ў „Полымя" далёка ня з тымі ідэямі, пра якія яны пісалі ў сваіх дэкларацыях. Карэньні іх творчасьці моцна ўрасьлі ў нашаніўскі пэрыод і ня меней моцна ўрасьлі ў пэрыод абслугоўваньня окупантаў кайзэраўскіх і окупантаў польскіх. Але там былі і выхадцы з рабочага асяродзьдзя, як Александровіч, як комуністы Чарот, як Вольны—былы партызан. У „Полымі" знаходзіліся і такія людзі, як Жылуновіч і Зарэцкі, якія скаціліся да нацыянал-дэмократызму. Пра гэта яны заяўляюць у сваіх прызнаньнях, і калі Жылуновіч больш рашуча асуджае свае старыя позыцыі, то Зарэцкі яшчэ і да гэтага часу спасылаецца на асьлепленасьць, якая прывяла яго ў абдымкі нацыянал-дэмакратызму. Як быццам ён зьяўляецца цёмным, несьвядомым, прабыўшы шэраг гадоў у комуністычнай партыі.

Падкрэсьліваем, што ў моманты абвастрэньня клясавай барацьбы наогул і на літаратурным фронце ў прыватнасьці, пасьля шэрагу нацыянал-дэмократычных выступленьняў, у групе „Полымя" ідзе дыфэрэнцыяцыя, у групе „Полымя" няма адзінства. У выніку гэтай дыфэрэнцыяцыі выходзіць з „Полымя" Александровіч, адыходзіць з прычыны прымірэнцкіх адносін да нацыянал-дэмократызму ў „Полымі" Чарота і Нёманскага. Калі Чарот ад прымірэнцтва часамі пераходзіў да садзейнічаньня, зьмяшчаючы нацыянал-дэмократычныя артыкулы ў газэце, рэдактарам якой ён зьяўляўся, то цяпер Чарот ужо б'е нацыянал-дэмократаў сваімі поэмамі.

Такім чынам, толькі абвастрэньне клясавай барацьбы прымушае т. т. глыбей удумацца ў процэсы, якія адбываюцца, прымушае гэтых таварышоў рэзка павярнуць у бок ад нацыянал-дэмократаў.

Тую-ж клясавую неаднароднасьць складу і клясавых карэньняў творчасьці мы маем у групе „Узвышша". Для „Узвышша", як і для

„Полымя“ характэрна, што кіруючую ролю ў гэтым аб'яднаньні адыгрывалі людзі, карэньнямі свае творчасьці зьвязаныя з нацыянал-дэмократызмам. Такія людзі, як Бабарэка, Пушча і ў той час комуніст Купцэвіч, які аказаўся перабежнікам да нацыянал-дэмократызму, адыгрываюць кіруючую ролю і прав‹›дзяць, як цяпер апавядаюць т.т. з „Узвышша“, нацыянал-дэмократычную апрацоўку, не саромячыся запалохваньня і дыскрэдытацыі сваіх т.т. па аб'яднаньню як літаратурных бяздарнасьцяй.

Ізноў такі працэс абвастрэньня клясавай барацьбы прыводзіць так званую левую частку „Узвышша“ да пераацэнкі тае лініі, па якой яны ішлі. Тут дыфэрэнцыяцыя адбылася ня столькі дзякуючы такім моцным працэсам нутраной пераацэнкі каштоўнасьці і нутраной барацьбы, але, галоўным чынам, пад напорам пролетарскай грамадзкасьці і крытыкі, якую разгарнуў комуністычны друк.

Праўда на сёньняшні дзень левая частка „Узвышша“ яшчэ далёка не стаіць на правільным шляху, але яна пераглядае свае ўстаноўкі, яна асудзіла былых сваіх ідэолёгаў, адмежавалася ад іх.

Ня гледзячы на тое, што БелАПП у пераважнай сваёй большасьці зьяўляецца блізкім нам па соцыяльна-клясаваму складу, усё-ж і ў БелАПП ёсьць адзінкі-выхадцы з чужога нам асяродзьдзя. Праўда БелАПП увесь час вядзе лінію на самаачыстку, БелАПП чысьціць свае шэрагі ад соцыяльна-чужых, ад зьвязаных з чужою нам клясаю людзей, але гэта ня здымае пытаньня з парадку дню работы БелАПП, што яшчэ трэба весьці вялікую, працяжную барацьбу па ачышчэньню сваіх шэрагаў.

Такім чынам, мы бачам, што ў зусім законамерным парадку адбываецца далейшая соцыяльна-клясавая дыфэрэнцыяцыя ў беларускай літарутуры. Са славутай беларускай самабытнасьці ў літаратуры маска сарвана, самі літаратурныя організацыі ўскрываюць нацыянал-дэмократычныя тэндэнцыі, ачышчаючы свае шэрагі ад нацыянал-дэмократычных агентаў.

## Расстаноўка творчых сіл у сучаснай беларускай літаратуры

Сучасную беларускую літаратуру можна разьмежаваць па чатырох асноўных літаратурных кірунках: літаратура пролетарская, сялянская, папутніцкая і буржуазна-нацыяналістычная—нацыянал-дэмократычная літаратура.

Пытаньне пра беларускую пролетарскую літаратуру настолькі цікавае і шырокае, што яно ня можа быць у дадзенай рабоце цалкам ахвачана, загэтым абмяжуемся некалькімі заўвагамі.

Крыніцай беларускай пролетарскай літаратуры зьяўляецца Кастрычнікавая рэволюцыя. У першыя гады пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі заўважваецца ўздым у творчасьці беларускай літаратуры. Першым нашым творам, які зьявіўся ў 1921 г. у беларускай літаратуры, мы маем поэму Чарота „Босыя на вогнішчы“, якая і зьявілася ў той час першым творам у разьвіцьці беларускай пролетарскай поэзіі.

Расійская пролетарская літаратура, якая аформілася і склалася шмат раней, чым беларуская, зьявілася вялікай дапамогай для стварэньня беларускай пролетарскай літаратуры.

Рост, уздым гаспадаркі—прамысловасьці і сельскай гаспадаркі Беларусі,—зьявіліся падставай пасьпяховага разьвіцьця пролетарскай літаратуры. Між іншым, яшчэ і да гэтага часу дзе-ні-дзе імкнуцца

давесьці, што пролетарская літаратура на Беларусі вырасла не ад Кастрычніка, а ад пэрыоду „Нашай Нівы“ і заходзіць сваімі карэньнямі да Скарыны і Сямёна Тураўскага. Гэта ня што іншае, як нацыянал-дэмократычная ідэалізацыя фэўдальнага і буржуазнага мінулага Беларусі, гэта шкодніцкая тэорыя клясавага ворага.

Мы далёкі нават і ад таго, каб лічыць прабацькам пролетарскай літаратуры і такіх пісьменьнікаў, як Гартны, на чым вельмі ўпарта настойваюць некаторыя тэорэтыкі беларускай літаратуры.

Цішка Гартны з яго дарэволюцыйнай творчасьцю не зьяўляецца пролетарскім пісьменьнікам. У Цішкі Гартнага ў ягонай дарэволюцыйнай творчасьці ёсьць протэсты і бунтарства, але протэсты, якія ня ідуць далей бунтарства. У сваёй дарэволюцыйнай творчасьці ён не падняўся да вышыні сьвядомасьці волі пролетарыяту. Там няма разуменьня вялікіх задач пролетарскай рэволюцыі, якая ў тыя часы надыходзіла. Загэтым нельга сьцьвярджаць, што Цішка Гартны зьяўляецца прабацькам беларускай пролетарскай літаратуры.

Трэба адзначыць, што наперакор прароцтва нацыянал-опортуністых, якія гаварылі, што на Беларусі ня можа быць пролетарскай літаратуры, наперакор надрыўнаму крыку з нацыянал-дэмократычнага лягеру пра тое, што на Беларусі ня можа быць пролетарскай літаратуры, затым што гэта краіна самабытная, вясковая, наперакор прароцтвам трацкістых, якія гаварылі, што ў пэрыод пераходу да соцыялізму пытаньне магчымасьці існаваньня беларускай пролетарскай літаратуры зьяўляецца пытаньнем даволі спрэчным (пра гэта пісаў у сваім артыкуле Купцэвіч), наперакор усім гэтым прароцтвам як нацыянал-шовінізму, так і нацыянал-дэмократызму і трацкізму мы на сёньняшні дзень можам констатаваць наліча беларускай пролетарскай літаратуры. Гэтая літаратура можа яшчэ ня зусім склалася, ня зусім афармілася, ня зусім выкрышталізавалася, як пролетарская літаратура, яна ў некатоторых сваіх творах, можа быць, недастаткова чотка адлюстроўвае задачы і ролю пролетарыяту,—што тлумачыцца тым, што беларуская пролетарская літаратура зьяўляецца маладой літаратурай, і тым, што яшчэ сам БелАПП недастаткова моцна ў сваёй творчасьці зьвязаны з узрастаючай з кожным днём нашай соцыялістычнай прамысловасьцю і з рабочай клясай,—але ва ўсякім выпадку на сёньняшні дзень мы можам сказаць, што беларускую пролетарскую літаратуру мы маем.

Мы бачым хуткі тэмп разьвіцьця прамысловасьці і разам з тым хуткі рост пролетарыяту Беларусі. Рост прамысловасьці Беларусі па пяцігодцы быў прадугледжан на 442 проц. Калі мы параўнаем гэта з 282 проц. агульнага росту ўсяго Савецкага Саюзу, мы ўбачым колёсальную розьніцу ў тэмпах, якімі падымаецца прамысловасьць Беларусі.

Мы бачым, як на практыцы ажыцьцяўляецца правільная установка партыіі на падцягваньне экономічнага ўзроўню адсталых нацыянальнасьцяй да ўзроўню экономікі передавых, перамогшых нацыянальнасьцяй.

Бяз сумненьня, што база для пролетарскай літаратуры на Беларусі з кожным днём пашыраецца. БелАПП цяпер вядзе вялікую работу па выхаваньню новых кадраў літаратараў з рабочых-ударнікаў. БелАПП організуе гурткі на фабрыках і заводах. БелАПП цяпер мае такіх прадстаўнікоў пролетарскай літаратуры, як Лынькоў, Галавач, Мурашка, Ліманоўскі, Александравіч. Чарот і памёршы ў мінулым годзе Трус, які і раней зьяўляўся яркім прадстаўніком інтарэсаў бядняцкіх сялянскіх мас, які паступова падняўся на ўзровень разуменьня задач рабочай клясы і даў нам таленавіта напісаную поэму „Дзесяты падмурак“.

Усе гэтыя сілы растуць ад Кастрычніка, яны зразумелі Кастрычнік, ішлі з рабочай клясай пад кіраўніцтвам партыі, выхаваны ёю.

Ітак, не ад Скарыны, не ад сьпевакоў фэўдалізму—Дуніных-Марцынкевічаў і не ад „Нашай Нівы“ расьце беларуская пролетарская літаратура, а толькі ад вялікага Кастрычніка.

Сялянская літаратура на Беларусі мае даволі шмат маладых кадраў. Праўда, над гэтымі кадрамі мы яшчэ мала працуем. Сярод прадстаўнікоў сялянскай літаратуры ёсьць імёны ўпаўне афармленых сялянскіх пісьменьнікаў, як Каваль, Баранаў, Нікановіч, Сташэўскі. Гэтыя таварышчы правільна адлюстроўваюць процэс рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, правільна ўспрыймаюць кіруючую ролю пролетарыяту і партыі. Яны ня толькі адлюстроўваюць у мастацкай форме процэс, які адбываецца ў вёсцы, але спрабуюць працаваць над зьменай самога жыцьця вёскі, разумеючы правільна задачы партыі і рабочай клясы.

Хуткі рост колгаснага руху, вырошчваньне ў колгасах новага тыпу чалавека, колгасьніка-ўдарніка, бяз сумненьня, будзе зьяўляцца тэй базай, на якой будуць працаваць беларускія сялянскія пісьменьнікі. Мы мелі ня дрэнны вопыт, калі газэта „Беларуская вёска“ выпускала часопісь „Чырвоны сейбіт“, дзе выключна пісалі новыя кадры з сялькораў. Мы маем цяпер добры вопыт Бабруйскай раённай газэты „Комуніст“, якая выдае дадатак пад назвай „Вясна“. Вакол гэтага дадатку цяпер ужо налічваюцца не адзінкі, а дзесяткі маладых сялькораў, колгасьнікаў, ударнікаў, якія работай даводзяць, што кадры ў нас ёсьць. Але калі ўзяць раённыя філіі БелАПП, як філіі Амсьцілаўскую, Аршанскую, Полацкую і нават Магілеўскую, то гэтыя філіі БелАПП па сваёй сутнасьці складаюцца з сялянскіх пісьменьнікаў, пачынаючых сялянскіх пісьменьнікаў. Такім чынам, рэзэрвы для сялянскай літаратуры Беларусі, бязумоўна, ёсьць.

У гэтай галіне патрэбна вялікая работа па выхаваньню новых кадраў, па скалочваньню таго кадра, вакол якога павінна стварыцца аб'яднаньне беларускіх сялянскіх пісьменьнікаў.

Папутніцкая беларуская літаратура, і „Полымя“ і „Узвышша“, у сваіх шэрагах маюць ня мала папутнікаў, і нават у БелАПП ёсьць папутнікі. Агульнай характарыстыкай для нашых папутнікаў можа зьявіцца, так сказаць, нацыянальная „шыльда“, за якою яны ня бачаць клясавай сутнасьці рэчаў. Нашы папутнікі вельмі часта хваравюць гэтым нацыяналізмам. Але адсюль ні ў якім выпадку нельга ставіць пытаньне пра тое, што гэты нацыяналізм павінен нас адштурхоўваць ад работы над імі, мы не адмовімся ад выхаваньня такіх папутнікаў, як Крапіва, Кузьма Чорны, які ў сваёй сялянскай тэматыцы да апошняга часу ня можа перамагчы дробнабуржуазнага погляду на сялянства. Кузьма Чорны ўсімі сіламі стараецца перамагчы гэты культ моцнага індывідуума-селяніна, па сутнасьці кулака. Але гэта з цяжкасьцямі яму даецца. Ёсьць у нас і таварышы, якія блукаюць у нетрах упадніцкай лірыкі; Маракоў, Кляшторны, якія ніякім чынам ня могуць узьняцца на вышыню тых задач, якія стаяць перад пролетарскай літаратурай, хоць яны гэтага ўпарта дамагаюцца.

Слабасьць марксысцкай крытыкі ў значнай ступені затрымлівае выхаваньне папутнікаў, адваёўваньне лепшай іх часткі, набліжэньне іх да нас. Я гавару пра папутнікаў таму, што, па маёй думцы, пытаньне пра папутнікаў беларускай літаратуры ні ў якім выпадку ня здымаецца. Над папутнікамі нам трэба працаваць.

Пераходжу да буржуазна-нацыяналістычнай часткі нашай літаратуры, да літаратуры нацыянал-дэмократычнай. На гэтай частцы

неабходна застанавіцца больш падрабязна таму, што вялізарную ўвагу ў барацьбе на літаратурным фронце нам прышлося накіроуваць на нацыянал-дэмократычную літаратуру. Сярод пісьменьнікаў буржуазна-нацыяналістычнай, нацыянал-дэмократычнай літаратуры мы маем такія імёны, як Дубоўка, Пушча, Зарэцкі, Мрый, Грамыка, М. Гарэцкі, Янка Купала, які упэўніў у сваім юбілейным зборніку яшчэ раз, з кім ён ідзе.

Дубоўка, у мінулым маладняковец, які перайшоў пасьля ва „Узвышша“, Дубоўка, стаўшы на позыцыю нацыянал-дэмократызму, дае нам два цікавых творы: „І пурпуровых ветразей узьвівы“ і „Комбайн“. У першым з гэтых твораў ён падае разважаньні поэта-лірыка і матэматыка (бальшавіка). Матэматык у яго ня толькі сухі, але ў сваіх развагах і проста дурны. У спрэчках лірыка і матэматыка пераможцам становіцца лірык. Матэматык застаецца ў дурным становішчы. Дубоўка, паказаўшы, такім чынам, матэматыка, ставіць на суд чытача абодвых і гаворыць: „Скажэце, з кім вы пойдзеце: з лірыкам, ці з матэматыкам?“ Прасьцей гаворачы, з кім вы пойдзеце: з бальшавіком-дурнем, ці з намі?

Больш паказальным зьяўляецца яго другі твор „Комбайн“. У „Комбайне“ Дубоўка піша пра тое, як аршанскі кондуктар, пад якім ён разумее партыю, пасадзіў у вагон кур'ерскага цягніка селяніна для таго, каб павезьці яго ў колектыў і пачаў угаворваць селяніна, каб той згадзіўся добраахвотна ўступіць у колектыў. Селянін адказвае, што ён на гэта ня згодзен. Кандуктар працягвае настойваць, пры чым у сваіх довадах кондуктар паказан адмоўным тыпам, а селянін, наадварот, паказан моцнай асобай, з псыхолёгіяй, якую гэтаму кондуктару не надламаць. І недарэмна Дубоўка ўкладае душу ў адказы гэтага селяніна, калі ён парыруе кондуктару. Селянін гаворыць кондуктару:

„Цябе салавей не дагоніць,
Калі, нават, возьме лакотку,
І ночы ня хопіць сягоньня,
І ноч можа здацца кароткай.
Ды ўсё яно добра ў дарозе,
Калі ты ляжыш на паліцы,
Калі ты ні ў якай трывозе,
Ніякай няма навальніцы..
А вось, як узойдзеш у хату,
Як глянеш на шэрыя сьцены,—
Згадаеш і дзеда і тату,
Радню да дзесятых каленьняў,—
Дык надта і не паскачаш,
Дык надта і не падскочыш.
Хоць горка калі паплачаш,
Хоць хочаш ты сам ці ня хочаш.
Здалёку даваць парады
Бадай што ня вельмі цяжка.
І казка здаецца, як праўда,
І праўда здаецца, як казка.
Бліжэй падыйдзі, чалавеча,
Да гэтай вясковай сядзібы,
Калі насуваецца вечар,
Калі нараджаюцца хібы..
Ты думаеш, лёгка пакінуць
Усё, што ў стагодзьдзях зьбірана?
Ня выганіш гэнага клінам,
Бо будуць няўгойныя раны...
Мне кожны памежак знаемы,
Сьмяецца мне кожны лісточак,
Дык што ты мне радзіш для злому?
Дык што ты мне радзіш, браточак?
Павінен я кінуць, зрачыся
Усяго, што з маленства мне міла?“

Увесь твор прасякнут ідэяй моцнай асобы селяніна, які супраціўляецца партыі.

Адсюль ня цяжка выясьніць і мэту, якую прасьледуе поэма.

У гэтай поэме ў лірычным адступленьні Дубоўка апавядае казку,—а ён, між іншым, вялікі мастак на лірычныя адступленьні,—казку пра тое, што была некалі Мазырская княжна, якая ўдавілася косткаю. Гэтая княжна, па звычаю заходніх народаў, была пакладзена ў склеп. Прыходзіць злодзей, пачынае яе рабаваць. Злодзей рабуе да апошняй кашулі, і калі пачынае зьнімаць з гэтай княжны, якая ўдавілася косткай, кашулю, тады ад нялоўкага штуршка злодзея костка выскаквае з горла, і княжна прачынаецца крычыць. Злодзей кідае рэчы, баючыся, што яго зловяць вартаўнікі. Такі, прыкладна, зьмест казкі. Беларусь—гэта княжна, якая ўдавілася косткай, цяпер абрабованая бальшавікамі, абабраная да апошняй кашулі, закрычыць і закрычыць так, што прыбяжыць вартаўнік з Захаду і прагоніць злодзея-бальшавіка.

Па гэтых двух творах, які, да слова гаворачы, мастацкі напісаны, з усёю ўпэўненасьцю можна сказаць, што Дубоўка зьяўляецца сьпеваком клясавага ворага.

Ня менш характэрным зьяўляецца такі нацыянал-дэмократычны пісьменьнік як Зарэцкі. У аповесьці „Голы зьвер“ Зарэцкі апявае моцнага індывідуума, чалавека-самца, у другім творы „Падарожжа на новую зямлю“, ён выслаўляе кулака.

„Падарожжа на новую зямлю“ зьявілася мастацкім афармленьнем кулацкай політыкі былога наркомзему Прышчэпава, накіраванай на хутарызацыю Беларусі. Зарэцкі ў мастацкай форме праводзіць нацыяналістычныя ідэі самабытнасьці вёскі, пра немагчымасьць колектывізацыі Беларусі, даводзіць, што для Беларусі зьяўляецца вышэйшым ідэалам хутарызацыя, а не колектывізацыя.

Апошні твор Зарэцкага „Крывічы“ сапраўды зьяўляецца „вышэйшым дасягненьнем“ нацыянал-дэмократызму ў літаратуры. Тут Зарэцкі паказвае падрыхтоўку нацыянал-дэмократычнага паўстаньня супроць савецкае ўлады. Зарэцкі дае моцную індывідуальнасьць правадыра нацыянал-дэмократаў Беразоўскага, які пасьля сьмерці зьяўляецца сьцягам, што яднае ўсіх нацыянал-дэмократаў, правадыра, які пасьля сваёй сьмерці пакідае запавет, у процівагу запавету Леніна, пра тое, што трэба зьбіраць усе сілы з нізін, з балот, зьбіраць народ на паўстаньне супроць „пануючых бальшавікоў“. Прывядзем некалькі вытрымак з гэтага роману. У першай—Зарэцкі і паказвае, за што змагаюцца нацыянал-дэмократы, гаворыць ён вуснамі аднаго з саратнікаў Беразоўскага—Сьлепня: „Аўтономнае беларуска-літоўскае княства (цяпер рэспубліка, край ці яшчэ як-небудзь), асьвечанае гісторычнымі традыцыямі, зьявілася-б цэнтрам, які-б мог прыцягнуць да сябе як заходніх, так і ўсходніх беларусаў... і літоўцаў... Разумееш? Ха-ха... Яна-б і зрабіла гэта, каб не баялася залішняга сэпаратызму. Аўтономія можа хутка перайсьці ў незалежнасьць...“

Далей аўтар паказвае апрацоўку вясковага хлапца, прыведзенага адным з наступнікаў Беразоўскага да Сьлепня: „Аражановіч запыталася ў Ліпіна, адкуль ён прыехаў. За яго адказаў Сьляпень: „Прыехаў з вёскі ў Менск шукаць Беларусь. З ліхтаром у руках, як некалі Дыоген—чалавека. І вось... шукаў Беларусь, а знайшоў бе-ла-ру-сі-за-цыю... Хо-хо... Праўда Сяргей?“ І на словы хлапца, што прыехаў, Сьляпень, успыліўшы, закрычаў: „Малайцы, хлопцы, працуйце ліха на вас, працуйце. Зьнізу браць трэба, зьнізу—з зямлі, з балот...

Ха-ха... Растуць, брат, растуць, як грыбы... Нічога, Мікола, не бядуй. Тысячы ўжо ёсьць. Будуць дзесяткі тысяч і сотні... Толькі ўзварушыць трэба, кліч клікнуць на ўсю нашу сонную Крывію...

... Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над хурганамі..."

„Беларускае адраджэньне будзе ісьці з карэньняў беларускага народу. Усякія штучныя формы, у якія-б захацеў хто-небудзь укласьці яго, адпадуць, рассыпяца ў прах. У сваім магутным поступе яно знойдзе свае асаблівыя формы, якія органічна вырастуць з самае сутнасьці гэтага гісторычнага процэсу... Разумееце вы мяне, хлопцы, га.. Усякія апякуны беларускага руху, хто-б яны ні былі і з якой-бы—ці добрай, ці дрэннай—мэты яны над намі ні апекаваліся, усе яны адмятуцца гісторыяй. Зьнізу, з зямлі вырасьце наш рэнэсанс... І ён расьце ўжо, узьнімаецца, ён бушуе ўжо такімі магутнымі хвалямі, якія многа чаго могуць пазьмятаць на сваёй дарозе... І пазьмятуць яшчэ, пазьмятуць... Пачакайце толькі..."

Канчаецца апрацоўка такою развагай пра беларусізацыю: „А вы ведаеце, што такое бе-ла-ру-сі-за-цыя? Га? Хо-хо-хо... Гэта, брат, хітрая, ой хітрая штука... Гэта стаўка на форму... Так, так, на форму... Аўладаць формай, адлучыць яе ад зьместу, вылягчыць яе, выкруціць, высушыць... і выкінуць вон... ха-ха-ха.. Што, хітра, га?... Тонка? Ха-ха."

У гэтым-жа романе ёсьць такія развагі пра нацыянальную політыку: „Навучыцца аўладаць беларускай мовай, каб лягчэй было згаварвацца з сялянамі, скажам пры зьбіраньні падатку, гэта ня будзе вырашэньне нацыянальнага пытаньня. Гэта будзе толькі ўсяго замена коленіяльнай політыкі„—салдацкай" на коленіяльную політыку—„езуіцкую." Гэта страшэнна шкоднае звужэньне проблем нацыянальнай культуры. Гэта політыка гандляроў з рынку, якія (я спэцыяльна гэта назіраў) зьвяртаюцца заўсёды да сялян у роднай іхнай мове, каб... лягчэй абдурыць іх..."

Далей Зарэцкі мастацкі зьдзекуецца з таварышоў з БелАПП'у і ў канцы развагі пра БелАПП напамінае ўжо вядомае нам яго выступленьне на 1-м зьезьдзе БелАПП'у пра тое, што таварышы езьдзяць у Маскву па падачкі. Прыкладна такі сэнс гэтай часткі яго роману.

Гэроі яго роману ня любяць Беларусі фабрычнай, Беларусі рабочай, таму што там няма таго беларускага, што складае іхны нац.-дэмократычны ідэал.

Мы думаем, што і прыведзенных вытрымак зусім дастаткова, каб сказаць з упэўненасьцю, што Зарэцкі сьпявак нацыянал-дэмократызму. Між іншым, гэты роман быў зьняты з друку, Зарэцкага ўзялі ў штыхі, але ён ня гэтак скора здаў свае позыцыі і прызнаўся з вялікім спазьненьнем, як прызнаўся, аб гэтым казалі раней.

Трэці, найбольш яркі прадстаўнік нацыянал-дэмократызму Дудар-Глыбоцкі пасьля твору „Вецер з Усходу", у якім трактуе, што ўвесь расклад у студэнцкім асяродзьдзі адбываецца ад уплываў з Усходу—з Масквы, піша верш „Пасеклі край наш папалам". Па Дудару бальшавікі пасеклі Беларусь, адарвалі ад агульнага цэлага. Дудар піша ў тон тым, хто ў час заключэньня Рыскай умовы пісаў так:

„Нас падзялілі.
Хто?
Чужаніцы,
Цёмных дарог махляры".

Мы мелі такога зьместу песеньку вялікадзяржаўных шовіністых у момант далучэньня былой Гомельскай губэрні да Беларусі, па свайму зьместу і гэтая песьня аднародна з вершам Дудара і з вершам пра Рыскую ўмову. Вось яе зьмест, за выключэньнем чатырох радкоў.

## На смерть губернии.

Время дорого. Не до говора
Полчаса разбирали вопрос.
И в конце концов Белоруссия
Нам предлинный состроила нос.

Против выступить думал некий друг,
Но не смел п‿вернуться язык:
Прошептал што-то, поперхнулся вдруг..
Друг наш, видно, к покорству п.ивык.

И губернии нашей, Гомельской,
Больше в списках губерний уж нет.
Только слышится недовольный вой,
Помутился в глазах белый свет.

Разделили нас, не спросившися,
Распродали родимый наш край,
Утешенье есть только в лозунге—
Бсяк, кто может, скорей удирай

Як бачыце, ня толькі беларускі нацыянал-дэмократызм выступае ў сваёй контррэволюцыйнай сутнасьці, але і вялікадзяржаўны шовінізм паказвае свой клясавай твар даволі ярка. Мы маглі б прывесьці шэраг прыкладаў, але гэта не ўваходзіць у тэму дакладу. Тут мы толькі прывялі гэты прыклад для навочнага доваду, што клясававарожая сутнасьць твораў гучыць аднолькава на ўсіх мовах, клясавага ворага лёгка пазнаць.

Нельга абыйсьці такога поэты, як Пушча, які напісаў „Асеньнія песьні“, „Лісты да сабакі“, які аплакваў Беларусь расьпятую (па Пушчу) на крыжы.

Ён пра сучаснасьць гаворыць у такіх вобразах:

„У полі, на кургане, вецер дзіка вые.
Крыльлямі лапочуць чорных птушак зграі;
Віхар на кургане танец сьмерці грае...
Цела ў экстазе ў шалёным спрыце...
Сёньня восень—дама, сёньня віхар—рыцар“.

У Пушчы Беларусь расьпята на скрыжаваньні ўсходня-заходніх дарог, пра што ён гаворыць такімі словамі:

„На ростані ўсходня-заходніх дарог
Цябе, дарагая, яны ўкрыжавалі“

І пасьля дадае:

„Хто-ж з крыжа краіну расьпятую здыме?
Узываю, малюся ў грэшнай істоце...“

У сваіх „Лістох да сабакі“ Пушча просіць свайго вернага дружбака (сабаку, зразумела) вартаваць яго хату ў вёсцы, затым што каля хаты ходзяць „злыя людзі“...

І калі савецкая грамадзкасьць адкідае падобную творчасьць, Пушча заяўляе:

„Што для іх вось зараз песьня
І поэзіі ўзлёт?
Дома ўсе ў пакоях цёплых

Пазяхаюць смачным сном,
У пантоплях мякка цёпкаць
Па касьцёх вялікіх дзён".

А потым цынічна прызнаецца:

„Усе, усе мы носім маскі,
На'т скінуць дома баімося..."

Амаль ўся поэзія Пушчы такога зьместу, калі ня лічыць яго апошніх твораў, дзе ён адзяваў вельмі ўмела маску. Пролетарская грамадзкасьць сказала Пушчы: ты—ня наш.

Мы ня маем магчымасьці застанаўлівацца больш падрабязна на другіх нацыянал-дэмократычных пісьменьніках, а загэтым абмяжуемся толькі заўвагамі пра Гарэцкага, Мрыя і Лужаніна. Першы і ў сваёй гісторыі беларускай літаратуры і ў мастацкіх творах да канца застаецца нацыянал-дэмократам; другі, Мрый, у аповесьці „Самсон Самасуй" высьмейвае савецкую рачаіснасьць, і апошні, Лужанін, піша злыя, прасякнутыя нянавісьцю аповесьці „Случчына" і „Госьці", а ў поэзіі ў дзень дзесяцігодзьдзя Кастрычніка заяўляе вельмі адкравенна:

„Кожны дзень прыходзіць расьцьвітаць,
Каб пасьля памерці за гарамі...
Мы ня хочам радасьці вітаць,
Што чужымі дадзена рукамі.."

Лужанін не хацеў вітаць Кастрычніка затым, што яна (радасьць Кастрычніка) дадзена чужымі (для яго, Лужаніна) рукамі.

Апошняя заўвага пра Янку Купалу, (пра якога падрабязна гавора тав. Сянкевіч у сваім артыкуле). Па двух творах—„Дыктатура працы" і „Зыходзіш, вёска, з яснай явы" пра Купалу можна было гаварыць, як пра пісьменьніка, які да нас набліжаецца, яму пролетарская грамадзкасьць „адпусьціла" старыя грахі часоў окупацыі і г. д.

Ня так даўно Янка Купала, юбілей якога сьвяткаваўся ў Беларусі і Комакадэміяй, пускаецца на адкрытую нацыянал-дэмократычную провокацыю, зьмяшчаючы ў сваім зборніку, прысьвячаным яго юбілею, верш, які быў напісаны у гонар прыходу Пілсудзкага на Беларусь і зьмешчаны ў буржуазна-нацыяналістычнай газэце „Звон" 17 верасьня 1919 году ў № 11. Купала з тэксту 19 г. выпускае толькі наступныя радкі:

„Паўстань з народу нашага, уладар,
Адбудаваць свой збураны пасад,
Бо твой народ забыў, хто гаспадар
І хто яго абдзёр з каронных шат.

На ўладара жджэ Беларусь даўно,
І жджэ цябе ўладарства божы дар,
Вялікае, магутнае яно...
Пад беларускі сьцяг прыдзі, уладар".

Выкінуўшы гэтыя радкі, Купала, зразумела, не мяняе сэнсу вершу, затым што ў ім ёсьць больш яркія месцы ў параўнаньні з пададзенымі. Мы прывядзем поўны тэкст:

## Паўстань...

Паўстань з народу нашага, прарок,
Праяваў буралломных варажбіт,
І мудрым словам скінь з народу ўрок,
Якім быў век праз ворагаў спавіт.

Зьбяры ў адну ўсю Беларусь сям'ю,
Вазьмі з яе прысягу і зарок,

Што не прадасьць сябе, сваю зямлю...
Зьняць путы бацькаўшчыне ўстань, прарок...

Паўстань з народу нашага, пясьняр,
Былых і будучых вякоў баян,
І ў бурны кліч, як буры ўдар,
З віхрамі загудзі пад звон кайдан!

Гудзі над Беларусяй з краю ў край,
У сэрцах сьпячых распалі пажар,
Над курганамі пяруном зайграй,
Збудзіць нябожчыкаў паўстань, пясьняр.

Паўстань з народу нашага, ваяк,
І волатам на вогненым[1]) кані
Народ аграблены—бы з торб жабрак—
За бацькаушчыну павядзі ў агні.

Да хвалы шлях айчыне пакажы,
Зьмяцi з палёў яе чужых бадзяк,
На стражы стань гранічнае мяжы...
Свой край заваяваць паўстань, ваяк".

28/VIII 1919 г.
Карльсбэрг.

Не бяз цікавасьці і такая дэталь, што верш зьмешчаны ў зборніку пасьля „Інтэрнацыяналу", перакладзенага Купалай на беларускую мову.

Такое провокацыі ў 1930 г. мы не чакалі, нават ведаючы ўсё цёмнае мінулае паэты.

Тыя прыклады, якія мы правялі, ужо даволі ярка, па нашай думцы, гавораць аб няпрыкрытых нацыянал-дэмократычных вылазках у беларускай літаратуры.

## Нацыянал-дэмократызм у літаратурна-публіцыстычнай форме

Гаворачы пра нацыянал-дэмократызм у мастацкай літаратуры, нельга не ўспамянуць пра тыя выступленьні, якія былі з боку нацыянал-дэмократаў у публіцыстычнай форме, тым больш, што гэтыя выступленьні былі даволі адкрытымі і паўтараліся, ня гледзячы на рашучы адпор комуністычнага друку БССР.

Член „Узвышша" Дубоўка (цяпер па-за „Узвышшам") у газэце „Гудок" (№ 114, за 27 г.) так трактуе пра работу „Узвышша" пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі: „З грамадзкай работай „Узвышша" і ня думала парываць, спадзяючыся праводзіць яе і ў далейшым пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ў магчымым для сябе кірунку і формах. Запамятайце, што „ў магчымым для сябе кірунку і формах", так проста і сказана.

Наступнае выступленьне адносіцца да развагі пра беларускую літаратуру. У № 6 „Узвышша" за 28 год чытаем: „Гэта роля і значэньне „Узвышша" адбіваецца і на яго пабудове і структуры тых яго твораў, якія яно („Узвышша") выдае пад сьцягам творчасьці літаратуры нацыянальнай па форме і пролетарскай у сваёй імкнёнасьці". У другім артыкуле бачым як-бы працяг гэтай думкі: „Галоўная ва ўсім гэтым процэсе (процэс утварэньня вышэйшых форм культуры)— змаганьне за беларускія формы беларускай культуры (літаратура, тэатр, музыка, жывапіс)" Ня цяжка зразумець, што тут падмяняецца

[1]) У газэце „Звон" „На Юр'евым кані".

барацьбой за форму зьмест, так як пра зьмест гаворыцца, што ён павінен быць пролетарскім толькі ў імкнёнасьці, а галоўнае—барацьба за беларускія формы.

Сьцьвярджэньне гэтых палажэньняў мы знаходзім у артыкуле Ф. Купцэвіча; у тым-жа № 6 „Узвышша“ за 28 г. ён гаворыць: „Яшчэ і цяпер канчаткова не разьвязана спрэчнае пытаньне аб мажлівасьці наогул пролетарскай літаратуры, як літаратуры пераходнага пэрыоду“. Праўда, Купцэвіч ня робіць „откровений“, яны ўзяты з арсэналу містэра Троцкага, яны былі і ў беларускіх самабытнікаў—нацыяналдэмакратаў, якія крычалі пра тое, што на Беларусі ня можа быць пролетарскай літаратуры.

Шкодныя тэндэнцыі той-жа Купцэвіч распаўсюджвае і са старонак часопісі „Печать и революция“, дзе зьявіўся яго артыкул, па нашай думцы, па простым папусьціцельству (№ 11, за 29 г.).

У артыкуле „Художественная периодика“ аўтар даводзіць, што „Узвышша“ займае „ў галіне крытыкі позыцыю дыялектычна-матэрыялістычнага мэтаду“... Падрабіўшы сабе пашпарт дыялектыка, Купцэвіч стараецца дыскрэдытаваць, не крытыкаваць, а дыскрэдытаваць БелАПП, абвінавачваючы ў „эклектычным сьветапоглядзе склад рэдакцыі і кіраўніцтва БелАПП“ (стар. 83) і „міласьціва“ наклейваючы ярлычкі—„эсэра, рыторычнага рыфмача, угасаючага таленту, няздольнага нікога сагрэць, анархізму, партызаншчыны, патолёгічнага скажэньня“—на больш актыўных членаў БелАПП абыходзячы маўчаньнем няўстойлівых членаў БелАПП.

Не далёка адышлі ад Дубоўкі і Купцэвіча іх таварышы па „Узвышшу“ Бабарэка і Антон Адамовіч. Для характарыстыкі іх літаратурна-публіцыстычнай „дзейнасьці“ мы прывядзем дзьве-тры даведкі.

Адам Бабарэка не адставаў ад сваіх сабратаў Купцэвіча і Дубоўкі: працуючы ў галіне літаратуразнаўства, ён, як кажуць, тэорытычна абагульняў, афармляў погляды сваіх сяброў. Прывядзем дзьве вытрымкі з тэорытычнага дакладу А. Бабарэкі—„Поэзія як ўяўленьне“: „Узвышша“ павінна самавызначацца як узвышэнская мастацкая школа беларускай пролетарскай (?!) поэзіі. Гэта значыць, што калі мы хочам, кажучы словамі Гётэ, дасягнуць вялікага, то мы павінны ўмець абмяжоўваць сябе. Мы павінны на падставе нашай творчай практыкі выбраць сабе пэўны шлях у мастацкім азначэньні“... Усё, як бачыце, вельмі зразумела, а „галоўнае“ стыль тэорытычнага разважаньня „вытрыманы“, нават і Гётэ ёсьць. Далей яшчэ лепей, слухайце: „Для нас жа ўвесь сакрэт натхненьня ва ўяўленьні, як процэс ператварэньня матэрыяльнага ў ідэальнае, што адбываецца ў чалавечай галаве“. Што адбывалася ў галаве Бабарэкі ў той час, калі ён гэта пісаў, разважаць цяжка, але з усяго дакладу больш-менш яскрава, што Бабарэка стаіць за адрыў поэзіі ад соцыяльных процэсаў, за ўзвышэнскае вызначэньне поэзіі.

Антон Адамовіч найбольш поўна выявіўся ў сваім выступленьні ў БДУ, абараняючы ліст трох пісьменьнікаў, за што яму была вельмі ўдзячна газэта „Кур'ер Віленскі“, якая аб прамове Антона Адамовіча ня мала шумела. І, нарэшце, абураючы ўчынак Антона Адамовіча—гэта паклёп на нябожчыка П. Труса, аб тым, нібыта Трус пад прымусам і пагрозамі знаходзіўся ў БелАПП і пад прымусам напісаў поэму „Дзесяты падмурак“. БелАПП сустрэў гэта провокацыйнае выступленьне рашучым адпорам, даючы бой нацдэмаўскім налётчыкам хлусьні.

У пастанове БелАППу між іншымі гаварылася і аб іншых пытаньнях, якія былі закрануты ў артыкуле Ант. Адамовіча.

„Сэкратарыят БелАПП заяўляе, што артыкул Адмовіча мае сваёй мэтай супроцьставіць беларускую пісьменьніцкую організацыю партыі, доказам чаго зьяўляецца нахабнае, недапушчальнае перакручваньне думкі, выказанае прадстаўніком ЦК партыі на магіле тав. Труса, кіданьне прадстаўніку партыі абвінавачваньня ў цынічнасьцы і няшчырасьці заяў на магіле поэты, падкрэсьліваючы гэтым самым, што толькі „Узвышша", прадстаўнікі якога таксама выступалі на магіле тав. Труса, шчыра шкадуюць поэту. Акрамя таго, што ўсё гэта ёсьць яўнае выступленьне супроць партыйнага кіраўніцтва літаратурнымі організацыямі, яно зьяўляецца і глыбока абыватэльскім.

Сэкратарыят расцэньвае гэтае выступленьне Адамовіча як організацыйнае выступленьне рэдакцыі „Узвышша"—органу аб'яднаньня „Узвышша". Як выступленьне Адамовіча, яно ёсьць лёгічны працяг яго антысавецкага выступленьня ў БДУ з апраўданьнем вядомага пролетарскай грамадзкасьці контррэволюцыйнага выступленьня трох беларускіх пісьменьнікаў, якое (выступленьне Адамовіча) было скарыстана фашыстаўскай газэтай „Кур'ер Віленскі".

Далей БелАПП патрабуе ад „Узвышша" прызнаньня сваёй памылкі (глядзі газ. „Зьвязда", № 279, ад 7/XII—29 г).

Агіднасьць вылазак становіцца на гэты раз яскравей яшчэ і таму, што ўзвышэнцы пачалі хлусіць на мёртвага таварыша і спэкуляваць на факце самой сьмерці.

Ужо пералічаных прыкладаў досыць для таго, каб паказаць сапраўды твар кіруючай часткі „Узвышша"—„марксыстых" Купцэвіча, Дубоўкі, Бабарэкі і Ант. Адамовіча, які нядрэнна выявіўся і ў літаратурна-публіцыстычнай форме.

Мы ўсюды гаворым пра кіруючую частку „Узвышша" таму, што большая палова радавых членаў аб'яднаньня ў процэсе барацьбы была вельмі няўстойліва (у гэтым была і галоўная бяда як папутнікаў), і толькі пасьля неаднаразовых атак на „Узвышша" з боку крытыкі і пролетарскай грамадзкасьці, гэтая група пераходзіць да пераглядy ўстановак аб'яднаньня. Дыфэрэнцыяцыя ўнутры аб'яднаньня насьпявала; яна дайшла да свайго канца, калі Дубоўка, Пушча, Адамовіч і Бабарэка былі ўмоўна выключаны з аб'яднаньня за адказ падпісаць заяву ў друк аб шэрагу буйных нацыянал-демократычных установак, якія зрабіла „Узвышша", і толькі пасьля гэтага нажыму былыя лідэры прымушаны былі падпісаць заяву, зрабіўшы перад гэтым трук левага характару для прыкрыцьця сваіх нацыянал-дэмократычных спраў, але на гэтым яны былі пабіты на гэты раз ужо сваімі таварышамі па аб'яднаньню. Мы лічым неабходным прывесьці пастанову агульнага сходу „Узвышша" па гэтаму пытаньню:

„Ухвалілі: Пастанову аб політычных памылках у літаратурна-публіцыстычнай і мастацкай творчасьці сяброў „Узвышша" ад 12-I--1930 г. з папраўкамі пацьвердзіць.

Проект пастановы трох (Бабарэка, Дубоўка, Пушча) з катэгорычным патрабаваньнем у лісьце падпісаньня проекту кваліфікаваць як працяг тае лініі, якую вялі дагэтуль Бабарэка і Дубоўка і якая накіравана на тое, каб адцягнуць падпісаньне і тым самым змазаць прызнаньне памылак. Конкрэтна гэта выражаецца ў наступным:

а) да гэтага часу сябры Бабарэка і Дубоўка маўчалі і толькі цяпер, калі справа дайшла да зьмяшчэньня пастановы ў друку, узьнімаюць новыя пытаньні, часамі зусім беспадстаўныя;

б) тт. Бабарэка, Дубоўка, Пушча ігноруюць пастанову агульнага сходу, друкуючы пад проектам прозьвішча выключанага сябра Купцэвіча [1]). і гэтым самым процістаўляюць сябе организацыі. Зьняважлівыя адносіны да арганізацыі выяўляюцца і ў лісьце да организацыі, які мае ўльтыматыўны характар;

в) пра Зьмітрака Бядулю ў проекце пастановы трох устаноўлен пункт, які тлумачыць аповесьць „Салавей" як антысавецкі твор; гэта выдумка ні ў якай меры не адпавядае сапраўднасьці, з ёю організацыя згадзіцца ня можа, і такім чынам досыць аднаго гэтага пункту, каб змазаць пытаньне аб прызнаньні памылак „Узвышшам";

ж) агульны сход згуртаваньня „Узвышша" рашуча асуджае паказную „лявізну" проекту пастановы трох, за якой (пастановай) хаваецца спроба змазаць памылкі зусім;

з) адначасова сход патрабуе безадкладнага падпісаньня сябрамі згуртваньня пастановы аб памылках ад 12/1 1930 г. і заяўляе, што той, хто не падпіша гэтай пастановы, будзе лічыцца выбыўшым з згуртаваньня.

Старшыня сходу (*К. Чорны*).

Сэкратар (*П. Глебка*).

Такі шлях барацьбы нацыянал-дэмократычных элемэнтаў з „Узвышша" супроць пролетарскай літаратуры, які прывёў аб'яднаньне да зусім нямінучай дыфэрэнцыяцыі. На сёньня левая частка, што засталася ў аб'яднаньні (у ліку 8 чалавек) пасьля доўгіх боек працуе на новых рэйках; вынікі работы пакажуць, наколькі яны ўцямілі сабе задачы і наколькі яны пераўзброіліся.

Ацэнка таго становішча, у якім зараз знаходзіцца „Узвышша", як перамогі пролетарскай грамадзкасьці над нацыянал-дэмократычнымі плынямі ва „Узвышшы", застаецца правільнай і на сёньня. Толькі пры рашучым адпоры з боку грамадзкасьці левая частка магла стаць на правільны шлях, перагляду шкодных установак, адкінуўшы шкодніцкія нацыянал-дэмократычныя элемэнты. Але гэта ні ў якім разе ня можа выклікаць паслабленьня ўвагі да літаратурнага аб'яднаньня „Узвышша" з боку пролетарскай грамадзкасьці і марксысцкай крытыкі, бо толькі пры дапамозе апошніх адноўленае „Узвышша" можа змагацца з рэшткамі нацыянал-дэмократызму і ісьці па шляху паступовага набліжэньня да позыцыі пролетарскай літаратуры.

Прыведзеныя даведкі паказваюць твар кіраўнікоў „Узвышша" бяз лішніх комэнтарыяў.

Прывядзем некалькі фактаў літаратурна-публіцыстычнай дзейнасьці членаў аб'яднаньня „Полымя".

Першы факт—у 27 г. другі беларускі тэатр паставіў п'есу Грамыкі „Каля тэрасы", у якой аўтар падмяніў рухаючыя сілы рэволюцыі роляй інтэлігента-ўрача, брата буйнага памешчыка. Бальшавікаматроса падаў у лібэральным выглядзе, закапаўшыся ў псыхолёгічных перажываньнях сям'і памешчыка, частка якое (па Грамыку) рэволюцыянізуецца. П'еса ня толькі „з недахопамі", але і проста шкодная.

Газэта „Зьвязда" (№ 278) дае ацэнку п'есе. Дарэчы, п'есу зьнялі з пастаноўкі ў 30 г. пры аднадушнай згодзе ўсяго тэатральнага колектыву. Рэцэнзія газэты „Зьвязда" выклікала буру нездавальненьня з боку шэрагу членаў „Полымя"—Зарэцкага, Александровіча, Дудара, Вольнага,

[1]) Купцэвіч яшчэ раней быў выключаны як нацыянал-дэмократ і антысэміт.

якія, блёкуючыся з былым галавою белагвардзейскага беларускага ўраду Ластоўскім, абвінвачваюць газэту ў зьніштажэньні (?!) тэатру. Гэтае выступленьне было першым сыгналам да абароны самабытнасьці тэатральнага мастацтва.

Яны былі падтрыманы ўскосным парадкам былым другім сэкратаром ЦК КП(б)Б тав. Васілевічам, які ў артыкуле „Аб тэатры“ браў пад абарону п‘есу Грамыкі і не асудзіў выступленьне з лістом у рэдакцыі ўспамянёнай групы за нацыялістычныя тэндэнцыі.

У артыкуле „Аб тэатры“ тав. Васілевіч пісаў: „Мне здаецца, што таму „масавая“ тэатральная крытыка зьяўляецца найменш ідэолёгічна вытрыманай. Калі-ж падумаць, што ў нашых тэатрах, хоцьбы ў 2-гім бэларускім і яўрэйскім, праслойка рабочага-гледача нязначная, мы ня маем рабочай крытыкі пастановак тэатру“. Пра п‘есу ён пісаў: „Ёсць многа недахопаў у „Каля тэрасы“, але скачок ад „Апрамяткай“ да „Каля тэрасы“ гаворыць аб тым, што тэатр упарта шукае таго, што нам патрэбна“ (?!) (а ці патрэбна,—сказаў галоўрэпэртком і сам колектыў у 30 г.).

Даючы напрамак тэатральнай крытыкі аўтар кажа: „Дзейнасьць тэатру трэба крытыкаваць цьвёрда і па-дзелавому, а крытыкаваць ёсьць за што, але нельга выкарыстоўваць крытыку для іншых палітычных і нацыянальных мэтаў, за гэта трэба біць па руках“. Якую крытыку трэба біць па руках, проста ня сказана, за гэтым разумей як падабаецца, але паколькі іншай крытыкі ня было, аўтар у вельмі „далікатнай“ форме далучыўся да лісту сямі. Замест удару па лісту—удар па крытыцы, якую трэба было лаяць за павярхоўнасьць.

Бязумоўна, што аб нацыялістычных тэндэнцыях першай тэатральнай дыскусіі даводзіць няма чаго, але гэта было толькі пачаткам. Выступленьне было зьвяном, за якое ўхваціліся нацыянал-дэмократы і пасьля разьвівалі свае погляды на самабытнасьць тэатру.

Другі факт больш паказальны. У 1927 г. 1-шы Беларускі дзяржаўны тэатр паставіў перакладаную з расійскай мовы п‘есу „Бронецягнік“; члены „Полымя“ Глыбоцкі, а за ім Жылуновіч зьмяшчаюць шэраг артыкулаў супроць перакладных п‘ес. Глыбоцкі перакладныя п‘есы з расійскай мовы абзывае „об‘едкамі Москвы и Ленинграда“; ідучы далей у сваіх развагах, ён гаворыць гэтак: „Чаму беларускаму гледачу важней падносіць барацьбу сібірскіх партызан... ужо прышоў час паказаць арыгінальны самабытны твар нашага тэатру... „Бронецягнік“ па-Глыбоцкаму проста анэкдот: „Трэба вымесьці са сцэны беларускага тэатру анэкдоты“. Для Глыбоцкага барацьба сібірскіх партызан анэкдот, загэтым ён у другім артыкуле ставіць зноў пытаньне: „Ня ведаю, якую карысьць можа прынесьці нам гэты малюнак сялянскай барацьбы ў Сібіры...“ Вынікі ад трох артыкулаў: „За самабытнасьць, супроць недаедкаў маскалёў, супроць паказаў барацьбы ў другіх частках Савецкага Саюзу“. Толькі такі сэнс выступленьня, якое, бязумоўна, мае нацыянал-дэмократычны характар.

Глыбоцкі-Дудар быў толькі пачынальнікам, на дапамогу яму прышоў З. Жылуновіч, які ня толькі падтрымаў Глыбоцкага, але і дадаў некалькі новых момантаў. Па-першае, ён увязвае дыскусію з кіно-дыскусіяй, ён праводзіць пароўнаньне між выступленьнем Зарэцкага пра кіно і Глыбоцкага пра тэатр, падводзячы базу пэўнай пасьлядоўнасьці ў спрэчках; па-другое, гаворачы аб неабходнасьці адбіцьця беларускага мінулага ў тэатры і кіно, ня кажучы аб якім мінулым ідзе гутарка, Жылуновіч адкрыта і актыўна выступіў з шкоднай тэорыяй.

Выступленьне ў Менску рэхам гучэла ў Віцэбску. У газэце „Заря Запада“ Глыбоцкаму і Жылуновічу фальшывым дысконтам падпяваў

Л. Каплан, і зноў гэтае-ж рэха прагучэла ў магілёўскіх нататках Анд. Александровіча аб „прыстасаваньні да беларускіх умоў „Ванькі-Ключніка

Паколькі дыскусія прыняла яўна палітычны характар, ЦК КП(б)Б даў зусім правільную ацэнку ёй, кваліфікаваўшы, як вылазку нацыянал-дэмократызму.

Нацыянал-дэмократычныя выступленьні на гэты раз сустрэлі рашучы адпор з боку партыі; ў сваёй пастанове ад 17 сьнежня 28 г. бюро ЦК КП(б)Б гаварыла:

„У сувязі з рашучым разгортваньнем соцыялістычнага культурнага будаўніцтва пачалі прасочвацца, асабліва за апошні час, у нашае культурнае будаўніцтва нацыянал дэмократычныя тэндэнцыі, як адна з форм супраціўленьня капіталістычных элемэнтаў нашаму рашучаму наступленьню на іх, тэндэнцыі, зьвязаныя з абвастрэньнем клясавай барацьбы. Гэтыя тэндэнцыі выявіліся і ў апошняй дыскусіі па тэатральных пытаньнях.

У артыкулах Глыбоцкага былі:

а) захады адмежаваньня беларускай культуры ад культур другіх нацыянальнасьцяй СССР і ў першую чаргу ад рускай культуры, што зьяўляецца ня чым іншым, як супроцьстаўленьнем дзьвюх культур адна аднэй, што вядзе да адыходу ад яскравай формулёўкі Леніна:

> „Калі гутарка ідзе аб пралетарыяце, супроцьстаўленьне ўкраінскай культуры ўцалку вялікарускай культуры таксама ўцалку значыць самае бессаромнае здрадніцтва інтарэсам пролетарыяту, на карысьць буржуазнага нацыяналізму".
>
> Калі ўкраінскі марксыст дасьць сабе падпасьці пад уплыў зусім законнай і натуральнай нянавісьці да велікарусаў-прыгнятацеляў да таго, што ён перадасьць хоць-бы частачку гэтай нянавісьці, хоць-бы толькі адчужджэньне на пролетарскую справу вялікарускіх рабочых, дык гэты марксыст скоціцца тым самым у балота буржуазнага нацыяналізму" (Ленін, том XIX, „Нацыянальны жупел асымілятарства").

Супроцьстаўленьне беларускай культуры культурам іншых народаў СССР, у даным выпадку рускае культуры, ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту тым больш шкодна, што справа ідзе аб супроцьстаўленьні адна аднэй, якія будуюцца зараз, соцыялістычных культур.

б) Спробы супроцьстаўленьня нацыянальнай формы пролетарскаму зьместу шляхам высоўваньня так званай тэорыі „самабытнасьці" зьяўляецца скажэньнем формулы партыі: „культура нацыянальная па форме і пролетарская па зьместу", і прадстаўляюць сабою нацыянал-дэмократычную ўстаноўку.

6. Аднак, бюро ЦК адзначае, што яскравая ўстаноўка партыі, што: „партыя стаіць за самастойны шлях разьвіцьця беларускай культуры, за выяўленьне ўсіх творчых сіл беларускага народа, за шырокае выкарыстаньне беларускай соцыялістычнай культуры, якая будуецца, усіх каштоўнасьцяй міравой культуры, за рашучы яе разрыў з традыцыямі провінцыяльнай абмежаванасьці і рабскага перайманьня, за стварэньне новых культурных каштоўнасьцяй, што варта творчасьці вялікае клясы. Але партыя гэта робіць ня шляхам супроцьстаўленьня беларускае культуры культурам іншых народаў, а шляхам братэрскага супрацоўніцтва рабочых і працоўных мас усіх нацыянальнасьцяй у справе будаўніцтва с сьветнай пролетарскай культуры, у якую беларуская рабочая кляса здолее ўкласьці

сваю частку",—гэтая лінія партыі не знайшла да татковага адбітку і гастлумачэньня ў тэй час цы артыкулаў тав. Міранчыка, дзе ён гаворыць аб нацыянальнай форме беларускай культуры.

7. Бюро ЦК констат е палітычную памылку тав. Жылунові а і выносіць ымову тав. Жылуновічу.

Факт трэці. У насьценнай газэце Пэдфаку БДУ зьяўляецца фэльетон, у якім аўтар а зывае беларускіх пі ьменьнікаў „жывёламі", „сабакамі і г. д. Вялікадзяржаўны шовін стычны твар аўтара і рэдактароў быў вельмі добра відзен з гэтага фэльетону. Беларускія-ж нацыянал-дэмократы не замарудзілі выкарыстаць гэ ы вы адак, каб зрабіць вылазку з свайго боку.

Тры пісьменьні і — Зарэцкі, Александровіч і Дудар, члены „Полымя"—пішуць ліст у газэту „Савецкая Беларусь", у якім заяўляюць, што ім, беларускім пісьменьнікам, няма месца ў сьценах савецкага унівэрсытэту. Па сутнасьці ліст быў накіраван супроць нацыянальнай політыкі КП(б)Б і зьяўляўся антысавецкім дакумантам.

Гаворачы пра лі т трох пісьменьні аў і пра яго антысавецкую сутнасьць, мы лічым неабходным паказаць і другі агідны твар, твар вя ікадзяржаўнага шовін з у. Для ілюстрацыі дадзім дзьве-тры вытрымкі з „фрагмэнтаў": „Жил умный человек Дарвин—и умер. Умный человек был Дарвин, и умные с ова говорил он.

Че овек,—сказал Дарвин,—социальное животное. Верно ли говорил старичок, увидим:

„Мыслю, знач т существую" (Декарт).
Будем мысли ь:
Чело ек социальное животное.
Все поэты—люди.
Все люди—социальные животные.
Все поэты—животные
Социальные или нет, увидим...

„Математика—наука точная" (Физмат).

На II курсе лит.-лингвинистического отделения значительную часть составляют писатели, они же „пісьменьнікі" (они же поэты). Они же „Молодняковцы" и прочые „Цы".

Пропорция приблизительно следующая:

„Што за штука на педфаке,
Об'ясни мне это,—
Кинеш палкою в собаку—
Попадеш в поэта..."

Канчаюцца фрагмэнты „гісторычнай даведкай" такога зьместу":

„...За старими часами існувала певна категорія студентів, що завдяки матер'яльної забезпекі мала можливість роскішно одягатися і приїзджати до Ун-ту на власних конях та авто. Оця категорія завжды зневажала та третірувала бідна студенцтва, яке зворотн о платило зневагою, відхиляючыся від адносін з іми, та наділяючы іх эпітэтами: „сноб", „пшют", „ноб ль", „хам", „стерво" і інш."... (Гісторія КІНО кол. „У-ту св. Володимера").

Усё гэта гаворыцца ў сьценах БДУ, гаворыцца ў адносінах да беларускіх пісьменьнікаў, і ў першую чаргу аб „м ладнякоўцах", і праходзіць не з ўважаным у сваёй сутна ьці ні партыйным кіраўніцтвам насьценгазэты Пэдфаку, ні партколектывам і, нарэшце, пры вельмі „спакойных" адносінах кіраўніцтва Ун-ту.

Аднак, мы яшчэ раз падкрэсьліваем, што, ня гледзячы на выступленьні вялікадзяржаўнага шовініста з фрагмэнтамі, антысавецкая сутнасьць лісту трох пісьменьнікаў не зьмяншаецца ні ў якім разе.

Факт чацьверты. У канцы 28 г. у № 10 „Полымя" зьяўляецца артыкул З. Жылуновіча „Беларускія сэкцыі РКП і стварэньні беларускай савецкай рэспублікі", які даводзіць, што ўтварэньне БССР адбылося пры ўмовах папярэдняй работы БСГ. Там вялікая ўвага аддаецца так званаму 1-му зьезду, які быў ня чым іншым, як буржуазным зьездам, пролёгам „учредилки". Зьезд быў разагнаны бальшавікамі, і аўтар нават у 28 годзе аплаквае зьезд: „Аднак, роспуск зьезду зрабіў адмоўнае ўражаньне і на прадстаўнікоў яе левае палавіны, у тым ліку дэлегатаў-бальшавікоў. Гэтыя апошнія не маглі ўявіць сабе ўсяго азначэньня акцыі менскай савецкай улады, цэлы шэраг прычын перашкодзілі знайсьці ў сабе апраўданьне роспуску". Аўтара захапляе сум з прычыны разгону зьезду нават у 28 годзе, і, каб было мацней, ён спасылаецца на якіхсьці „дэлегатаў-бальшавікоў", якія не маглі ўявіць сабе, чаму разагналі зьезд. На вялікі жаль, аўтар забыўся на тое, што амаль аніводзін з тых „бальшавікоў" не зьяўляўся бальшавіком: яны былі даўно выключаны, а некаторыя пасаджаны па рэвалюцыйнаму закону ў „допр". Адно правільна ў аутара: „тое, што ён быў распушчаны ў процэсе працы, павярнула справу ў іншы бок. Усё пакруцілася і набыло зусім другую афарбоўку ў настроях". Так, „павярнула справу ў іншы бок..." у савецкі бок, бязумоўна, павярнула гісторыю, а не ў буржуазную балбатню, гэта правільна, але аўтар думаў не аб гэтым, і ня гэта ён меў на ўвазе і, калі разважаў далей, ён сам паказаў, што гэта і яму не спадабалася.

Цікава, што разгон зьезду не падабаўся шмат каму з варожага нам лягеру, напрыклад, Канчэр Е. С. яшчэ раней Жылуновіча на 10 год гаварыў так: „Разгон зьезду справаджаўся грубымі эксцэсамі, ён адыграў ракавую ролю для ўсяго наступнага беларускага руху". Так, для контррэволюцыі разгон „адыграў ракавую ролю". Мы згодны з Канчэрам і Жылуновічам у тым, што разгон для іх і падобных да іх быў „ракавым", ну, а наконт „грубасьці" мы прабачэньня прасіць ніколі ня думалі, калі разганялі зьлёты буржуазіі.

Дарэчы, пра Канчэра, якому падпявае ў 28 годзе Жылуновіч. На пытаньне аб тым, хто такі Канчэр, адкажам цытатай з яго працы: „Белорусский вопрос": „Нарэшце, ня трэба забываць, што на чале соцыялістычнай рэволюцыі ў Расіі стала партыя, якая памылкова сябе называе соцыял-дэмократычнай,—партыя комуністаў-суб'ектывістаў, тады як нямецкі пролетарыят верны сваёй соцыял-дэмократычнай партыі, верны паступацельнаму матэрыялізму". І для яскравасьці ў заўвазе кажа далей: „У той час бальшавікі ўваходзілі ў склад РСДРП паасобнай сэкцыяй. У Нямеччыне суб'ектывісцкую плынь партыі прадстаўляў К. Лібкнехт у выглядзе асобнай групы „Спартак"—вось твар Канчэра; але трэба зноў пра Жылуновіча, які не далёка адышоў ад Канчэра, калі кажа далей: „А беларускі нацыянальны комісарыят зьявіўся першай ячэйкай беларускай дзяржаўнасьці". Ва ўсім артыкуле ні гуку пра саветы, ні гуку пра КП(б)Б і яе ролю. Вось гэты дык сапраўды „паступацельны" матэрыялізм, па Канчэру толькі! З такімі довадамі выступаў Жылуновіч у 28 годзе. Нацыянал-дэмократычны характар відзен досыць яскрава.

Факт пяты. У нумары 5 часопісі „Полымя" за 29 г. Жылуновіч усхваляе нацыянал-фашыста А. Луцкевіча, які працуе на грошы польскай дэфэнзывы, усхваляе як марксыста (?!). У артыкуле „20 гадоў назад" Жылуновіч так успамінае Луцкевіча: „Дзякуючы гэтаму

нас абоіх больш за ўсё цягнула да Антона Луцкевіча, у размовах з якім мне ўдалося перакаканацца, што ён сьвядомы марксыст. А. Луцкевіч сам гаварыў, што ён належыць да с.-д.". (Падкрэсьлена намі).

Не мяшае прыпомніць, што Луцкевіч адыграў вельмі „пачэсную" ролю ў фашыстаў-пілсудчыкаў у разгроме Заходняй Беларусі. А ў 29 годзе, атрымаўшы такую характарыстыку, бяз усякіх заўваг пра апошнія „заслугі" А. Луцкевіча па разгрому Заходняй Беларусі, Жылуновіч фашысцкага грамілу называе марксыстам і ставіць кропку.

І, нарэшце, шосты факт—праяўленьне нацыянал-дэмократычных установак групай „Полымя". Зарэцкі ў адной з літаратурных дыскусій выступае з тэорыяй самабытнасьці творчага мэтаду ў беларускай літаратуры, рэкомэндуе, як найболей падыходзячы творчы мэтад для беларускай літаратуры, эмоцыянальны романтызм. Пры гэтым ён дае рэцэпт, як трэба карыстацца гэтым мэтадам у творчасьці. Ён гаворыць прыкладна так „Калі будзеце карыстацца мэтадамі эмоцыянальнага романтызму і будзеце паказваць толькі адмоўныя тыпы, то тым самым вы будзеце ўзбройваць чытача ў дыямэтральна процілеглым кірунку. Чытач, маючы прад сабой адмоўныя тыпы, моцна паказаныя, будзе супроць іх узбройвацца і такім чынам выхоўвацца ў політычным напрамку". Арытмэтыка гэтага нацыянал-дэмократычнага самабытнага творчага мэтаду была вельмі простай: апраўдаць свайго „голага зьвера", апраўдаць „Крывічоў", „Падарожжа на новую зямлю".

Калі мы гаворым аб нацыянал-дэмократычных выступленьнях „Полымя", нельга абмінуць і тых момантаў, якія дапамагалі гэтым выступленьням Галоўным момантам зьяўлялася тое, што „Полымя" карысталася „падтрыманьнем і апекай з боку паасобных членаў партыі, у тым ліку і адказных". Мы лічым неабходным прывесьці зусім правільную характарыстыку, якую даў апошні кастрычнікаўскі пленум ЦК КП(б)Б тым памылкам, якія былі ў кіраўніцтве на культурным фронце, бо гэта, як убачым ніжэй, мае непасрэднае дачыненьне і да літаратурных спраў: „У радзе важнейшых галін культурнай работы кіраўніцтва на працягу апошніх год было фактычна ў руках нацыянал-дэмократаў, якія ня толькі ня сустракалі адпору, але якія карысталіся падтрыманьнем і апекай з боку паасобных членаў партыі, у тым ліку і адказных, якія (члены партыі) фактычна падзялялі асноўныя ідэолёгічныя ўстаноўкі нацыянал-дэмократаў..." Гэта, бязумоўна, спрыяла яшчэ большай актывізацыі клясава-варожых элемэнтаў і на літаратурным фронце і часам зьяўлялася перашкодай у барацьбе за пролетарскую літаратуру, бо перш, чым выкрываць буржуазныя тэндэнцыі ў літаратуры, неабходна было раней выкрываць памылковасьць установак асобных комуністых, пра якіх так спроста гаворыць апошні пленум ў сваёй пастанове па нацпытаньню."

Гэтая вытрымка з пастановы кастрычнікаўскага пленуму ЦК КП(б)Б, па нашай думцы, павінна быць аднесена да такога таварыша, як былы другі сэкратар ЦК КП(б)Б тав. Васілевіч, які ў сваёй прамове на 1-м зьезьдзе БелАПП выстаўляў „Полымя", як найбольш блізкую да партыі організацыю. Каб упэўніцца ў правільнасьці сказанага прывядзем некалькі вытрымак са стэнаграмы яго прамовы (пры чым просім мець на ўвазе, што стэнаграма ня праўлена аўтарам і раней была затрымана), і вось як тав. Васілевіч ацэньвае літаратурныя аб'яднаньні: „У Беларусі ёсьць некалькі аб'яднаньняў: „Полымя", „Маладняк", „Узвышша" і яшчэ некалькі было. „Полымя" я, зусім зразумела, стаўлю на першым месцы, і я, таварышы, абдумана гэта раблю. „Полымя" у сваім аб'яднаньні згрупавала ўсіх

старых, адпавядаючых сваімі творамі сучаснасьці, абсолютная частка з іх адпавядае пролетарскай сучаснасьці сваімі творамі, якія павінны даваць для соцыялістычнага будаўніцтва энтузыязм, энэргію, захапленьне, якія павінны нам дапамагаць у будаўніцтве". І далей: „Сёньня „Полымя" у асноўным не зьяўляецца адбіваючым асобныя настроі, сёньня „Полымя" творыць..."

Трэба памятаць, што гэта гаварылася пасьля першай тэатральнай дыскусіі. пасьля кіно-дыскусіі і ў час другой тэатральнай дыскусіі. тады, калі ўжо былі факты аб „Полымі" досыць яскравыя. Няправільна гэта і таму яшчэ, што „Полымя" процістаўляецца „Маладняку", які тады ўступаў у ВОАПП і рэорганізоўваўся ў БелАПП. Выступаць з такімі ўстаноўкамі ёсьць ня што іншае, як змазваць барацьбу за гэгемонію пролетарскай літаратуры, як об'ектыўна дапамагаць паслабленьню гэтай барацьбы, тым больш, што „Маладняку" адводзілася роля рэзэрвы для „Полымя", таго „Полымя", за якое факты гавораць зусім і зусім адмоўнае. Далей прамоўца кажа так: „Вось чаму мы да „Маладняка" адносімся. як да організацыі, якая зьяўляецца найбольш нам патрэбнай, не таму толькі і ня столькі. што яна зьяўляецца сёньня адпавядаючай патрабаваньням рабочых і сялян, а таму, што яна нам неабходна ў пэрспэктыве Гэта ёсьць база, гэта ёсьць рэзэрва для папаўненьня нашых кадраў, якія будуць дапамагаць будаўніцтву соцыялізму". Выходзіць, што толькі база „для папаўненьня нашых кадраў,—а „нашы"—гэта значыць самы блізкія да пролетарыяту,—ёсьць ня хто іншы, як „Полымя".

Наўрад ці патрэбна прыводзіць больш прыкладаў з прамовы; нават калі мы і прымем пад увагу, што стэнограма ня выпраўлена, сэнсу ўсё-ж ніяк ня зьменіш, ён зусім яскравы—прамова льле ваду на ўмацаваньне позыцый „Полымя" таго часу і падтрымоўвае тэорыю нацыянал дэмократызму аб самабытнасьці. У прамове ёсьць такое месца: „Людзі, якія зараз патрабуюць абавязковага замацаваньня таго, што мы маем ужо. зьяўляюцца людзьмі, якія адбіваюць настроі, закабаляючыя беларускую літаратуру, зьяўляюцца людзьмі. якія патрабуюць разглядаць беларускую рэспубліку, як падгалосак, беларускую літаратуру, як падгалосак іншых літаратур, якія не разумеюць таго, што беларуская асаблівасьць ёсьць ужо, мае месца і будзе мець Бяз гэтага не абыйдзешся. З беларускай самабытнасьці ня выскачыш, яна ёсьць і будзе мець месца, так сама як ня выскачыш з таго, што сёньня перакладныя п'есы ў беларускім тэатры маюць месца і будуць мець месца..." І зноў нават будзем памятаць, што стэнограма ня выпраўлена і будзем мець на ўвазе апошнюю фразу, нават і гэта не выратоўвае прамоўцу ад яўнага спачуваньня і падтрыманьня ідэі самабытнасьці, бо на што лепш шукаць месц, як тое, дзе прамоўца гаворыць: „Беларускую рэспубліку, як падгалосак".— Па праўдзівасьці кажучы, ў гэтым закон і прарокі.

У прамове ёсьць наогул шмат чаго, але гэта не ўваходзіць ў нашу тэму, мы толькі імкнуліся давесьці, як нават і некаторыя адказныя партыйцы падзалялі далёка не партыйныя погляды ў час напружанай барацьбы з нацыянал-дэмократызмам, што дапамагала ня партыі. а нацыянал-дэмократызму; толькі і толькі так трэба ацэньваць падобныя прамовы.

Партыя выступіла самым рашучым чынам супроць гэтых тэорый. Пры шырокім удзеле пролетарскай грамадзкасьці мы правялі шэраг дыспутаў і выступленьняў, у якіх разьбілі нацыянал-дэмократаў. Не дарэмна беларускі нацыянал-фашызм стаў працягваць руку дапамогі сваім „замежным" братом—нацыянал-дэмократам.

## Беларускі нацыянал-фашызм Заходняй Беларусі працягвае руку свайму саюзьніку

Усе праявы нацыянал-дэмакратызму знаходзілі жывы водклік з боку нацыянал-фашыстаў Заходняй Беларусі. Фашыстаўскі друк паднімаў шчыт сваіх саюзьнікаў нацыянал-дэмакратаў, узводзячы паклёп самым бессаромным спосабам на беларускую пролетарскую літаратуру.

Паслухаем, што гаворыць клясавы вораг пра агульнае становішча на літаратурным фронце. Фашыст Станкевіч так характарызуе беларускую літаратуру: „Маладыя беларускія поэты ў Менску гуртуюцца ў трох літаратурных організацыях: I. У Беларускім аб'яднаньні пролетарскіх пісьменьнікаў, 2. У „Полымі“ і 3. Ва „Узвышшы“.

Першая з гэтых організацый аб'ядна е пераважна пісьменьнікаў з комуністычным ухілам, творы якіх друкуюцца ў часопісі „Маладняк“ або асобна. У організацыю „Полымя“ (выдае гэтая організацыя багаты месячнік „Полымя“) уваходзяць перад усім старэйшыя пісьменьнікі, між іншымі, Купала і Колас. Група „Узвышша“ выдае пад такім-жа назовам сваю часопісь і аб'ядна е маладыя поэтыцкія сілы, пераважна сялянскага паходжаньня і, побач з некаторымі прадстаўнікамі групы „Полымя“, праводзіць у сваіх творах далёкія ад комуністычных вымаганьняў агульнанародныя, чыста беларускія ідэі“. (Падкрэсьлена намі).

„Сучасны стан беларускай літаратуры дазваляе многа суліць аб яе будучыні. Беларуская літаратура рэпрэзэнтуецца сёньня ўжо не адзінкамі і не дзесяткамі, а цэлымі сотнямі сваіх маладых прадстаўнікоў. Праўда многа з гэтых пісьменьнікаў у Менску, ці то з прычыны чырвонае цэнзуры, ці паводлуг уласнага пераконаньня, выламліваюцца з агульна-беларускае плыні і ідуць па чужым для нас міжнародным шляху.

Станкевіч вітае тых, хто „у сваіх творах праводзіць далёкія ад комуністычных вымаганьняў агульнанародныя, чыста беларускія ідэі“, і ненавідзіць тых, хто „з комуністычным ухілам“ „выламліваюцца з агульнабеларускай плыні і ідуць па чужым для нас міжнародным шляху“.

Так клясавы вораг сказаў сваю клясавую праўду, міжнародны шлях комунізму для яго і нацыянал-дэмократаў ня толькі чужы, але і ненавісны.

Сабрат па фашыстаўскай зброі Станкевіча—Луцкевіч у газэце „Наперад“ (№ 2 за 30 г.) бярэ пад абарону членаў „Узвышша“. Вось яго словы: „Чарга прышла да другіх беларускіх пролетарскіх пісьменьнікаў і поэтаў з літаратурных таварыстваў („Узвышша“ і „Полымя“) Язэпа Пушчы, Лужаніна, Дубоўкі, Пільняка, Антося Адамовіча, Купцэвіча і інш., ім закідаюцца тыя-ж самыя „праступкі“, гэта „нацыянал-дэмократызм“ „дробна-буржуазная псыхолёгія“ і „заступніцтва за кулакоў“. Ва ўсім гэтым людзі з скрыўленай душой бачаць „скрыўленьне бальшавіцкай лініі“.

На падрыхтаванай старанна аблаве першы сыгнал падаў „егермэйстар“ тав. Конакоцін у „Бальшавіку Беларусі“. Вось яго даслоўны артыкул“...

Падаецца вынятка з № 6 „Бальшавіка Беларусі“ за 29 г. і далей працягваецца так: „Пасьля гэтага сыгналу падалі свае галасы загоншчыкі т. т. П. Галавач і А. Звонак, якія, разьбіраючы творы па костачках, знаходзяць у іх контррэволюцыйныя і антыбальшавіцкія тэндэнцыі“..

Невыпадкова Луцкевіч абараняе і расійскага Пільняка, які гэтак-жа сама ня мала праславіўся. Правільна нацыянальны момант

падпарадкуецца клясаваму, і ён абараняе Пільняка. Цікава і тое, што Луцкевіч выступае абаронцай і Ф. Купцэвіча (у той час яшчэ ня выключанага з партыі). сапраўды вельмі цікавы малюнак—Купцэвіч, Пільняк, Дубоўка, Пушча, Ант. Адамовіч і Лужанін у абдымках Луцкевіча, гэтага пагромшчыка Заходняй Беларусі, агента, Пілсудзкага-вешацеля. Клясавы вораг гаворыць клясавую праўду: ён ненавідзіць тых, хто яго выкрывае, тых хто выкрывае яго агэнтаў—нацыянал-дэмакратаў.

Не адстае ад Луцкевіча і газэта „Кур'ер Віленскі"; яна абараняе ліст трох пісьменьнікаў, ужо нам добра вядомы. „Кур'ер Віленскі" абараняе і тых узвышанцаў, якія падтрымлівалі гэты контррэволюцыйны ліст, як Ант. Адамовіч.

Газэта „Крыніца", якая выходзіць у Вільні, падтрымлівае і абараняе Дудара, як „сапраўднага беларускага пісьменьніка".

Нацыянал-фашыст Луцкевіч у сваёй кнізе „За 25 год", якая вышла ў 28 г, ведаючы, што Жылуновіч пераходзіць у сваёй рабоце на нацыянал-дэмократычныя позыцыі. пачынае пераклікацца з Жылуновічам. Вось што піша Луцкевіч пра яго: „Выдзелілася паміж іх больш радыкальная соцыяльна група з Зьмітрам Жылуновічам... на чале, якая пасьля ўвайшла ў склад комуністычнай партыі і ўзяла на сябе ініцыятыву будаваньня Радавае Беларусі, зьдзейсьніўшы часткова—у складзе СССР—наш дзяржаўны ідэал (1 студзеня 1919 г.), абвешчаны раней актам Рады Рэспублікі 25 марца 1918 г., аб чым скажу далей. Жылуновіч-жа заняў, хоць і не надоўга, становішча галавы першага ўраду Радавае рэспублікі."

Луцкевіч хваліў Жылуновіча за тое, што ён, увайшоўшы ў ВКП(б), ажыцьцяўляў старыя ідэі, якія ім былі вынашаны ў беларускай нацыяналістычнай грамадзе сумесна з Жылуновічам. Мы вышэй прыводзілі выняткі з Жылуновіча, якія паказваюць, як Жылуновіч у 29 г. хваліў Луцкевіча як марксыста. Тут сапраўды атрымалася—„кукушка хвалит петуха за то, что хвалит он кукушку".

## Комуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі — кіраўнік барацьбы за культуру соцыялістычную па зьместу і нацыянальную па форме.

У адказ на пераклічку нацыянал-дэмократаў з нацыянал-фашыстамі комуністычная партыя Заходняй Беларусі праводзіць вялікую выхаваўчую работу сярод рабочых і працоўных мас Заходняй Беларусі.

Мы маем такі дакумант, калі віленскае рэволюцыйнае студэнцтва ацэньвае правільна шкоднасьць нацыянал-дэмократызму. Праўда, віленскае студэнцтва, беспартыйнае студэнцтва, піша ў хроніцы, таму што іначай цэнзура не прапусьціла-б, і дае правільную ацэнку контррэволюцыйнай сутнасьці нацыянал-дэмократызму.

Комуністычная партыя Заходняй Беларусі вядзе моцную барацьбу з нацыянал-фашыстымі. Комуністычная партыя Заходняй Беларусі ва ўмовах падпольля у краіне, залітай крывёй Пілсудзкім, змагла аб'яднаць вакол сябе рэволюцыйныя пісьменьніцкія сілы і ў падпольлі змагла выпусьціць рэволюцыйны зборнік вершаў. У гэтым зборніку мы маем надзвычайна добры твор „Кліч" да беларускага працоўнага сялянства сабрацца пад сьцягі партыі на паўстаньне. Там пішацца поэма, прысьвячаная Леніну. Вось некалькі вынятак з яе:

„Ленін сейбіт знамяніты
Слоў працоўнай беднаты.
Праца ўсходзе пладавіта
Надзвычайнай пекнаты.

Распарушыў скрытых юдаў,
Жывадзёраў Калчакоў;
Разагнаў сьвятых і цуды,
Аман ім на век вякоў.
Для сялян і для рабочых
Шлях змаганьня даў адзін.
Імя „Ленін“ іх яднача
І працоўных усіх краін.
Ленін дуж, бо разам з намі
Пабядзім мы разам з ім.
Уладу ў сьвеце возьмем самі,
Хто нічым быў, стане ўсім“.

Мы бачым, што компартыя Заходняй Беларусі падняла голас протэсту ня толькі выданьнем гэтага рэволюцыйнага зборніка, які набліжаецца да пролетарскай літаратуры, але компартыя Заходняй Беларусі выносіць пастанову, у якой правільна ацэньвае беларускіх нацыянал-дэмократаў. У рэзолюцыі Цэнтральнага комітэту компартыі Заходняй Беларусі пра нацыянал-дэмократычныя выступленьні ў БССР між іншым гаворыцца:

„Азнаёміўшыся з контррэволюцыйнымі выступленьнямі ў БССР, асабліва Дудара-Глыбоцкага, Цэнтральны комітэт компартыі Заходняй Беларусі констатуе рост контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму сярод зьвязанай з кулаком часткі беларускай інтэлігенцыі ў БССР, які адбываецца аднача сна са стварэньнем у Заходняй Беларусі беларускай нацыянал-фашысцкай групы, на чале якое стаяць Луцкевіч, Астроўскі, Уласаў і інш. дзеячы, якія вышлі з дробнабуржуазнага беларускага „адраджэнцкага руху“ і якія апіраюцца на беларускага кулака, які ўзмацаваўся ў выніку ўсяе політыкі польскага фашыстаўскага ўраду. Фашыстаўскі ўрад Пілсудзкага, які шалёна падрыхтоўвае напад на СССР, імкнецца знайсьці апору для сябе сярод беларускага кулацтва на абодва бакі мяжы.

Цэнтральны комітэт компартыі Заходняй Беларусі лічыць, што ЦК КП(б)Б праводзіць правільную ленінскую нацыянальную політыку. Цэнтральны комітэт компартыі Заходняй Беларусі вітае рашучы адпор, дадзены ЦК КП(б)Б шовінізму і ўхілам у нацыянальным пытаньні, якія былі праяўлены паасобнымі партыйцамі, якія адлюстроўваюць напор на пролетарыят і партыю з боку дробнай буржуазіі (Вільня, красавік 29 г.)“.

Цэнтральны комітэт компартыі Заходняй Беларусі правільна ацаніў, што лінія ЦК КП(б)Б у барацьбе за пролетарскую літаратуру ў адпоры клясаваму ворагу была зусім правільнай.

Калі-ж у паасобных таварышоў і меліся вывіхі, калі паасобныя кіраўнікі расцэньвалі „Полымя“, як групу пісьменьнікаў, якая натхняе нас на соцыялістычнае будаўніцтва, то Цэнтральны комітэт, даючы адпор і гэтым таварышом, вёў правільную бальшавіцкую лінію і на літаратурным фронце.

Чым-жа іншым, як ня правільным кіраўніцтвам, можна вытлумачыць, што маладая рэволюцыйная літаратура, якая сабралася навакол „Маладняка“, цяпер ужо зьяўляецца цьвёрдай організацыяй пролетарскіх пісьменьнікаў? Цяпер мы маем БелАПП, як адзін з атрадаў пролетарскай літаратуры, які змагаецца з клясавым ворагам унутры, і які дае адпор клясаваму ворагу, што сядзіць за межамі. Чым-жа іншым, як ня правільнасьцю лініі КП(б)Б можна вытлумачыць, што мы ў час давалі адпор, у час білі і, нарэшце, пры ўдзеле ўсяе пролетарскай грамадзкасьці выкрылі контррэволюцыйную сутнасьць нацыянал-дэмократызму і цяпер вядзем вялікую работу па ачыстцы ад

нацыянал-дэмократычных тэорый, ад нацыянал-дэмократызму шэраг вучасткаў нашага будаўніцтва, у тым ліку і літаратурны фронт.

Пад кіраўніцтвам партыі комуністычны друк правёў вялікую растлумачальную работу па выкрыцьцю буржуазнай сутнасьці ідэалізацыі мінулага, па выкрыцьцю тых сваіх, якія дамагаліся даць у шэфы беларускай пролетарскай літаратуры... Дуніна-Марцінкевіча ці іншага паслугача пана або капіталіста.

КП(б)Б правяла вялічэзную работу па стварэньню пролетарскай літаратуры, вядучы адначасова барацьбу супроць тых, хто адмаўляў магчымасьць існаваньня пролетарскай літаратуры ў БССР, супроць тых, хто шкодзіў стварэньню гэтай літаратуры.

Пад кіраўніцтвам партыі вырошчваліся новыя пролетарскія кадры беларускай літаратуры, гэтыя кадры расьлі і з ліку членаў КП(б)Б. Асаблівую ролю ў вырошчваньні літаратурных кадраў адыгрывала наша старая бальшавіцкая газэта „Зьвязда". Яўрэйская пролетарская літаратура, напрыклад, вырасла ў БССР выключна з бальшавіцкага яўрэйскага друку і ім выхавана і пастаўлена на ногі.

Толькі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі пролетарскія пісьменьнікі аўладалі зброяй ленінскай нацыянальнай політыкі і павялі барацьбу за стварэньне літаратуры пролетарскай па зьместу і нацыянальнай па форме.

Чым-жа, як ня правільнай політыкай КП(б)Б можна тлумачыць тое, што пролетарская літаратура, пры падтрыманьні ўсяе пролетарскай грамадзкасьці, пасьпяхова вяла бai супроць буржуазных тэндэнцый, супроць нацыянал-дэмократызму ў літаратуры, супроць левых заскокаў абвінавачваньня ўсіх пісьменьнікаў у нацыянал-дэмократызьме, супроць усяго шкоднага, што паслабляе наш наступ на ідэолёгічным фронце.

Так, толькі пад нязломным ленінскім кіраўніцтвам КП(б)Б, мы разьбілі ўсё варожае, што стаяла на шляху ўзмацненьня пролетарскай літаратуры ў Беларусі.

У барацьбе з контррэволюцыйным нацыянал-дэмократызмам, у барацьбе за стварэньне і ўмацаваньне пролетарскай літаратуры ў Беларусі БелАПП заўсёды ішоў пад кіраўніцтвам партыі ў бai на ідэолёгічным фронце і перамагаў у гэтых баёх толькі пад кіраўніцтвам КП(б)Б.

---

В. Шчарбакоў

# Пытаньні культуры і асьветы на XIII зьезьдзе КП(б)Б

## 1. Социялістычная рэконструкцыя народнае гаспадаркі і проблемы культурнае рэволюцыі

Кончыўся другі год пяцігадовага пляну вялікага социялістычнага будаўніцтва. Комуністычная партыя і рабочая кляса СССР і ўсяго сьвету адсьвяткавалі 13-ю гадавіну вялікага Кастрычніка. Вялізарныя дасягненьні мае дыктатура пролетарыяту ва ўсіх галінах социялістычнага будаўніцтва. Вырашаюцца вялікія задачы ў вялікія дні, „концэнтруючыя ў сабе на дваццаць гадоў“, як калісь пісаў Маркс, а за ім і Ленін. Мы яшчэ не пабудавалі социялізму ў нашай краіне, але „мы ўжо ўступілі ў СССР у пэрыод социялізму“.

Упартасьцю, беззаветнай адданасьцю справе пролетарскай рэволюцыі рабочая кляса СССР перамагае адну перашкоду за другою на шляхох будаўніцтва социялізму. На дапамогу пролетарыяту ў яго барацьбе за социялізм, за перабудову ўсяго ўкладу грамадзкага жыцьця, за рэконструкцыю на социялістычных падставах ўсяе гаспадаркі СССР прыходзяць тысячныя і мільённыя масы батрацтва, вясковай беднаты і асноўнай масы серадняцтва. Густою сеткаю адна шостая часьць ўсяе земнае кулі СССР пакрыта колектыўнымі гаспадаркамі і магутнымі саўгасамі, дзе прыстасоўваецца найноўшая тэхніка, дзе ўводзяцца новыя социялістычныя формы працы, дзе мяняецца ўвесь ўклад жыцьця.

У складаным клясавым пераплёце, у абставінах абкружэньня нас капіталістычнымі дзяржавамі прыходзіцца весьці барацьбу, перабудоўваць усё жыцьцё рабочай клясы Савецкага саюзу. Але яна гэтае жыцьцё перабудоўвае, адну цьвярдыню за другою перамагае, закладваючы фундамант социялізму, ня гледзячы на аграмадныя цяжкасьці. Найноўшыя дасягненьні навукі і тэхнікі прыстасоўваюцца ў нашай вытворчасьці, новыя вытворчыя адносіны нараджаюцца на гэтай вытворчасьці, іншыя формы працы прыстасоўваюцца рабочай клясай у яе напружанай рабоце. На аснове індустрыялізацыі адбываецца змычка паміж горадам і вёскаю.

Пасьпяховаму будаўніцтву социялізму ўсімі сіламі і сродкамі стараюцца перашкаджаць нашы клясавыя ворагі. Міжнародная буржуазія надумоўвае ўсялякія повады для ўмяшацельства ўзброенымі сіламі ў наша ўнутранае жыцьцё. Унутраны клясавы вораг аказвае нам, у сваю чаргу, шалёнае супраціўленьне. На працягу 13 год існаваньня савецкай улады і дыктатуры пролетарыяту гэтыя ўнешнія і ўнутраныя ворагі не пакідаюць ні на адзін дзень, ні на адну гадзіну свае ўпартае, свае азьвярэлае барацьбы супроць савецкае ўлады, супроць социялістычнага будаўніцтва. На кожным кроку рабочая кляса, яго

партыя і савецкая ўлада сустракаюць гэтых унутраных ворагаў, гэтых шкоднікаў вялікага соцыялістычнага будаўніцтва. Усюды, дзе толькі магчыма, яны робяць шкоды, займаюцца ўсялякім шкодніцтвам і контррэволюцыяй. Цэлымі бандамі гэтыя клясавыя ворагі пралязаюць у наш савецкі апарат, у нашыя гаспадарчыя і коопэрацыйныя організацыі, на нашы фабрыкі і заводы і там унутры хочуць узрываць і разбураць усё тое, што будуе, што творыць пролетарыят і ідучыя пад яго кіраўніцтвам масы батрацка-бядняцкага і сярадняцкага сялянства.

Рэконструкцыйны пэрыод, узяты курс нашай партыяй на хуткія тэмпы індустрыялізацыі, на разгортваньне будаўніцтва буйных саўгасаў, на суцэльную колектывізацыю, выклікаў яшчэ больш шалёнае, яшчэ больш упартае супраціўленьне нашаму будаўніцтву з боку клясавых ворагаў. Гэтыя апошнія напружваюць усе сілы, каб сарваць соцыялістычнае будаўніцтва. Кулак на вёсцы з азьвярэлай нянавісьцю намагае ўсе сілы, каб сарваць будаўніцтва колектываў. Ён пранікае ў колектывы, каб разлагаць іх унутры, ён падпальвае стагі хлеба, хаты і гумны, якія належаць колектыўным гаспадаркам і актыўным барацьбітом за колектывізацыю вёскі, ён з-за кутка страляе ў найбольш актыўных работнікаў вёскі, ён стараецца ўсялякім чынам натраўліваць на колгасьнікаў, батракоў і беднату маласьвядомых сялян з серадняцтва. Разам з рэшткамі экспләотатарскіх клясаў і буржуазнай інтэлігенцыяй, змыкаючы свае шэрагі, кулацтва вядзе жорсткую барацьбу з савецкай уладай супроць соцыялістычнага будаўніцтва.

У гэтых абставінах, у абставінах пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва, рэконструкцыі ўсяе нашае прамысловасьці і сельскае гаспадаркі, у абставінах абвостранай клясавай барацьбы, зьвярынай нянавісьці клясавых ворагаў гораду і вёскі, іх шкодніцкай работы, у абставінах імкненьня ўмяшацца ў наша будаўніцтва міжнароднага капіталу—у такіх абставінах комуністычная партыя і савецкая ўлада, рабочая кляса ўсяго Савецкага саюзу, пры актыўным удзеле шырокіх працоўных мас і лепшай часткі інтэлігенцыі, адданай савецкай уладзе, перабудоўвалі і перабудоўваюць усё жыцьцё ў нашым Саюзе, будуюць магутны фундамант соцыялізму, перабудоўваюць быт працоўных, будуюць новыя формы працы. У гэтых-жа абставінах будуецца і наша пролетарская культура, праводзіцца вялікая палітыка-асьветная і асьветна-выхаваўчая работа.

Наш культурны фронт адстае ад тэмпаў гаспадарчага будаўніцтва. Усе мы, сапраўды, адчуваем гэтую адсталасьць. Але ці можам мы сказаць, што ў галіне культурнага будаўніцтва мы ня ідзем наперад, што мы топчамся на месьце. Не, гэтага мы ніяк ня можам сказаць, з гэтым мы ня можам згадзіцца. Рабочая кляса, шырокія масы працоўных, калі нават ня прымаць у лік нашай непасрэднай культурна-асьветнай работы, работы нашай шырокай сеткі ўсялякіх культурна-асьветных установ, з кожным годам усё больш і больш уздымаюць свой культурны ўзровень, пашыраюць свае погляды, набываюць вялікія веды.

Вопыт вялізарнейшага соцыялістычнага будаўніцтва, штодзённы органічны ўдзел у рабоце свайго прадпрыемства, у савецкіх коопэрацыйных і профсаюзных організацыях, удзел у вытворчых нарадах, наведваньне сходаў, дэмонстрацыі, протэсты, увесь клясавы пераплёт, у якім прыходзіцца рабіць сваю справу, будаваць соцыялізм, весьці барацьбу з клясавымі ворагамі, выкрываць шкоднікаў, праводзіць ліквідацыю кулацтва як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі, прымаць удзел у соцыялістычным будаўніцтве, кампаніі, выбары ў саветы, крытыка і самакрытыка,—усё гэта ня можа ня вучыць, не

ўзбагачаць вопытам рабочую клясу, ня ўздымаць яе культурны ўзровень. Тое-ж самае мы павінны сказаць і аб бядняцка-серадняцкіх масах сялянства. І сялянства таксама, жывучы і працуючы, прымаючы ўдзел у будаўніцтве і барацьбе, зьмяняе свае погляды, расьце і разьвіваецца.

Але-ж ня толькі само жыцьцё, будаўніцтва і барацьба, набыты вопыт спрыяюць культурнаму росту працоўных мас, узбагачэньню іх ведаў. Цэлая сыстэма мерапрыемстваў, якія праводзяцца комуністычнай партыяй, савецкай уладай і рабочымі організацыямі ў галіне культурнага будаўніцтва, мерапрыемстваў, якія маюць на ўвазе перш за ўсё масы, ня можа ня мець свайго ўплыву на гэтыя масы, ня можа не падымаць іх культурнага ўзроўню. Няхай мы ў сваёй працы культурна-асьветнага характару маем вялікія яшчэ недахопы, няхай мы адстаем на культурным фронце, але ўсё-ж пры ўсіх нашых недахопах, пры ўсёй адсталасьці і неадпаведнасьці нашых форм і мэтодаў культурнае работы з запатрабаваньнямі жыцьця і будаўніцтва, але ўсё-ж усімі гэтымі мерапрыемствамі мы маем уплыў на масы, у той або іншай ступені ўзбагачаем гэтыя масы вопытам, уздымаем яго культурны ўзровень.

„Мы з году ў год назіраем—",казаў таварыш Гантман, няўхільны рост матар'яльнага і культурнага стану рабочае клясы, якая ідзе па лініі ня толькі павялічэньня заработнай платы, а і па шэрагу іншых галін: па лініі мэдычнай дапамогі, па лініі пашырэньня культурна-бытавога абслугоўваньня мас. Вялізарнае павялічэньне выдаткаў і сродкаў на культурна-бытавое абслугоўваньне рабочых—усё гэта разам узятае, бясспрэчна, пацьвярджае тое, што матар'яльны і культурны ўзровень рабочае клясы ўзьнімаецца ўгору". Дасягненьні ў галіне культурнага будаўніцтва за апошнія два гады мае як увесь Савецкі саюз, так і наша Савецкая Беларусь.

XIII зьезд КП(б)Б павінен быў адзначыць гэтыя нашы дасягненьні ў галіне культурнага будаўніцтва. У рэзолюцыі па дакладу ЦК КП(б)Б зьезд так характарызуе гэтыя нашы дасягненьні:

„Пасьлядоўна праводзячы ленінскія прынцыпы ў нацыянальнай політыцы, партыя дабілася буйных посьпехаў у справе культурнага будаўніцтва. Увядзеньне ўсеагульнага навучаньня, узмацненьне работы па ліквідацыі няпісьменнасьці, пашырэньне сеткі навучальных і навуковых устаноў, у тым ліку і вышэйшых, посьпехі ў справе беларусізацыі і рост тыражу газэт, кніг, часопісаў на беларускай мове і на мовах нацменшасьцяй сьведчаць аб посьпехах партыі ў гэтай галіне".

Аб гэтых посьпехах вельмі яскрава казаў у справаздачным дакладзе і таварыш Гей, ілюструючы гэтыя посьпехі цэлым шэрагам лічбаў:

„Мы маем рад дасгяненьняў і посьпехаў, рад прасоўваньня наперад і ў справе будаўніцтва нашай нацыянальнай культуры. Мы зьяўляемся, напрыклад, перадавою рэспублікай, першай з усіх рэспублік Савецкага саюзу, якая ўвяла ўсеагульнае абавязковае навучаньне. Мы адчынілі ў 1929—30 годзе 1437 новых комплектаў школ і ахапілі школамі амаль 90 проц. дзяцей узросту ад 8 да 11 год. Мы маем значныя посьпехі і ў справе ліквідацыі няпісьменнасьці. Мы маем прасоўваньне наперад і ў пытаньні стварэньня пролетарскіх кадраў". У другім месцы свайго дакладу тав. Гей адзначаў нашы дасягненьні, дасягненьні БССР і ў галіне друку. „Аб росьце кніжнай продукцыі на беларускай мове кажуць

наступныя даныя: 8.647.000 у 1926-27 годзе; 12.867.000 у 1927-28 г.; 13.009.000 у 1928-29 г. Расьце сетка газэт, павялічваюцца іх тыражы".

Адсюль зусім ня вынікае, што на фронце культуры, на фронце нашага культурнага будаўніцтва ў нас у БССР так сама, як і ва ўсім Савецкім саюзе ўсё абстаіць добра. XIII зьезд КП(б)Б, адзначаючы нашы дасягненьні ва ўсім будаўніцтве, у тым ліку і ў будаўніцтве культурным, павінен быў адзначыць і нашы вялікія недахопы і цэлыя прарывы на фронце культуры.

Пытаньням культуры і асьветы XIII зьезд КП(б)Б удзяліў надзвычайна вялікую ўвагу. І дакладчыкі і вялікая колькасьць выступаючых таварышоў у спрэчках не абыходзілі і не маглі абыходзіць тэтых пытаньняў. Інакш і не магло быць. Галіна культурнага будаўніцтва зараз цясьнейшым чынам пераплялася з усімі іншымі галінамі нашага будаўніцтва. Рэконструкцыя ўсяе нашае гаспадаркі, новыя формы працы, перабудова нашага быту, барацьба з бюрократызмам і шкодніцтвам, клясавая барацьба—усё гэта патрабуе ад нас, ад рабочае клясы, ад шырокіх мас сялянства падвышэньня іх культурнага ўзроўню, граматнасьці, пашырэньня поглядаў, знаёмства з сучаснымі дасягненьнямі навукі і тэхнікі, сыстэматычнай чыткі газэт, часопісаў і літаратуры наогул.

Тое, што мы даем масам у галіне культуры і асьветы, усё гэта ніяк ня можа задаволіць іх. Рабочая кляса і працоўнае сялянства чым далей тым усё больш і больш патрабуе ад нас у галіне культурнага будаўніцтва. На вопыце барацьбы і будаўніцтва масы самі пачынаюць усьведамляць, чаго ім не хапае. Гэтыя масы, як ніколі, пачынаюць адчуваць зараз асабліва тое, аб чым казаў, на што паказваў і што падкрэсьліваў тав. Ленін.

У сваёй прамове на першым Усерасейскім зьезьдзе па асьвеце ў жніўні 1918 году Ленін казаў:

„Працоўныя пачынаюць усьведамляць тое, што асьвета неабходна ім для перамогі. Дзевяць дзесятых працоўных мас зразумелі, што веды зьяўляюцца аружжам у іх барацьбе за вызваленьне, што іх няўдачы тлумачацца недахопамі асьветы, і што цяпер ад іх саміх залежыць зрабіць асьвету сапраўды даступнай усім. Наша справа забясьпечана тым, што масы самі ўзяліся за будаўніцтва новай социялістычнай Расіі. Яны вучацца на сваім уласным вопыце, на сваіх няўдачах і памылках: яны бачаць, наколькі асьвета неабходна для пераможнага скончэньня тае барацьбы, якую яны вядуць. Ня гледзячы на кажучаеся распадзеньне многіх установ і лікаваньня саботажнай інтэлігенцыі, мы бачым, што вопыт барацьбы навучыў масы брацца самім за завяршэньне свайго лёсу. Усе, што спачуваюць народу не на словах, а на справе, лепшая частка настаўніцтва, прыдзе на дапамогу, і ў гэтым для нас верны залог таго, што справа социялізму пераможа".

Так пісаў тав. Ленін дванаццаць год таму назад. Тое, што напісана было тады, гэта ні ў якай меры ня толькі не згубіла, а яшчэ больш набыло сваё значэньне зараз, гэта як нельга сапраўдна і для сучаснага моманту.

Зьвернемся-ж да тых важнейшых пытаньняў культуры і асьветы, якія былі пастаўлены на XIII зьезьдзе КП(б)Б, аб якіх казалі дэлегаты зьезду, і па якіх зьезд вынес сваё рашэньне. Усе гэтыя пытаньні ў пастаноўцы зьезду мы павінны ўсебакова вывучыць, прадумаць і ўсе

рашэньні па іх мы павінны настойліва праводзіць у жыцьцё. Рашэньні XIII зьезду па гэтых пытаньнях павінны зьяўляцца для нас той праграмай, тым конкрэтным плянам, якіх мы павінны прытрымлівацца, якія мы павінны рэалізаваць у сваёй рабоце ў галіне культурнага будаўніцтва. Мы гэтыя рашэньні, усё тое, на чым спыняўся XIII зьезд, павінны перш за ўсё ўсебакова вывучыць, з імі мы павінны азнаёміць як шырокія масы працоўных, так і нашых работнікаў, якія займаюцца культурна-асьветнай работай.

Трэба адзначыць, што, магчыма, няма ні аднэй галіны нашага культурнага будаўніцтва, якая так ці іначай не закранулася-б на зьезьдзе, няма ніводнага больш ці менш важнага пытаньня, якое датычыцца асьветы і культуры, якое-б ня было закранута на зьезьдзе, якое-б ня было пастаўлена на абгаварэньне ці самім дакладчыкам, ці выступаючымі ў спрэчках. І гэтыя абставіны кажуць аб тым, якую вялізарную ўвагу ўдзяліў зьезд культурнаму будаўніцтву, наколькі важнай, актуальнай зьяўляецца проблема, зьвязаная з культурнай рэволюцыяй. Гэта-ж абставіна кажа аб тым, што важнейшыя сучасныя проблемы соцыялістычнага будаўніцтва цясьнейшым чынам зьвязаны з проблемамі культурнай рэволюцыі.

Вырашэньне задач культурнай рэволюцыі мае вялізарнае значэньне для ўсяго нашага будаўніцтва. Партыя праз друк, Цэнтральны комітэт у радзе пастаноў падкрэсьлівалі ўжо, што наша культурная работа адстае ў сваіх тэмпах ад агульных тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва. Цэлы рад мерапрыемстваў ужо разгортваецца ў сваім практычным ажыцьцяўленьні, але нам трэба ўзмацніць сваю работу ў гэтым напрамку. Так расцэньваў значэньне нашай работы на культурным фронце тав Гантман у сваёй прамове.

Зьезд удзяліў проблемам культуры і асьветы сапраўды вялікую ўвагу.

## II Узмацніць барацьбу з варожай нам ідэолёгіяй у галіне культурнага будаўніцтва.

Адно з першых і самых важных пытаньняў, якое павінна было стаяць і стаяла на XIII зьездзе КП(б)Б, было пытаньне аб барацьбе з пранікненьнем ва ўсю нашу работу ў галіне культурнага будаўніцтва варожых нам ідэй, варожых нам ідэолёгічных напрамкаў. Галіна культурнага будаўніцтва падпадала і асабліва падпадае зараз, у зьвязку з абвастрэньнем клясавай барацьбы, асабліва настойлівым імкненьням з боку нашых клясавых ворагаў умяшацца ў нашу культурна-асьветную работу, захапіць на культурным фронце важнейшыя вучасткі, падначаліць важнейшыя культурныя ўстановы, правесьці свае ідэі і выхоўваць на гэтых ідэях масы, моладзь. Ва ўмовах БССР, дзе клясавы і нацыянальны пераплёт зьяўляецца асабліва складаным, дзе толькі ў пасьлякастрычнікавы пэрыод у пэрыод існаваньня савецкае ўлады і асабліва ў пэрыод рэконструкцыі народнае гаспадаркі пачынае пасьпяхова разьвівацца прамысловасьць, у тым ліку і буйная, дзе пролетарыят яшчэ параўнача з іншымі раёнамі і абласьцямі Савецкага саюзу нешматлікі, дзе яшчэ шмат дробна-буржуазных праслоек з іх традыцыямі, поглядамі і мяшчанствам, у гэтых умовах, памежнай рэспублікі, буржуазныя элемэнты, нашы клясавыя ворагі, асабліва актывізаваліся і актывізуюцца зараз, асабліва настойліва пранікалі ва ўсе нашы вучасткі культурнага будаўніцтва.

У гэтых адносінах беларускія нацыянал-дэмократы праяўлялі сябе асабліва актыўна, асабліва настойліва. Не драмалі, само сабой разумееццa, і іншыя варожыя нам элемэнты. Аб засьмечанасьці нашых навуковых і культурных устаноў варожымі нам элемэнтамі, аб пранікненьні варожых нам ідэй у навуку, літаратуру, мастацтва, аб пранікненьні варожых нам ідэй у вучэбныя праграмы, падручнікі—аб усім гэтым, на зьезьдзе настойліва гаварылі, усе пытаньні, зьвязаныя з гэтым, павінны былі быць абгавораны на зьезьдзе.

У выніку настойлівай работы варожых нам клясавых груп, асабліва нацыянал дэмократаў, у выніку недастатковага нашага назіраньня мы мелі з часу ў пэрыод паміж XII і XIII зьездамі КП(б)Б цэлы шэраг прарываў на культурным фронце. Вось як характарызаваў гэтыя прарывы, як ацэньваў работу беларускіх нацыянал-дэмократаў тав. Гей у сваім дакладзе:

„Партыя правяла рашучае змаганьне з прышчэпаўшчынай і нанесла ёй моцны ўдар. Партыя перабудавала работу зямельных органаў, але ў цэлым радзе выпадкаў мы яшчэ адчуваем цэпкую спадчыну прышчэпаўшчыны, у радзе выпадкаў мы яшчэ натыкаемся на паасобныя куткі, дзе прышчэпаўшчына яшчэ ня зжыта. Мы, напрыклад, параўнальна нядаўна слухалі даклад аб рабоце навукова-дасьледчых устаноў БССР у абсягу сельскае гаспадаркі. І мы са зьдзіўленьнем пачулі на бюро ЦК аб тым, што навукова-дасьледчыя інстытуты, якія павінны па існасьці справы кіраваць соцыялістычнай рэконструкцыяй сельскай гаспадаркі, гэтыя інстытуты распрацоўваюць такія тэмы, як навуковае дасьледваньне пытаньня аб пяяньні птушак, як пытаньне аб гатунках руж, якія можна разводзіць у межах БССР, выпісваюць саранчу, якая у нас тут ня водзіцца і над якой робяць навуковыя досьледы і наогул займаюцца работай, якая часта зусім ніякіх адносін да практычнай работы ня мае. На практычныя, штодзённыя пытаньні, якія маюць патрэбы у навуковай прапрацоўцы, пытаньні, па якіх мы патрабуем ад навуковых сіл распрацоўкі і адказу, мы гэтых адказаў не атрымліваем. На працягу васьмі год мы ня можам атрымаць адказу ад навукова-дасьледчых устаноў на ўдубальт практычнае пытаньне аб тым, якую пароду кароў пераважна трэба разводзіць у БССР, а вось на тэму аб пяяньні птушак напішуць навуковую працу вялікага аб‘ёму.

Горацкая сельска-гаспадарчая акадэмія, таксама ішла па няправільным шляху, зьяўляючыся рассаднікам агрономаў-кіраўнікоў хутарскае гаспадаркі, хутарызатараў. Акадэмія ня толькі не рыхтавала людзей, якія былі-б здольны дапамагчы у справе пабудовы буйнае соцыялістычнае сельскае гаспадаркі, акадэмія ня толькі не падрыхтоўвала людзей для таго, каб яны маглі ў колгасах або саўгасах аказацца карыснымі кіраўнікамі сельскае гаспадаркі, але ў працягу доўгага часу Горацкая сельска-гаспадарчая акадэмія ідэалізавала хутарызацыю і ўсю сваю работу будавала на практыцы хутарскіх гаспадарак.

Агульна вядомы факт, што ў Горацкім раёне пры дапамозе акадэміі было праведзена найбольш поўнае расьсяленьне на хутары. ЦК у радзе пастаноў, у радзе мерапрыемстваў вызначыў каранную перабудову работы навукова-дасьледчых інстытутаў у абсягу сельскае гаспадаркі". Яшчэ большыя прарывы мы мелі

ў працы Беларускай акадэміі навук. Апошняя цалкам знаходзілася ў руках беларускіх нацмэнаў, якія акадэмію зрабілі цэнтрам сваей контррэволюцыйнай працы.

Партыя вяла рашучую барацьбу з нацыянал-дэмократызмам. ЦК КП(б Б неаднаразова ставіў пытаньні аб пранікненьні нацыянал-дэмократаў і іх ідэй у культурна-асьветныя ўстановы.

„Увесь год з XII зьезду быў годам самай упартай барацьбы з нацыянал-дэмократызмам. Тут такія факты, як тэатральная дыскусія, як выступленьне Жылуновіча, як выключэньне яго з партыі, ліст трох пісьменьнікаў, барацьба з гэтымі фактамі, вылазка Зарэцкага, выключэньне Зарэцкага з партыі, вылазка ў часе 5-годзьдзя Белдзяржвыдавецтва, зьняцьце кіраўніцтва БДВ, дыскусія аб мове, рэзкі ўдар па нацыянал-дэмократызме Лёсіку і компаніі,—гэта бясспрэчна факты, якія гавораць аб тым, што ЦК за ўвесь апошні год вёў самую актыўную і рашучую барацьбу з нацыянал-дэмократызмам“. Так гаварыў у сваім выступленьні па дакладак ЦК тав. Шпэктараў.

Ня гледзячы на гэтую ўпартую барацьбу ўсяе нашай партыі з нацыянал-дэмократызмам, апошнія ня складваюць свайго аружжа. Яны працягвалі і працягваюць яшчэ і зараз сваю агідную справу. Праявы нацыянал-дэмократызму, якія знайшлі сабе актыўную падтрымку ў нацыянал-опортуністых, з якімі нацыянал-дэмократы ў сваёй рабоце змыкаюць свае шэрагі, працягваюцца і да сучаснага моманту. Нацыянал-дэмократы і ў далейшы будуць імкнуцца пранікнуць у нашы культурныя ўстановы, будуць шукаць сабе падтрымкі ў радох права-опортуністычных элемэнтаў, у радох нашай партыі ня тым, так іншым чынам яны будуць весьці сваю шкодніцкую контррэволюцыйную работу , перш за ўсё, зразумела, на культурным фронце, дзе лягчэй, хутчэй, можна сябе захаваць, дзе ўдобней замаскавацца.

У організацыйнай справаздачы падкрэсьлівалася: „Нельга думаць, што ў програмах і падручніках нацыянал-дэмократы ня будуць імкнуцца працягваць свае ідэі, нельга думаць, што пабітыя ў адкрытым баі, але не ліквідаваныя, далёка не ліквідаваныя, нельга думаць, што яны не скарыстаюць усіх абсолютна магчымасьцяй для сваей працы, для правалаканьня сваіх контррэволюцыйных ідэй. І падручнікі, і ўся навучальная падрыхтоўка, якая знаходзіцца ў значнай ступені ў руках не комуністых не марксыстых, патрабуе пільнага нагляду з нашага боку. Большую ўвагу трэба зьвярнуць на якасную падрыхтоўку, большую увагу трэба зьвярнуць на мэтодолёгічныя комітэты, народныя ўстановы, якія наглядаюць за падрыхтоўкай. Больш адказнасьці павінна быць ускладзена на партыйныя ячэйкі ў навучальных установах. Больш рашуча павінна весьціся барацьба з усялякага роду наскокамі на генэральную лінію партыі ў саміх навучальных і навуковых установах“.

І далей, у другім месцы тэй-жа справаздачы гаворыцца:

„Нельга сказаць, каб прарывы, якія мелі месца на культурным фронце, цалкам ліквідаваны. Напрыклад, пры наборы ў гэтым годзе ў сельска-гаспадарчую акадэмію дырэктыва Цэнтральнага комітэту аб вярбоўцы 300 чалавек у абсолютнай большасьці рабочых, комсамольцаў і комуністых ня была выканана. Цэнтральны комітэт прымушаны быў у другі раз разглядзець гэтае пытаньне і прымусіць выканаць. Мы, нанесшы сур'ёзны

удар беларускаму нацыянал-опортунізму, нацыянал-дэмократызму і праваму ўхілу, прышчэпаўшчыне, маем яшчэ, аднак, у розных мясцох праяўленьне нацыянал-опортунізму, нацыянал-дэмократызму і правага опортунізму ў нашых культурных апаратах, у апаратах, якія кіруюць культурным будаўніцтвам.

Мы яшчэ сустракаемся і будзем сустракацца з прарывамі. З гэтымі прарывамі Цэнтральны комітэт за справаздачны пэрыод вёў бязьлітасную барацьбу. Гэтыя прарывы і ў далейшым могуць яшчэ мець месца ў сувязі з моцным націскам капіталістычных элемэнтаў на наш апарат, на нашу організацыю, на комсамол і рабочую клясу, і ў сувязі з абвострыным клясавым змаганьнем. Вядучы непрымірымае змаганьне за генэральную лінію партыі, не супакойваючыся на тым, што нанесьлі рашучы ўдар па розных ухілах, нам трэба і ў далешым вырашаць проблему кадраў пад кутом погляду колькаснага і якаснага вырашэньня гэтай проблемы. Пад якасным вырашэньнем трэба разумець бальшавіцкую пролетарскую загартаванасьць, бальшавіцкае выразнае правядзеньне генэральнае лініі партыі."

Нацыянал-дэмократы праводзілі і праводзяць сваю работу ня толькі ў нашых цэнтральных культурных установах. Не, яны стараюцца распаўсюдзіць свой уплыў і на перыфэрыі. Яны пранікаюць са сваімі ідэямі і туды. У іншых гарадох, у раённых цэнтрах яны знаходзяць сабе падтрымку сярод варожых нам элемэнтаў настаўніцтва, кулацкіх сынкоў і г. д.

Тав. Левіт гаварыў на зьезьдзе аб пранікненьні нацыянал-дэмократаў у Гомельскі пэдтэхнікум: „Аб нацыянал-дэмократызьме я Вам раскажу адзін выпадак, які быў у Гомелі. Прыехала з Масквы рэвізія, якая рэвізавала белпэдтэхнікум. І вось рэвізор не заўважыў, што там ёсьць паўнейшы нацыянял-дэмократызм, што там існуе такі лёзунг, як „няхай жыве вольная Беларусь!". Ён заблытаў і акругком. І акругком да апошняга моманту не заўважыў, што ў белпэдтэхнікуме маюць месца праявы нацыянал-дэмократызму."

Клясавыя ворагі пранікаюць ў сярэднія школы, сямігодкі, у іншыя культурныя ўстановы на мясцох. І там мы маем цэлы шэраг прарываў, і аб гэтых прарывах падымалася пытаньне на зьезьдзе нашае партыі.

Тав. Мінін у сваім выступленьні паказваў на гэтыя прарывы, зьвязваючы з гэтым пытаньне аб кадрах, аб узмацненьні работнікамі раёнаў: „Калі ў нас востра стаіць пытаньне аб нястачы навуковых працаўнікоў і працаўнікоў з высокай кваліфікацыяй, дык трэба адзначыць, што мы мелі рад прарываў у падрыхтоўцы нашай рабоча-сялянскай моладзі на мясцох па лініі сярэдніх школ, асабліва сямігодак. Мы на мясцох і ў друку бачым, што ніводнага месяца не праходзіць, каб ня было цэлага раду агідных прарываў у гэтых школах, скажэньняў клясавай лініі, нацыянал-дэмократычных вылазак і г. д. Таму я лічу, што гэтае пытаньне аб кадрах, асабліва для сярэдніх школ, з усёй сілай неабходна будзе завастрыць на зьезьдзе. Лічу, што зьезд павінен даць такую дырэктыву: асноўную практычную работу трэба сконцэнтраваць на раёнах, а дзеля гэтага трэба ўмацаваць іх належнымі працаўнікамі."

Што з усяго гэтага вынікае? Якія высновы мы павінны зрабіць для сябе, выходзячы з усіх гэтых матар'ялаў, і асабліва пасьля таго,

як было выкрыта, што Беларуская акадэмія навук зрабілася прытулкам для Беларускіх контррэволюцыйных нацыянал-дэмократаў, якія імкнуліся скарыстаць яе для барацьбы супроць партыі і савецкай улады, пасьля таго, як кіраўніцтва Акадэміі навук апынулася ў палоне гэтага контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму. Гэтыя вывады зрабіў сам XIII зьезд нашае партыі і другі пленум ЦК КП(б)Б. З гэтымі вывадамі трэба ўсебакова азнаёміцца, трэба іх вывучыць і найстойліва, з ўсёй бальшавіцкай рашучасьцю, праводзіць у жыцьцё. Патрэбна бальшавіцкае чуцьцё работнікаў культурнага фронту. Трэба больш увагі зьвярнуць культурнаму фронту. Рашучая барацьба патрэбна як з нацыянал-дэмократамі, так і з вялікадзяржаўным шовінізмам, які зьяўляецца галоўнейшай небясьпекай на даным этапе нашага разьвіцьця, які перашкаджае нам будаваць нацыянальную пролетарскую культуру.

У рэзолюцыі па дакладах ЦК КП(б)Б XIII зьезд так ставіць пытаньне аб барацьбе з варожымі нам ідэолёгіямі і варожымі нам элемэнтамі на культурным фронце:

> „Працягваючы і далей бязьлітасную барацьбу з нацыянал-опортунізмам, з беларускім нацыянал-дэмократызмам, КП(б)Б павінна адначасова зьвярнуць увагу на барацьбу з вялікадзяржаўным рускім шовінізмам, які актывізуецца і які зьяўляецца асноўнай перашкодай на шляху аўладаньня пролетарыятам процэсам будаўніцтва нацыянальнай культуры. Ажыўленьне яўрэйскага шовінізму, праявы шовінізму польскага патрабуюць таксама значна большай мобілізацыі ўвагі партыі на барацьбу з праявамі шовінізму усіх масьцей.
>
> Узмацненьне работы па інтэрнацыянальным выхаваньні пролетарскіх мас, далейшая інтэрнацыяналізацыя прадпрыемстваў і ўстаноў, забясьпечаньне далейшага росту кадраў беларускага пролетарыяту, а таксама пролетарыяту з нацменшасьцяй, выхаваньне пролетарскіх кадраў культурнага будаўніцтва, далейшае пасьпяховае правядзеньне беларусізацыі забясьпечаць будаўніцтва культуры нацыянальнай па форме і пролетарскай па зьместу“.

Гаворачы аб барацьбе з варожай нам ідэолёгіяй на культурным фронце, мы павінны мець на ўвазе ня толькі дзейнасьць беларускіх нацыянал-дэмократаў, ня толькі дзейнасьць вялікарускіх і яўрэйскіх шовіністых на гэтым фронце, мы не павінны выпускаць з-пад увагі і іншыя варожыя нам ідэолёгічныя напрамкі, якія прасочваюцца ў нашу пэдагогіку, навуку, мастацтва і літаратуру. Гэтыя ідэолёгіі не заўсёды афарбоўваюцца ў той або іншы нацыяналістычны колер, але яны існуюць, яны для нас таксама вельмі шкодныя. У зьвязку з тымі прарывамі, якія мы мелі на культурным фронце, нам неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на гэты фронт. Трэба забясьпечыць моцнае партыйнае і пролетарскае кіраўніцтва гэтым фронтам.

## III. Пытаньне аб падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў

Другое ня менш важнае пытаньне, самым цесным чынам зьвязанае з першым пытаньнем, барацьбы з варожымі нам ідэолёгічнымі напрамкамі на культурным фронце стаяла на XIII зьезьдзе КП(б)Б— пытаньне аб нашых кадрах, аб іх падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы. Гэтаму пытаньню зьезд удзяліў таксама вялізарную ўвагу. Якія нам патрэбны кадры і колькі? дзе іх рыхтаваць, каго вербаваць? як забясьпечыць іх падрыхтоўку?—усе гэтыя пытаньні павінны былі стаяць на зьезьдзе і яны стаялі.

...ьні

Бурны рост соцыялістычнага будаўніцтва, рост нашых культурных устаноў, настойліва ставіць перад намі пытаньне аб павялічэньні кадраў спэцыялістых, культурных работнікаў, кваліфікаваных рабочых. Нашы патрэбы ў кадрах з кожным годам усё павялічваюцца і павялічваюцца. У організацыйнай справаздачы адзначалася наступнае:

„Калі ўзяць тое, што нам патрэбна ў пяцігодку, дык атрымліваецца наступны малюнак: па спэцыялістых з вышэйшай асьветай нам патрэбна 12,5 тыс., будзе выпушчана каля 5.000, па спэцыялістых з сярэдняй асьветай—26 тыс., будзе выпушчана 14,5 тыс.; інжынэрна-тэхнічных сіл усіх галін народнае гаспадаркі патрэбна да 4.000, будзе выпушчана звыш 600 чалавек. Выразна кідаецца ў вочы колькасны недахоп у кадрах для абслугоўваньня народнае гаспадаркі. Тым больш, зразумела, трэба рашуча выканаць задачу падрыхтоўкі гэтых кадраў з адпаведнай соцыяльнай і навуковай якасьцю неабходнай пролетарскай, комуністычнай, комсамольскай праслойкай.“

Такая наша патрэба ў кадрах спэцыялістых для абслугоўваньня народнае гаспадаркі БССР. Патрэба ў кадрах для абслугоўваньня іншых галін нашага будаўніцтва таксама вялікая. Асабліва вялікі недахоп у работніках мы адчуваем на нашым культурным фронце. У нас няма хатнікаў, няма інспэктароў народнае асьветы, не хапае настаўніцтва.

Мы мелі да гэтага часу вялізарныя недахопы ў падрыхтоўцы кадраў. Замест адзінага пляну падрыхтоўкі гэтых кадраў, замест распрацаванай сыстэмы ўсіх мерапрыемстваў па падрыхтоўцы іх, мы мемелі неразьбярыху, саматужніцтва і стыхію ў гэтай галіне.

Аб гэтай бяссыстэмнасьці з лічбамі ў руках гаварыў на зьездзе тав. Палякоў: „Нарэшце, я хачу“,—казаў ён,—„спыніцца на пытаньні аб кадрах. Справа падрыхтоўкі кадраў для прамысловасьці і соцыялістычнай сельскай гаспадаркі пастаўлена вельмі дрэнна. ВСНГ і Дзяржплян па гэтым пытаньні маюць на ўвазе лічбы, якія былі даны Пленуму ЦК ЛКСМБ. У ВСНГ да канца пяцігодкі павінна быць 227.707 чалавек, занятых на будаўніцтве і апрацоўцы торфу, а па Дзяржпляну з занятымі на будаўніцтве па пераапрацоўцы і здабычы торфу павінна быць менш амаль на 50 проц. чым у ВСНГ. Калі ўзяць пытаньне сыстэмы падрыхтоўкі рабочае сілы, то тут трэба паказаць на недапушчальныя адносіны да ФЗУ. Па лініі ВСНГ разьлічана да канца пяцігодкі мець 6000 чал., а па Дзяржпляну—6520. Па лініі ВСНГ прадугледжваецца падрыхтаваць праз ЦІП 41000 чалавек, а па Дзяржпляну—60000. Ці адпавядае гэта тым запатрабаваньням падрыхтоўкі рабочых, які выклікаюцца соцыялістычнай рэконструкцыяй? Не, гэта не адпавядае. Трэба зрабіць рашучы паварот у напрамку разьвіцьця і пашырэньня сеткі ФЗУ, школ рабочае моладзі, профтэхкурсаў, і г. д.“.

Гэтая бяссыстэмнасьць і саматужніцтва даводзілі да таго, што мы на падрыхтоўку кадраў трацілі шмат сродкаў, і зусім дрэнныя, зусім нас нездавальняючыя былі вынікі. Тав. Нартыш-Блук у сваім выступленьні, адзначаючы гэты наш недахоп, паказваў на тыя сумы, якія мы трацім на падрыхтоўку кадраў:

„Стварэньне кадраў. Мы, праўда, вельмі часта“,—кажа тав. Нартыш-Блук, „і шмат гаворым аб стварэньні кадраў і гэта правільна. Мы ўпіраемся ў пытаньне аб кадрах. Мы шмат трацім сродкаў на кадры, але мне здаецца, што гэтыя сродкі не даволі

мэтазгодна выдаткоўваюцца. Мы намячаем мерапрыемствы аб стварэньні кадраў па кожнай акрузе, па кожнай галіне, трацім на гэта вялікія сродкі (па 100 тысяч рублёў у кожнай акрузе). Па аднэй Беларусі мы трацім звыш мільёну рублёў, а эфэкту належнага ня маем. Гэта пытаньне невыстарчальна прапрацавана. У нас атрымліваецца тое, што нашы кадры праз 2-3 месяцы ідуць па другім назначэньні, а не па тым, па якім мы намячаем. Трэба ўпарадкаваць гэтую справу, зэканоміць сродкі і выдаткаваць іх больш мэтазгодна. Органы контрольнай комісіі і РСІ павінны зьвярнуць увагу на гэты абсяг работы".

Неабходныя нам для прамысловасьці і сельскай гаспадаркі кадры сярэдняй і вышэйшай кваліфікацыі мы рыхтуем праз нашу сетку самых розначынных навучальных устаноў. Ад таго, як будзе пастаўлена работа ў сярэдніх і вышэйшых школах, ад іх прапускное здольнасьці, ад вярбоўкі ў гэтыя школы перш за ўсё рабочай і батрацкай моладзі, ад вытрыманай марксысцка-ленінскай ідэолёгічнай апрацоўкі вучняў, залежыць галоўным чынам вырашэньне проблемы аб кадрах. Цэлы шэраг савецкіх гаспадарчых і профсаюзных організацый да гэтага часу ўдзялялі недастатковую ўвагу пытаньням наладжваньня работы навучальных устаноў, вярбоўцы ў іх пролетарскіх элемэнтаў, кіраўніцтву выхаваўчай і асьветнай работай з падрыхтоўваемай моладзьдзю.

XIII зьезд КП(б)Б вынес цэлы шэраг рашэньняў па пытаньню аб падрыхтоўцы кадраў. Ён намеціў конкрэтныя мерапрыемствы ў гэтай галіне. Ва ўсіх рэзолюцыях, вынесеных зьездам па ўсіх дакладах, пытаньні аб кадрах знайшлі свой адбітак.

У рэзолюцыю па дакладах ЦК КП(б)Б уключаны такі спэцыяльны пункт аб кадрах:

„12. Выкананьне вялізарных задач, якія стаяць перад партыяй у галіне гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, сустракае недахоп кадраў, як адну з асноўных перашкод пасьпяховага выкананьня гэтых задач. Партыя рашуча выправіла памылкі былога кіраўніцтва Наркомасьветы, якое скажала ўстаноўку партыі і не праводзіла клясавай лініі ў падрыхтоўцы кадраў.

Зьезд даручае Цэнтральнаму комітэту КП(б)Б далейшае і няўхільнае ажыцьцяўленьне работ па выхаваньню пролетарскіх кадраў, ставячы, як мінімальную задачу, поўнае выкананьне пяцігодкі па кадрах".

У рэзолюцыі па дакладу аб рабоце профсаюзаў намечана цэлая сыстэма мерапрыемстваў, якія павінны быць праведзены профсаюзамі ў галіне будаўніцтва школ, тэхнікумаў і ВНУ. Пытаньні выхаваньня студэнцтва, вярбоўкі моладзі ў школы, якія рыхтуюць кадры і г. д.,— усё гэта знайшло свой адбітак у гэтай рэзолюцыі:

„Профсаюзы павінны значна больш пашырыць сваю работу па падрыхтоўцы рабочых і батракоў ў навучальныя ўстановы," гаворыцца ў гэтай рэзалюцыі, „зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на падрыхтоўку жанчын, якія складаюць зусім нездавальняючую колькасьць як на падрыхтоўчых курсах, так і ў навучальных установах.

Удзел профсаюзаў у падрыхтоўцы новых кадраў спэцыялістых праз спэцыяльныя навучальныя ўстановы павінен быць рашуча ўзмоцнены, проforganізацыям неабходна ўсутыч падыйсьці да справы працы і жыцьця навучальных устаноў, максымальна садзейнічаючы і дапамагаючы ім ў падрыхтоўцы спэцыялістых.

Самая галоўная ўвага ў гэтай працы павінна быць зьвернута на пытаньні комплектаваньня, пры абавязковым палепшаньні

соцскладу, самаачыстцы навучальных устаноў ад соцыяльна-варожага элемэнту, правядзеньне бесьперапыннай вытворчай практыкі і сувязь студэнцтва з прамысловасьцю, сельскай гаспадаркай, рабочымі масамі, устанаўленьне ў навучальных установах моцнай дысцыпліны, разгортваньне соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва на вучобе, канчатковую перабудовую і арганізацыю навучальных устаноў адпаведна мэтавым спэцыяльным устаноўкам па яскрава вызначаных кваліфікацыях, уздым політыка-выхаваўчай работы сярод навучаемых, падрыхтоўку новых кадраў навуковых працаўнікоў з пролетарскага асяродку, далейшае палепшаньне матар'яльна-бытавых умоў студэнцтва.

Профсаюзы ў гэтым годзе з ўсёй сур'ёзнасьцю паставілі і практычна разьвязваюць пытаньне аб сыстэматычнай школьна-курсавой падрыхтоўцы профсаюзных кадраў (арганізацыя рэспубліканскай школы профруху на 130 чалавек, курсы сельгаслесрабочых на 240 чал., арганізуюцца 6-мес. курсы нізавога актыву на 1000 чал., курсы новых старшынь і сэкратароў ФЗМК на 320 чл., профпрапагандыстых на 100 чал. і г. д., на што ЦСПСБ і ЦП Саюзаў вызначана 817000 рублёў і СГЛР 70000 р.).

Зьезд прапануе профсаюзам значна больш павялічыць асыгнаваньні на падрыхтоўку кадраў за лік далейшага скарачэньня адміністрацыйных выдаткаў".

XIII зьезд КП(б)Б не абмежаваўся толькі агульнымі паказаньнямі па пытаньню аб падрыхтоўцы неабходных нам кадраў, але на ім разглядаліся пытаньні конкрэтна, якія датычацца і кадраў паасобных галін нашага будаўніцтва. У радзе рэзолюцый яго мы бачым спэцыяльныя рашэньні па пытаньню аб падрыхтоўцы кваліфікаванай рабочай сілы, аб спэцыялістых для сельскае гаспадаркі, аб кадрах для прамысловасьці пры чым усе гэтыя пытаньні разгледжаны на зьезьдзе даволі ўсебакова. На ім вынесены цэлы шэраг практычных паказаньняў. Напрыклад, па пытаньню аб падрыхтоўцы высокакваліфікаваных спэцыялістых для прамысловасьці, аб падрыхтоўцы кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў у рэзолюцыі па пытаньню аб ходзе выкананьня пяцігадовага пляну разьвіцьця прамысловасьці БССР зафіксавана:

„У мэтах якаснага палепшаньня комскладу прамысловасьці, са ўсёй рашучасьцю працягваць вылучэньне найбольш актыўных рабочых на новыя пасады ў прамысловасьці, забясьпечыўшы гэтае вылучэньне неабходнымі мерапрыемствамі, як-та: курсы, завочнае навучаньне, забясьпечаньне літаратурай і г. д.

Улічваючы тое, што ва ўмовах рэконструкцыі і ўзьняцьця прамысловасьці на больш высокую тэхнічную базу, задача забясьпечаньня прамысловасьці неабходнымі высокакваліфікаванымі тэхнічнымі кіраўнікамі мае вялікае значэньне, зьезд ухваляе рашэньне ЦК КП(б)Б аб адчыненьні ў БССР ВТНУ і даручае ўжыць захады да бліжэйшага ажыцьцяўленьня гэтага мерапрыемства, максымальна пашырыўшы прыём студэнтаў у ВТНУ, зьвярнуўшы пры гэтым увагу на соцыяльна-клясавы адбор, і адначасова з гэтым паскорыць тэрміны навучаньня, утварыўшы для гэтага адпаведныя ўмовы. Разам з гэтым працягваць практыку контрактацыі студэнтаў у ВТНУ СССР".

Нашым гаспадарчым арганізацыям, кіраўніком гэтых арганізацый і прамысловых прадпрыемстваў, дырэктаром тэхнічных ВНУ трэба цьвёрда ведаць гэтыя рашэньні і праводзіць іх у жыцьцё.

Ня менш падробныя паказаньні дадзены зьездам і па пытаньні аб падрыхтоўцы кваліфікаванай рабочай сілы. У гэтай-жа рэзолюцыі па гэтым пытаньні сказана:

„Выходзячы з вялічэзнай патрэбы ў кваліфікаванай рабочай сіле, у зьвязку з перавышаючымі пяцігодку тэмпамі разьвіцьця, існуючая сетка школ фабвучнёўства і школ масавых профэсій у прамысловасьці павінна быць значна пашырана.

Побач з пашырэньнем школ фабвучнёўства, як асноўнай формай падрыхтоўкі кваліфікаваных рабочых з падлеткаў, на бліжэйшыя гады неабходна шырока разьвіць кароткатэрміновую падрыхтоўку рабочай сілы (курсы і вучэбна-установачныя базы, ЦІП, брыгаднае вучнёўства, курсы па падвышэньні кваліфікацыі і перакваліфікацыі беспрацоўных і г. д.) з абавязковым паступовым падвышэньнем вытворча-тэхнічнага і культурна-палітычнага ўзроўню падрыхтаваных праз паказаныя формы падрыхтоўкі рабочых.

Асабліва значэньне ва ўмовах соцыялістычнай рацыяналізацыі вытворчасьці мае падрыхтоўка новых кадраў высокакваліфікаваных рабочых (устаноўшчыкаў, манцёраў, брыгадзіраў і г. д., а таксама ніжэйшага і сярэдняга тэхнічнага пэрсоналу (майстроў, брыгадзіраў і г. д.).

Хто з нас ня ведае, як востра стаіць пытаньне з кадрамі для нашых калгасаў і саўгасаў? Без падрыхтоўкі кадраў адданых справе соцыялістычнага будаўніцтва, якія могуць кіраваць далейшым разгортваньнем будаўніцтва колектыўных гаспадарак, без спэцыялістых культурных колектыўных гаспадарак і саўгасаў, без наладжваньня работы ўжо існуючых колектыўных гаспадарак, нам празьмерна цяжка спраўляцца з тымі задачамі, якія стаяць перад намі ў галіне будаўніцтва колгасаў і саўгасаў, у галіне соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

Нам патрэбны зараз такога роду кадры для сельскае гаспадаркі, якія пранікнуты задачамі соцыялістычнага будаўніцтва, ідэямі перабудовы нашае сельскае гаспадаркі на соцыялістычных падставах, умелі-б організоўваць масы, кіраваць імі, уздымаць іх творчы энтузыязм, уцягваць гэтыя масы ў колектыўную працу і ў той-жа час якія маглі-б прымяняць у галіне сельскае гаспадаркі найноўшыя дасягненьні навукі і тэхнікі.

Дэлегаты зьезду прабавалі ўсялякім чынам вырашыць найбольш пасьпяхова пытаньне аб кадрах для нашага соцыялістычнага сэктару. Тав. Крохмаль у сваім выступленьні казаў, напрыклад, аб тым, што

„трэба рэальна падумаць над тым, каб пры колгасных цэнтрах стварыць цэлую сыстэму курсаў па падрыхтоўцы работнікаў для колгасаў, трэба паставіць пытаньне аб тым, каб організаваныя курсы працавалі сыстэматычна і падрыхтоўвалі колгасныя кадры“.

Зьезд і па гэтым пытаньні вынес яскравыя рашэньні. У рэзолюцыі па пытаньні аб колгасным руху і ўзьняцьці сельскае гаспадаркі БССР зафіксавана:

„20. Выходзячы з таго, што далейшае пасьпяховае разьвіцьцё колектывізацыі зьвязана ў першую чаргу з падрыхтоўкаю неабходных кваліфікаваных кадраў—організатараў колектыўнага вытвару ў сельскай гаспадарцы, зьезд ставіць перад усімі організацыямі, як адну з асноўных задач, задачу падрыхтоўкі кадраў, якая павінна ажыцьцяўляцца шляхам далейшай пасылкі і вылучэньня на кіруючую працу ў колгасы індустрыяльных рабочых,

якія могуць хутка асвоіць спэцыфічныя асаблівасьці працы ў сельскай гаспадарцы і перанесьці практыку колектыўнай працы з прамысловасьці ў разьвіцьцё сельскай гаспадаркі; выяўленьня лепшых організацыйных талентаў з саміх колгасьнікаў, вылучаючы іх на адказныя кіруючыя пасады ў колгасах і іх аб'яднаньнях і на абавязковае захаваньне прынцыпу пролетарскай дэмократыі пры выбарах у праўленьне калгасаў.

Наладзіць масавую падрыхтоўку кадраў з саміх калгасьнікаў, прапускаючы праз курсы, сталыя школы, тэхнікумы і вышэйшыя навучальныя сельска-гаспадарчыя ўстановы, удзяліўшы асаблівую ўвагу комплектаваньню гэтых кадраў за лік калгаснай і батрацкай моладзі, у першую чаргу за лік членаў КСМ. Дабіцца шырокага разгортваньня працы вытворчых нарад, а таксама і дэлегацкіх сходаў колгасьніц, пабудаваўшы іх працу так, каб забясьпечыць рост колгасных кадраў наогул і ў асаблівасьці з жанчын, вылучаючы іх на адказныя кіруючыя пасады.

21. Соцыялістычнае будаўніцтва на вёсцы набыло такія памеры і такое значэньне, якія патрабуюць поўнага прыстасаваньня да гэтых задач ўсяе сыстэмы вышэйшай і сярэдняй сельска-гаспадарчай асьветы ў БССР, з тым, каб яна цалкам адпавядала і выконвала задачы падрыхтоўкі кадраў да рэконструяванай і спэцыялізаванай сельскай гаспадаркі.

Разам з пашырэньнем прапускной здольнасьці сеткі навучальных сельска-гаспадарчых устаноў, асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на ідэолёгічнае выхаваньне студэнтаў і вучняў у напрамку падрыхтоўкі з іх сапраўдных організатараў соцыялістычнай сельскай гаспадаркі".

Усе гэтыя мерапрыемствы па пытаньні аб падрыхтоўцы кадраў для ўсяго нашага гаспадарчага і культурнага будаўніцтва намі безадкладна павінны выконвацца. Мы павінны, аднак, памятаць, што нам вельмі цяжка будзе справіцца з задачамі ў гэтай галіне, калі нам ня будзе аказана адпаведная дапамога з боку Савецкага саюзу. Тэмпы нашага гаспадарчага і культурнага будаўніцтва настолькі вялікія, што мы, ня гледзячы на вялікае пашырэньне сеткі тэхнікумаў, профшкол і ВНУ, якія спэцыяльна рыхтуюць кадры, ня гледзячы на тое, што, скажам, колькасьць ВНУ па БССР у гэтым годзе падвоілася больш чым у два разы, наўрад ці мы справімся самі з падрыхтоўкай кадраў. Мы павінны будзем з БССР пасылаць рабочых, батракоў, колгасьнікаў у ВНУ і тэхнікумы, якія знаходзяцца ў іншых рэспубліках Савецкага саюзу, каб адтуль пасьля атрымаць патрэбных нам спэцыялістаў.

„У сувязі з тым, што мы ня зможам забясьпечыць сябе дастатковымі кадрамі па нашай пяцігодцы праз нашы навучальныя ўстановы ў Беларусі, перад намі становіцца задача аб накіроўваньні на вучобу дзяцей рабочых, колгасьнікаў, беднаты, серадьнякоў і батракоў у адпаведныя навучальныя ўстановы Саюзу, і мы павінны дабівацца таго, каб Саюз нам дапамагаў кадрамі для нашага будаўніцтва. Задачы падрыхтоўкі і забясьпечаньня пролетарскай, партыйнай і комсамольскай праслойкай гэтых падрыхтоўваемых кадраў, проблема падрыхтоўкі кадраў для гаспадаркі Беларусі ў іншых раёнах Саюзу, пытаньне дапамогі з боку Саюзу ў адносінах кадраў для беларускай гаспадаркі,—усе гэтыя задачы трэба паставіць для вырашэньня з усёй рашучасьцю".

*(Працяг будзе)*

Г. Бондар

# Аграрная палітыка беларускай кандрацьцеўшчыны

## Сацыялістычнае будаўніцтва і клясавая барацьба.

Краіна дыктатуры пролетарыяту ўступіла ў пэрыод разгорнутага сацыялістычнага наступленьня па ўсіх фронтах. Мы дабіліся рашучых зрухаў як у галіне разьвіцьця прамысловасьці, так і ў галіне сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Зрухі ў сельскай гаспадарцы адбыліся на фоне агульнага пад'ёму народнае гаспадаркі і значнага дасягненьня буйнае сацыялістычнае прамысловасьці. Сельская гаспадарка паднялася на новую ступень сілай росту сацыялістычных элемэнтаў як гораду, так і вёскі.

Разгортваемая прамысловасьць зьяўляецца вытокай рашучай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі на новай аснове. Гэта вядучая роля прамысловасьці адчуваецца ва ўсім народна-гаспадарчым процэсе з усёй відочнасьцю.

Па меры росту вытворчасьці, сродкаў вытворчасьці і пашырэньня маштабаў сельска-гаспадарчага машынабудаўніцтва, наша адсталае, распыленае, мала рацыянальнае земляробства стала паднімацца на ўзровень індустрыяльнай вытворчасьці. У гэтым процэсе росту сацыялістычнай прамысловасьці перш за ўсё знайшлі апору саўгасы і калгасы. Іх будаўніцтва і рост у вядучым маштабе сталі магчымымі толькі пры зьдзейсьненьні вядучай ролі сацыялістычнай індустрыі. Тым фактам, што ў процэсе бурнага росту сацыялістычнай прамысловасьці, саўгасы і калгасы займаюць вядучую ролю ў сельскай гаспадарцы, у корані абвергнуты усе дробнабуржуазныя тэорыі і прароцтвы правых ухілістых аб пагібельнасьці палітыкі партыі.

З ростам усяе народнае гаспадаркі, з ростам прамысловасьці павялічваецца актыўнасьць рабочае клясы і бядняцка-серадняцкага сялянства. Вопыт ліквідацыі прарываў на розных вучастках прамысловасьці паказаў, як вялік працоўны ўздым, рабочае клясы, які найвялікшы энтузыязм праяўляюць рабочыя многіх дзесяткаў і сотняў заводаў. Соцспаборніцтва і ўдарніцтва сталі пераважнымі формамі актыўнасьці рабочых і іх удзелу ў будаўніцтве. Гэта актыўнасьць абвяргае ўсякія пэсымістычныя прадбачаньні опортуністых, бо гэта ўзрастаючая актыўнасьць рабочае клясы, яе адданы гэроізм у барацьбе за пяцігодку, рост яе клясавай сьвядомасьці і ўсё большая кансалідацыя ўсіх сіл вакол партыі, узмацненьне арганізацыі беднаты і калгасьнікаў, як апора пролетарыяту ў вёсцы, гэта зьяўляецца рашаючым фактарам для посьпехаў далейшага разгортваньня сацыялістычнага наступленьня, гэта зьяўляецца асновай для далейшых перамогаў у барацьбе за ўцягненьне на социялістычны шлях разьвіцьця новых мільёнаў беднякоў і сераднякоў—адзінаасобнікаў.

Але гэта пасьпяховасьць сацыялістычнага будаўніцтва выклікае шалёнае супраціўленьне клясавых ворагаў. Клясавая барацьба ва ўсіх яе праяўленьнях абвастраецца і набывае новыя формы ў сувязі з пасьпяховым пераходам да больш складаных задач сацыялістычнай рэканструкцыі і ў сувязі з правядзеньнем палітыкі ліквідацыі кулацтва як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі.

Разгром на шмат якіх вучастках клясавага ворага ўсё яшчэ не адзначае паслабленьня клясавай барацьбы, наадварот, рост яго супраціўленьня зьяўляецца нявухільным на даным этапе. Кулак яшчэ праяўляе і будзе праяўляць актыўнасьць, будзе спрабаваць сарваць хлебныя і мясныя нарыхтоўкі, як спэкулянт—узьнімаць цэны, спрабаваць сарваць рабочае забесьпячэньне. У калгасах кулацтва праз сваіх падгалоскаў разгортвае падрыўную працу, спэкулюючы на асобных няўдачах, унутраных непаладках, выкарыстоўваючы цяжкасьці таварнага забесьпячэньня, хапаючыся за разрыў цьвёрдых загатоўчых і спэкулятыўных цэн.

Цесная сувязь, якая існуе паміж недабітым кулацтвам і работай контррэвалюцыйных і шкодніцкіх груп, які фармуюцца галоўным чынам у сувязі з замежнымі капіталістымі, з рэшткай гарадзкой буржуазіі, абшарнікаў, царскіх чыноўнікаў і іншых контррэвалюцыйных элемэнтаў, у апошні час стала яшчэ больш відавочнай.

Пераход краіны да шпаркіх тэмпаў сацыялістычнай рэканструкцыі, поўны крах надзей буржуазных клясаў і груп, варожых будаўніцтву соцыялізму, на перараджэньне дыктатуры пролетарыяту штурхнулі іх на шлях адкрытай барацьбы супроць пралетарскай дыктатуры, супроць савецкай улады мэтадамі шкодніцтва, злачыннымі контррэвалюцыйнымі плянамі стварэньня ў краіне голаду і затрыманьня справы калектывізацыі.

Перад новым пад'ёмам сацыялістычнага будаўніцтва і ў абставінах абвостранай клясавай барацьбы асабліва выразна праяўляецца роля правых опортуністых, як агентуры клясавага ворага ў партыі. Гэтыя правыя элемэнты ў партыі і прымірэнцы да іх ліюць ваду на млын клясавых ворагаў і сваёй палітыкай дапамагаюць контррэвалюцыйным элемэнтам нашай краіны.

Навокал выкрытай партыяй кандрацьцеўшчыны аб'ядналіся для агульнай барацьбы з пралетарскай дыктатурай і адкрытыя тэорэтыкі кулацка-капіталістычнага разьвіцьця савецкай вёскі і дробнабуржуазныя ўтапісты.

Сацыяльна-эканамічнай глебай, на якой вырасла кандрацьцеўшчына зьяўляецца прагніўшы, ахоплены зараз сударгамі крызісу сусьветны капітал. Сусьветны імпэрыялізм зьяўляецца самым заклятым ворагам дыктатуры пролетарыяту. Вось чаму ўсякія шкодніцкія арганізацыі няўхільна абапіраюцца на сусьветны капіталізм, як на сваю ідэёвую і матэрыяльную базу. Беларуская кандрацьцеўшчына была шчыльна зьвязана з польскім фашызмам. Таму і ня дзіва, што нацыянал-кандрацьцеўшчына мела падтрыманьне ад фінансавых тузоў імпэрыялізму і зьяўлялася адным з агентаў капіталу, якому была даручана арганізацыя нізрынуцьця савецкай улады ўнутры і падрыхтоўка ўмоў узброенага нападу на СССР.

Унутры СССР карэньні контррэвалюцыйных шкоднікаў заключаюцца ў рэштках тых капіталістычных элемэнтаў, якія маюцца ў нашай краіне ў выглядзе кулацкай часткі вёскі і буржуазных элемэнтаў у горадзе. Інтарэсы кулака, інтарэсы капіталістычных элемэнтаў вёскі і гораду—вось што акрыляла кандрацьцеўшчыну і складала яе

ідэёвы і сацыяльны зьмест. Сацыяльнай базай кандрацьцеўшчыны зьяўляўся і той пласт антысавецкіх спэцыялістых, якія ўяўляў сабою асколкі клясы капіталістых. Праграма, якая мелася ў гэтай групе буржуазнай інтэлігенцыі, нічым па сутнасьці не адрозьніваецца ад праграм, якія меліся ва ўсіх іншых контррэвалюцыйных групах.

Мэта, якую ставілі перад сабой шкоднікі ў галіне сельскай гаспадаркі, зводзілася да таго, каб усімі мерамі перашкодзіць сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і садзейнічаць разьвіцьцю і ўзмацненьню капіталістычных элемэнтаў вёскі.

У БССР контррэвалюцыйная кандрацьцеўшчына знайшла сабе надзейнага памочніка ў групе нацыянал-дэмократаў, якія аб'ядняліся для агульнага шкодніцтва ў галіне сельскай гаспадаркі вакол былога народнага камісара земляробства Прышчэпава.

Беларускія кандрацьцеўцы сьцьвярджалі ня толькі тое, што кулак зьяўляецца „адзіным носьбітам прогрэсу", але яны, працуючы ў нашых савецкіх, урадовых і навукова-дасьледчых установах рабілі ўсё, каб узмацніць пазыцыю кулацтва, ачысьціць шлях для яго разьвіцьця і тым самым абмежаваць магчымасьць пасьпяховага росту сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі.

У адпаведнасьці з гэтымі сваімі ўстаноўкамі беларускія кандрацьцеўцы выпрацавалі і тэорэтычную праграму дзейнасьці, накіраваную на рэстаўрацыю капіталізму ў БССР.

Беларускія кандрацьцеўцы, ва умовах БССР, шчыльна зрасьліся з нацыянал-дэмократызмам. Яны выпрацавалі ня толькі сваю ўласную тэорыю утварэньня самастойнай беларускай народнай рэспублікі, але яны вызначалі і больш жаданы для іх капіталістычны шлях разьвіцьця народнай гаспадаркі.

Тэорэтычнае афармленьне імкненьняў беларускага кулацтва і капіталістых пачалося ўжо параўнаўча даўно. Калі возьмем апошнюю работу нацыянал-дэмократаў у галіне разьвіцьця сельскай гаспадаркі, то ў іх знойдзем акрэсьленыя кірункі на падтрыманьне росту капіталістычных элемэнтаў у сельскай гаспадарцы. Так, напрыклад, ў кніжцы „Характарыстыка сельскай гаспадаркі Беларусі па дадзеным чыгуначных перавозак", аўтарам якой зьяўляюцца нацыянал-дэмократы Ждановіч і Ярашчук, мы можам знайсьці тэорэтычнае афармленьне іх праграмы. У прадмове Кісьлякова да гэтай кнігі чытаем:

> „Мы амаль што ва ўсіх работах па сельскай гаспадарцы Беларусі пакуль што зусім ня маем асноўных поглядаў на сутнасьць тых зьмен, што адбыліся і адбываюцца ў сельскай гаспадарцы, а ў сувязі з гэтым мы ня маем выразнага і навукова-асьветленага шляху яе далейшага разьвіцьця. Урэшце, важнейшыя пытаньні зямельнай і сельска-гаспадарчай політыкі Беларусі больш грунтуюцца на інтуіцыі, чым на адпаведных лічбах, высьвятленьнях і ведах. Вёска патрабуе канкрэтных адказаў на канкрэтныя практычныя пытаньні, высунутыя распачатым процэсам перабудовы яе сельскай гаспадаркі. Зразумела, што мы гэты адказ можам даць без памылкі толькі тады, калі мы будзем мець добра распрацованую тэорыю разьвіцьця нашай сельскай гаспадаркі, калі мы пабудуем мясцовую беларускую сельска-гаспадарчую эканомію".

Як бачыце, гэта вынятка гаворыць за тое, што беларускі нацыянал-дэмократызм ня лічыць шлях разьвіцьця нашай вёскі, вызначаны нашай партыяй, ужытным для сабе, а імкнецца выпрацаваць для сябе жаданы шлях разьвіцьця сельскай гаспадаркі; апрача таго, гэта

вынятка ставіць пытаньне разьвіцьця сельскай гаспадаркі ня з клясавага пункту гледжаньня, ня з пункту гледжаньня пролетарыяту, а з пункту гледжаньня агульнага разьвіцьця ўсяе беларускай нацыі, у тым ліку кулакоў, абшарнікаў і буржуазіі.

Каб даказаць неабходнасьць падобнага разьвіцьця ў далейшым, беларускія нацыянал-дэмократы сьцьвярджалі, што ў Беларусі ня было і няма абшарнікаў, ня было і няма кулакоў, і што ў Беларусі ёсьць толькі „бедны беларускі народ“.

Такая ўстаноўка ёсьць працяг старых нашаніўскіх сьцьвярджэньняў аб тым, што,

> „ня гледзячы на розныя падзелы, спрэчкі і звадкі, усе беларусы — гэта родныя браты, адна сям'я, што дзевяцімільённая грамада раскіданых па вагромністаму прастору беларусаў—гэта ёсьць адзін агульны народ“.

Пісалася гэта ў газэце „Наша Ніва“ у 1912 годзе. Але ёсьць дакуманты, якія сьцьвярджаюць гэта-ж самае і значна пазьней. Так, у сваёй кніжцы, выдадзенай у апошнія гады „Гісторыя Беларусі“, нацыянал-опортуністы Ігнатоўскі піша:

> „Беларусь амаль што ня ведае тыпу рускага кулака, міраеда, які як павук акутваў усю вёску даўгавымі абавязацельствамі“ (стар. 233).

Як бачыце, беларускі нацыянал-дэмократызм самых даўніх часоў да сучаснага моманту сьцьвярджае аб адзінстве нацыі, аб адсутнасьці на Беларусі эксплёататарскіх клясаў. Гэта шкодная, антыпралетарская ўстаноўка партыяй разам з рабочай клясай БССР выкрыта, выкрыты і яе канкрэтныя прапаведнікі.

У адпаведнасьці з сваімі поглядамі нацыянал-дэмократы выпрацавалі і сваю асобную палітыку; як вядома, адным з асноўных момантаў для пад'ёму вытворчых сіл у сельскай гаспадарцы кандрацьцеўшчына высоўвала пытаньне аб зьнішчэньні манаполіі замежнага гандлю. Кандрацьцеў пісаў:

> „Адным з надзвычайна значных сродкаў палітыкі зьяўляецца стварэньне ёй адпаведных умоў замежнага гандлю. Пакуль расейская сельская гаспадарка будзе адарвана ад сусьветнага рынку, мы ня можам разьлічваць на посьпехі шпаркага яе адраджэньня. Толькі сувязь з сусьветным рынкам можа спрыяць шпаркаму палепшаньню кан'юнктуры для расейскай сельскай гаспадаркі. Толькі яна можа ўліць у расейскую сельскую гаспадарку новыя сілы. Вось чаму неабходна зьнішчэньне перашкод, якія стаяць на шляху да гэтай сувязі. Гэтыя перашкоды мы бачым ва ўмовах сучаснай нацыяналізацыі замежнага гандлю, якія павінны быць рэфармаваны. Ад сучаснага прыгоннага становішча мы-павінны, у той ці іншай форме пасьлядоўнасьці, перайсьці да звычайных умоў міжнароднага гандлю. (Вестнік с.-х., № 6—за 1922 год).

У гэтым напрамку патрабуе і вучань Кандрацьцева, нацыянал-дэмократ Ждановіч. У сваей памянёнай вышэй кніжцы Ждановіч піша:

> „Разьвіцьцё сельскай гаспадаркі Беларусі залежыць галоўным чынам ад замежнага рынку“.

Беларуская кандрацьцеўшчына імкнулася разьвіцьцё сельскай гаспадаркі ў БССР накіраваць па капіталістычнаму шляху. У сваіх работах яны ўсякім чынам імкнуліся даказаць перавагу буйных кулацкіх

гаспадарак. Для абгрунтаваньня сваіх сьцьвярджэньняў яны праводзілі дасьледваньні, бяручы для гэтай мэты выключна заможніцкую праслойку беларускай вёскі. Для ўзмацненьня сваіх поглядаў яны спасылаліся на вопыт іншых капіталістычных краін. Так, узяўшы для свайго дасьледваньня кулацкія гаспадаркі, Ждановіч у сваёй кніжцы „Да пытаньня аб умовах разьвіцьця рыначнай сьвінагадоўлі на Беларусі“ на стар. 10-й робіць наступныя вывады:

„Калі сельская гаспадарка Польшчы і Ўсходняй Прусіі ў арганізацыйна-вытворчых адносінах можа быць прызнана ў вядомым умоўным сэнсе паказьнікам бліжэйшага разьвіцьця сельскай гаспадаркі Случчыны і падобных да яе раёнаў паўночна-заходняй часткі Беларусі, то, з другога боку, арганізацыйна-вытворчая структура сельскай гаспадаркі на Случчыне, ў сваю чаргу, можа быць прызнана да некаторай ступені паказьнікам бліжэйшага разьвіцьця некаторых іншых раёнаў Беларусі і, у першую чаргу, мне здаецца, „Магілеўшчыны“.

Значыць, ня шлях калгаснага разьвіцьця вызначае Ждановіч для гаспадарак Слуцкага раёну, а разьвіцьцё цераз кулацкія капіталістычныя гаспадаркі, па прыкладу іншых краін. У гэтай працы ў поўнай адпаведнасьці з поглядамі свайго настаўніка Кандрацьцева Ждановіч сьцьвярджае, што

„ва ўмовах плянавага гаспадараньня зрабіць прагноз яшчэ цяжэй і больш рызыкоўна, чым ва ўмовах гаспадаркі, якая стыхійна разьвіваецца, бо ў першай менш адносна устойлівай законамернасьці, якая стыхійна складаецца, але якую можна пазнаць, а больш мімавольнага, мэтавага ўмяшаньня, характар і вынікі якога прадбачыць надзвычайна цяжка“.

Як бачыце, у Ждановіча выходзіць, што ва ўмовах стыхійна разьвіваемай капіталістычнай гаспадаркі скласьці пэрспэктыву разьвіцьця лягчэй, чым ва ўмовах плянавай гаспадаркі. Да такога абсурду можна дагаварыцца толькі самаму шчыраму буржуазнаму прыхвасьцьню, які, ні перад чым ня спыняючыся, гатоў з пенаю ў роце абараняць капіталістычную сыстэму.

## Супроць індустрыялізацыі і саўгасна-калгаснага будаўніцтва

Пры складаньні першай пяцігодкі па сельскай гаспадарцы Беларусі нацыянал-кандрацьцеўцы праблему разьвіцьця вытворчых сіл зьвязвалі выключна з разьвіцьцём індывідуальнай гаспадаркі і ў адпаведнасьці з гэтым распрацоўвалі сыстэму мерапрыемстваў. Яны ўсімі мерамі імкнуліся фарсаваць расьсяленьне на хутары, атрубы і дробныя пасёлкі, каб стварыць буйнага кулака і тым самым пашкодзіць працэсу калектывізацыі. Так, у кніжцы, выдадзенай у 1925 годзе — „Сельская гаспадарка Беларусі і мерапрыемствы па яе аднаўленьню“, пад рэдакцыяй Прышчэпава, чытаем:

„Бліжэйшая пэрспэктыва аднаўленьня сельскай гаспадаркі залежыць, галоўным чынам, ад сялянскіх гаспадарак, якім належыць 99 проц. зямлі сельска-гаспадарчага прызначэньня“.

У складзеных прышчэпаўшчынай пэрспэктыўных плянах ня было ніякай, ні сацыяльнай, ні тэхнічнай, рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Больш таго, у гэтых плянах бралася ўстаноўка выключна на разьвіцьцё дробнай гаспадаркі. Так, у кніжцы „Матэрыялы да 5-гадовага

пэрспэктыўнага пляну народнай гаспадаркі БССР" чытаем, што ў далейшым на Беларусі няма ніякай магчымасьці разьвіваць саўгасы і калгасы.

„Усе гэтыя гаспадаркі былі арганізаваны на зямлі дзяржаўнага фонду, ство; анага пры нацыяналізацыі зямлі непрацоўных уладароў. У сучасны момант усе гэтыя фонды вычарпаны і далейшай магчымасьці на ўтварэньне з іх саўгасаў ці калгасаў няма. Магчыма павялічэньне ліку калгасаў за кошт найбольш слабых саўгасаў, што і ўлічваецца Дзяржплянам пры складаньні пэрспэктыў для гэтых гаспадарак. Пры сучаснай пабудове сельскай гаспадаркі, яе тэхнікі і прадукцыі, таксама няма асаблівай падставы разьлічваць на працягу бліжэйшага часу на значны пераход да калектыўных відаў зямлякарыстаньня адзінаасобных гаспадарак працоўнага тыпу".

„Такім чынам, саўгасы і калгасы не набываюць на працягу надыходзячай пяцігодкі асаблівага значэньня, як фактар непасрэднага аграмаджаньня сельскай гаспадаркі" (стар. 38 і 39).

Вось устаноўкі беларускай кандрацьцеўшчыны. Але гэтыя іх кірункі ўшчэнт разьбіты самімі бядняцка-серадняцкімі масамі, бо ў сучасны момант каля 20 проц. с. г. БССР ужо калектывізаваны. Саўгаскі сэктар, які, па іх думцы, ня меў ніякіх пэрспэктыў для свайго разьвіцьця, за апошнія два гады вырас у некалькі разоў, і да канца пяцігодкі пад саўгасы БССР проектуецца да аднага мільёну га сельска-гаспадарчай плошчы, замест 50.000 га, якія займалі саўгасы ў пэрыод складаньня першай пяцігодкі. Калгасны сэктар да канца пяцігодкі ахопіць у асноўным усе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі БССР. Цікава адзначыць, што ўжо ў бягучым годзе сацыялістычны сэктар с. г. дае 30 проц. таварнай прадукцыі ўсяе с. г. Гэта гаворыць аб надзвычайна шпаркім росьце саўгасаў і калгасаў і аб значным павялічэньні іх удзельнай вагі ў сельскай гаспадарцы.

У плянах, складзеных раней прышчэпаўшчынай, поўнасьцю адсутнічала праблема трактарызацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. Складаныя машыны, па іх думцы, таксама ня мелі пэрспэктыў на сваё пашырэньне ў сельскай гаспадарцы. Так, па гэтым пытаньні ў тых-жа „Матэрыялах" мы чытаем:

„У выніку таго, што маюцца лішкі рабочых рук, пашырэньне іх (складаных машын) ня мае вялікіх пэрспэктыў у бліжэйшым будучым. Няма таксама пэрспэктыў на пашырэньне ў бліжэйшыя гады сярод сялянскіх гаспадарак трактароў, таму што лёгкасьць апрацоўкі глебы і рэльефнасьць мясцовасьці даюць магчымасьць задаволіцца ўжываньнем конскай рабочай сілы, а неабходнасьць ужываньня яе і для іншых патрэб гаспадаркі— малацьба, праца сячкарні, а таксама для асабістых паездак, заработку ў лесе пры існуючых умовах гаспадаркі робіць яе незаменнай".

Індустрыялізацыя для беларускай кандрацьцеўшчыны не зьяўлялася асноўным рычагом разьвіцьця народнай гаспадаркі. Апрача таго, разьвіцьцё індустрыі яны ставілі ў залежнасьць ад разьвіцьця сельскай гаспадаркі, таму і ўсе мерапрыемствы дзяржавы, па іх думцы, у першую чаргу павінны быць накіраваны не на разьвіцьцё прамысловасьці, а на разьвіцьцё сельскай гаспадаркі.

„Вырашэньне асноўнай задачы разьвіцьця вытворчых сіл народнай гаспадаркі Беларусі залежыць перш за ўсе ад характару і тэмпу разьвіцьця яе сельскай гаспадаркі".

І далей: „Беларусь—краіна сельскай гаспадаркі, і разьвіцьцё прамысловасьці на яе тэрыторыі ў значнай ступені залежыць ад разьвіцьця сельскай гаспадаркі“ (пэрспэктыўны плян на 1927 г.). (Стар. 109, 136).

З пададзеных вынятак мы бачым ня толькі нацыянальную абмежаванасьць аўтараў гэтых плянаў, але і неразуменьне, таго, што толькі прамысловасьць і разьвіцьцё тэхнікі можа паставіць земляробства на новы шлях пасьпяховага прасоўваньня наперад таму, што толькі:

„Буйная машынная прамысловасьць і перанясеньне яе ў земляробства ёсьць адзіная эканамічная база, база соцыялізму, адзіная база для пасьпяховай барацьбы за пазбаўленьне чалавецтва ад ярма капіталу“ (Ленін).

Як вядома, асабліва вялікае значэньне надаваў Ленін разьвіцьцю прамысловасьці ў нашай, пераважна сялянскай, краіне. Ён гэтым самым паказаў, што далейшае разьвіцьцё Савецкага саюзу, а значыць, і БССР павінна пайсьці не па шляху арганізацыі а па шляху індустрыялізацыі, па шляху разьвіцьця прамысловасьці і пры захаваньні яе кіруючай ролі над усімі галінамі народнай гаспадаркі.

„Сапраўднай і адзінай базай,—казаў Ленін ў сваім дакладзе на канфэрэнцыі ў 1921 г., для ўзмацненьня рэсурсаў, для стварэньня соцыялістычнай грамады, зьяўляецца адна і толькі адна—гэта буйная прамысловасьць“. Бяз высока пастаўленай буйнай прамысловасьці ня можа быць і гутаркі аб соцыялізьме наогул і тым менш можа быць гутарак аб ім у адносінах сялянскай краіны“.

Аполёгеты дробнай сялянскай гаспадаркі,—правыя апартуністы і іх падгалоскі старанна штурхалі нашае будаўніцтва на шлях аграрызацыі, бачачы ў гэтым аснову разьвіцьця народнай гаспадаркі у тым ліку і прамысловасьці. Па іх думцы, спачатку трэба аднавіць і ўзьняць сельскую гаспадарку, потым сама сабой узьнімецца і прамысловасьць. Супроць гэтай дробнабуржуазнай тэорыі, якая прапаведвала кулацкую політыку, партыя і савецкая ўлада ўзялі рашучы курс на разьвіцьцё прамысловасьці, якая зьяўляецца адзінай асновай пад‘ёму і разьвіцьця ўсяе народнае гаспадаркі. Правільнасьць і прагрэсыўнасьць гэтай рэвалюцыйнай політыкі ўжо даказана на практыцы, бо толькі дзякуючы росту сацыялістычнай прамысловасьці, пашырэньню машынабудаўніцтва і разьвіцьцю хэмічнай прамысловасьці мы набываем магчымасьць зруху сельскай гаспадаркі на новую тэхнічную і сацыяльную ступень.

„Рост народнай гаспадаркі ідзе ў нас ня стыхійна, а ў належным кірунку,—а іменна ў кірунку індустрыялізацыі, пад сьцягам індустрыялізацыі вытворчасьці, пад сьцягам росту ўдзельнай вагі індустрыялізацыі ў агульнай сыстэме народнай гаспадаркі, пад сьцягам ператварэньня нашай краіны з аграрнай ў індустрыяльную“ (Сталін - даклад на XVI партзьезьдзе).

Усім вядома, што калі разьвіваецца мэталёвая прамысловасьць з вырабам сельска-гаспадарчых машын, хэмічная, з вытворчасьцю штучных угнаеньняў і г. д., то сельская гаспадарка пачынае мець у гэтай прамысловасьці свайго магутнага памочніка, сваю апору, якая толькі і зможа, урэшце, унесьці новыя спосабы ў апрацоўку зямлі і пасьпяхова накіраваць наперад разьвіцьцё вытворчых сіл у сельскай гаспадарцы.

## За капіталістычны шлях разьвіцьця Беларускай вёскі

Адным з самых старых пунктаў дробнабуржуазнай тэорыі па аграрным пытаньні зьяўляецца сьцверджаньне аб устойлівасьці дробнай вытворчасьці ў сельскай гаспадарцы. Разьбітая марксызмам гэта тэорыя зноў была выцягнута на сьвет у нашых савецкіх умовах прышчэпаўшчынай. Ва ўмовах БССР гэты пункт кандрацьцеўскай праграмы меў поўнае прызнаньне і ляжаў у аснове палітыкі прышчэпаўшчыны. Так, у прадмове да пэрспэктыўнага пляну разьвіцьця сельскай і лясной гаспадаркі ў БССР Прышчэпаў пісаў:

„Асноўнымі пытаньнямі зямельнай палітыкі, якія могуць садзейнічаць хутчэйшаму аднаўленьню сельскай гаспадаркі і якія НКзем імкнецца правесьці ў жыцьцё, зьяўляецца, па-першае, неабходнасьць стварэньня ўстойлівага землякарыстаньня, якое ў нашых умовах мае асабліва вялікае значэньне“.

Гэта палітыка зводзілася да стварэньня мінімальных і максымальных нормаў землякарыстаньня, нормаў, якія, як гэта будзе відаць з далей пададзенага, спрыялі разьвіцьцю кулацкай гаспадаркі. У зямельным кодэксе БССР, складзеным прышчэпаўшчынай, сказана, што

„вызначэньне канечных нормаў для працоўнай гаспадаркі асобных раёнаў у БССР у адпаведнасьці з зямельным забесьпячэньнем насельніцтва, з рознай сыстэмай паляводзтва ускладаецца на НКзем“.

Карыстаючыся гэтым, НКЗ у кожным раёне утвараў дзьве нормы землянадзяленьня: мінімальную і максымальную.

Цікава адзначыць, што ніякіх тлумачэньняў да ўстаноўленых нормаў у абежніках НКзему няма. Самі-ж былыя наркамземаўскія працаўнікі і аўтар гэтых нормаў—нацыянал-дэмакрат Кісьлякоў заяўляюць, што мінімальная норма—спажывецкая, а максымальная—працоўная. Але тут-жа трэба адзначыць той факт, што максымальная норма аказалася ў два разы большай за мінімальную. І, зразумела, чым экстэнсыўней раён, тым больш разыходжаньняў паміж абедзьвюма нормамі.

Гэта разыходжаньне па ўстаноўленых у той час раёнах складае наступныя велічыні:

| С-г. раён | Мінім. норма | Максым. норма |
|---|---|---|
| 1 | 5,0 | 10,0 |
| 2 | 5.5 | 11,0 |
| 3 | 6,5 | 13,0 |
| 4 | 7,0 | 14,0 |
| 5 | 7,5 | 16,0 |

Тут-жа трэба адзначыць, што нават гэтыя нормы ня былі канчатковымі. У спэцыяльным абежніку Наркамзем, тлумачачы той-жа артыкул зямельнага кодэксу зазначае, што гэтыя нормы могуць быць паніжаны ці павялічаны. Калі дадзен сялянскай гаспадарцы вучастак горшы па якасьці глебы, па ўмовах рэльефу, па адлегласьці і г. д., дык ён павінен быць павялічаны, а калі ў лепшых умовах, дык паніжаны. Павялічэньне максымальных нормаў НКземам было ўстаноўлена да 15 проц., а паніжэньне мінімальных нормаў—да 10 проц. А так, як вядома, што ў дырэктывах партыі па агульнаму зямельнаму пытаньню зазначаецца, што кулаком павінна быць дадзена зямля горшай якасьці і далей ад сялібаў, дык гэтым абежнікам перакручвалася ўверх нагамі гэта ўстаноўка, і дэклararавалася неабходнасьць кампэнсацыі кулацтву за горшыя далёкія надзелы, і адразалася зямля ў беднаты, якая заставалася на месцы.

Такім чынам прышчэпаўшчына ня толькі давала для буйных кулацкіх гаспадарак больш зямлі, але і ўзнагароду, калі іх зямельныя вучасткі знаходзіліся ў горшых умовах, чым вучасткі дадзеныя беднаце.

Цікава адзначыць, што нават максымальныя кулацкія нормы не пашыраліся прышчэпаўшчынай на буйныя капіталістычныя гаспадаркі, якія, будучы залічанымі ў рубрыку „культурных", карысталіся зусім неабмежаванымі нормамі.

Прышчэпаўшчына гэтым самым на карысьць кулацтва скажала і другі прынцып зямельнай палітыкі савецкай улады, накіраваны ў інтарэсах разьвіцьця серадняцкіх і бядняцкіх гаспадарак.

У свой час быў выдадзены закон аб тым, што культурныя і перадавыя гаспадаркі серадняцкага тыпу, якія заводзяць шэраг новых культур і пераходзяць да лепшага гаспадараньня, карыстаюцца ільготамі. Сэнс гэтага мерапрыемства заключаецца ў тым, каб забясьпечыць разьвіцьцё ў індывідуальных, неэксплёататарскіх гаспадарках, якія знаходзяцца ў аналёгічных з усімі іншымі гаспадаркамі ўмовах, імкненьнем да інтэнсыфікацыі, каб гэтыя гаспадаркі маглі паказаць, як можна, знаходзячыся ў тых-жа умовах, разьвіць сваю гаспадарку, кожнаму бедняку і серадняку. Гэты закон паказаў, што савецкая ўлада спрыяе такому способу пад'ёму дробнай бядняцка-серадняцкай гаспадаркі. Наркамзем БССР прарабіў у гэты час іншую камбінацыю: ён залічыў у культурна-паказальныя гаспадаркі ўсякія гаспадаркі хоць-бы яны былі і эксплёататарскага тыпу, у сваім „Палажэньні" аб культурна-паказальных гаспадарках зазначыўшы толькі тое, што да іх належаць тыя гаспадаркі; „якія практычна ўжываюць у сваіх гаспадарках новыя агранамічныя мерапрыемствы і могуць зьяўляцца ўзорнымі для вакольных гаспадарак".

Як бачым, замест клясавага прынцыпу, у гэтым палажэньні была пэўная ўстаноўка на абарону капіталістычнай праслойкі вёскі. Калі ў паказальныя гаспадаркі залічваліся гаспадаркі з вялікай колькасьцю зямлі, то яны, згодна абежніку Наркамзему, не падлягалі абрэзцы. У адносінах такіх гаспадарак у абежніку Наркамзему сказана, што

> „хоць ад абрэзкі зямлі поўнасьцю не звальняюцца, аднак, па пастанове АКРЗА, захоўваюць падвышаную норму, якая не парушае існуючага шматпольнага севазвароту, адпавядаючага сучаснаму ўкладу гаспадаркі. Зьмены межаў у такіх гаспадарках пры зямляўпарадкаваньні могуць быць зроблены толькі са згоды гаспадаркі і агранамічных арганізацый".

Само сабой зразумела, што ніводзін гаспадар, які вядзе буйную перадавую гаспадарку, сам згадзіцца на абрэзку яго зямлі ня можа, і таму, як правіла, такія гаспадаркі не абразаліся. Урэшце трэба адзначыць, што аўтары „Палажэньня" забыліся на тое, што гаспадаром зямлі зьяўляецца дзяржава, і давяраць справу разьмеркаваньня зямлі самому гаспадару і аграному, які яшчэ часта не парваў з земскімі традыцыямі, зусім ня можна. Гэта ў адносінах гаспадарак, залічаных у першую катэгорыю па „Палажэньню" Наркамзему, у якіх уся гаспадарка лічылася культурнай.

Для тых-жа гаспадарак, у якіх адна якая-небудзь галіна прызнавалася культурна-паказальнай, устанаўлівалася значна падвышаная норма. Так, у гэтым-жа „Палажэньні" чытаем, што

> „гаспадаркі другой катэгорыі, пры абрэзцы іх зямельнай плошчы, захоўваюць падвышаную норму, якая адпавядае напрамку гаспадаркі, аднак ня звыш як у паўтара разы".

Сэнс падобнага становішча зразумелы. Калі ты маеш адну якую-небудзь галіну, прызнаную культурнай, то карыстаешся зямельным надзелам у паўтара разы вышэй, калі ты вырасьцеш у сапраўднага капіталістага вёскі і твая гаспадарка будзе прызнана ўся культурнай то пытаньне аб памерах зямлякарыстаньня вырашай сам. Колькі табе захочацца, столькі і атрымаеш.

Памянёныя вышэй мінімальныя і максымальныя нормы з магчымасьцю павялічэньня і памяншэньня, а таксама ўстаноўка не неабмежаванасьць так званых культурных гаспадарак прывяла да таго, што, як правіла, гаспадаркі хутарскія і кулацкія мелі большую забясьпечанасьць зямлёй. Па ўсёй Беларусі забясьпечанасьць зямлёй на адну гаспадарку складае (у сярэднім на двор) у вёсках зямляўпарадкаваных на мясцох і ў пасёлках 9 га, а на хутарох—10,2 га.

Цікава адзначыць, што беларуская кандрацьцеўшчына зусім не хаваючыся заяўляла, што ўвядзеньне нормаў мае мэту організацыі ў вёсцы капіталістычных гаспадарак. На старонцы 132 „Пэрспэктыўнага пляну“ чытаем, што:

> „Стварэньне ў БССР канечных нормаў для паасобных двароў сялянскага зямлякарыстаньня мае мэтай стварэньне эканамічна-жыцьцёвых (чытай кулацкіх—Г. Б.) гаспадарак-двароў“.

Маючы такія кірункі, вядома больш жаданай формай іх рэалізацыі было стварэньне дробна пасялковай і хутарской формы зямлякарыстаньня. Гэтыя дзьве формы тэорэтычна абгрунтоўваліся кісьляkoўшчынай і шпаркім тэмпам ажыцьцяўляліся ранейшым кіраўніцтвам Наркамзему.

Пасялковая форма прышчэпаўшчынай лічылася аднэй з найбольш рацыянальных форм організацыі сельскай гаспадаркі. На старонцы 113 „Пэрспэктыўнага пляну“ чытаем, што

> „найбольш рацыянальнай у сучасных умовах формай зьяўляецца пасялковая форма зямлякарыстаньня; яна характарызуецца тым, што 10-15 двароў групуецца ў адно сельска-гаспадарчае аб'яднаньне з агульнай сялібай з агульным шматпольным севазваротам, устаноўленым у парадку зямельнага гаспадарчага зямляўпарадкаваньня, пры гэтым кожны двор атрымлівае асобны вучастак сялібы і асобныя шнуры ў палёх севазвароту і сенажаці“.

Праводзячы ў асноўным пасялковую форму зямлякарыстаньня, якая па сутнасьці не адрозьнівалася ад хутарской і дробнай, беларуская кандрацьцеўшчына зусім адкрыта прапагандавала і чыста хутарскую форму зямлякарыстаньня. Так, на той-жа старонцы даецца ўстаноўка на стварэньне хутароў там,

> „дзе прыродныя ўмовы мясцовасьці, канфігурацыя вучасткаў ці разьмеркаваньне ўжыткаў ня спрыяе стварэньню пасёлкаў, альбо дзе насельніцтва настойліва гэтага патрабуе, там ажыцьцяўляць організацыю хутароў“.

І далей:

> „Што датычыцца хутарской формы зямлякарыстаньня, якая мела месца на Беларусі, асабліва ў паўночнай і заходняй яе частках, дык неабходна дапушчаць яе ў выпадках, калі па тэхнічна-гаспадарчых меркаваньнях яна няўхільна, і ў выпадках настойлівага жаданьня самога насельніцтва абраць гэту хутарскую форму зямлякарыстаньня“ (стар. 137).

Як бачым, зусім акрэсьлены кірунак на хутарызацыю БССР, на разьвіцьцё кулацка-капіталістычных элемэнтаў вёскі.

17 чэрвеня 1927 г. Прышчэпаў піша спэцыяльна сакрэтны ліст усім загадчыкам АКРЗА аб неабходнасьці стварэньня хутароў. У гэтым лісьце мы чытаем наступнае:

„У вашых акругах бываюць выпадкі гвалтоўнага навязваньня сялянству формаў зямлякарыстаньня і забароны сяліцца на хутарох і атрубох. Не зьмяняючы ўвогуле нашай політыкі па гэтаму пытаньню, Наркамзем прапануе ніякіх перашкод не рабіць і пры выбары хутароў і атрубоў. Адначасова катэгорычна забараняецца організаваць буйныя пасёлкі, якія ў нашых ўмовах ніякага гаспадарчага эфэкту не даюць, і прапануецца праводзіць стварэньне дробных пасёлкаў. Дырэктывы праводзіць цераз раёны і зямляўпарадкаваццеляў. Наркамзем БССР Прышчэпаў".

У пытаньнях хутарызацыі кандрацьцеўшчына шчыльна зьвязвалася з беларускім нацыянал-дэмократызмам, бо беларускія нацыянал-дэмократы яшчэ ў 1909 г. сьледам за Сталыпіным у сваёй газэце „Наша Ніва" заяўлялі, што

„хутары—найлепшы ратунак для нашай вёскі".

Хутарызацыя БССР у адпаведнасьці з гэтымі ўстаноўкамі праводзілася прышчэпаўшчынай не за страх, а сьвядома і сумленна. У выніку хутарызацыі мы маем наступнае: калі Сталыпін за 10 год узмацняючы ўскраіны царскай Расіі стварыў на тэрыторыі БССР 60000 хутароў на плошчы 675000 га, дык Прышчэпаў з 1924 па 1928 г., усяго за чатыры гады, амаль што дагнаў Сталыпіна, стварыўшы 54000 хутарскіх гаспадарак на плошчы ў 537000 га.

Як адбывалася разьмеркаваньне зямляўпарадкаванай плошчы па паасобных формах за пэрыод прышчэпаўшчыны, паказвае наступная табліца (у процантах да ітогу):

| З усяе зямляўпарадкаванай плошчы зямляўпарадкавана | 1925-1926 | 1926-1927 | 1927-1928 | Усяго за 3 гады |
|---|---|---|---|---|
| У хутарох і атрубох | 31,9 | 29,6 | 27,1 | 29,1 |
| „ пасёлках | 47,3 | 48,4 | 52,6 | 49,9 |
| „ колгасах | 2,6 | 3,4 | 7.0 | 4.8 |
| Дзяржаўныя землі | 18,2 | 18,6 | 13,3 | 16,2 |

Удзельная вага хутарскіх і атрубных гаспадарак у агульнай колькасьці сялянскіх гаспадарак БССР за пэрыод прышчэпаўшчыны дасягнула 20 проц.

Цікава адзначыць той факт, што нават ужо у перарobленай пяцігодцы і выдадзенай у 1929 г. адчуваўся ўплыў прышчэпаўшчыны. У гэтым пляне з усяе прызначанай да зямляўпарадкаваньня плошчы мелася на ўвазе зямляўпарадкаваць колгасаў на 14,1 проц., пад пасёлкамі—69,5 проц. дзяржаўнай зямлі—7,5 і хутары—на 8,9 проц. Гэта ўстаноўка мела месца ў пэрыод пасьля XV зьезду партыі, якім быў дадзен вокліч „вёска—наперад да аграмаджанай вытворчасьці".

Беларуская кандрацьцеўшчына, праводзячы ўстаноўкі на капіталістычны шлях разьвіцьця сельскае гаспадаркі, не заставалася ў даўгу і ў служыцеляў духоўнага культу. У памянёным зямельным кодэксе на стар. 14 чытаем наступнае:

„Служыцелі рэлігійных культаў і члены іх сем'яў, якія жадаюць апрацоўваць зямлю сваімі рукамі, могуць быць надзелены зямлёй па пастанове камісіі на агульных падставах. Узнагарода,

якую атрымліваюць служыцелі культаў за выкананьне трэб, ня можа лічыцца падставай для пазбаўленьня іх зямлянадзяленьня"!

Чым-жа папы горш абшарнікаў і кулакоў? На што іх крыўдзіць. І вось Прышчэпаў рашыў у дадатак да іх непрацоўнага даходу надзяліць іх яшчэ і зямелькай. Як бачым, генэральная лінія беларускай нацыянал-кондрацьцеўшчыны—гэта стварэньне буйнай капіталістычнай вытворчасьці на базе бязьлітаснага руйнаваньня і закабаленьня бядняцка-серадняцкіх мас вёскі.

Маскуючыся разважаньнямі аб пад'ёме вытворчых сіл, кандрацьцеўцы зьвязвалі гэты пад'ём ня з ростам соцыялістычнага сэктару ў сельскай гаспадарцы, а з разьвіцьцём і ўсямерным падтрыманьнем капіталістычных элемэнтаў.

Па пытаньню калектывізацыі сельскай гаспадаркі і немажлівасьці разьвіцьця аграмаджаных формаў вытворчасьці ў сельскай гаспадарцы яны заяўлялі з усёй шчырасьцю. Так, на стар. 129 „Пэрспэктыўнага пляну" прышчэпаўшчыны чытаем, што

> „калектыўныя формы зямлякарыстаньня (арцелі і камуны) вельмі слаба прышчэпліваюцца сярод сялянства Беларусі, галоўным чынам, мабыць таму, што выхаваны на працягу шмат дзесяцігодзьдзяў на прынцыпах адзінаасобнага зямлякарыстаньня, селянін-беларус ня мае яшчэ пакуль відочных станоўчых вынікаў аграмаджанай гаспадаркі".

У процівагу таму, што партыя і пралетарская дыктатура бачылі ў калектывізацыі сельскай гаспадаркі адзіны і магчымы шлях пад'ёму вытворчых сіл у земляробстве, Беларуская кандрацьцеўшчына абвяргала гэты шлях як той шлях, які, па іх думцы, не прышчапіўся да сялянскіх мас, і як форма гаспадаркі, якія, па іх думцы, ня далі і не даюць станоўчых вынікаў.

Невыпадковы адносіны беларускай кандрацьцеўшчыны да стварэньня саўгасаў. Праводзячы сваю праграму, беларускай кандрацьцеўшчыне

> „часта даводзілася, у мэтах паслабленьня надзвычайнай вайстрыні ў зямельным голадзе, колькасьць дзяржаўнай зямельнай маемасьці паступова скарачаць, а некаторыя саўгасы, арганізаваныя на зямлі дзяржаўнай маемасьці, альбо зусім ліквідаваць, альбо больш-менш памяншыць іх зямельную плошчу" (стар. 497).

І так, палітыка беларускай кандрацьцеўшчыны, якая шчыльна перапляталася з нацыянал-дэмакратызмам, у аграрных пытаньнях зводзілася да стварэньня ўстойлівага кулацкага зямлякарыстаньня, да адмаўленьня калектывізацыі, да ліквідацыі саўгасаў, гэтых пасьлядоўна сацыялістычных гаспадарак у земляробстве, пры ўстаноўках на кулацкую праслойку вёскі і за капіталістычны шлях разьвіцьця сельскай гаспадаркі.

Кісьлякоў, на плечы якога выпала задача тэорэтычнага абгрунтаваньня прышчэпаўшчыны, у сваёй прадмове да кніжкі Плятнэра „Счетоводные записи..." вызначае шлях далейшага пад'ёму сельскай гаспадаркі. Гэты шлях ён бачыць у рацыяналізацыі дробных сялянскіх гаспадарак. Ён піша:

> „Наша сучаснасьць выразна паставіла перад сельскай гаспадаркай задачу організацыйна-вытворчага яе перабудаваньня ў адпаведнасьці з новым сацыяльна-эканамічным ідэалам рабочай і сялянскай грамады. Сельская гаспадарка зараз у нас прадстаўлена, галоўным чынам, сялянскімі гаспадаркамі. Ад гэтых апошніх і цераз іх давядзецца ісьці да новых, больш рацыянальных форм

організацыі сельска-гаспадарчай вытворчасьці. Першым этапам доўгай дарогі зьяўляецца рацыяналізацыя самой сялянскай гаспадаркі, паколькі яна адразу ня ўліваецца ў іншыя формы“.

Апрача блытаніны і няпісьменнай фразэалёгіі, гэта вынятка яскрава гаворыць аб тым, што беларускія шкоднікі ўсімі мерамі імкнуліся падмяніць сацыялістычны шлях разьвіцьця сельскай гаспадаркі капіталістычным. Рацыянальную форму сельска-гаспадарчай вытворчасьці яны бачылі ў... самой сялянскай гаспадарцы. Адгэтуль іх ідэалам было разьвіцьцё індывідуальнай гаспадаркі на капіталістычных асновах і цераз яе рацыяналізацыю. Дробнабуржуазная тэорыя, якая абараняе перавагі дробнай гаспадаркі і магчымасьць яе рацыяналізацыі ў даным выпадку, выступае ў якасьці аднаго з тых сродкаў ашуканства мас, якімі заўсёды карыстаецца буржуазія для абароны капіталістычнай сыстэмы. Для нас-жа, стаячых на марксысцка-ленінскай пазыцыі зразумела тое, што: „разьвіцьцё дробнай гаспадаркі ёсьць разьвіцьцё дробнабуржуазнае, ёсьць разьвіцьцё капіталістычнае“ (Ленін).

## Сувязь трацкізму, правых і кандрацьцеўшчыны

У сваёй барацьбе з партыяй і пралетарскай дзяржавай кандрацьцеўцы салідарызаваліся з трацкізмам і правым ухілам. Іх стаўка на перамогу апазыцыі выходзіла з таго, што і перамога „левых“ трацкістых і перамога правага ўхілу прывяла-б да ажыцьцяўленьня іх праграмы, накіраванай на рэстаўрацыю капіталізму ў СССР. Барацьба троцкізму з партыяй проста і непасрэдна ліла ваду на млын буржуазіі, акрыляючы тым самым яе на актыўную барацьбу за капіталізм. Троцкізм, які ня верыў у магчымасьць пабудаваньня сацыялізму без перамогі пралетарскай рэволюцыі на Захадзе, прарочыў няўхільную пагібель дыктатуры пролетарыяту, знаходзіў сабе пэўных саюзьнікаў у кандрацьцеўшчыне, для якой такая пастаноўка пытаньня была лёгічна зьвязана з ажыцьцяўленьнем іх ідэалаў. Калі трацкізм пад сурдынкай „рэвалюцыйных“ фраз маскаваў і захоўваў вынікі правядзеньня сваей праграмы, якая аб'ектыўна вяла да капіталістычнай рэстаўрацыі, калі трацкізм імкнуўся замаскаваць тое, што іх учынкі былі накіраваны на падрыў пралетарскай дыктатуры, то буржуазныя эканамістыя на чале з Кандрацьцевым, Громанам і Суханавым, а ў БССР група нацыянал-дэмакратаў, гэта бачылі зусім яскрава і радаваліся з поваду кожнага кроку трацкісцкай апазыцыі.

Пасьля таго, як быў разьбіты трацкізм, калі рабочая кляса і ўсе працоўныя зразумелі яго контррэволюцыйную сутнасьць, кандрацьцеўцы ўсе свае надзеі пералажылі на правых ухілістых, кандрацьцеўшчына зразумела, што перамога правых таксама прывядзе пры ажыцьцяўленьні іх праграмы да тых-жа самых вынікаў, як і перамога троцкізму, да рэстаўрацыі капіталізму. У правых і кандрацьцеўцаў знайшоўся цэлы шэраг агульных эканамічных установак і ў пытаньні аб тэмпах індустрыялізацыі краіны, і ў пытаньні сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Кандрацьцеўшчына зьявілася той ідэолёгічнай крыніцай, з якой правыя чэрпалі сваю палітычную і эканамічную праграму. Правыя апартуністы ёсьць агентура кандрацьцеўшчыны ўнутры нашай партыі:

> „Перамога правага ўхілу ў нашай партыі азначала-б значнае ўзмацненьне капіталістычных элемэнтаў у нашай краіне... перамога правага ўхілу ў нашай партыі азначала-б нарастаньне умоў, неабходных для аднаўленьня капіталізму ў нашай краіне“. (Сталін).

Праца правых опортуністых выклікала і выклікае самыя гарачыя сымпатыі з боку буржуазна-капіталістычных рэстаўратараў. „Ты вораг майго ворага, пагэтаму ты мой друг“—так адносяцца шкоднікі да опортуністага.

Вось чаму законамерным зьяўляецца тое, што і Кандрацьцевы і Рамзіны ўскладалі вялізарныя надзеі на правых ухілістых унутры нашай партыі. Правыя і „левыя“ зьяўляюцца іх памочнікамі. „Пляцформа правых“, пісаў Кандрацьцеў, „шмат у чым блізкая да нашай, іх перамогу мы лічылі палітычна станоўчай“, і за ім Рамзін:

„Трэба канстатаваць наяўнасьць ідэёва-палітычнага кантакту паміж кіраўнікамі „прампартыі“ і выдатнымі прадстаўнікамі правай часткі компартыі—пераход фактычна ў дзелавы блёк па асноўных праграмных пытаньнях эканамічнага разьвіцьця краіны. З пляцформы правых камуністых два асноўных палажэньні цалкам выходзіліся з установкамі і імкненьнямі „прампартыі“: 1) стаўка на моцную адзінаасобную кулацкую гаспадарку і 2) замаруджваньне альбо больш павольны тэмп індустрыялізацыі краіны“.

Больш гарачы пацалунак ці толькі змогуць атрымаць правыя і „левыя“ ад каго-небудзь іншага. Пасьля гэтага зусім невыпадковым зьяўляецца тое, што шкоднікі ўсе свае пляны на рэстаўрацыю шчыльна зьвязвалі з лёсам правай опозыцыі, выконваючы волю абшарнікаў і буржуазіі, шкоднікі імкнуліся да нізрынуцьця савецкай улады і да ажыцьцяўленьня буржуазна-абшарніцкай рэстаўрацыі. Установкі опортуністых па сутнасьці вядуць таксама да тых-жа вынікаў. Як-жа пасьля гэтага шкоднікам не спадзявацца на опортуністых?

Прадстаўнікі правых у сваёй працы часта проста абапіраліся на кандрацьцеўцаў. Клясычным прыкладам гэтага ва ўмовах БССР зьяўляецца прышчэпаўшчына. Сувязь правых з кандрацьцеўшчынай, санкцыянаваньне дзейнасьці кандрацьцеўцаў об'ектыўна садзейнічала апошнім, правядзеньню іх шкодніцкай працы і ўскладняла барацьбу партыі з буржуазнай і дробнабуржуазнай ідэолёгіяй.

Права-ўхілісцкая палітыка Прышчэпава ў БССР зьяўлялася надзейнай глебай, абапіраючыся на якую, беларуская нацыянал-кандрацьцеўшчына рэалізавала сваю праграму.

Паўстае пытаньне: сьвядома альбо несьвядома Прышчэпаў і яго блізкія праводзілі сваю шкодную ўстаноўку ў галіне разьвіцьця сельскай гаспадаркі? сьвядома, альбо не сьвядома прышчэпапаўшчына тым самым дапамагала кандрацьцеўшчыне? Адказ на гэтае пытаньне можа быць толькі адзін. Прышчэпаўшчына зусім сьвядома дзейнічала рука ў руку з кандрацьцеўшчынай, і зусім няправільна некаторыя блізкія па сваёй працы да Прышчэпава сьцьвярджаюць, нібыта прышчэпаўшчына абумоўлена адсутнасьцю выразных партыйных дырэктыў. Гэта ёсьць паклёп на партыю. Гэта ня што іншае, як спроба замазаць свае права-опортуністычныя погляды і справы перакладаньнем віны на другіх.

## За саўгасы і калгасы—вось лінія партыі ў с. г.

Прышчэпаўшчына пачала разгортваць сваю шкодніцкую працу ў галіне сельскай гаспадаркі з 1923—24 г. Дзеля таго, каб паказаць усю недарэчнасьць, усю бяссэнсіцу абаронцаў і прымірэнцаў да палітыкі Прышчэпава, якія ў сваёй аргумэнтацыі спасылаюцца на адсутнасьць выразных указаньняў партыі па пытаньню разьвіцьця сельскай гаспадаркі, трэба прывесьці некалькі выняткаў з партыйных пастаноў.

У сваіх дырэктывах партыя, як і заўсёды ў пэрыод дзейнасьці прышчэпаўшчыны, давала выразныя і дакладныя ўстаноўкі аб шляхох разьвіцьця вёскі пры дыктатуры пралетарыяту. Так, XII зьезд УсеКП(б), які адбыўся ў красавіку 1923 году, у сваей рэзалюцыі запісаў:

„Сельска-гаспадарчыя таварыствы, арцелі і камуны павінны атрымліваць дапамогу дзяржаўных органаў, у асаблівасьці пакольні яны зьяўляюцца гаспадарчымі аб'яднаньнямі бяднейшых пластоў сялянства. Падмацоўваючы ранейшую дырэктыву аб тым, што калектыўныя гаспадаркі ў вёсцы павінны арганізавацца пры ўмове поўнай добраахвотнасьці іх членаў, партыя і савецкая дзяржава павінны садзейнічаць узмацненьню і палепшаньню гаспадарак с.-г. калектываў, сапраўды культурных і эканамічна-прагрэсыўных гаспадарак".

XIII канфэрэнцыя камуністычнай партыі Беларусі, якая зьбіралася 12 мая 1924 году, у сваёй рэзалюцыі аб працы на вёсцы напісала наступнае:

„Мы павінны накіраваць усе нашы фінансавыя, агрыкультурныя, гандлёвыя і гаспадарчыя мерапрыемствы так, каб імі магла карыстацца ў першую чаргу організаваная, ці якая організуецца намі на каапэрацыйных асновах маламоцная і серадняцкая гаспадарка. Пры прадстаўленьні ільгот па адзінаму грашоваму падатку павялічваць ільготы каапэраванаму ў вытворчых адносінах маламоцнаму сялянству, ствараючы тым самым штурхаючыя прычыны для організацыі вытворчых калектываў. Поруч з організацыяй сельска-гаспадарчых таварыстваў неабходна пачаць шырокае каапэраваньне паасобных галін сялянскіх маламоцных гаспадарак, напрыклад, па лініі разьвіцьця малочнай справы, мэліорацыі, садоўніцтва і гародніцтва, машынных таварыстваў і г. д., што павінна зьявіцца падрыхтоўчай стадыяй працы для поўнага аб'яднаньня ў будучым гэтых гаспадарак".

Ці-ж гэта ня выразная дырэктыва? Ці-ж тут ёсьць намёк на разьвіцьцё кулацкай гаспадаркі, якую імкнуліся падтрымліваць і насаджваць кандрацьцеўцы? Ці-ж можна, праводзячы гэту дырэктыву партыі, зьвярнуць на антыпралетарскі шлях разьвіцьця вёскі? Гэта ёсьць ленінская дырэктыва, накірованая на ўсямернае разьвіцьцё сацыялістычных формаў у сельскай гаспадарцы, на ўзмацненьне калгасаў, як сапраўдных носьбітаў прагрэсу і культуры ў земляробстве, а не кулакоў і ня ,культурных" гаспадарак тыпу кулака Марозава.

XIII зьезд УсеКП(б), які адбыўся ў маі 1924 году, з усей рашучасьцю падкрэсьлівае тую-ж самую дырэктыву аб неабходнасьці стварэньня калектыўных форм вядзеньня сельскай гаспадаркі.

„У галіне сельска-гаспадарчай каапэрацыі", чытаем мы ў рашэньнях зьезду, „павінна быць зьвернута асаблівая ўвага на разьвіцьцё тых, якія ўжо засноўваюцца, форм вытворча-збытавых аб'яднаньняў, на організацыю арцельных і калектыўных відаў сельскай гаспадаркі, вышукваючы для заахвочваньня ўдзельнікаў гэтых гаспадарак усякага роду прэмій і ільгот".

І далей ў рэзалюцыі аб працы на вёсцы зьезд падкрэсьлівае аб неабходнасьці ўсямернага падтрыманьня незаможніцкіх элемэнтаў вёскі ў мэтах падняцьця іх гаспадарак і абмежаваньня эксплёататарскіх тэндэнцый кулацтва. Пасьля гэтай выразнай дырэктывы паўстае пытаньне, каго-ж падтрымлівала ў гэты пэрыод прышчэпаўшчына? Яна,

замест таго, каб ажыцьцяўляць пастановы партыі і падтрымліваць сацыялістычныя формы сельскай гаспадаркі, ліквідавала калгасы і саўгасы на карысьць разьвіцьця кулацкіх гаспадарак.

XIV Усесаюзная партыйная канфэрэнцыя ў рэзалюцыі аб каапэрацыі дае дырэктыву ўсёй партыі зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу на калектывізацыю сельска-гаспадарчай вытворчасьці.

„На калектывізацыю сельскай гаспадаркі неабходна зьвярнуць большую ўвагу, чым гэта рабілася да гэтага часу. Арганізацыя рознага роду колгасаў (таварыствы, арцелі і камуны) павінна забясьпечыць разьвіцьцё іх тварнасьці і будавацца на асновах гаспадарчага разрахунку. Трэба зьвярнуць увагу на паявілічэньне крэдытаваньня калектыўных гаспадарак і на абслугоўваньне збыту іх сельска-гаспадарчай прадукцыі. Зямляўпарадкоўчыя органы павінны ў сваёй працы забясьпечыць у першую чаргу патрэбы тае часткі сялянства, якая пераходзіць да калектыўных форм гаспадараньня".

Як бачым, партыя давала выразную ўстаноўку па пытаньню калектыўнага будаўніцтва і па пытаньню зямляўпарадкаваньня, але прышчэпаўшчына рабіла зусім адваротнае. Яна дапамагала і накіроўвала сваю ўвагу да хутароў і дробных пасёлкаў, якія па сваёй сутнасьці нічым не адрозьніваліся ад хутароў, гэтай мэце ў іх руках служыла і зямляўпарадкаваньне. У гэты-ж самы пэрыод выпрацоўваліся і тэорэтычна абгрунтоўваліся памянёныя вышэй кулацкія нормы. Як бачым, усё гэта рабілася наперакор дырэктывам партыі.

У сьнежні 1925 году зьбіраецца XIV зьезд партыі, які ў сваіх рашэньнях канстатуе, што:

„Сельска-гаспадарчая каапэрацыя і па сваёй гаспадарчай працы з пункту погляду ўцягненьня мас і з пункту погляду правільнага сацыялістычнага кіраўніцтва яшчэ далёка ад выкананьня сваей вялікай ролі. Зьезд ставіць у абавязак усім членам партыі самым уважлівым парадкам сачыць за разьвіцьцём сельска-гаспадарчай каапэрацыі і ўжываць усе захады па забясьпечаньню яе росту".

IX зьезд камуністычнай партыі Беларусі ў сваёй рэзалюцыі па гаспадарчаму будаўніцтву, у разьдзеле галоўнейшых задач партыі, высоўвае наступнае:

„Уцягненьне сялянства ў сацыялістычнае будаўніцтва, пры дапамозе шырокага каапэраваньня яго на базе ўзрастаючай індустрыялізацыі краіны, гаспадарчага ўзмацненьня серадняцкіх і бядняцкіх пластоў сялянства і шырокага культурнага пад'ёму ў краіне, забясьпечаньня кіруючай ролі пралетарыяту ва ўсім гэтым працэсе".

Дзеля таго, каб забясьпечыць спрыяючыя ўмовы для разьвіцьця эканамічнай і палітычнай працы сярод вясковай беднаты, дзеля таго каб весьці барацьбу з кулаком і праз каапэрацыю, бядняцка-серадняцкія масы вышлі на шлях сацыялістычнага будаўніцтва. XV Усесаюзная канфэрэнцыя яшчэ раз падкрэсьлівае гэты шлях, па якім павінна разьвівацца вёска. У рэзалюцыях партканфэрэнцыі зварочваецца ўвага ўсіх членаў партыі на разьвіцьцё ў сельскай гаспадарцы саўгаснага і калгаснага будаўніцтва, і падкрэсьліваецца тое, што асноўнай задачай партыі на вёсцы зьяўляецца падтрыманьне гэтых форм сельскай гаспадаркі і ўцягваньне ў рэчышча сацыялістычнага будаўніцтва бядняцка-серадняцкіх мас сялянства.

X зьезд камуністычнай партыі Беларусі, які адбыўся ў студзені 1927 году, таксама падкрэсьліў той шлях і кірунак, па якім павінна разьвівацца беларуская вёска. У сваёй рэзалюцыі па справаздачы ЦК КП(б)Б зь'езд запісаў наступнае:

„У адносінах да сялянскай гаспадаркі працягваць палітыку, накіраваную на разьвіцьцё тэхнічных культур, мэханізацыю сельскай гаспадаркі, разьвіцьцё асноўных для БССР відаў сельска-гаспадарчай каапэрацыі, разьвіцьцё калгаснага будаўніцтва, не паслабляючы неабходна весьці працу па зямляўпарадкаваньню; мэліорацыі, працягваючы эканамічную дапамогу беднаце, паставіўшы ў цэнтры гэтай работы каапэраваньне беднаты і эканамічную ўзаемадапамогу, замацаваньне і пашырэньне сацыялістычных элемэнтаў у эканоміцы (асабліва далейшае ўзмацненьне прамысловасьці і сельска-гаспадарчай каапэрацыі), як і да гэтага часу павінна стаяць на чале ўсяе гаспадарчай працы ў БССР“..

Гэта дырэктыва была дадзена ў той пэрыод, калі Прышчэпаў, пры дапамозе нацыянал-дэмакратаў тыпу Кісьлякова, Гарэцкага і Смоліча, вышуквалі шляхі „організацыйна-тэхнічнай рацыяналізацыі сялянскай гаспадаркі“. І тут паўстае пытаньне, на што была патрэбна організацыя для Кісьляковых навуковых экспэдыцый па пытаньню адшукаваньня новых форм разьвіцьця гаспадарак бядняцка-серадняцкага сялянства? Адказ можа быць толькі адмоўны, бо шлях перабудовы вёскі быў выразна вызначаны партыяй і яе марксысцка-ленінскім штабам.

XI зьезд (1927 г.) камуністычнай партыі Беларусі, разглядаючы асновы пяцігадовага пляну разьвіцьця народнай гаспадаркі БССР, яшчэ лішні раз даў выразную і акрэсьленую установку аб шляхох, якімі павінна пайсьці беларуская вёска. У рэзалюцыі па гэтаму пытаньню зьезд запісаў, што

„узмацненьне грамаджаных элемэнтаў у сельскай гаспадарцы і на далейшы пэрыод застаецца аднэй з важнейшых задач. Шляхі аграмаджаньня сельскай гаспадаркі вызначаны каапэрацыйным плянам Леніна. Такім чынам, усё большае разьвіцьцё дзейнасьці вытворчай сельска-гаспадарчай каапэрацыі, усё большае каапэраваньне бядняцка-серадняцкіх пластоў сялянства зьяўляецца першачарговай задачай усіх партыйных організацый. Разьвіцьцё агрыкультурных мерапрыемстваў у сельскай гаспадарцы і на далейшае патрабуе максымальнай увагі з боку зямельных органаў. Гэтаму павінны ў значнай меры садзейнічаць савецкія гаспадаркі, якія павінны і могуць стаць культурнымі сельска-гаспадарчымі адзінкамі, якія вядуць за сабой па шляху індустралізацыі і культурнага прагрэсу ўсю масу сялянскіх гаспадарак. Значыцца, на чыннасьць савецкіх гаспадарак трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу, узмацняючы іх больш вопытнымі і вытрыманымі працаўнікамі. Сельска-гаспадарчыя камуны і арцелі да гэтага часу ў сваім разьвіцьці незаўсёды мелі належную дапамогу з боку дзяржаўных і грамадзкіх організацый, у той час як гэтыя аграмаджаныя сельска-гаспадарчыя ячэйкі зьяўляюцца аднэй з найбольш значных організацый, дапамагаючых калектывізацыі сельска-гаспадарчай вытворчасьці. Пагэтаму пяцігадовы плян павінен прадугледзець усямернае садзейнічаньне ўзмацненьню калектываў, сельска-гаспадарчых арцеляй, камун і таварыстваў“.

У сваіх пастановах XV зьезд УсеКП(б) (сьнежань 1927 г.) даў выключны па глыбіні аналіз сацыяльна-эканамічнага становішча

вёскі і шляхоў яе разьвіцьця пры дыктатуры пралетарыяту. Зьезд даў устаноўку аб максымальна-фарсаваным разьвіцьці ў сельскай гаспадарцы саўгаснага і калгаснага будаўніцтва.

XII зьезд комуністычнай партыі Беларусі ў пачатку 1929 году ў рэзолюцыі па справаздачы ЦК КП(б)Б

„з усёй рашучасьцю падкрэсьлівае, што толькі колектывізацыя і сацыялістычная рэконструкцыя зьяўляюцца рашаючым і асноўным шляхам магутнага ўздыму ў сельскай гаспадарцы. Таму неабходна з усёй сілай і энэргіяй праводзіць працу па ўзмацненьню і пашырэньню існуючых саўгасаў і калгасаў і ў далейшым значна ўзмацніць тэмп колектывізацыі сельскай гаспадаркі і будаўніцтва саўгасаў, зварочваючы асаблівую ўвагу на стварэньне буйных колгасаў“.

Тут пададзены найбольш галоўныя дырэктывы партыі, апрача пастаноў апошняга году, аб сацыялістычнай перабудове вёскі, вынесеныя ў ранейшыя гады. Гэтыя пастановы як УсеКП(б), так і КП(б)Б давалі і даюць выразную ўстаноўку ў галіне аграрнай політыкі; яны зьяўляюцца ня чым іншым, як разьвіцьцём і ажыцьцяўленьнем таго пункту програмы партыі, які яскрава вызначае шлях пераходу вёскі да камуністычнай грамады.

Пададзеныя выняткі з партыйных дырэктыў ушчэнт разьбіваюць праваопортуністычныя сьцьверджаньні аб адсутнасьці выразных указаньняў у пытаньнях разьвіцьця вытворчых сіл сельскай гаспадаркі і яе рэканструкцыі на сацыялістычных асновах. Прышчэпаўшчыне не ўдалося і ня ўдасца апраўдаць сваю шкодніцкую працу, спасылаючыся на адсутнасць партыйных дырэктыў. Ім ня ўдасца сьцягнуць партыю з правільнага ленінскага шляху. Пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК наша партыя вядзе і будзе вясьці непрымірымую бязьлітасную барацьбу з усімі буржуазнымі і дробнабуржуазнымі ідэолёгіямі, выкрываючы іх сапраўдны клясавы сэнс, як бы яны ні маскаваліся. Абараняючы чыстату артадаксальнага марксызму-ленінізму, партыя давала суровы адпор усякім спробам права і „лева“ опортуністычным скажэньням бальшавіцкіх прынцыпаў з боку розных элемэнтаў як унутры партыі, так і па-за партыяй.

Бязьлітаснасьць, непрымірымасьць да ўсякага адступленьньня і скажэньня рэвалюцыйнага марксызму, барацьба супроць усякіх буржуазных і дробнабуржуазных партый, тэорый, барацьба за сапраўдную клясавую пролетарскую ідэолёгію—вось лінія бальшавіцкай партыі, вось той шлях, па якім яна прывядзе краіну дыктатуры пролетарыяту да канчатковай перамогі сацыялізму.

---

М. Поташ

# Аб вывучэньні гісторыі КП(б)Б і падрыхтоўцы кадраў у гэтым абсягу

Вялізарнае палітычнае і выхаваўчае значэньне вывучэньня і выкладаньня гісторыі партыі зьяўляецца зусім ясным. Тым больш гэта значэньне павялічваецца ў цяперашні час, у пэрыод рашучага змаганьня партыі і рабочай клясы за пабудову соцыялізму ў нашым краі.

Вывучэньне гісторыі партыі зьяўляецца аднэй з найважнейшых прылад змаганьня за чыстату марксысцка-ленінскай рэволюцыйнай тэорыі і памагае нам выкрываць гістарычныя карэньні сучаснага опортунізму розных масьцей і паказаць яго сапраўдны твар. Практыка змаганьня нашай партыі памагае нам найбольш правільна вырашаць колёсальныя задачы сягоньняшняга дня. Ня менш важнай зьяўляецца роля вывучэньня гісторыі партыі ў справе бальшавіцкага выхаваньня кадраў, асабліва маладых.

Трэба асабліва падкрэсьліць важнасьць гэтай проблемы для Беларусі. Больш слабая праслойка старых бальшавіцкіх кадраў у нашай організацыі, з аднаго боку, і больш моцнае дробна буржуазнае абкружэньне — з другога прымушаюць нас асабліва зьвярнуць увагу на задачы вывучэньня гісторыі партыі і, у часнасьці, на вывучэньне гісторыі КП(б)Б. Трэба адзначыць, што вывучэньне ўжо цяпер вельмі значнага дасьведчаньня КП(б)Б у справе ажыцьцяўленьня ленінскай лініі Ўсесаюзнай компартыяй бальшавікоў ва ўсіх галінах будаўніцтва і змаганьня з усімі опортуністычнымі ўхіламі ад гэтай лініі ў складанай абстаноўцы Беларусі мае вялізарнае палітычнае значэньне.

Вывучэньне гісторыі КП(б)Б зьяўляецца вялікім фактарам у справе выхоўваньня бальшавіцкіх кадраў, змагароў за далейшыя носьпехі будаўніцтва соцыялізму ў Беларусі.

Правільная пастаноўка вывучэньня КП(б)Б і рэволюцыйнага руху ў Беларусі адыграе вялікую ролю і ў адносінах змаганьня з ухіламі ў нацыянальным пытаньні, якое мае такое значэньне ва ўмовах Беларусі. Гэта паможа нам выявіць карэньні вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі, так і мясцовага нацыяналізму (белар., яўр. і г. д.). Тав. Сталін на IV нарадзе ЦК РКП(б) з адказнымі работнікамі нацыянальных рэспублік і вобласьцяй у 1923 годзе гаварыў: „Трэба памятаць, што нашы комарганізацыі на акраінах, у рэспубліках і вобласьцях могуць разьвіцца і стаць на ногі, **зрабіцца сапраўдным марксысцкім кадрам толькі ў тым выпадку, калі яны пераадалеюць нацыяналізм. Нацыяналізм — асноўная ідэёвая перашкода на шляху выхоўваньня марксысцкіх кадраў, марксысцкага авангарду на акраінах**..“ [1])

---

[1]) Стенограф. отчет, стр. 67. Цытую па рабоце Гірчака „На два фронта в борьбе с национализмом“. Падкрэсьлена мною.

Вывучэньне гісторыі партыі і зьяўляецца адным з сур'ёзных фактараў, дапамагаючых у справе пераадаленьня нацыяналізму і выхоўваньня марксысцкіх кадраў.

Але гэту задачу магчыма будзе выканаць толькі ў тым выпадку, калі само вывучэньне і выкладаньне гісторыі КП(б)Б і рэвалюцыйнага руху на Беларусі будуць угрунтованы, выходзячы з вытрыманай марксысцка-ленінскай мэтодолёгіі, калі яны будуць пранікнуты марксысцка-ленінскай рэвалюцыйнай тэорыяй, калі будуць пераадолены ўсякія ўхілы ад ленінізму, і будзе даны бязьлітасны адпор спробам падмяняць ленінскую тэорыю нацыяналістычнымі і інш. дробнабуржуазнымі ідэйкамі.

У тэзісах, прынятых па дакладу тав. Кіна на нарадзе па пытаньнях выкладаньня ленінізму, гісторыі ЎсеКП(б)Б і г. д., гаворыцца: „Вялікае значэньне набывае вывучэньне гісторыі компартый, што ўваходзяць у склад ЎсеКП(б). Тут трэба адкінуць той пункт гледжаньня, які прыраўноўвае гісторыю нацыянальных компартый да гісторыі мясцовых звычайных організацый і ня ўлічвае своеасаблівасьці работы партый у нацыянальных вобласьцях і сярод нацыянальных меншасьцяй. Таксама трэба адкінуць спробы адарваць, ізоляваць гісторыю нацыянальных компартый ад гісторыі ЎсеКП(б). Пры вывучэньні гісторыі нацыянальных компартый трэба таксама рашуча адкінуць тэорыі „двохкарэннасьці“ пахаджэньня нацыянальных компартый—ад бальшавіцкіх організацый і нацыянал-соцыялістычных партый (Руп, УСДРП, Беларуская Соц. Грамада і інш.) [1]). Перад намі, такім чынам, зусім ясная і разам з тым вялізнага палітычнага значэньня програма работы ў абсягу вывучэньня і выкладаньня гісторыі КП(б)Б і рэвалюцыйнага руху.

Разам з тым трэба рашуча падкрэсьліць, што вялікая часьць работ гістарычнага характару ў Беларусі якраз не свабодна ад адзначаных у паданай цытаце буйных памылак.

Часамі зусім адкрыта, а часамі ў больш прыкрытым выглядзе, у гістарычных работах на працягу раду гадоў аж да апошняга часу ў нас прапагандуецца тэорыя „двухкарэннасьці“ КП(б)Б, ізоляванасьці рэвалюцыйнага руху і КП(б)Б, нацыяналізм, ідэі нацыянал-дэмократызму і г. д. Побач з гэтым часьць гістарычных работ амаль зусім ігнаруе своеасаблівасьць умоў разьвіцьця рэвалюцыйнага руху ў Беларусі і ўмовы работы партыі ў нас, скочваюцца да нігілізму ў нацыянальным пытаньні і скажаюць партыйную пастаноўку пытаньня аб нацыянальнай культуры ва ўмовах СССР. Сама па сабе зразумела ўся шкода гэтых абедзьвюх установак, і зусім ясна, наколькі яны зьяўляюцца чужымі ленінскай трактоўцы гэтых проблем.

Пара ва ўсю шырыню паставіць проблему вывучэньня гісторыі КП(б)Б і рэв. руху ў Беларусі ў марксысцка-ленінскім асьвятленьні. І аднэй з асноўных задач, што стаяць перад намі ў гэтых адносінах,— гэта падняць на вялікую вышыню мэтодолёгічную распрацоўку проблем гісторыі КП(б)Б. Знаёмаму хоць крыху з нашай гістарычнай продукцыяй кідаюцца ў першую чаргу ў вочы нізкі тэорытычны ўзровень значнай яе часьці, пагардлівасьць да распрацоўкі мэтодолёгічнай установкі разгляданых проблем, бесклапотнасьць па часьці тэорыі.

Ня менш слаба стаіць справа і з выкладаньнем гісторыі КП(б)Б і рэвалюцыйнага руху ў Беларусі. Даволі ўказаць на такі яркі факт, як неналаджанасьць дагэтуль выкладаньня гэтых дысцыплін нават у

---

[1]) Вопросы преподавания ленинизма, истории ВКП(б) и Коминтерна, Стр. 315.

Комвузе Беларусі. Аб іншых навучальных установах ужо няма чаго гаварыць. Такім чынам відаць, наколькі важна зьвярнуць увагу на гэты вучастак ідэолёгічнага фронту, і наколькі насьпела пытаньне аб неабходнасьці сконцэнтраваць адпаведныя сілы для гэтай работы. Вось чаму зусім правільна і своечасна ЦК партыі рашыў рэарганізаваць былы Гістпарт у Навукова-дасьледчы інстытут па гісторыі КП(б)Б і рэв. руху Беларусі. Пасьля ўсяго намі сказанага гэта зусім ясна. Перад нанова створаным інстытутам стаяць вельмі важныя задачы. Ён павінен здолець так паставіць сваю работу, каб яна цалкам і поўнасьцю была ўвязана з тымі пытаньнямі, што стаяць перад партыяй у цяперашні пэрыод змаганьня за ажыцьцяўленьне соцыялізму ў нашым краі ў абстаноўцы абвастрэньня клясавага змаганьня, калі асабліва шкоднымі і небясьпечнымі зьяўляюцца ўсякія ўхілы ад генэральнай лініі партыі.

Каб інстытут мог выканаць паўстаўшыя перад ім задачы, трэба мобілізаваць увагу партыйнай грамадзкасьці да яго дзейнасьці, прыцягнуць да ўдзелу ў яго рабоце найбольш вытрыманыя бальшавіцкія кадры нашай партыйнай організацыі, сконцэнтраваць найлепшыя сілы для пастаяннай работы ў інстытуце.

Але побач з гэтым высоўваецца другая неадкладная і надзвычайна важная задача—стварыць кадры для навукова дасьледчай работы па гісторыі КП(б)Б і рэволюцыйнага руху Беларусі і падрыхтаваць выкладчыкаў гэтых дысцыплін у вышэйшых навучальных установах.

Вялікі недахват ленінска-вытрыманых кадраў у гэтым абсягу зьяўляецца агульнавядомым фактам. Без падрыхтоўкі такіх кадраў ня можа быць і гутаркі аб якім-небудзь сур'ёзным зруху ў далейшым у абсягу вывучэньня і выкладаньня ўказаных дысцыплін. Вось чаму, паводле пастановы ЦК КП(б)Б пры інстытуце гісторыі партыі організуецца асьпірантура. Тым самым інстытут гісторыі партыі бярэ на сябе задачу падрыхтоўваць навуковых работнікаў і выкладчыкаў гісторыі КП(б)Б і рэв. руху ў Беларусі. Хоць гэта задача даволі адказная і трудная, асабліва калі прыняць пад увагу вельмі абмежаваны лік работнікаў у інстытуце, але ўсё-ж такі з ёю можна і трэба будзе справіцца пры аднэй, аднак, умове, калі партыйная організацыя вылучыць для гэтай мэты групу падыходзячых таварышоў. У першую чаргу мы маем рацыю чакаць, каб з канчаючых Комвуз Беларусі і соц.-гістарычнае аддзяленьне БДУ, былі вылучаны найлепшыя ў акадэмічных і найбольш вытрыманыя ў партыйных адносінах таварышы для гэтай мэты. Але і партыйныя організацыі павінны даць Інстытуту пэўны лік вытрыманых таварышоў. Ня гледзячы на тое, што ў сувязі з ліквідацыяй акруг гэта даволі трудна, аднак трэба ісьці на гэты крок, бо вельмі важнай зьяўляецца для ўсяе КП(б)Б тая задача, якую Інстытут выконвае, організуючы асьпірантуру па гісторыі КП(б)Б.

Трэба мець на ўвазе, што вылучаныя таварышы павінны быць ўважна выбраны, пры тым у першую чаргу з рабочых і батракоў. Мы ставім сабе мэту, каб з самага пачатку ня менш 50 проц. асьпірантаў былі паводле соцыяльнага становішча з рабочых і батракоў. Гэта не патрабуе асаблівых комэнтараў. Далей, яны павінны быць партыйна зусім вытрыманыя, прайшоўшыя школу партыйнай работы і выстарчальна падрыхтаваныя. Усё гэта патрабуе, каб партыйныя організацыі сур'ёзна падыходзілі да гэтага пытаньня і далі падыходзячых таварышоў.

Мы ня будзем спыняцца падрабязна на ўсіх пунктах палажэньня аб асьпірантуры, бо яно надрукована ў „Зьвязьдзе“ ад 28/IX-1929 г

Мы ўкажам толькі на два моманты. Папершае, што цяпер падрыхтоўка кадраў па гісторыі КП(б)Б і рэв. руху Беларусі найноўшага часу будзе сканцэнтравана ў адным месцы, у інстытуце. Мэтазгоднасьць гэтай меры стаіць па-за ўсякім сумненьнем. Толькі такім шляхам можна забясьпечыць вытрыманае кіраўніцтва падрыхтоўкай асьпірантаў, концэнтрацыю ўсіх сіл, што працуюць у абсягу гісторыі КП(б)Б, і колектыўную іх работу, што падвысіць і продукцыйнасьць работы. Падругое, мы хацелі-б адзначыць, што вялікая ўвага будзе зьвернута на агульную тэорытычную марксысцка-ленінскую падрыхтоўку асьпірантаў. Вось чаму мы лічым патрэбным зьвярнуць сур'ёзную ўвагу ў першы год на распрацоўку проблем гісторыі ЎсеКП(б)Б. Гэта зусім зразумела, бо бяз гэтага немагчыма вывучыць гісторыю КП(б)Б, як часьць УсеКП(б) і правільна паставіць асноўныя проблемы вывучэньня КП(б)Б. Вось чаму адводзіцца значнае месца дыялектычнаму матэрыялізму і ленінізму.

Самая работа асьпірантаў мае быць пастаўлена ў адпаведныя ўмовы. Для гэтага пры інстытуце ствараецца бібліотэка з адпаведным падборам навуковай літаратуры па гісторыі ЎсеКП(б), КП(б)Б і рэв. руху, габінэт марксызму-ленінізму і г. д. Дарэчы інстытут імкнецца так наладзіць свае габінэты, каб там маглі працаваць і іншыя таварышы, апрача навуковых супрацоўнікаў і асьпірантаў, якія захочуць займацца вывучэньнем адпаведных проблем.

Інстытут сконцэнтроўвае ў сваіх сьценах і архіўныя матэрыялы, патрэбныя для вывучэньня адпаведных тэм. Нямала ўвагі будзе зьвернута на організацыю работы асьпірантаў і кіраўніцтва ёю.

У гэтым артыкуле мы толькі намецілі ў агульных рысах тыя задачы, што стаяць перад інстытутам гісторыі партыі як у абсягу вывучэньня гісторыі партыі, так і падрыхтоўкі кадраў. У далейшым ня раз яшчэ прыдзецца зьвярнуцца як да больш дэталёвага абмеркаваньня задач, што стаяць перад інстытутам, так і асабліва тых проблем, якія ў першую чаргу павінны быць інстытутам распрацаваны.

Інстытут толькі разгортвае сваю работу. Партыйная грамадзкасьць павінна яму аддаць максымум увагі, яму павінны ў першую чаргу памагаць у рабоце вытрыманыя бальшавіцкія кадры нашай організацыі, і тады ён пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б выканае тыя задачы, што стаяць перад ім.

П. Корчык

# V зьезд камуністычнай партыі Польшчы аб нацыянальна-вызваленчым руху

Справа нацыянальна-вызваленчай барацьбы—аднаго з падстаўных чыньнікаў пралетарскай рэвалюцыі ў Польшчы—набывае асабліва значэньне ў сучасны пэрыод, калі шпаркім тэмпам нарастае рэвалюцыйная сытуацыя ў Польшчы, калі барацьба працоўных мас Зах. Беларусі і Зах. Украіны супроць фашысцкай акупацыі і свае буржуазіі прымае ўсё больш вострыя формы, калі ў шуканьні выхаду з нараістаючага агульнапалітычнага крызісу фашысцкая дыктатура ліхамансава арганізуе напад на СССР. Фашызм распальвае вялікадзяржаўны шавінізм і патрыятызм, узмацняе цкаваньне Савецкага саюзу, агнём і жалезам душыць нацыянальна-вызваленчую барацьбу паднявольных народаў, а адначасна пры дапамозе ўкраінскага, беларускага, яўрэйскага нацыянал-і сацыял-фашызму робіць усё больныя патугі, каб зрабіць з працоўных мас падневольных і прыдушаных народаў прыладу сваіх імпэрыялістычных плянаў, ачмучваючы іх фэдэралістычнымі лёзунгамі і лёзунгам „абароны“ Украіны і Беларусі ад „чырвонага маскоўскага імпэрыялізму“.

V зьезд КПП адзначыў, што на грунце эканамічнага крызісу і далейшага паглыбленьня палітычнага крызісу фашысцкай дыктатуры будзе ў шпаркім тэмпе адбывацца далейшае завастрэньне, паглыбленьне і пашырэньне рэвалюцыйнай нацыянальна-вызваленчай барацьбы падняволеных народаў. Магутная хваля вострай забастовачнай барацьбы сельскагаспадарчых рабочых, якая пракацілася на абшарах Зах. Украіны ў мінулым годзе, зьмянілася цяпер яшчэ больш вострымі формамі барацьбы падняволеных працоўных украінскіх мас супроць абшарнікаў і фашысцкай акупацыі. Гарэць абшарніцкія і асадніцкія двары, паліцэйскія і падатковыя ўрады, як выраз помсты працоўных мас супроць сваіх прыгнятацеляў і эксплёататараў. Барацьба гэтая захоплівае ўсё новыя абшары, прымае ўсё больш вострыя формы, пераходзіць месцамі да ўзброенага адпору карным фашысцкім атрадам, паліцыі і стралецкім бандам. Паглыбленьне нацыянальна-вызваленчае барацьбы, хоць і не ў такіх яшчэ яскравых формах, мы бачым і на Зах. Беларусі, доказам чаго зьяўляецца ўзрастаючая барацьба беларускага сялянства супроць падаткаў і шарваркаў, супроць грабежніцкай ліквідацыі сэрвітутаў і камасацыі, у ажыўленьні забастовачнай барацьбы сельскагаспадарчых рабочых (Маладэчна), у адпоры сялянскіх мас паліцыі (Алекшыцы, Чарнявіцы). Гэта зьвястуны новага магутнага ўздыму нацыянальна-вызваленчай барацьбы, нарастаньня элемэнтаў хатняй вайны ў Зах. Беларусі, як слушна акрэсьліў яшчэ IV пленум ЦК КПЗБ.

Абвастрэньне клясавай барацьбы ў Зах. Украіне і Зах. Беларусі, абвастрэньне барацьбы супроць акупацыі зьяўляецца вынікам усяе

грабежніцкае каленіяльнае палітыкі фашысцкай дыктатуры, укінуўшай на дно пропасьці, вызыску, нэндзы, голаду, беспрацоўя і безьзямельля працоўныя масы паднявольных народаў. Гэтая палітыка, мэтай якое было ўзмацненьне базы фашысцкай акупацыі ў ЗБ і ЗУ праз замацаваньне саюзу паміж польскім фашызмам і ўкраінскай і беларускай буржуазіяй, коштам павялічэньня вызыску і нэндзы працоўных мас, прысьпяшала дыфэрэнцыяцыю на ЗУ і ЗБ, тэмп якое яшчэ больш узрос у варунках глыбокага эканамічнага крызісу.

Магутным чыньнікам, які прысьпяшае працэс палярызацыі сіл на ЗБ і ЗУ і рэвалюцыянізаваньня працоўных мас паднявольных народаў, зьяўляецца магутнае разьвіцьцё сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР, вялізарныя дасягненьні ленінскай нацыянальнай палітыкі УсеКП(б), якая забясьпечвае магутны росквіт Савецкай Украіны і Савецкай Беларусі.

Але гэтыя вялізарныя дасягненьні працоўных мас пад кіраўніцтвам УсеКП(б) на Сав. Украіне і Сав. Беларусі, а асабліва ліквідацыя кулацтва, як клясы, канчаткова разьбіваюць надзеі ўкраінскай і беларускай буржуазіі на буржуазнае перараджэньне савецкіх рэспублік, і дзеля гэтага расьце іх актыўнасьць да арганізацыі ўзброенай інтэрвэнцыі супроць краіны дыктатуры пралетарыяту, узмацняе іх саюз з польскім фашызмам. Украінская і беларуская буржуазія зьяўляецца аднэй з падстаў фашысцкай акупацыі на ЗБ і ЗУ, стаіць у першых шэрагах душыцеляў нацыянальна-вызваленчае барацьбы на Зах. Украіне і Зах. Беларусі і арганізатараў вайны супроць СССР. Тут выходзяцца інтарэсы ўкраінскай і беларускай буржуазіі з інтарэсамі польскага фашызму і міжнароднага імпэрыялізму. Нацыянальная палітыка фашысцкай дыктатуры цесна зьвязана з падрыхтоўкай міжнароднага капіталу вайны супроць СССР, у арганізацыі якое Польшча зьяўляецца фарпостам, а Зах. Украіна і Зах. Беларусь маюць адыграць ролю выпадковае брамы для ўзброенага нападу на СССР.

Чыньнікі, якія акрэсьліваюць нацыянальную палітыку фашысцкай дыктатуры, гэта агульныя інтарэсы польскай буржуазіі, гэта значыць імпэрыялістычныя тэндэнцыі да гаспадарчай экспансіі на Усход, да пашырэньня граніц польскае акупацыі і разгрому Савецкага саюзу, што цалкам супадае з інтарэсамі міжнароднага імпэрыялізму; спэцыфічныя інтарэсы польскіх пануючых клясаў на акупаваных землях, якія ўсё больш адчуваюць канкурэнцыю з боку ўкраінскай і беларускай буржуазіі, а такжа неабходнасьць узмацненьня супрацоўніцтва польскага фашызму з буржуазіяй паднявольных і ўціcканых народаў для супольнай барацьбы супроць СССР і рэвалюцыйнага руху ў Польшчы, Зах. Украіне і Зах. Беларусі.

У агульных інтарэсах пануючай польскай буржуазіі і буржуазіі паднявольных народаў і міжнароднага імпэрыялізму, фашысцкая дыктатура ўзмацняе нацыянальны ўціск, абвастрае рэпрэсіі і тэрар, які месцамі набывае мэтады хатняй вайны. Фашызму ўжо не выстарчаюць масавыя арышты, катаржныя прысуды і разгромы арганізацыяў нац. вызваленчага руху; фашысцкая дыктатура пачынае ўсё больш прымяняць сьмяротныя прысуды, залівае Зах. Украіну тысячамі паліцэйскіх і стралецкіх бандаў, мабілізуюцца цэлыя карпусы кавалерыі для карных экспэдыцый, накладаюцца на вёскі кантрыбуцыі, канфіскуюць сялянскую маёмасьць для пакрыцьця страт абшарнікаў, расстрэльваюць сялян і рабочых, гвалцяць жанчын у раёнах, ахопленых заравам рэвалюцыйнай барацьбы.

Робячы высілкі крывёю, агнём і жалезам задушыць рэвалюцыйны рух, фашысцкая дыктатура адначасна ліхаманкава напружвае ўсе сілы,

каб утрымаць і ўзмацніць сваю базу на акупаваных землях, у першую чаргу праз узмацненьне польскай буржуазіі, абшарнікаў, асаднікаў, фашысцкага чыноўніцтва і верхавіны польскага гарадзкога дробнамяшчанства. Адначасна фашысцкая дыктатура ўзмацняе саюз з буржуазіяй паднявольных народаў. Падставай гэтага саюзу зьяўляюцца іх супольныя клясавыя інтарэсы, супольная барацьба супроць рэвалюцыйнага руху ў Польшчы, супроць Савецкага саюзу. Уся гаспадарчая палітыка фашысцкай дыктатуры ідзе па лініі замацаваньня гэтага саюзу (зямельная і крэдытовая палітыка, грашовыя падачкі нацыянал-фашысцкім арганізацыям), у тым-жа кірунку ідзе царкоўная палітыка фашызму і поўныя падачкі для ўкраінскай і беларускай буржуазіі і кулацтва ў галіне нацыянальнай культуры. Гэты клясавы саюз паміж буржуазіяй пануючай нацыі і буржуазіяй паднявольных нацый усё больш будзе ўзмацняцца па меры далейшага абвастрэньня рэвалюцыйнай барацьбы на Зах. Украіне і Зах. Беларусі. Усе спрэчкі паміж польскай, украінскай ці беларускай буржуазіяй за ільвіную долю ў эксплёатацыі беларускіх і ўкраінскіх працоўных масаў, адыходзяць на задні плян і падпарадкуюцца агульнаму заданьню душэньня рэвалюцыйнага руху, які аднолькава пагражае панаваньню як тых, так і другіх, і арганізаваньня вайны супроць СССР.

Такім чынам, нацыянальная палітыка фашысцкай дыктатуры паглыбляе клясавыя супярэчнасьці ня толькі паміж працоўнымі масамі паднявольных народаў і буржуазіяй пануючай нацыі, але таксама паміж украінскімі, беларускімі, яўрэйскімі працоўнымі масамі і іх уласнай буржуазіяй, прычыняецца да паглыбленьня і завастрэньня клясавае барацьбы проціў польскай акупацыі і яе саюзьнікаў—буржуазіі паднявольных народаў. Працоўныя масы Зах. Украіны і Зах. Беларусі ўсё больш усьведамляюць сабе, што іх вызваленьне з-пад фашысцкай акупацыі і аб'яднаньне з Савецкай Украінай і Савецкай Беларусьсю цесна зьвязаны з барацьбою супроць свае ўласнае буржуазіі і кулацтва, выражэньнем чаго зьяўляецца зьмяншэньне ўплываў нацыянал і сацыял-фашысцкіх украінскіх, беларускіх і яўрэйскіх партыяў, узрост уплываў кампартыі, узмацненьне гэгемоніі пралетарыяту ў нацыянальна-вызваленчым руху, узмацненьне інтэрнацыянальнага саюзу працоўных масаў Польшчы, Зах. Украіны і Зах. Беларусі пад гэгемоніяй пралетарыяту.

У варунках нарастаньня рэвалюцыйнае сытуацыі ў Польшчы ўзрастае актыўнасьць буржуазіі паднявольных народаў у барацьбе супроць рэвалюцыйнага руху ў Польшчы і супроць СССР. Усё больш актыўную ролю адыгрываюць беларускія і ўкраінскія нацыянал і сацыял-фашысцкія партыі ў душэньні нацыянальна-вызваленчай барацьбы і разгроме рабоча-сялянскіх арганізацый. Яны арганізоўваюць напады сваіх баёвак на арганізацыі нацыянальна-вызваленчага руху, бяруць чынны ўдзел у пагромах гурткоў ТБШ і, знаходзячыся пад рэвалюцыйным уплывам аддзелаў „Просьвіты“, робяць даносы на рабоча-сялянскіх паслоў, на рэвалюцыйных рабочых і сялян. Фашысцкая група Луцкевіча-Астроўскага цесна супрацоўнічае з кіраўніком Віленскай ахранкі віцэ-ваяводай Кантыкрысам у разгроме нац.-вызваленчага руху на Зах. Беларусі. Украінскія нацыянал і сацыял-фашысты рашуча адмяжоўваюцца ад гэраічнае барацьбы ўкраінскіх працоўных масаў супроць польскай акупацыі і апраўдваюць крывавую расправу акупантаў. Іх правадыры, старшыня УНДО Лявіцкі і мітрапаліт Шаптыцкі, супольна з Пілсудзкім, Слаўкам, Складкоўскім дагаварваюцца, як лепш задушыць рэвалюцыйны рух на Зах. Украіне.

Гэтая барацьба супроць рэвалюцыйнага руху на ЗБ і ЗУ цесна зьвязана з арганізацыяй вайны супроць СССР. Супольна з фашысцкай дыктатурай абмяркоўваюцца пляны нападу на СССР, падзелу тэрыторыяў (дагавор ген. Сальскага са Слаўкам), арганізацыі ваенных украінскіх і беларускіх аддзелаў. Пад кіраўніцтвам польскага фашызму вядзецца салідарная акцыя ўкраінскай і беларускай буржуазіі і кулацтва па абодвух баках кардону для арганізацыі контррэвалюцыйных выступленьняў і шкодніцтва ў УССР і БССР („Саюз Вызваленьне Украіны“, контррэвалюцыйная дзейнасьць беларускіх нацыянал-дэмакратаў і г. д.).

Таксама ўсё больш замацоўваецца супрацоўніцтва яўрэйскай буржуазіі з польскім фашызмам, які ставіць перад яўрэйскай буржуазіяй місію прысьпяшэньня палёнізацыі акупаваных абшараў (выступленьні Голувко, канфэрэнцыя Слаўка з Грынбаумам). Нацыяналістычная антынямецкая сьвістапляска, разьлічаная на распальваньне ў масах шавінізму і ваяўнічага патрыятызму, не перашкаджае ўсё большаму ўзмацненьню супрацоўніцтва паміж польскім фашызмам і нямецкай буржуазіяй у Польшчы, якая выпаўняе цяпер ролю пасрэдніка для зьліжэньня фашысцкай Польшчы з Нямеччынай, для прысьпяшэньня арганізацыі супольнага фронту вайны супроць СССР. Таксама і літоўская буржуазія ў Польшчы з гэткай-жа мэтай дапамагае для ліквідацыі спрэчак паміж Польшчай і Літвою, выступаючы ў ролі пасрэдніка ў перагаворах, якія вядуцца цяпер паміж Польшчай і Літвою.

V зьезд КПП асабліва зьвярнуў увагу партыі на небясьпеку, якая пагражае нацыянальна-вызваленчаму руху з боку тых аддзелаў украінскага і беларускага нацыянал-фашызму, якія ў варунках узрастаючай рэвалюцыйнай хвалі змушаны паслугоўвацца найбольш завостранаю радыкальнай фразай, з часамі „радыкальнымі“ мэтадамі, калі лепш перахопліваць рэвалюцыйныя настроі масаў. Такім аддзелам на Зах. Беларусі зьяўляецца група Луцкевіча-Астроўскага, папоўненая ў апошні час рэнэгатам „Грамады“ Акінчыцам. Група гэтая разгарнула супольна з фашысцкай дыктатурай на шырокую скалю закроены манэўр навакол засуджаных на катаргу паслоў „Грамады“. Манэўр гэты быў разьлічаны на тое, каб завешваючы варункова кару паслоў Грамады, змусіць іх да пасыўнасьці пад пагрозай узнаўленьня кары, і такім чынам стварыць ураджаньне, што ўсе правадыры Грамады ідуць сьледам за Луцкевічам і Акінчыцам на шлях супрацоўніцтва з фашызмам, здэзарыентаваць масы і пасеяць у іх ілюзіі аб зьмене курсу фашысцкай нацыянальнай палітыкі. Манэўр гэты лопнуў, як мыдляная банька, бо паслы „Грамады“ на чале з Тарашкевічам здэмаскавалі гэты манэўр фашызму і сталі ў шэрагі працоўных Зах. Беларусі дзеля далейшай рэвалюцыйнай барацьбы супроць фашысцкай акупацыі і яе саюзьнікаў беларускіх нацыянал-фашыстаў.

У гэтых-жа варунках адбываецца ўзмацненьне супольнага фронту сацыял-фашызму паднявольных народаў са сваёй буржуазіяй з аднаго боку (супольны выбарчы блёк украінскай сацыял-дэмакратыі з УНДО) і ўзмацненьне лучнасьці ўсяго сацыял-фашысцкага лягеру навакол ППС для душэньня рэвалюцыйнага руху, што праяўляецца ў адзіным фронце іх пры разьбіцьці рэвалюцыйнага прафруху, ламаньні забастовачнай барацьбы, падтрымоўваньні фашысцкага арбітражу і г. д. Гэтае адзінства ў іх контррэволюцыйнай дзейнасьці не перашкаджае ім, лічачыся з узростам рэвалюцыянізаваньня масаў, завастраць радыкальную фразу, а нават крытыкаваць ППС, як гэта робіць Бунд, які

гэтым імкнецца ратаваць свае пазыцыі ў масах, шмат пахіснутыя пасьля яго ўступленьня ў II Інтэрнацыянал, што выклікала абурэньне яўрэйскіх рабочых.

ППС, гуртуючы навакол сябе ўвесь сацыял-фашысцкі лягер, выступаючы на чале Цэнтралеву, як апошняя дошка ратунку для загароджанага панаваньня фашысцкай дыктатуры ад напору рэвалюцыйнай хвалі, таксама і ў галіне нацыянальнай палітыкі разам з польскімі народніцка-фашысцкімі партыямі фактычна зьяўляецца аднэй з галоўных падставаў польскай акупацыі на ЗБ і ЗУ, праваднікам фашысцкай палітыкі палёнізацыі, рассаднікам сярод польскага пралетарыяту польскага вялікадзяржаўнага шавінізму, для арганізацыі нападу на СССР. ППС разам з Пілсудзкім агнём і мячом замацоўвала ў 1918—1920 гадох, топячы ў крыві нацыянальна-вызваленчы рух на ЗБ і ЗУ, арганізуючы разам з Пілсудзкім паходы на Менск і Кіеў.

Нацыянальна-вызваленчы рух, барацьба супроць фашысцкае акупацыі гэта ўдар у падставы польскага імэрыялізму, гэта ўдар у падставы панаваньня польскай буржуазіі, а тым самым адзін з падстаўных чыньнікаў пролетарскай рэвалюцыі ў Польшчы. Гэта асабліва яскрава выступае цяпер. Гэтым ясна выкрывае сваю справу фашысцкая дыктатура, кінуўшая цэлыя карпусы для затапленьня ў крыві рэвалюцыйнага руху на Зах. Украіне. Але гэтага зразуменьня няма яшчэ поўнасьцю сярод усіх зьвеньняў нашае партыі, доказам чаго зьяўляецца слабая дзейнасьць партыйных арганізацый усяе Польшчы, ЗБ і ЗУ па мабілізацыі масаў на падтрыманьне, пашырэньне і кіраваньне нацыянальна-вызваленчае барацьбы. I дзеля гэтага асабліва моцна трэба падкрэсьліць слушнасьць завастрэньня V Зьездам КПП увагі ўсяе партыі на значэньні нацыянальна-вызваленчае барацьбы, на ўсьведамленьні кожнага рабочага і селяніна, што барацьба працоўных масаў Зах. Украіны і Зах. Беларусі супроць акупацыі, за самавызначэньне аж да аддзяленьня і злучэньне з УССР і БССР, што барацьба літоўцаў за самавызначэньне аж да аддзяленьня, барацьба проціў нацыянальнага ўціску яўрэйскіх і нямецкіх масаў, барацьба за самавызначэньне аж да аддзяленьня для Верхняй Сілезіі,—зьяўляецца адначасова барацьбою працоўных масаў усяе Польшчы за зваленьне фашысцкае дыктатуры, за Польскую савецкую рэспубліку. Таксама трэба ўсьвядоміць працоўныя масы паняволеных і прыгнечаных народаў, што іх барацьба за сваё нацыянальнае вызваленьне неаддзяліма ад клясавае барацьбы пролетарыяту за зваленьне фашысцкай дыктатуры, што шлях да нацыянальнага вызваленьня толькі адзін—барацьба за Савецкую Польшчу, за дыктатуру пролетарыяту, супроць буржуазіі, як пануючай нацыі, так і свае роднае, у стварэньні адзінага фронту барацьбы рабочых, сялян і паднявольных народаў пад гэгемоніяй пралетарыяту і яго Кампартыі.

Зьдейсьненьне гэтай задачы магчыма толькі шляхам самай цеснай увязкі нацыянальна-вызваленчай барацьбы паднявольных народаў са штодзённаю барацьбой пролетарыяту і працоўных масаў сялянства праз арганізацыю супольных акцыяў, праз разьвіцьцё акцыяў салідарнасьці сярод польскага і яўрэйскага пролетарыяту з барацьбою масаў паднявольных народаў проціў акупацыі і нацыянальнага ўціску, праз організацыю выступленьняў на Зах. Украіне і Беларусі на падтрыманьне барацьбы пролетарыяту і працоўнага сялянства ў Польшчы.

Прысваеньне ўсёй партыяй падставаў бальшавіцкае ленінскае нацыянальнае палітыкі асабліва важна цяпер напярэдадні нападу польскага фашызму ў саюзе з буржуазіяй паднявольных народаў

на СССР, калі ўсё больш будзе ўзрастаць на працоўныя масы націск як вялікадзяржаўнага польскага шавінізму, так і нацыяналізму буржуазіі і кулацтва паднявольных народаў. Дзеля гэтага трэба ўзмацніць барацьбу супроць нацыяналізму, антысэмітызму, узмацніць працу над замацаваньнем інтэрнацыянальнай салідарнасьці працоўных мас. Націск шавінізму ўсякага гатунку прасякае і ў рады рэвалюцыйных організацыяў, аб чым сьведчаць выступленьні некаторых абвінавачаных на працэсе ППС-лявіцы ў Сасноўцы, выступленьне Кауфмана і іншых на працэсе 21 ва Львове. Трэба ўсьведаміць сабе тую веліч небясьпекі, калі ў часе вайны некаторыя зьвеньні нашае партыі ці нацыянальна-вызваленчых організацыяў паддаліся-б націску таго ці іншага нацыяналізму. V Зьезд КПП слушна падкрэсьліў, што ў варунках Польшчы галоўная небясьпека пагражае з боку націску польскага вялікадзяржаўнага нацыяналізму, і ў гэты бок павінен быць накіраваны галоўны агонь. Але побач з гэтым узмагаецца таксама небясьпека нацыяналізму беларускага і ўкраінскага, бо мабілізаваць беларускія і ўкраінскія масы на вайну проціў Савецкага Саюзу польскі фашызм будзе галоўным чынам праз беларускую і ўкраінскую буржуазію пад лёзунгамі ўкраінскага і беларускага нацыяналізму, і дзеля гэтага на гэтых вучастках агонь трэба накіроўваць ня толькі ў бок польскага нацыяналізму, але перад усім у бок украінскага і беларускага нацыяналізму.

Выканаць гэтую задачу партыя зможа толькі тады, калі да канца пераможа ў сваіх радох усякія ухілы ад ленінскай нацыянальнай палітыкі. І тут галоўная небясьпека—правая—небясьпека нацыянал-апартунізму. Зьезд асудзіў нацыянал-апартуністычныя погляды т. Вінярскага, што сучасная Польшча зьяўляецца калёніяй імпэрыялістычных дзяржаў, што польская буржуазія, організуючы вайну проціў СССР, робіць гэта толькі пад націскам імпэрыялістычных дзяржаў, што галоўным зьвяном, за якое КПЗУ павінна ўхапіцца ў працы сярод польскіх работнікаў на Зах. Украіне, гэта абарона іх „нацыянальных інтарэсаў", гуртаваньне іх на грунце „барацьбы за сапраўдную дзяржаўную незалежнасьць польскага народу". Крыніцай гэтых антыбальшавіцкіх поглядаў зьяўляюцца канцэпцыі правай групы ў КПП (нацыянал-апартуністычныя погляды т. Варскага, тэорыі, якія адмаўляюць існаваньне польскага імпэрыялізму, разьвітыя ў брашуры Бранда).

Побач з гэтым трэба змагацца з усялякімі праявамі нігілізму ў нацыянальным пытаньні, недаацэнцы значэньня нацыянальна-вызваленчай барацьбы, усялякімі праявамі пасыўнасьці да нацыянальна-вызваленчай барацьбы паднявольных народаў.

Зьезд завастрыў таксама ўвагу на барацьбе з націскам на нашу партыю ўкраінскага і беларускага нацыяналізму. Небясьпека нацыянал-апартуністычных ухілаў у КПЗУ і КПЗБ паглыбляецца ў зьвязку з антысавецкай актывізацыяй буржуазіі паднявольных народаў. Яскравым прыкладам небясьпекі з гэтага боку зьяўляецца здрада групы Васільківа-Тур'янскага. Аб актуальнасьці гэтай небясьпекі сьведчаць факты хістаньняў у радох нац.-вызваленчага руху, невыстарчаючая актыўнасьць некаторых членаў партыі ў барацьбе супроць нацыянал-фашызму, а часам нават ілюзіі адносна яго, памылкі, якія ідуць па лініі адзінага нацыянальнага фронту, і ўзнаўляючыяся канцэпцыі аб бяскласавасьці ўкраінскага ці беларускага народу.

V зьезд раскрытыкаваў таксама нацыянал-апартуністычныя памылкі ў яўрейскай рабоце, якія адбіваюць націск яўрэйскай буржуазіі, што

знайшло сваё выражэньне ў недаацэнцы буржуазнага і контррэвалюцыйнага характару сыянізму, у недаацэнцы сацыял-фашысцкай сутнасьці Бунду, у адзіным фронце з Бундам і ПЦ.

Рашуча змагаючыся з усялякімі ўхіламі, асабліва-ж з нацыянал-апартуністычнымі на падставе бальшавіцкае самакрытыкі, партыя павінна вясьці далейшую працу ў галіне прысваеньня ленінскай нацыянальнай палітыкі, на перашкодзе чаму сталі апартуністычныя тэорыі правай групы Кастшэва-Варскага. Толькі тады партыя зможа правільна кіраваць нацыянальна-вызваленчым рухам паднявольных народаў і павясьці рашучы штурм на зваленьне фашысцкай дыктатуры ў Польшчы.

---

# МАТАР'ЯЛЫ І ДАКУМАНТЫ

## Нацыянальна-вызваленчы рух і задачы партыі

*(Рэзалюцыя IV пленуму ЦК КПЗБ)*

1. Фашысцкі ўрад усю сваю політыку падпарадкуе ваеннай імпэрыялістычнай палітыцы, падрыхтоўцы нападу на СССР. На ЗБ асабліва выразна выяўляюцца ваенныя мэты ў нацыянальнай палітыцы фашысцкага ўраду.

Ва ўмовах ўздыму і разгортваньня рэволюцыйнага руху прыгнечаных і эксплёатаваных мас ЗБ пад кіраўніцтвам кампартыі, настойлівага шуканьня з боку польскага імпэрыялізму выхаду з крызыснага тупіку праз вайну і набліжэньня пралетарскай рэволюцыі, фашысцкі ўрад ўсё мацней апіраецца ня толькі на польскую буржуазію і абшарніцтва, але таксама і на беларускія заможныя і эксплёататарскія клясы ў правядзеньні ўсёй сваёй палітыкі (падатковыя палёгкі для сельскай буржуазіі, субвэнцыі 500.000 злот., ухваленыя соймам на нацыянал-фашысцкую прэсу, гімназіі, організацыі і інш.).

У адносінах-жа да працоўных эксплёатаваных мас ЗБ фашысцкая дыктатура, пры дзейнай дапамозе сацыял і нацыянал-фашыстаў усіх нацый, ужывае распаношаны фізычны і эканамічны тэрор (масавыя арышты ва ўсёй ЗБ, катаржныя прысуды 10—15 гадоў, а ў апошнія часы кары сьмерці, разгромы сэкратарыяту пасольскага клюбу „Змаганьне“, рэпрэсіі адносна ТБШ, крывавыя расправы над дэманстрантамі і рэволюцыйнымі пасламі, шырокае ўжываньне адміністрацыйных штрафаў за палітычную дзейнасьць і г. д.). Белы тэрор, па меры росту рэволюцыйнага руху, па меры набліжэньня вайны, будзе прымаць усё больш масавы і крывавы характар. Адначасова ўрад змушаны ісьці на шэраг манэўраў, як, напрыклад, выпушчэньне з турмы грамадаўскіх паслоў Тарашкевіча, Мятлы, Рак-Міхайлоўскага і інш. Выпускаючы ўмоўна грамадаўскіх паслоў, фашысцкі ўрад хацеў выклікаць хістаньні ў іншых засуджаных грамадаўцаў, стварыць ілюзіі аб быццам-бы новым курсе ў нацпалітыцы, адцягнуць увагу мас ад барацьбы за вызваленьне ўсіх палітвязьняў, даць зброю нац. фашыстам у іх падрыўнай рабоце ў шэрагах нацыянальна-вызваленчага руху і па ўцягваньню мас у фашысцкую ваенную палітыку фашысцкага ўраду. Манэўр гэты, разьлічаны на дэзарыентацыю мас, на ўмацаваньне пазыцый беларускага нац-фашызму, які прапагандуе разбраеньне і супрацоўніцтва з фашысцкай дыктатурай, быў у корані здэмаскаваны і спаткаў рашучы адпор мас і павадыроў Грамады, з абурэньнем адкінуўшых акт „фашысцкай ласкі“, прадэманстраваўшых сваю аддадасьць рэволюцыйнаму нацыянальна-вызваленчаму руху і востра асудзіўшых контррэволюцыйную дзейнасьць беларускіх нац.-фашыстаў.

2. Побач з павялічэньнем эксплёатацыі, беспрацоўя, паглыбленьнем галечы, голаду шырокіх мас і дэградацыі ўсяе гаспадаркі ЗБ, як калёніі Польшчы, у БССР, як і ва ўсім Савецкім саюзе, паскараецца тэмп індустрыялізацыі, ідзе соцыялістычная перабудова бядняцкасераднядкіх гаспадарак на падставе калектывізацыі, выкарчоўваюцца

рэшткі капіталістычных карэньняў, і на аснове суцэльнай калектывізацыі ліквідуецца кулацтва як кляса—гэтая апошная апора міжнароднага імпэрыялізму ў СССР і зьлейшага ворага социялістычнага будаўніцтга ў краі Саветаў. У выніку правядзеньня рашучага соцыялістычнава наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, КП(б)Б, апіраючыся на пралетарскую грамадзкасьць і цьвёрда ажыцьцяўляючы ленінскую нацыянальную палітыку, атрымала бліскучыя перамогі ў барацьбе супроць усялякіх ухілаў ад правільнай ленінскай лініі, у першую чаргу супроць правага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на данным этапе. Братняя КП(б)Б за апошні пэрыод нанесла сакрушальныя ўдары па беларускаму нац.-дэмакратызму і па шавінізмах розных нацыянальнасьцяй, якія (гэтыя шавінізмы), выяўляючы політычную актывізацыю капіталістычных элемэнтаў у БССР, атакаваных сацыялістычным наступленьнем, зьяўляюцца аднача‌сна агентурай польскага фашызму і беларускага нацыянал-фашызму. Магутны рост пралетарыяту, росквіт пралетарскай культуры (беларускай, яўрэйскай, польскай і інш.) у БССР, аграмадная дапамога ўсяго Савецкага Саюзу ў сацыялістычным будаўніцтве БССР—усё гэта дапамагае зжываць рэшткі нацыянальных антаганізмаў, як спадчыну царызму, спрыяе інтэрнацыянальнаму выхаваньню мас і ўзмацненьню пралетарскай дыктатуры.

3. Агульнасьць клясавых захопніцкіх інтарэсаў польскіх капіталістых, абшарнікаў і беларускай буржуазіі і кулацтва прыводзіць да цясьнейшага іх зрастаньня. Беларуская буржуазія, у тым ліку кулацтва, буржуазная інтэлігенцыя, і духавенства, мае свае ўласныя клясавыя інтарэсы, аднак яна добра разумее, што бяз польскага і міжнароднага капіталу яна бясьсільна ў барацьбе супроць пралетарыяту і яго кампартыі. Таму, у імя сваіх клясавых інтарэсаў і дзеля зваленьня пралетарскай дыктатуры ў БССР, яна канцэнтруе свае сілы пад камандай польскага фашызму супроць социлістычнай рэволюцыі ва ўсёй Польшчы і на падрыхтоўку вайны супроць СССР, выяўляючы ўсё болшую агрэсыўнасьць у адносінах да БССР.

Усьцяж адбываецца кансалідацыя буржуазіі ўсіх прыгнечаных народаў Польшчы пад гэгемоніяй польскай бужуазіі, адбываецца каардынацыя работы і зацясьненьне адзінага антысавецкага фронту контрреэволюцыйных элемэнтаў усіх нацыянальнасьцяй Польшчы (варшаўская канфэрэнцыя беларускіх, украінскіх і літоўскіх нацыянал-фашыстаў, тайная ваенная ўмова прэм'ера Славека з новым дыктатарам пятлюраўскага ўраду генэралам Сальскім аб нападзе на СССР, антысавецкія зговары УНДО—пятлюраўцаў з групай Луцкевіча, паездка Масьціцкага у Вільню і яго перагаворы з беларускімі нац.-фашыстамі). У адзіным контррэволюцыйным фронце супроць рэволюцыйнага руху працоўных мас і ў падрыхтоўцы вайны *супроць СССР* прымае ўдзел яўрэйская і літоўская буржуазія і яўрэйскі сацыял-фашызм. (Бунд, ПЦ) і літоўскі сацыял-і нацыянал-фашызм. Яўрэйская буржуазія і сацыял-фашызм вядуць шалёнае цкаваньне супроць СССР, (зямляўпарадкаваньне працоўных яўрэяў, павялічэньне яўрэйскага пралетарыяту, рост і разьвіцьцё яўрэйскае пролетарскае культуры). На ЗБ яўрэйскія і літоўскія сацыял-і нацыянал-фашысты зьяўляюцца саюзьнікамі і агентамі польскага імпэрыялізму. Фашысцкі ўрад, пашыраючы правы яўрэйскіх рэлігійных гмін, мае на мэце пры пасрэдстве гэтых гмін праводзіць калёнізацыю і закабаленьне працоўных яўрэйскіх мас і ўзмацніць барацьбу супроць іх нацыянальна-вызваленчага руху.

У выніку росту ўплыву кампартыі, разгортваньня контрнаступленьня пралетарыяту, набліжэньня рашучых клясавых баёў адбываецца актывізацыя беларускіх нацыянал-фашыстаў — ідэолёгаў беларускіх заможных эксплёататарскіх клясаў у справе ажыцьцяўленьня палітыкі фашысцкага ўраду, палітыкі тэрору, эксплёатацыі, нацыянальнага прыгнечаньня і організацыі вайны, адбываецца ўсё большае зрастаньне іх з апаратам фашысцкай дыктатуры.

Лягер беларускага фашызму з групай Луцкевіча на чале праводзіць асабліва вышуканымі і хітрымі манэўрамі сваю раскладаючую працу сярод працоўных мас з мэтай пранікнуць у гэтыя масы, каб уцягнуць іх у сваю політыку цкаваньня Савецкага Саюзу, правакацыі і разгрому нацыянальна-вызваленчага руху (паказная абарона грамадаўскіх паслоў, ашуканчая псэўдарадыкальная фраза ў прэсе, асабліва ў „Наперадзе“ і т. д.). Беларускі нац. фашызм задае тон фашысцкаму лягеру на ЗБ у хлусьні і паклёпах супроць калектывізацыі і нацыянальнай палітыкі СССР. Нацыянал-фашызм прадстаўляе перад масамі наступленьне на кулака ў СССР, як наступленьне на ўсё сялянства, барацьбу з нацыянал-дэмакратызмам—як прасьледваньне беларусаў наогул, а яскравую перамогу ленінскай палітыкі кампартыі на ўсіх франтох сацыялістычнага будаўніцтва—як гаспадарчы заняпад. Мерапрыемствы фашысцкага ўраду, накіраваныя на задавальненьне патрэб беларускай буржуазіі і кулацтва (наведваньне прэзыдэнтам Масьціцкім беларускіх гімназій, садзейнічаньне ўраду ў беларусізацыі праваслаўнай царквы, адкрыцьцё вучыцельскай сэмінарыі ў Вільні, удзел у працах інстытуту вывучэньня ўсходніх народаў і адчыненьне катэдр беларускай мовы ў віленскім універсытэце), нацыянал-фашысты прадстаўляюць перад масамі, як новы курс у нацыянальнай палітыцы, каб гэтым адцягнуць масы ад клясавай рэволюцыйнай барацьбы і вырваць іх з-пад кіраўніцтва кампартыі. Па сутнасьці ўсе гэтыя манэўры ўраду ў нацыянальнай палітыцы і яго новыя падачкі беларускай буржуазіі і кулацтву ідуць па лініі дагаворанасьці польскіх, беларускіх, яўрэйскіх і літоўскіх багатых кляс у справе ўзмацненьня эксплёатацыі працоўных мас і ў справе кардынацыі работы ў падрыхтоўцы вайны супроць СССР.

Луцкевічаўская група беларускага нацыянал-фашызму, побач з асьцервянелым контррэвалюцыйным паходам супроць рэвалюцыйнага руху ў ЗБ і сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР, ужывае надзвычайна гнуткую сацыяльную дэмагогію, а таксама спэкулюе сваёй рольлю ў разгромленай Грамадзе. Шалёнай антысавецкай і антыкамуністычнай кампаніяй сацыял- і нацыянал-фашысты ўсямерна стараюцца разьбіць узрастаючыя рэвалюцыйныя сымпатыі працоўных мас ЗБ да СССР, падарваць уплыў кампартыі і гэтым уцягнуць рабочых і працоўнае сялянства ў вайну супроць краю будуючагася сацыялізму.

Беларускі нацыянал-фашызм—група Лукцевіча, БХД, Сельсаюз, ня гледзячы на неаднаразовыя паражэньні (няўдалая спроба фашызаваць ТБШ, няўдалыя патугі ўнесьці расклад у нацыянальна-вызваленчы рух, правал на лідзкіх выбарах) зьяўляецца і надалей сур'ёзнейшым ворагам для кампартыі ў справе барацьбы за беларускія працоўныя масы.

Беларуская буржуазія і кулацтва і іх нацыянал-фашысцкія партыі, па меры паглыбленьня дыфэрэнцыяцыі на вёсцы, разгортваньня контрнаступленьня пралетарыяту, узмацненьня сацыялістычнага будаўніцтва ў БССР, па меры набліжэньня нападу на Савецкі саюз, становіцца ўсё больш ударным ваяўнічым атрадам фашыцкага лягеру ЗБ. Жанглюючы псэўдарадыкальнай фразай, нацыянал-фашысты ўсё часьцей

прымаюць актыўны ўдзел у фізычным тэроры, у паліцэйскіх расправах, у пагромах над масавымі арганізацыямі нацыянальна-вызваленчага і наогул рэвалюцыйнага руху. Наладжаны беларускімі фашыстамі ў Вільні пагром організацый беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, крывавыя расправы кулакоў, асаднікаў і паліцыі на мітынгах і пры правядзеньні камасацыі і ліквідацыі сэрвітутаў, — усё гэта паказвае на бяздонную глыбіню клясавага распластаваньня ў беларускім народзе, сьведчыць аб завастрэньні да краю клясавай барацьбы, барацьбы клясы супроць клясы, аб нарастаньні элемэнтаў грамадзянскай вайны і ў беларускім грамадзянстве, у якім таксама насьпяваюць рашучыя баі—хто-каго, паміж камунізмам і фашызмам.

Нацыяналістычны лягер беларускай буржуазіі па абодвух бакох граніцы зьяўляецца адзіным лягерам беларускага нацыянал-фашызму, які ідзе пад гэгемоніяй польскай буржуазіі ў шэрагах міжнароднага антысавецкага фронту. Надыходзячы момант ваеннага нападу на СССР з боку польскага імпэрыялізму ўсё больш зьнітоўвае беларускую контррэвалюцыю, якая па абодвух бакох граніцы зьвязвае свае надзеі на зьнішчэньне дыктатуры пралетарыяту ў БССР, задушэньне рэвалюцыйнага рухуў ЗБ і на стварэньне буржуазнай „Беларускай народнай рэспублікі" пад пратэктаратам польскага імпэрыялізму, што роўназначна калёніі фашысцкай Польшчы.

Беларуская контррэволюцыя ў ЗБ і БССР зьяўляецца актыўнай арганізуючай сілай у падрыхтоўцы вайны супроць БССР у саюзе з польскім імпэрыялізмам і пад яго кіраўніцтвам. Беларускі нацыянал-фашызм у сваёй антысавецкай агітацыі выкарыстоўвае лёзунг буржу азнае „Беларускае незалежнае рэспублікі" і паказаную абарону інтарэсаў „усяго беларускага народу" для барацьбы супроць БССР пад маскай барацьбы з „чырвоным маскоўскім імпэрыялізмам".

Як беларуская нац. дэмократыя ў БССР, гэтак і нацыянал-фашызм у ЗБ зьяўляюцца тэй сілай, якая ня толькі ідэолёгічна і палітычна вядзе падрыхтоўку да падбою БССР, але ўжо цяпер організуе непасрэднае ўзброенае выступленьне супроць СССР. Беларуская контррэволюцыя ўжо цяпер рыхтуецца выступіць яшчэ больш актыўна, чым у гады грамадзянскай вайны (1918-20 г.г.), збройным атрадам польскага і міжнароднага імпэрыялізму ў вайне супроць СССР. Беларуская контррэвалюцыя, каб прыдушыць Кастрычнікавую рэвалюцыю і зваліць савецкую ўладу, організавала разам з польскімі і нямецкімі імпэрыялістамі, разам з расейскай белагвардзейшчынай (Врангель, Дзянікін) пад кіраўніцтвам міжнароднага імпэрыялізму ўзброеную барацьбу супроць дыктатуры пралетарыяту (мэмарыял беларускага нацыянальнага цэнтру ў Адэсе галоўнакамандуючаму францускіх войск Бэртэлё ў 1919 г., тэлеграма Вільгельму ад Найвышэйшай Рады, слуцкі кулацкі бунт супроць савецкай улады, банды Балаховіча, беларуская вайсковая камісія). Такім чынам, зусім відавочна выступае гістарычная пераёмнасьць паміж нарастаньнем у сучасны момант элемэнтаў грамадзянскай вайны ў беларускім грамадзянстве і тэй рольлю, якую адыгрывала беларуская контррэволюцыя ў узброенай барацьбе разам з расейскімі белагвардзейцамі і інтэрвэнцыйнымі войскамі Антанты ў 1918-20 г.г. супроць пралетарскае дыктатуры, супроць рэвалюцыйнага руху беларускіх працоўных мас.

4. У выніку паглыбленьня клясавай дыфэрэнцыяцыі на ЗБ у нацыянальна-вызваленчым руху, які ідзе пад кіраўніцтвам кампартыі, у барацьбе супроць капіталістычна-абшарніцкай акупацыі, супроць фашысцкай дыктатуры, усё больш на першы плян выступаюць соцыяльныя моманты.

Партыя, апіраючыся на пралетарскія і паўпралетарскія элемэнты ў нацыянальна-вызваленчым руху, дасягнула значных посьпехаў у кіраўніцтве гэтым рухам, у справе ўзьняцьця яго на вышэйшы палітычны ўзровень. Характэрным для выяўленьня стану сучаснага нацыянальна-вызваленчага руху зьяўляецца перанясеньне галоўнай вагі ў барацьбе на соцыяльныя і эканамічныя дамаганьні рабочых і працоўнага сялянства, зацясьненьне баявой сувязі вызваленчай барацьбы працоўных мас ЗБ з барацьбой працоўных мас Польшчы, узмацненьне саюзу рабочых і працоўнага сялянства, узмацненьне гэгемоніі пралетарыяту і кіраўніцтва кампартыі. Зьнітаваньне і ўмацаваньне рабоча-сялянскага саюзу пад кіраўніцтвам пралетарыяту і яго кампартыі на ЗБ ідзе ў ногу з узмацненьнем пралетарскай дыктатуры ў СССР і яго складовай часткі—БССР, і гэтым зьнітоўваецца баявы саюз працоўных мас. Партыя своечасова і рашуча змагалася з усялякімі праявамі раскладу і апортуністычнымі ўхіламі ў нацыянальна-вызваленчым руху, пасьпяхова разгарнула ў масах барацьбу з нацыянал-фашызмам, садзейнічала кансалідацыі нацыянальна-вызваленчага руху па лініі рэволюцыйнай барацьбы супроць фашысцкай акупацыі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Організацыі нацыянальна-вызваленчага руху праводзілі з посьпехам барацьбу супроць беларускага нац.-фашызму, дэмаскуючы яго ў масах як саюзьніка і агента фашысцкай акупацыйнай улады і падбухторшчыка вайны супроць СССР. У кампаніі супроць беларускіх фашыстаў былі вынесены рэзалюцыі на мясцох, і адбыліся масавыя мітынгі, зьбіраліся подпісы пад калектыўнымі пратэстамі, па вёсках сяляне дэманстратыўна палілі атрымоўваемую газэту Луцкевіча „Наперад“. Арганізацыі нацыянальна-вызваленчага руху прымалі актыўны ўдзел у падрыхтоўчай кампаніі да Бэрлінскага сялянскага кангрэсу, якая на ЗБ ахапіла шырокія працоўныя масы.

Арганізацыі нацыянальна-вызваленчага руху далі рашучы адпор усім спробам беларускага нац.-фашызму апанаваць і раскладаць ТБШ. У варунках абвостранага тэрроу і наскокаў нац.-фашызму ТБШ разгортвае сваю працу, расьце організацыйна. За апошнія паўгады ў арганізацыі ТБШ уступіла новых 665 сяброў і арганізавана 27 новых гурткоў. Маюцца дасягненьні ў прэсе нацыянальна-вызваленчага руху, якая стойка вяла барацьбу супроць нац.-фашызму, падрыхтоўкі вайны, бараніла інтарэсы рабочых і сялян. Выдавецтва нацыянальна-вызваленчага руху зрабіла вялікае зрушша ў справе выданьня марксысцкай літаратуры і ў справе сувязі з масамі праз друкаванае слова (лістоўкі, камунікаты). Усю гэту працу выдавецтва праводзіла ў абставінах абвастраючагася тэрору і рэпрэсій.

Побач з гэтымі буйнымі дасягненьнямі трэба адзначыць шэраг паважных недахопаў і памылак у працы організацый нацыянальна-вызваленчага руху, якія перад усімі выразілася: а) ва ўсё яшчэ невыстарчальным кіраваньні барацьбой працоўных мас на грунце іх штодзённых патрэб; б) у невыстарчаючым разгортваньні масавай працы; в) у адсутнасьці плянавасьці і сыстэматычнасьці ў працы, асабліва па ахопу раёнаў, дзе ўплывы арганізацый нацыянальна-вызваленчага руху параўнаўча малыя; д) у надзвычайна слабай працы сярод польскага, літоўскага і беларускага каталіцкага сялянства і яўрэйскай беднаты; е) у несваечасовым рэагаваньні на паважнейшыя палітычныя выпадкі ў Польшчы і ЗБ; ж) у невыстарчаючай папулярызацыі дасягненьняў БССР, асабліва ў галіне індустрыялізацыі і калектывізацыі, у слабым асьвятленьні барацьбы ў БССР проці нац.-дэмакратаў.

Асабліва трэба адзначыць буйныя памылкі паслоў „Змаганьня“ у сойме, якія ішлі па лініі пераацэнкі цярцёў унутры фашыцкага лягеру, панікёрскіх настрояў і капітулянцтва, а таксама ў галасаваньні ў сойме за крэдыты для культурных нац.-фашысцкіх установ. Гэтыя памылкі былі прызнаны клюбам ў пададзенай ім крытыцы.

Праводжаная ТБШ барацьба за школу ў роднай мове прымала найчасьцей характар „дэклярацыйнай акцыі“. Замест шырокага разгортваньня масавых выступленьняў з дамаганьнем школы ў роднай мове, супроць нацыянальнага ўціску і фашысцкай акупацыі, акцыя гэтая часткa зводзілася да мэханічнага падаваньня індывідуальных дэклярацый, што сеяла ілюзіі, быццам гэтым шляхам пэтыцый у варунках фашысцкай дыктатуры магчыма дабіцца здавальненьня культурна-асьветных патрэб працоўных мас, і зьяўлялася аб'ектыўна спаўзаньнем на пазыцыі нац.-фашызму. Побач з гэтым былі дапушчаны таксама памылкі ультралевага характару, якія ішлі па лініі нэгаваньня штодзённай барацьбы за частковыя дамаганьні, асабліва ў галіне барацьбы за школу ў роднай мове.

5. У варунках уздыму рэвалюцыйнай барацьбы і выжываньня ў масах ілюзій адносна фашысцкае палітыкі, дзякуючы правільнаму кіраўніцтву і рашучаму адпору ўсім праявам нацыянал-апартунізму з боку партыі, пад уплывам магутнага росту сацыялістычнага будаўніцтва ў БССР і посьпехаў ленінскай нацыянальнай палітыкі КП(б)Б, організацыі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху ўсё больш рашуча пазбаўляюцца хістаньняў у сваіх шэрагах і перамагаюць нацыяналістычныя перажыткі беларускага буржуазнага адраджэнцкага руху, уплывы якога на гэтыя арганізацыі моцна адчуваліся. Аднак, небясьпека хістаньняў у шэрагах нацыянальна-вызваленчага руху ўсё яшчэ застаецца актуальнай. Дробнабуржуазнае асяродзішча зьяўляецца спрыяючай глебай дзеля карэньняў гэтых хістаньняў, якія вырастаюць з нявыжытых яшчэ да канца нацыяналістычных перажыткаў. Небясьпека гэтых хістаньняў павялічваецца ў сувязі з ўсё больш узрастаючай актыўнасьцю беларускага нацыянал-фашызму ў ЗБ і беларускага нац.-дэмакратызму ў БССР, націск якіх на пэўныя праслойкі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху ўсё яшчэ моцна адчуваецца і будзе ўзрастаць па меры набліжэньня ваеннага нападу на СССР. Аб актуальнасьці гэтай небясьпекі сьведчаць такія факты, як першамайская дэманстрацыя м. г. у аднэй з вёсак Гарадзеншчыны пад нацыяналістычнымі беларускімі сьцягамі, у якой прымалі ўдзел нават комсамольцы; праявы беларускага нацыяналізму сярод рабочых на шклянай гуце ў Вільні; спаўзаньне беластоцкай управы ТБШ на шлях адкрытага супрацоўніцтва з фашызмам; апартуністычныя памылкі ў школьнай кампаніі з боку кіруючых органаў ТБШ; хістаньні пасярод паасобных дзеячоў нацыянальна-вызваленчага руху і г. д.

Манэўры і ўзмоцнены белы тэрор фашыскага ўраду, ажыўленьне дзейнасьці беларускай контррэволюцыі па абодвых бакох савецкай мяжы—вось галоўнейшыя фактары хісьтаньняў ад рэволюцыйнай лініі паасобных зьвеньняў нацыянальна-вызваленчага руху. Па меры паглыбленьня дыфэрэнцыяцыі, завастрэньня клясавае барацьбы і рэзкага разьмежаваньня на два лягеры ў беларускім грамадзянстве адбываецца ачышчэньне шэрагаў нацыянальна-вызваленчага руху ад чужых і варожых элемэнтаў, якія адыходзяць у лягер фашызму (паасобныя выпадкі фашызацыі гурткоў ТБШ у Мірскім раёне).

Побач з гэтай небясьпекай, пагражаючай нашай партыі з боку беларускага нацыяналізму і шавінізму, трэба завастрыць увагу партыі

на небясьпецы, якая пагражае з боку іншых нацыяналізмаў, а ў першую чаргу з боку вялікадзяржаўнага польскага шавінізму, які ўсілена распальваецца фашысцкай дыктатурай. Касьцёл, школа, дзяржаўны апарат, агенты фашызму, як ППС, „Строніцтва Хлопске", „Вызваленьне", а таксама сацыял і нацыянал-фашысты прыгнечаных народаў прывіваюць і ўзгадоўваюць нацыянальныя антаганізмы да мас няпольскай нацыянальнасьці, натраўляюць польскія працоўныя масы на нацыянальна-вызваленчы рух працоўных мас паняволеных народаў.

Даўленьне яўрэйскага сацыял-фашызму (Бунд, ПЦ, сіянізм), узмоцненае нацыянальнай абмяжованасьцю і сэктанцкай замкнутасьцю некаторых зьвеньняў нашай партыі, павялічвае небясьпеку яўрэйскага шовінізму, што асабліва ярка знаходзіць сваё выражэньне ў так званых „антыгоеўскіх" настроях (беларуская організацыя КСМ). Польскі вялікадзяржаўны і яўрэйскі шовінізм часта выяўляецца пад прыкрыцьцём „левай" маскі ў форме нацыянальнага нігілізму і недаацэнкі значэньня беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, як аднаго з падставовых фактараў пралетарскай рэволюцыі ў Польшчы. Гэта знаходзіць сваё выражэньне ў трактаваньні справы кіраўніцтва нацыянальна-вызваленчым рухам, як справы трэцяраднага значэньня, справы выключна беларускіх працоўных мас, што вядзе да ігнараваньня ўсіх праблем нацыянальна-вызваленчага руху, партыйнай прэсы ў беларускай мове і г. д. Набліжэньне вайны, распальваньне праз фашызм вялікадзяржаўнага польскага шавінізму—усё гэта павялічвае небясьпеку росту шовінізму прыгнечаных нацыянальнасьцяй і ўплыў яго на паасобныя зьвеньні нашай партыі.

## Задачы партыі

На вучастку нацыянальна-вызваленчай барацьбы, у варунках непасрэднай падрыхтоўкі вайны супроць СССР і нарастаньня элемэнтаў грамдзянскай вайны ва ўсёй Польшчы і ЗБ, асноўнай задачай партыі і ў далейшым зьяўляецца рашучая барацьба з нацыянал-фашызмам—авангардным атрадам польскага імпэрыялізму ў падрыхтоўцы ваеннага нападу на СССР і БССР, верным саюзьнікам і агентам фашысцкай акупацыі ў ЗБ. У барацьбе супроць нац.-фашызму і яго тэорый аб адзіным нацыянальным фронце, бясклясавасьці беларускага народу, неабходна шырэй разгарнуць дэмаскаваньне нац. фашысцкага лёзунгу буржуазна-дэмакратычнай „незалежнасьці" Беларусі, выясьняючы контррэволюцыйную ролю БНР, Слуцкага кулацкага паўстаньня ў 1920 г. і г. д. Партыя, на аснове канкрэтных праяў сацыяльнага і нацыянальнага прыгнечаньня, росту ваеннай небясьпекі, шырока разгортвае барацьбу супроць нацыянальнага ўціску супроць фашысцкай акупацыі, за поўнае самавызначэньне аж да аддзяленьня і аб'яднаньня ЗБ з БССР. Мабілізуючы працоўныя масы пад гэтымі лёзунгамі, партыя павінна шырока высьвятліць і папулярызаваць сутнасьць і заданьні нацыянальна-вызваленчага руху на ЗБ ня толькі сярод беларускіх працоўных мас, але і сярод польскіх, літоўскіх і яўрэйскіх працоўных мас, непасрэдна ўцягваючы іх у актыўны ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху ЗБ. Перамагаючы ўсялякія праявы шавінізму, партыя яднае працоўныя масы ўсіх нацыянальнасьцяй у інтэрнацыянальнай барацьбе супроць фашысцкае дыктатуры і сваёй буржуазіі, тлумачачы масам на вопыце штодзённай барацьбы, што лёзунг самавызначэньня паднявольных народаў аж да аддзяленьня і аб'яднаньня ЗБ з БССР зьяўляецца лёзунгам пралетарыяту ўсіх нацыянальнасьцяй і што ў інтарэсах працоўных усіх нацыяналь-

насьцяй ЗБ змагаецца за яго ажыцьцяўленьне. Неабходна цесна ўвязваць барацьбу супроць нацыянальнага прыгнечаньня і фашысцкай акупацыі на ЗБ з барацьбой працоўных і эксплёатаваных мас усёй Польшчы супроць вайны з СССР, за зваленьне фашысцкай дыктатуры праз узброенае паўстаньне, за рабоча-сялянскі савецкі ўрад—дыктатуру пралетарыяту.

Рашучы адпор з боку мас усім спробам нацыянал-фашызму пралезьці у іх рады не павінен ні ў якай меры аслабіць увагі партыйных організацый на гэтым фронце клясавай барацьбы, бо як сацыял, гэтак і нацыянал-фашызм розных колераў зьяўляецца і надалей галоўнейшым ворагам кампартыі ў яе барацьбе за масы.

Праводзячы няшчадную барацьбу з беларускай буржуазіяй і нац. фашызмам, з няменшым напружаньнем трэба змагацца з польскім сацыял-фашызмам і народніцка-фашысцкімі партыямі „Строніцтва Хлопске", „Вызваленьне"), якія шляхам шалёнай дэмагогі, праціскваюцца галоўным чынам ў польскія і беларускія каталіцкія працоўныя масы, пераважна там, дзе ня маюць належнага адпору з боку кампартыі.

Правая небясьпека ў нашай партыі ў галіне кіраваньня нацыянальна-вызваленчым рухам праяўляецца галоўным чынам у форме нац.-апартунізму, а таксама пад левай маскай нац. нігілізму, за якім часта хаваецца вялікадзяржаўны польскі шовінізм. Партыя вядзе рашучую барацьбу супроць правай небясьпекі, завастраючы ўвагу на барацьбе супроць польскага вялікадзяржаўнага шавінізму. Неабходна ўзмацніць барацьбу супроць яўрэйскага шовінізму, супроць бундаўскіх перажыткаў, „антыгоеўскіх" настрояў.

Партыя з асаблівай сілай завастрае барацьбу супроць непасрэднай падрыхтоўкі вайны, супроць плянаў фашызму паняволіць БССР. Гэтая барацьба перад усім павінна быць накіравана супроць тэй шалёнай зьвягі, якую вядзе ўвесь фашысцкі лягер Польшчы і, галоўным чынам, нац.-фашызм супроць Савецкага Саюзу, асабліва супроць калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і нацыянальнай палітыкі УсеКП(б) і КП(б)Б. Партыя павінна дэмаскаваць манэўры фашысцкай дыктатуры і яе саюзьнікаў і агентаў—беларускіх нац.-фашыстаў, што, поруч з абвастрэньнем тэрору, будзе ўсё больш усільвацца па меры нарастаньня рэволюцыйнага ўздыму і набліжэньня моманту вайны, што з асаблівай яскравасьцю сыгналізуе апошні манэўр фашысцкага ўраду ў сувязі з умоўным вызваленьнем засуджаных на шматгоднюю катаргу паслоў Б. С. Р. Грамады.

Партыя павінна з усёй рашучасьцю дэмаскаваць адзіны контррэволюцыйны фронт нац.-фашыстаў з нац.-дэмократамі ў БССР, дэмаскаваць дзікую хлусьню аб СССР, супроцьстаўляючы ёй шырокае папулярызаваньне посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва БССР, дасягнутых за 10 год ад часу вызваленьня з-пад бела-польскай акупацыі, а таксама дасягненьняў усяго Савецкага саюзу як у гаспадарчай, так і ў нацыянальна-культурнай галіне (правядзеньне пяцігодкі ў чатыры гады).

Выкарыстоўваючы нацыяналістычныя настроі і распальваючы нацыянальны антаганізм, фашызм уцягвае рабоча-сялянскую моладзь у свае ваенныя організацыі. Перамаганьне гэтых настрояў, рашучая барацьба супроць усялякага роду вайсковых організацый („Стралец", „Гайсак", „Зьвёнзэк абароны айчызны" і інш.) чарговае заданьне партыі.

Патрэбна далейшая цясьнейшая ўвязка нацыянальна-вызваленчага руху з барацьбой за штодзённыя эканамічныя дамаганьні пралетарыяту і эксплёатаванага сялянства.

Змагаючыся супроць палёнізацыі і дэмаскуючы палёнізатарскую ролю сацыял-і нацыянал-фашыстаў, партыя на грунце штодзённай барацьбы мас разгортвае масавую кампанію супроць фашызму, клерыкалізму і розных шавінізмаў. Дэмаскуючы перад масамі контррэвалюцыйную сутнасьць лёзунгу нац.-фашыстаў аб культурнай творчай працы пры фашысцкім рэжыме, партыя разгортвае масавую акцыю за школу на роднай мове; галоўны націск у школьнай кампаніі трэба класьці на мобілізацыю і організацыю найшырэйшых працоўных мас да баявых рэволюцыйных выступленьняў пад лёзунгамі кампартыі шляхам калектыўнага (па некалькі вёсак) складаньня дэкляpацый, організацыі масавых баявых паходаў да гмін і старастваў, мітынгаў і сходаў. Барацьбу за школу ў роднай мове трэба цесна ўвязваць з барацьбой супроць нацыянальнага ўціску, за самаазначэньне аж да аддзяленьня і аб'яднаньня ЗБ з БССР.

Арганізоўваючы масавы адпор рэпрэсіям ў адносінах да ТБШ, трэба і ў далейшым разгортваць масавую працу ТБШ, падаючы ўсёй дзейнасьці гэтай організацыі антыфашысцкі характар, пашыраць організацыйную сетку гурткоў, рашуча і сваячасова перамагаючы ўсе хістаньні ў ТБШ, выкарчоўваючы з карэньнем усе тэндэнцыі ў бок супрацоўніцтва з фашызмам; неабходна шырока разгарнуць масавую асьветна-палітычную працу, цесна ўвязваючы яе з працай рэвалюцыйных прафсаюзаў, ствараць гурткі на прадпрыемствах, уцягваючы ў іх рабочыя масы.

У галіне працы ў самаўрадах, якія зьяўляюцца часткай фашысцкага дзяржаўнага апарату, трэба палажыць галоўны націск на мобілізацыю масы навакол барацьбы за штодзённыя дамаганьні працоўных мас супроць сацыяльнага і нацыянальнага ўціску. Неабходна на грунце самаўрадаў разгарнуць барацьбу супроць сацыял і нацыянал фашыстаў.

Трэба мобілізаваць шырокія масы працоўных ўсіх нацыянальнасьцяй супроць душэньня прэсы нацыянальна-вызваленчага руху. Неабходна правесьці масавую акцыю ў абарону рабоча-сялянскае прэсы, супроць рэпрэсій на масавага чытача, арыштаў рэдактароў і г. д. Адначасна закладаць гурткі чытачоў і пашыраць сетку карэспандэнтаў рабоча-сялянскай прэсы, зьбіраць складкі на выдавецтвы нацыянальна-вызваленчага руху.

Неабходна шырока весьці барацьбу супроць рэлігіі і клёру — рассадніка нацыяналізму, шавінізму і антысэмітызму. На канкрэтных прыкладах шырока выяўляць ролю папоў, ксяндзоў, рабінаў і іншых як агентаў капіталістаў і абшарнікаў і падбухторшчыкаў вайны супроць СССР.

## Організацыйныя задачы

Завастрэньне клясавай барацьбы, шалёны націск фашызму на нацыянальна-вызваленчы рух вымагаюць далейшага ўзмацненьня ў ім кіруючай ролі пралетарыяту і поўнай унутранай скансалідаванасьці. Далейшая пасьпяховая барацьба з усялякімі праявамі рознага роду хістаньняў ў нацыянальна-вызваленчым руху вымагае ўзмацненьня пралетарскіх кадраў у кіраўніцтве нацыянальна-вызваленчым рухам. У зьвязку з пэўным аслабленьнем кіраўніцтва з боку мясцовых партыйных організацый ў гэтым руху, неабходна шырэй асьвятляць у партыйнай прэсе, асабліва на польскай і яўрэйскай мовах, неабходна ўзмацніць кіраўніцтва працай райкомаў і паасобных ячэек у гэтай галіне. Неабходна прыступіць да стварэньня і ажыўленьня дзейнасьці

камфпракцый ва ўсіх масавых організацыях нацыянальна-вызваленчага руху. . . Уцягваючы ў гэтыя організацыі шырокія працоўныя масы, неабходна завастрыць увагу на падбор і вылучэньне шырокага актыву, галоўным чынам, з пасярод пралетарскіх, а так сама батрацкіх і бядняцкіх элемэнтаў.

У барацьбе супроць узмацняючагася тэрору, накіраванага супроць нацыянальна-вызваленчага руху, замахаў на рабоча-сялянскіх паслоў, нападаў на організацыі і паасобных дзеячоў партыя мусіць мабілізаваць масы на барацьбу з белым тэрорам і правакацыяй, тварыць дружыны масавай самаабароны.

Ва ўсёй організацыйнай працы ў нацыянальна-вызваленчым руху неабходна рашуча перамагаць легалісцкія настроі, панікёрства перад завастраючымся тэрорам, рашуча змагацца проці тэндэнцый падменьваць шырокую масавую працу кружкаўшчынай, прыкрытых „левай“ фразай, трэба ўмець мабілізаваць шырокія масы ў нацыянальна-вызваленчым руху навакол частковых дамаганьняў, на барацьбу супроць фашысцкай дыктатуры, падрыхтоўкі яго да вайны проціў СССР, за самаазначэньне аж да аддзяленьня і аб'яднаньня ЗБ з БССР, за дыктатуру пралетарыяту ў Польшчы.

## Аб двух памылковых артыкулах у „Бальшавіку Беларусі“

Некалькі месяцаў таму назад „Зьвязда“ на палёх рэцэнзіі, прысьвячанай ацэнцы „Бальшавіка Украіны“—тэарытычнага органу ЦК КП(б)Б,—справядліва зазначала на сур'ёзныя недахопы „Бальшавіка Беларусі“, якія не знайшлі выразу ў тым, што часопісь, выходзячы надзвычай нерэгулярна, адстае ае жыцьця, цягнецца ў хвасьце падзей, ня ідзе ў ногу з тэмпамі, якія разьвівае наша сацыялістычнае будаўніцтва пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі.

Да гэтых у поўнай меры ўгрунтаваных зазначэньняў „Зьвязды“ трэба дадаць, што нумары „Бальшавіка Беларусі“ насілі часта выпадковы характар, нагадвалі хутчэй эпізодычныя зборнікі, чым мэтаімклівы, вядучы, тэарытычны орган нашае партыі. Вялікім недахопам „Бальшавіка Беларусі“ і прычынай яго нярэдкіх правалаў, у тым ліку і палітычных, зьяўляецца той факт, што за ўвесь час свайго існаваньня часопісь ня здолела згуртаваць і арганізаваць вакол сябе больш ці менш шырокі актыў партыйных работнікаў, працуючых у абсягу ленінскай тэорыі і практыкі сацыялістычнага будаўніцтва.

За апошнія месяцы „Бальшавік Беларусі“ аказаўся літаральна на становішчы бяспрытульнага, пазбаўленага рэдакцыі, бо толькі адсутнасьцю рэдакцыі можна вытлумачыць той факт, што ў № 6—7 „Б. Б.“ прасьлізгнуў нягодны для друку ні палітычна, ні з пункту гледжаньня звычайнай пісьменнасьці артыкул тав. Пракопчыка „Аб арганізацыі і аплаце працы ў калгасах“. Нясумненна, у выніку тэй-жа бяспрытульнасьці знайшоў сабе месца ў гэтым-жа нумары „Бальшавіка Беларусі“ шкодны, які заключае ў сабе антыпартыйныя ўстаноўкі, артыкул тав. Агурскага „Да ліквідацыі яўсэкцыі“.

Вядома, бяспрытульнасьць гэта зьяўляецца ў даным канкрэтным выпадку крыніцай сур'ёзнага палітычнага прарыву ў часопісі. Сур'ёзнасьць гэтага прарыву паглыбляецца тым, што ў адносінах да артыкулу тав. Пракопчыка дана заўвага, падпісаная ад імя рэдакцыі, у тым, што артыкул Пракопчыка „бязумоўна, дзякуючы сваім разьмерам, не дае ўсё-ж такі належнага адказу на гэта актуальнейшае пытаньне“,—заўвага, якая змазвае палітычныя памылкі артыкулу тав. Пракопчыка і аб'ектыўна салідарызуецца з яго ўстаноўкамі, у той час, калі артыкул гэты заключае ў сабе, побач з безьліччу стылістычных недарэчнасьцяй, якія мяжуюць з элемэнтарнай няпісьменнасьцю, рад груба памылковых месц, якія адлюстроўваюць палітычна няправільную, апартуністычную ўстаноўку аўтара ў пытаньні, якое ім закранута ў даным артыкуле. Ня менш сур'ёзна стаіць справа і з артыкулам тав. Агурскага, бо, як кажа заўвага, таксама даная ад імя рэдакцыі, гэты артыкул, які заключае ў сабе рад антыпартыйных установак, зьмешчаны „ў парадку інфармацыі“.

Пераходзячы да канкрэтнага разбору і крытыкі гэтых артыкулаў, агаворваемся, што на стылістычных пагрэшнасьцях гэтых артылаў ня будзем затрымліваць увагі чытачоў. Пяройдзем проста да палітычных „пэрлаў“ артыкулу тав. Пракопчыка. На старонцы 51 „Бальшавіка Беларусі“ (№ 6—7) чытаем. „Наша гаспадарка яшчэ адрозьніваецца плянавасьцю, чаго ня можа быць у капіталістых, пры прыватнай уласнасьці на сродкі вытворчасьці“.

Нявыразна і таму элемэнтарна няпісьменна. Асобная капіталістычная гаспадарка, як гэта мае месца ў сапраўднасьці, можа быць пабудавана і весьціся ў строга плянавым парадку. Пытаньне-ж заключаецца ў тым, што сыстэма капіталістычнае гаспадаркі ня можа быць пабудавана на плянавым прынцыпе, бо ў аснове яе ляжыць рыначная стыхія і канкрэтнае змаганьне. Далей тав. Пракопчык піша:

„Працяг часу паміж крызісамі ў капіталістычных краінах час ад часу скарчаецца, і гэта ў недалёкім часе прывядзе капіталізм да ўсеагульнага крызісу, у выніку якога працоўныя павінны будуць узяць уладу ў свае рукі, дабіць капіталізм і прыступіць да пабудовы сацыялізму ва ўсім сьвеце“

Гэты тэзіс тав. Пракопчыка нічога агульнага з устаноўкай нашае партыі ня мае, зьяўляючыся прыкладам фаталістычнага падыходу да пытаньня. Усеагульны крызіс капіталізму—гэта ня справа больш ці менш далёкай будучыны, як гэта піша т. Пракопчык, а пытаньне сёньняшняга дню. Мы жывем у пэрыод загніваючага капіталізму і пралетарскай рэвалюцыі. Пасьляваенны крызіс капіталізму перажывае асобную фазу, якую мы прызвычаіліся характарызаваць, як трэці пэрыод разьвіцьця пасьляваеннага крызысу капіталізму, які характарызуецца далейшым завастрэньнем усіх супярэчнасьцяй капіталістычнай сыстэмы і ростам рэволюцыйнага змаганьня рабочае клясы. Няправільнае сьцьвярджаньне т. Пракопчыка, што ў выніку гэтага, па яго думцы, будучага ўсеагульнага крызісу „працоўныя павінны будуць узяць уладу ў свае рукі і прыступіць да будаўніцтва сацыялізму ва ўсім сьвеце“.

Капіталістычны крызіс завастрае змаганьне клясаў, палягчае перадавым пластом пралетарыяту, пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі, уцягнуць у змаганьне за зьвяржэньне капіталізму найбольш шырокія і найбольш адсталыя масы працоўных, але прычынай змаганьня пролетарыяту за зьвяржэньне капіталізму зьяўляюцца ня крызісы капіталізму, а сыстэма капіталістычнай эксплёатацыі, якая параджае імкненьне эксплёатаваных зьнішчыць эксплёатацыю і эксплёататарскія клясы, стварыць бясклясавы грамадзкі лад, пры якім ня будзе эксплёатацыі чалавека чалавекам, і гэтым вырашыць усе супярэчнасьці капіталістычнага грамадзтва (выяўленьнем якіх, між іншым, зьяўляюцца гаспадарчыя, палітычныя крызісы капіталізму, а таксама імпэрыялістычныя бойкі, якія параджаюцца ўсёй сувакупнасьцю капіталістычных супярэчнасьцяй).

У дзелавой частцы свайго артыкулу тав. Пракопчык крытыкуе выданую Белдзяржвыдавецтвам у 1930 годзе кнігу—матар'ял Калгасцэнтру Беларусі пад загалоўкам „Арганізацыя і аплата працы ў калгасах“. Тав. Пракопчык правільна характарызуе ўстаноўку аўтараў гэтае кнігі на выкарыстаньне рабочага часу калгасьнікаў у працягу 250 дзён у год, як ультралевы заскок, правільна зазначае, што аўтары гэтай работы выпусьцілі з-пад увагі асноўныя формы калгаснага руху на даным этапе, а іменна арцель, і пераскочылі праз яе ў камуну. Пераходзячы аднак ад крытыкі да канструяваньня станоўчай ўстаноўкі па даным пытаньні, т. Пракопчык аддае перавагу гэтай

астатняй асабістай гаспадарцы членаў калгасаў, а грамадзкай гаспадарцы аддае толькі тую частку рабочага часу калгасьнікаў, якая застаецца ў іх пасьля ўсіх работ у асабістай гаспадарцы. Вядома, гэта няверная, праваапартуністычная ўстаноўка. Арцель мы будуем, як найбольш простую зразумелую для адзінаасобніка форму пераходу да больш высокіх і закончаных форм калектыўнае працы і гаспадаркі. Трэба ў сувязі з гэтым няўхільна ўкараняць у сьвядомасьць калгасьніка важнасьць калектыўнае гаспадаркі і яе пяршынства. Трэба грунтавацца на патрэбах іменна гэтай калектыўнай гаспадаркі. Гэта ня значыць браць увесь рабочы час, трэба, вядома, улічваць патрэбы калгасьніка ў рабочым часе і для сваёй асабістай гаспадаркі. Але грунтавацца неабходна на патрэбах калектыву. Як-жа падыходзіць да пытаньня тав. Пракопчык? Ён піша:

„Лік дзён, якія можна даць членам арцелі для калгасу, я бяру арыентовачна: 150—для дарослага мужчыны і 100—для дарослай жанчыны; бязумоўна, гэта ўмоўныя лічбы, яны патрабуюць дасканалага вывучэньня на практыцы. Па-мойму гэта найбольшыя лічбы, якія можна ўзяць.

У другім месцы т. Пракопчык яшчэ раз гаворыць аб тым, што яго лічбы ён лічыць максымальнымі, якія могуць быць толькі зьменены ў бок зьмяншэньня колькасьці дзён, якія калгасьнік аддае для работы калгасу:

„Трэба адзначыць, што беларуская жанчына шмат часу траціць, праўда ня зусім прадукцыйна, на пражу і тканьне палатна і інш... Па беларускіх традыцыях, жанчына, пры наяўнасьці асобнае хаты і невялічкай гаспадаркі, сама даглядае жывёлу. Ёй неабходна даглядзець кароў, сьвіней, авечак, птушак. Дарослая жанчына, член сельскагаспадарчай арцелі, больш як 100 дзён у годзе працаваць у калгасе ня зможа".

Нясумненна, гэтыя ўстаноўкі тав. Пракопчыка паказваюць стаўку на самацёк у справе разгортваньня ўнутрыкалгасных вытворчых адносін і ў справе пераводу іх на больш высокую арганізацыйна-гаспадарчую ступень. Прычым у тав. Пракопчыка ўстаноўка на так сказаць вечнае існаваньне пераплёту дзьвёх сыстэм—калгаснай і ўнутрыкалгасу індывідуальнай гаспадаркі, бо тав. Пракопчык так ставіць пытаньне: „Некаторую частку ўласнае прадукцыі... даросламу члену арцелі неабходна... рэалізаваць, каб купіць другую частку... Жанчына павінна ўдзельнічаць у... малацьбе". Значыцца, тав. Пракопчык лічыць, што прадукты індывідуальнай гаспадаркі калгасьнік павінен збываць не праз каапэрацыйна-калгасную сыстэму, а абавязкова марнаваць асабіста час для таго, каб быць на рынку і займацца гандлем. Частку ўраджаю, зьнятага з індывідуальнага поля, тав. Пракопчык лічыць неабходным малаціць у індывідуальным парадку, а не ў парадку калектыўнае работы.

Ня менш памылкова ўстаноўка тав. Пракопчыка ў пытаньні аб аплаце працы ў колгасе: „Аплата вылічана прыблізна ў дзень у грашовым эквіваленце, а выдаецца грашыма і натурай" (па жаданьні калгасьніка).

Гэта нявыразная фармулёўка дае магчымасьць ставіць пытаньне такім чынам, што ўся заработная плата калгасьніка павінна выдавацца па яго патрабаваньні натурай. Такім чынам, могуць быць сарваны пляны. У калгасу ёсьць магчымасьць выканаць свае абавязацельствы па кантрактацыі, па здачы ўраджаю ў парадку дзяржаўных збожжа-

загатовак. У гэтым пытаньні патрэбна максымальная выразнасьць. Гэтым абмяжуем пералічэньне, далёка няпоўнае, памылковых месц у артыкуле тав. Пракопчыка [1]).

Артыкул тав. Агурскага заключае ў сабе шмат каштоўнага і цікавага матар'ялу. Аднак, гэты матар'ял паданы тав. Агурскім у вельмі аднабаковым асьвятленьні. Выяўляючы ў агульным і цэлым правільна рад памылак, якія маюць месца ў рабоце паасобных яўрэйскіх таварышоў, тав. Агурскі памылкова абагульвае гэтыя памылкі і прыпісвае іх яўрэйскім сэкцыям у цэлым, забываючы, што гэтыя сэкцыі былі часткай апарату нашае партыі, і што, ня гледзячы на паасобныя памылкі сваіх работнікаў і кіраўнікоў, яны наогул праводзілі правільна лінію нашае партыі ў галіне работы сярод яўрэйскіх працоўных мас. Мы спынімся на трох мясцох артыкулу тав. Агурскага, адсылаючы чытачоў да спэцыяльнага артыкулу тав. Галенчанка, які адказваў ад імя рэдакцыі на старонках „Бальшавіка Беларусі“ тав. Агурскаму.

Тав. Агурскі зусім правільна на стар. 71 „Б. Б.“ піша, што „ліквідацыя яўсэкцыі адбылася ў працэсе рэарганізацыі партапарату“. Але сьледам за гэтай правільнай фразай тав. Агурскі робіць заскок „улева“ і праводзіць сваю няправільную і антыпартыйную ўстаноўку:

„Але, калі-б гэта не адбылося такім шляхам, усёроўна неабходна было сэкцыю ліквідаваць“.

Далей тав. Агурскі тлумачыць, чаму гэта ўсёроўна трэба было-б ліквідаваць. Аказваецца, што толькі ў першыя гады свайго існаваньня яўрэйскія сэкцыі мелі вялізарнейшыя заслугі перад партыяй, што толькі ў першыя гады свайго існаваньня яны вялі барацьбу, як частку партапарату супроць усяго варожага партыі і рэвалюцыі. За апошнія-ж гады, па думцы тав. Агурскага, яўрэйскія сэкцыі перарадзіліся і „аказаліся лішнімі і шкоднымі, бо яны... зрабілі цэлы шэраг памылак, якія выклікалі неабходнасьць іх ліквідацыі“. „Вось чаму“, канчае свой артыкул тав Агурскі, „ліквідацыю яўсэкцыі можна толькі вітаць“. Ня будзем затрымлівацца на тым факце, што тав. Агурскі ні к сялу, ні к гораду ў сваёй памылковай і антыпартыйнай ацэнцы прычын ліквідацыі яўрэйскіх сэкцый прыплёў тав. Сянкевіча і яго правільную партыйную ацэнку паасобных памылак, меўшых месца ў яўрэйскай рабоце, даную на старонках „Акцябра“. Пакажам толькі на той факт, што ня толькі яўрэйскія сэкцыі мелі памылкі ў сваёй рабоце. Рад памылак у іншых галінах, у тым ліку і ў абсягу нацыянальнага пытаньня, зрабіў цэлы рад другіх іншых партыйных органаў і арганізацый. Сьледуючы за разьвіцьцём думкі тав. Агурскага, прышлося-б усе гэтыя органы і арганізацыі ліквідаваць і разагнаць. Ужо гэты адзін прыклад паказвае, наколькі няправільнай, недарэчнай, антыпартыйнай зьяўляецца пазыцыя тав. Агурскага ў даным пытаньні.

Буйная палітычная памылка, якая заключаецца ў зьмяшчэньні на старонках „Бальшавіка Беларусі“ вышэй зазначаных артыкулаў ставіць перад рэдакцыяй „Бальшавіка Беларусі“ задачу неадкладна разгарнуць сваю работу і зьмяніць мэтады работы, прыцягнуць больш шырокія пласты партыйнага актыву да работы і да кіраўніцтва часопісьсю. Апрача таго, гэты прарыў ва ўсёй шырыні ставіць пытаньне

---

[1]) Артыкул тав. Пракопчыка, нясумненна, сьведчыць ня толькі аб яго памылках, але і аб нездавальняюча прасякнутай правым апартунізмам работы самой катэдры каапэрацыі і калектывізацыі і яе кіраўніка праф. Лазовага, які, паводле нашых вестак, атрымаў суровую вымову з папярэджаньнем за ідэалёгічна шкодныя, праваапартуністычныя ўстаноўкі ў сваіх лекцыях.—*Рэд.*

аб тым, каб рэдакцыя „Б. Б.“ дабілася таго, каб „Б. Б.“ стаў актуальным, ня толькі ідучым у ногу, але кіруючым тэарытычным органам партыі, які-б адказваў тым задачам, што перад ім, як і перад усім партыйна-савецкім друкам, ставяць бальшавіцкія тэмпы разгорнутага пад кіраўніцтвам партыі сацыялістычнага будаўніцтва.

У гэтым напрамку рэдакцыі „Б. Б.“ былі даны паказаньні Цэнтральным камітэтам нашае партыі.

*Рэдакцыя „Бальшавіка Беларусі“*

---

## У рэдакцыі газэты „Зьвязда“ і часопісі „Бальшавік Беларусі“

### Паважаныя таварышы!

У „Бальшавіку Беларусі“, № 6-7, зьмешчаны мой артыкул аб арганізацыі і аплаце працы ў калгасах, які выклікаў крытыку з боку раду таварышоў.

Лічу неабходным публічна заявіць, што я цалкам і поўнасьцю згодзен з крытыкай майго артыкулу, разгорнутай у артыкуле „Аб двух памылковых артыкулах“ у „Бальшавіку Беларусі“.

З камуністычным прывітаньнем *Пракопчык*

29/X 1930 г.

Л. Якаўлеў

# Клясавы твар беларускага нацыянал-дэмократа

Беларускі нацыянал - дэмократызм часта, выходзячы на сьвет прыкрывае сваю контррэволюцыйную сутнасьць тогай навукі, мастацтва і г. д. Расьпісваючыся ў сваіх дэклярацыях у адданасьці савецкай уладзе, беларускія нацыянал-дэмократы да пары да часу не маглі паставіць усіх пунктаў над і. Аднак, лёгіка антысавецкай барацьбы вымусіла эпігонаў нацыянал-дэмократызму выкласьці ў сваіх выступленьнях аснову іх поглядаў, іх палітычную пляцформу. М. Зарэцкі, Жылуновіч, Парэчын, М. Гарэцкі і інш. у сваіх творах ці публічных выступленьнях імкнуліся працягваць антысавецкія нацыянал-дэмократычныя ўстаноўкі. Партыя гэтыя ўстаноўкі ў свой час ускрыла і разьбіла. Усё-ж нацыянал-дэмократы да апошняга часу ня губілі агрэсыўнага абліку. Наадварот, з абвастрэньнем клясавай барацьбы ў краіне нацыянал-дэмократызм вылазіў з сваіх нор часьцей і часьцей. Як мы ведаем, ДПУ Беларусі выяўлена ў апошні час і арыштавана група контррэволюцыйнай дэмократычнай інтэлігенцыі, якая вяла антысавецкую работу. Такава лёгіка клясавай барацьбы.

Разрозьненыя выступленьні нацыянал-дэмократаў, бясспрэчна, у сілу абвастрэньня клясавай барацьбы павінны былі атрымаць новы характар: выступленьняў, так сказаць, праграмнага парадку". Да ліку такіх выступленьняў можна аднесьці кнігу М. Касьпяровіча „Краязнаўства", якая выдадзена Белдзяржвыдавецтвам у 1929 г.

Тут ня будзем застанаўлівацца на тым, па якіх прычынах гэта кніга атрымала магчымасьць убачыць сьвет. Партыя сказала сваё слова па пытаньні аб нацыянал-дэмократычных і нацыянал-опортуністычных прарывах, якія мелі месца ў БДВ, і аб кіраўнікох апошняга. Нашай задачай зьяўляецца аналіз тых поглядаў, якія ў кнізе праводзяцца.

Злучнасьць поглядаў і думак, якія знаходзяць свой выраз на старонках „Краязнаўства", можа быць разьбіта на дзьве групы: на праграмна-установачную і тактычную.

У першай частцы Касьпяровіч прабуе падвесьці крытыцы некаторыя марксысцкія палажэньні і проціпаставіць ім свае погляды, а таксама „тэорытычна абгрунтаваць", калі так можна сказаць, заходніцкую орыентацыю. У другой-жа частцы ён дае паказаньні практычна-організацыйнага парадку, па частцы „зьбіраньня сіл".

Кажучы аб краязнаўстве, як аб прадмеце, Касьпяровіч заяўляе:

„Часамі да нас далятае быццам рэволюцыйнае разуменьне краязнаўства, як вывучэньне вытворчых сіл. Гэта спрошчваньне вялікай грамадзкай зьявы, часьцей за ўсё абаперта на непрадуманасьці е да канца". („Краязнаўства", стар. 11, падкрэсьлена мною Л. Я.).

Гэтая заява ёсьць прамая спроба тэорытычна атакаваць марксысцкую трактоўку грамады і грамадзкіх зьявішчаў. Выказваючы пазытыўны погляд на тое, чым павінна займацца краязнаўства, Касьпяровіч піша: „Мэтай гэтага (краязнаўства. Л. Я.) зьяўляецца ўсебаковае пазнаньне краю ў яго мінулым і сучасным стане...“ г. зн. вывучэньне як гісторыі краю, так і яго сучаснага становішча. Ну, а што ж такое гісторыя краю? Касьпяровічу павінны быць вядомы слова Маркса: „Спосаб вытворчасьці матар'яльнага жыцьця абумоўлівае сабою працэс жыцьця сацыяльнага, палітычнага і духоўнага наогул“ [1]). Плеханаў па гэтаму-ж поваду кажа: „на глебе данага становішча вытворчых сіл складваюцца пэўныя адносіны вытворчасьці, якія атрымоўваюць свой ідэальны выраз у прававых паняцьцях людзей і ў больш ці менш адцягненых правілах, у няпісаных звычаях і пісаных законах“. І далей, у гэтым-ж творы ён рэзюмуе: „З прычыны разьвіцьця вытворчых сіл павінны былі зьмяніцца фактычныя адносіны людзей у працэсе вытворчасьці, і гэтыя новыя фактычныя адносіны выразіліся ў новых прававых паняцьцях“ [2]).

З гэтага відна, што ўсякі, хто хоча сур'ёзна, па-навуковаму падыйсьці да вывучэньня „краю ў яго мінулым і сучасным стане“, павінен зьвярнуцца да вывучэньня гісторыі разьвіцьця вытворчых сіл краю. Што-ж проціпастаўляе гэтаму сьцьверджаньню Касьпяровіч? Па яго думцы, гэта зьяўляецца „спрошчваньнем“. Ён гаворыць: „Вядомы абшарнік Аніхоўскі гадоў 10 перад сусьветнай вайною вывучаў вытворчыя сілы часткі тэрыторыі Беларусі і ніяк ня мог зрабіць практычных вывадаў з свае працы. Вось яскравы выпадак нявытворчага вывучэньня вытворчых сіл“ (стар. 11). Тутака Касьпяровіч, відавочна для зьдзеку, прыплятае нейкага абшарніка, каб скампрамэтаваць нават самае разуменьне вытворчых сіл.

Матэрыялістычнае разуменьне грамадзкасьці і характару грамадзкіх зьяў чужое аўтару, і ён проціпастаўляе гэтаму „задавальненьне свайго замілаваньня да пэўнай галіны зьяў краю, у мэтах узбагачэньня свае галіны навукі“, наіўна-ідэалістычную формулёўку задач краязнаўства.

Але калі супярэчаньні мэтадалёгічнага парадку здаюцца сьмешнымі і нялепымі, то палітычныя вывады з іх робяцца ўпаўне сур'ёзныя і пэўныя. Краязнаўства неабходна „для зьмены яго (краю—Л. Я.) на сваю карысьць“, „для ўсебаковых зьмен яго на карысьць насельніка“ і г. д.

Што-ж хоча зьмяніць Касьпяровіч? Ён лічыць, што ўсё тое, што ўтварылася ў краіне ў выніку Кастрычнікавай рэволюцыі, ёсьць ня што іншае, як „зьмена дэкарацый“. Толькі адна назва перамянілася, заяўляе ён: „Старая зьява атрымала новую назву таму, што яна набыла новую форму“. Туманны зьмест гэтага выразу становіцца зразумелым толькі пры супастаўленьні яго з наступнай заявай Касьпяровіча: „Але ўявім сабе, гаворыць ён, што вывучэньне вытворчых сіл дае вялікія практычныя вынікі. У гэты-ж час не вывучаюцца нацыянальны склад насельніцтва, соцыяльна-эканамічныя ўзаемаадносіны яго пластоў і г. д. У выніку гэтага пэўная частка насяленьня краю, быць можа большасьць, церпіць нацыянальны ўціск, ня маючы сваіх школ, газэт і іншага, а таксама соцыяльна-экономічны ўціск кулакоў і спэкулянтаў, ня маючы абароны ўлады. Зьнішчыць

[1]) К. Маркс. Прадмова да „Критики полит. экономии“.

[2]) Бельтов-Плеханов. „К вопросу о развитии монистического взгляда на историю“.

уціск немагчыма, бо ён пакуль што невядомы. Такі стан рэчаў давядзе да таго, што гэтае насельніцтва прыдзе і навучыць краязнаўства правільнаму разуменьню свайго зьместу"[1]).

Гутарка ідзе аб сучаснай Беларусі і яе становішчы.

Калі ўзяць пад увагу, што некалькімі старонкамі ніжэй Касьпяровіч у поўнай згодзе з іншымі нацыянал-дэмократамі гаворыць, што „беларускі народ у XVIII і XIX ст. ст. складаўся амаль выключна з сялянства, якое ў масе сваёй было няпісьменным", дык вышэйпрыведзеная цытата расшыфроўваецца вельмі лёгка: культурна-нацыянальны і соцыяльны ўціск Беларусі працягваецца, яго ажыцьцяўляюць прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяй пры дапамозе дзяржаўнай улады. Такім чынам, „старая зьява набыла новыя формы...", і мессия грядет ад краязнаўства. „Гряди-ж", заклікае Касьпяровіч, інакш „насельніцтва прыдзе і навучыць... краязнаўства правільнаму разуменьню свайго зьместу..." Вось вам і „зьмена краю на карысьць насельнікаў".

Прыведзеныя вышэй заявы Касьпяровіча малююць яскрава яго шкодную ідэалёгію беларускага кулака. Пераможнае разьвіцьцё сацыялістычнага будаўніцтва БССР выбівае ў яго з-пад ног глебу далейшай эксплёатацыі батракоў і беднаты, і ён вопіць істошным голасам: „беларусы—роўныя сяляне. Вас-жа эксплёатуюць яўрэй, расеец, паляк..." У тон яму вторяць нацыянал-опортуністы: „на беларусі кулака няма..." Пад гэту музыку кулак і яго ідэолёгі—нацыянал-дэмократы мараць аб „зьмене краю на сваю карысьць"—пры дапамозе інтэрвэнцыі.

Колектывізацыя сельскае гаспадаркі нясе пагібель кулаку. І яго ідэолёг Касьпяровіч „абвяргае" колектывізацыю з псэўдонавуковага пункту гледжаньня.

„Селянін, дзякуючы сваёй і сваіх бацькоў практыцы, добра ведае, на якім кавалку поля ў яго лепш родзіць лён, на якім ня вымакне бульба, як організаваць талаку для выконваньня непасільнай яму аднаму працы і г. д." (стар. 9). Такім чынам мерапрыемствы па ўдасканаленьню, палепшаньню мэтадаў апрацоўкі зямлі, па колектывізацыі—гэтыя „новшества" савецкай улады,—нікуды ня годны. Селянін—„сам ведае..."

Супроць колектывізацыі—за талаку, супроць БССР—за кулацкую дыктатуру, у якой „адраджаюцца" нашаніўска-эсэраўскія ідэалы—такава ўстаноўка Касьпяровіча.

Не дарма-ж ён захлёбваецца ад запалу, канонізуючы „Нашу Ниву":

„У галіне культурна-гістарычнага вывучэньня краю „Наша Ніва" асабліва клапацілася аб выяўленьні і ахове помнікаў старасьветчыны. Даўшы, напр., агляд курганаў Беларусі, як помнікаў нашай старасьветчыны, паведаміўшы аб тым, што знаходзілі ў курганах вучоныя, вытлумачыўшы вялікае значэньне курганаў для беларускай навукі, газэта заклікала: „Браткі-сяляне, шануйце гэтыя магілы—курганы, бо тут ляжаць косьці нашых дзядоў. Не разорвайце іх бяз лішняй патрэбы (!?), бо гэта справа вучоных археолёгаў".

„Вучоны археолёг" М. Касьпяровіч і яго кроўныя паставілі сваёй задачай раскапаць абшарпаныя міністэрскія фракі беларускай Рады і яшчэ раз паставіць бясслаўна праваліўшуюся опэрэту. Каб апраўдаць гэты „ня зусім удобны", мякка кажучы, занятак, Касьпяровіч аналізуе гісторыю краязнаўства і яго сучаснае становішча ў царскай Расіі, СССР, Польшчы і прыбальтыцкіх краінах.

---

[1]) Стар. 11. Падкрэсьлена мною.—Л. Я.

Робячы досьледы краязнаўчага руху ў Расіі, ён раўняе два гурткі: гурток для навуковага вывучэньня Гродненскай губ. пры Пецярбургскім унівэрсытэце і беларускі навукова-літаратурны гурток. „Тамака (у першым.—Л. Я.) было чорнае жаданьне зрусіфікаваць, зьняволіць край і нацыянальна і сацыяльна, а тутака—паэсэраўску вызваліць яго сацыяльна, падняць на вышэйшую ступень культуры і жыцьця наогул у эсэраўскім разуменьні“ (стар. 41). „Вучоны археолёг“ дайшоў да прамой аполёгіі эсэраўскай манэры праводзіць „вызваленьне“ працоўных БССР у карысьць абшарнікаў і капіталістых з дапамогай польскіх штыхоў.

Ідэалам Касьпяровіча зьяўляецца „Наша Ніва“. Яе цытаты займаюць досыць вялікую плошчу ў кнізе. На першых 67 старонках ён цытуе „Нашу Ніву“ 30 раз. У кніжцы сустракаюцца вельмі часта такія нацыянал-дэмократычныя пэрлы, як „выдатны беларускі вучоны Іван Іванавіч Луцкевіч, супрацоўнік газэты „Наша Ніва“ (стар. 35), „у самыя чорныя часы царскага самаўладзтва „Наша Ніва“ зрабіла вялікую працу ў галіне культурна - нацыянальнага адраджэньня,“ (стар. 47) „вынікам яе (працы „Нашай Нівы“.—Л. Я.) цяперака карыстаюцца шмат якія навуковыя інстытуцыі“ (стар. 49). Пра вядомага фашыстага Антона Луцкевіча Касьпяровіч піша: „Адзін з актыўнейшых працаўнікоў „Нашай Нівы“ Антон Луцкевіч пасаджаны ў турму“ (стар. 58). З такіх цытат яго палітычны твар дастаткова добра відаць.

Раўняючы становішча краязнаўства ў братэрскіх савецкіх рэспубліках—РСФСР і УССР, Касьпяровіч паказвае сваю няпрыкрытую орыентацыю на капіталістычны Захад, пры чым заяўленьні, якімі ён гэту орыентацыю абгрунтоўвае, наскрозь ілжывыя, тэндэнцыозны, маюць зусім няпрыкрытую ўстаноўку—„Прэч ад Масквы...“

„У суседніх саюзных рэспубліках беларускіх краязнаўчых організацый або беларускіх сэкцый агульных краязнаўчых гурткоў і таварystваў няма. Найбольш актыўныя краязнаўцы—беларусы ўваходзяць у склад рускіх і ўкраінскіх краязнаўчых аб'яднаньняў і працуюць тамака, даючы часамі вельмі каштоўныя працы. Ёсьць толькі гурткі ў Маскве, Ленінградзе і Кіеве, аднак, дзякуючы матар'яльнай незабясьпечанасьці саміх гурткоў і іх членаў дзейнасьць гэтых гурткоў выяўлялася ў вельмі слабай ступені“ (стар. 87). Ня вольна напрашваюцца пэўныя палітычныя вывады, асабліва, калі мы возьмем для параўнаньня краязнаўства ў суседніх капіталістычных дзяржавах. На гэтай-жа старонцы Касьпяровіч піша: „Беларускае краязнаўства ў Латвіі, дзе налічваецца звыш 75.000 беларусаў, зрабіла пакуль што значныя вынікі ў справе папулярызацыі ідэй, вывучэньня беларусамі густа заселеных імі тэрыторый“. У Заходняй Беларусі хоць „ледзьледзь“, але ўсё-ж „існуюць дзьве краязнаўчыя ўстановы, а ўласна—Бел. навуковае таварыства і музэй імя Луцкевіча“. Больш таго: „масавае заснаваньне краязнаўчых арганізацый у Заходняй Беларусі прыпадае на 1922-24 г. г“.

Мы на падставе фактаў лічым, што на Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне польскі фашызм бязьлітасна распраўляецца з парасткамі ўкраінскай і беларускай нацкультуры, узрывае клюбы, зачыняе школы, але-ж не: па Касьпяровічу, польскі ўрад нават спрыяе беларускаму краязнаўству: „Апрача падтрыманьня мясцовых організацый, польскі ўрад заснаваў у Варшаве Інстытут для досьледу зямель усходніх рэспублікі польскай“. Гэта фраза, а таксама наступная, супроць волі Касьпяровіча, сьпяваючага дзіфірамбы польскаму фашызму, паказвае сапраўдныя імкненьні імпэрыялістых: „Ён (інстытут.—Л. Я.) меў

на мэце навуковае дасьледваньне і азнаямленьне з гісторыяй, мастацтвам і культурай наогул зямель усходніх і зямель, якія калінебудзь да іх належалі". (Падкрэсьлена мною, стар. 14),

У сваей імпэрыялістычнай палітыцы Польшча імкнецца пашырыцца „хоць бы" у межах „зямель, якія калі-небудзь да іх належалі", ну, напрыклад, у межах 1772 году. Для ажыцьцяўленьня сваіх захватніцкіх імкненьняў Польшча, як вядома, шалёна рыхтуецца да вайны супроць СССР. А „прастадушны" Касьпяровіч лічыць гэтую падрыхтоўку—вывучэньне тэатру ваенных дзействій і мясцовасьцяй, якія вызначаны да акупацыі—мірнай навуковай дзейнасьцю. Гэта невыпадкова. Усім памятны сьвежыя падзеі 1927 г.—пераход фінска-савецкай мяжы шпіёнскімі групамі з дывэрсійнымі мэтамі. Па Касьпяровічу гэта—таксама навуковая дзейнасьць, іменна краязнаўчая работа:

„Летам легат (слоўнікавая арганізацыя,—Л. Я.) пасылае экспэдыцыі па чалавек 20-30 для зьбіраньня слоў У мінулым 1927 г. адна такая экспэдыцыя ў складзе 20 асоб працавала ва ўсходняй частцы Фіншчыны, каля мяжы з СССР" (стар. 101). Памятаецца, тады было некалькі выпадкаў забойстваў нашых пагранічнікаў фінскімі белабандытамі. Ці ня гэтымі „краязнаўцамі", М. Касьпяровіч?

Ад аналізу ўмоў работы беларускіх краязнаўчых арганізацый у суседніх капіталістычных краінах Касьпяровіч пераходзіць да досьледаў работы ўласна польскіх, літоўскіх і інш. краязнаўчых арганізацый. Тут ён аб'ят проста неапісуемым запалам. З асаблівым захапленьнем ён абмалёўвае пастаноўку краязнаўчай работы ў Фіншчыне. Апісаньню работы ў гэтай краіне адведзена 12 старонак, і ніводнага слова—аб фашыцскім характары гэтых арганізацый, аб фашызьме ў Фіншчыне наогул.

Затое вельмі многа сказана аб шчэдрасьці фінскага ўраду і г. д. Дарэчы, у ліку дасягненьняў фінскага краязнаўства адзначана, што „таварыствам зьбіраецца слоўнік фінскай карэльскай мовы". Гэта павінна яўна азначаць проціпастаўленьне „расейскай" карэльскай, больш правідлова—савецкай карэльскай, г. зн. тэй мове, на якой гавораць карэлы з СССР. Мы добра ведаем, што ёсьць такія карэлы, гавораць на сваей мове і жывуць яны ў Карэльскай рэспубліцы ў складзе РСФСР. Дык вось жа вам, гаворыць Касьпяровіч, фінская карэльская мова.

З няменшым захапленьнем гаворыцца і аб Польшчы. Там „у асобе свае камісіі па ахове помнікаў прыроды польскае таварыства краязнаўства зрабіла вялікую працу выяўленьня апісаньня і ўласна аховы помнікаў на тэрыторыі Польшчы". Відавочна, Касьпяровіч мае на ўвазе продаж польскім фашысцкім урадам на зруб Белавескай пушчы—гэтага помніка прыроды.

Адзначыўшы дасягненьні ў краязнаўчай рабоце Віленскага аддзяленьня саюзу польскіх інжынэраў, якая заключаецца ў выданьні брашуры аб касьцёле Пятра і Паўла на Антокалі ў Вільні, Касьпяровіч далей апявае работу сярод фашысцкай моладзі. Расказаўшы пра тое, што маладыя фашыстыя выдаюць часопіс „Орлі лёт" (мабыць „белага арла"), Касьпяровіч заключае:

„Такім чынам, праца маладых польскіх краязнаўцаў мае ня толькі вялікае выхаваўчае значэньне, але ў пэўнай меры і навуковае" (стар. 116).

У арбіту падрыхтоўкі вайны супроць Савецкага саюзу польскі фашызм уцягвае пэўныя, даволі значныя колы фашысцкай і соцыял

фашысцкай моладзі. Усім вядомы фашысцкая арганізацыя „Стралец", якая налічвае ў сваіх шэрагах вялікі, у параўнаньні з сваёй чысьленасьцю, процант моладзі, арганізацыя бойскаутаў і інш. Гэтыя організацыі галоўнай сваёй мэтай ставяць забесьпячэньне патрэб вайны супроць Савецкага саюзу. Касьпяровіч-жа у захапленьні, нават да сьлінацячэньня: „выхаваўчае", „навуковае..."

Падвядзем вынікі першай часткі. Контррэволюцыйны нацыянал-дэмократызм наліцо. Тут і „бясклясавы характар беларускае грамады" і орыентацыя на капіталістычны Захад, імкненьне ідэалізаваць „Нашу Ніву", адмаўленьне значэньня Кастрычнікавай рэволюцыі ў БССР і апраўданьне інтэрвэнцыі ў мэтах „зьмены краю на карысьць насельніцтваў".

Пяройдзем да другой часткі „ідэй" аўтара. Ён ня толькі тэорэтык, але і практык у нацыонал-дэмократызьме. У разьдзеле „Арганізацыя краязнаўчага руху" ён дае якія-кольвечы практычныя парады па арганізацыі... нечага накшталт нацыянал-дэмократычных ячэек. Раней за ўсе, гэтыя краязнаўчыя арганізацыі разумеюцца аўтарам накшталт другой партыі. Сувязь мясцовых краязнаўчых арганізацый з савецкімі, профэсіянальнымі і партыйнымі арганізацыямі арганізуецца на пачатках „узаемнага (?) прадстаўніцтва" (стар. 70). Ён рэкомэндуе арганізаваць гурткі, даць ім адпаведныя назвы. „Напрыклад", гаворыць ён, „Пруханавіцкі імя Цяплінскага... слабадзкі імя Ф. Скарыны—гурток краязнаўства і г. д." (стар. 119. Падкрэсьлена мною).

У частцы масавай работы ён дае наступныя дырэктывы: „Краязнаўчыя аб'яднаньні, радзіўшыяся і займаючыя першае (?) месца ў мясцовым жыцьці, павінны знайсьці як найбольшы лік супольнікаў". Іх шукаць рэкомэндуецца" ў органах народнае асьветы: школах, хатах-чытальнях, нардамох, клюбах, аддзелах асьветы, у аддзелах землявробства (стар. 125-6). Варта толькі ўспомніць сапраўдную дыслёкацыю нацыянал-дэмократычных элемэнтаў—НКА, БАН, БДВ, НКЗем,—атрымоўваецца точная суадпаведнасьць, якая паказвае, што пад маскай „краязнаўства" Касьпяровіч мае на ўвазе нацдэмократызм. Вельмі цікава таксама разважаньне аб мэтадах масавай работы, накіраванай цалкам супроць масавай работы КП(б)Б, ЛКСМБ і грамадзкіх арганізацый. Найбольш даступны сродак яе—сходы. На іх звычайна робяцца даклады аб краязнаўстве. Толькі, на жаль, сходаў гэтых ня любяць наведваць. Галоўная прычына тая, што ўсе ужо стаміліся слуханьнем доўгіх нудных дакладаў" (стар. 137). Па гэтаму, „замест звычайных сходаў, трэба ладзіць краязнаўчыя вечарыны". Калі яшчэ прыглядзецца ўважліва да праграмы гэтых вечарын (казкі, гарманісты, цымбалісты), дык мы будзем мець разгорнуты малюнак кулацкай масавай работы, якая проціпастаўляецца масавай рабоце партыі і камсамолу.

Некалькі дробязяй да гэтага. Касьпяровіч дае паказаньні па арганізацыі распаўсюджаньня (продажу) выданьняў мясцовых краязнаўчых арганізацый. З цынізмам, які даходзіць да нагласьці, ён заяўляе: „Тут нельга шкадаваць часу і трэба параіцца з кім можна, а часамі і скарыстаць досьлед гандляра-кніжніка, нават прыватнага, не пападаючыся яму, аднак, у рукі і ведаючы, што на шкоду сабе ён не параіць. Словам, трэба навучыцца гандляваць, як казаў калісь Ленін" (стар. 158).

Такі сапраўдны твар нацыянал-дэмократа. Мы ужо зрабілі вывады пры разборы паасобных месц кнігі. Няма сумненьня ў тым,

што Касьяпровіч невыпадкова выбраў прыкрыцьцем свайго контр-рэволюцыйнага выступленьня краязнаўства. Як мы ужо ведаем, краязнаўства і яго орган „Наш Край“ былі засьмечаны нацыянал-дэмократамі. Яны адтуль „вещали“, што яны„ адчыняюць зусім новую эпоху культурнага разьвіцьця Беларусі, што ўжо зроблена ў Латвіі, Фіншчыне, Украіне (Падольлі) і іншых старонках“ (стар. 158).

У адказ на іх работу пролетарыят БССР пасьпяхова будуе сацыялістычную гаспадарку і ўзмацняе сувязь з братэрскімі народамі СССР. Гэтыя фактары забясьпечваюць разьвіцьцё беларускай культуры нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па сутнасьці.

---



Галоўлітбел № 2742. Гомель. Зак. 181—1000 экз. Палесдрук.